Сяргей Абламейка

# чаму Беларусь не Расея

*Эсэ з гісторыі і культуры*
*(2015–2022)*

Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода

**Сяргей Абламейка. Чаму Беларусь не Расея.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2022. 324 с.: +12 с. іл.

Бібліятэкар Свабоды
*Аляксандар Лукашук*

Карэктар *Мікола Раманоўскі*

Гістарыясофская эсэістыка доктара гісторыі Сяргея Абламейкі вызначаецца нечаканымі трактоўкамі вядомых падзей і малавядомымі фактамі зь мінулага Беларусі. У кнізе чатыры дзясяткі эсэ, кожнае зь якіх можа вас зьдзівіць і прымусіць задумацца.


FOL

ISBN 978-0-929849-96-6

# Зьмест

## III



## IV



## V

## VI

## VII

# Бо

Бо толькі сваё сваё,

Бо толькі сваё можна страціць,

Бо толькі сваё можна знайсьці,

Бо толькі сваё можна абараніць,

Бо толькі сваё можна ахвяраваць,

Бо толькі сваё можна стварыць,

Бо толькі сваё можна аддаць,

Бо толькі сваё можна вярнуць,

Бо толькі сваё можна пражыць,

Бо толькі сваё ня толькі сваё.

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода*

# Ад аўтара

Ня кожнаму чалавеку ў жыцьці выпадае ўбачыць тое, пра што ён марыў шмат гадоў. Мне ў 2020 годзе з гэтым пашанцавала. 1 жніўня таго году я напісаў у Фэйсбуку: «Ня ведаю, што будзе далей, але гэтыя мітынгі немагчыма глядзець бязь сьлёз. Той выпадак, калі твае каштоўнасьці перамагаюць на тваіх вачах».

Яшчэ ў траўні 2020 году я пачаў ліхаманкава запісваць рэплікі людзей, што стаялі ў чэргах на перадвыбарчых пікетах у гарадах і мястэчках Беларусі. Словы і памкненьні беларусаў нібы сышлі з кніг самых аўтарытэтных гісторыкаў, якія ўсё XX стагодзьдзе вывучалі фэномэн нараджэньня нацый, і былі сугучныя з нацыянальна-дэмакратычнай формулай заснавальніка мадэрнай Беларусі Кастуся Каліноўскага: «Не народ для ўраду, а ўрад для народу».

У выніку на пачатку лета 2020 году я пачаў пісаць пра нараджэньне беларускай нацыі. Першыя шэсьць эсэ гэтай кнігі былі апублікаваныя, адпаведна, 20 чэрвеня, 4 і 17 ліпеня, 31 жніўня, 13 кастрычніка і 3 лістапада. Эсэ пра Расею, якая не зразумела, што губляе беларусаў, зьявілася 25 жніўня 2020 году, а эсэ пра выхад мовы на пярэдні плян супраціву — у сакавіку 2021-га.

У кнізе я закранаю падзеі і герояў як блізкай, так і далёкай мінуўшчыны, спрабуючы паказаць, наколькі пасьпяховым аказаўся лёс Беларусі, нягледзячы на неспрыяльныя палітычныя абставіны. У кожны канкрэтны пэрыяд гісторыі беларусы маглі цалкам зьнікнуць з мапы Эўропы, але выжылі і ў 2020 годзе выйшлі на эўрапейскую палітычную арэну «ў агромністай такой грамадзе».

Перад вамі — роздум пра наш супольны шлях.

# Чаму нацыя беларусаў заканчвае фармаваньне

Месяц збору подпісаў за кандыдатаў у прэзыдэнты цалкам перавярнуў звыклыя ўяўленьні пра наш народ. Аказалася, што ў чэрвені 2020 году гэта не «насельніцтва», не «быдламаса» і не «народзец», але адукаваная, культурная эўрапейская нацыя, якая патрабуе сыходу сваіх прыгнятальнікаў.

## Што было раней

Нацыі ў Эўропе пачалі фармавацца падчас прамысловай рэвалюцыі XIX стагодзьдзя на зломе эпох Рамантызму і Мадэрну.

Адзін з сусьветна вядомых тэарэтыкаў нараджэньня нацый, чэскі гісторык Міраслаў Грох вызначыў падставы і сувязі, на якіх у XIX стагодзьдзі фармаваліся нацыі. Падстаў можа быць шмат, але тры зь іх застаюцца нязьменнымі. Гэта:

1. Памяць пра агульнае мінулае, якое ўсьведамляецца як агульны лёс усёй этнічнай групы ці хаця б яе ключавых элемэнтаў.
2. Шчыльныя моўныя або культурныя сувязі, якія забясьпечваюць больш высокі ўзровень сацыяльнай камунікацыі ўнутры групы ў параўнаньні з навакольным сьветам.
3. Канцэпцыя роўнасьці ўсіх чальцоў групы.

Усе гэтыя пункты прысутнічалі ў палымянай публіцыстыцы Кастуся Каліноўскага і яго паплечнікаў.

Праз тыдзень пасьля пакараньня сьмерцю Кастуся Каліноўскага падпольны «Głos z Litwy», які ў Кёнігсбэргу выдавалі каліноўцы Ўладзіслаў Малахоўскі і Міхал Ляпкоўскі, выклаў усе тры пастуляты, якія праз 130 гадоў навукова сфармулюе Міраслаў Грох.

Паўстанцы востра ўсьведамлялі агульнасьць свайго гістарычнага лёсу і асобнасьць яго ад расейскага:

«Таго, што хочам, чаго патрабуем, Масква нам ніколі не дала і даць не магла. Ёй гісторыя надала адзін кірунак народнага жыцьця, нам — іншы. Разам нашыя прызначэньні рэалізаваць мы ня можам. Павінны разьдзяліцца для нашага і яе дабра».

Паўстанцы дамагаліся роўных правоў для беларускай мовы:

«Мы хочам, каб кожная мова разьвівалася паводле ўласнай жыцьцяздольнасьці: і літоўская, і беларуская, і маларуская, і польская».

І, нарэшце, паўстанцы дамагаліся роўнасьці для ўсіх, хто ўвойдзе ў новую беларускую нацыю. Важна падкрэсьліць: не ўраўнаваньня, але роўнасьці правоў.

«Мы хочам, каб кожны меў роўныя правы на ўласнасьць, на службу, на працу, каб усе атрымалі і ніхто ня страціў».

Пра тое ж сьпявалі падчас баёў касінеры:

*Бо мы роўныя з панамі,*
*Бо за вольнасьць мы з касамі!*

І пра тое ж быў апошні перадсьмяротны выгук айца-заснавальніка новай беларускай нацыі Кастуся Каліноўскага:

«У нас няма дваран — усе роўныя!»

Паводле Гроха, фармаваньне нацый заканчваецца нараджэньнем нацыянальных дзяржаў. Беларусы дамагліся гэтага ў 1918 годзе, але незалежнасьці не ўтрымалі, жылі 70 гадоў у квазідзяржаве БССР і нарэшце ў 1991 годзе здабылі свой сувэрэнітэт.

Але гвалтоўнае прыпыненьне працэсу беларусізацыі 1920-х гадоў і татальнае вынішчэньне нацыянальнай інтэлігенцыі ў 1930–1940-я гады паставіла беларускую нацыю на мяжу выжываньня і нават прымусіла навукоўцаў гаварыць пра незавершанасьць працэсу фармаваньня беларускай нацыі.

У выніку навукоўцы, нават той самы Міраслаў Грох, у 90-я гады XX стагодзьдзя адмовіліся даваць прагноз адносна будучыні беларускага нацыянальнага праекту. Пытаньне, казалі яны, застаецца адкрытым.

## Што адбылося цяпер

І вось надышоў 2020 год. Аказалася, што пэсымістычныя прагнозы ня спраўдзіліся. Нягледзячы на татальнае закрыцьцё беларускіх школ, газэт і часопісаў, разгром і звальненьне наву-

ковых кадраў з Акадэміі навук і ўнівэрсытэтаў, падспудныя і схаваныя нацыятворчыя працэсы ішлі поўным ходам.

Сёньня ўжо зразумела, што беларуская нацыя выжыла, сфармавалася і патрабуе нацыянальнай свабоды.

Выказваньні нашых беларуска- і расейскамоўных грамадзян усіх узростаў, полаў, палітычных арыентацый і прыхільнасьцяў падчас пікетаў у сталіцы, абласных гарадах і самых аддаленых раённых цэнтрах немагчыма слухаць бязь сьлёз. У словах людзей таксама прысутныя ўсе тры пастуляты Гроха. Знайдзіце ў Ютубе трансьляцыю зь любога пікета ў любой частцы Беларусі. І вы пачуеце:

«Мы — беларусы...»

«Наш народ варты лепшага жыцьця і лепшай долі...»

«Беларусы — працавіты і законапаслухмяны народ, які заслугоўвае жыць лепш...»

«У нас такая доўгая і вялікая гісторыя...»

«Пражывем мы бяз гэтай Расеі...»

«Мы заўсёды былі ў Эўропе...»

«Я сама расіянка, з Санкт-Пецярбургу, муж быў беларусам, але я супраць аб'яднаньня з Расеяй. Беларусы іншыя, больш працавітыя, больш законапаслухмяныя...»

«Я люблю сваю дарагую, прыгожую, любімую Беларусь, не хачу зьяжджаць, хачу жыць тут...»

«Яны (улады) нас зусім не паважаюць...»

«Яны (чыноўнікі) нас за людзей ня лічаць...»

«Я хачу, каб яны нас паважалі, а не зьняважалі і ня ціснулі...»

«Паглядзіце на чыноўніцкае „бязьмежжа“, пабудавалі сабе палацы...»

«Мы хочам праўды і справядлівасьці, хочам роўных магчымасьцяў, каб кожны мог зарабіць на сям'ю і на дом...»

«Чаму я павінен ехаць за дзьве тысячы кілямэтраў на заробкі, прыніжацца? Што я сыну свайму скажу? Каб таксама ехаў да чужакоў на паклон?..»

«Я хачу жыць як чалавек, а не пабірацца...»

«Мы ж людзі...»

Тут ня толькі ўсе тры пастуляты Міраслава Гроха, тут і адказ на пытаньне клясыка:

*«А чаго ж, чаго захацелась ім,*
*Пагарджаным век, ім, сьляпым, глухім?*
*— Людзьмі звацца».*

## Новая «арыстакратыя» супраць нацыі

Арыстакратычныя колы эўрапейскіх краін падчас зьяўленьня нацый у XIX — пачатку XX стагодзьдзяў, як правіла, не падтрымлівалі нацыянальныя рухі. Арыстакратаў палохалі заклікі да роўнасьці і магчымасьць страціць багацьце, дабрабыт і прывілеяванае становішча.

Тое самае назіраецца сёньня ў Беларусі. Тут за апошнюю чвэрць стагодзьдзя ўзьнік гістарычны аксюмаран — новая, плебейская паводле паходжаньня, арыстакратыя зь ліку найвышэйшага чынавенства, набліжанага да кіраўніка дзяржавы,

і вершаліна так званай вэртыкалі, якая займае ў грамадзтве прывілеяванае становішча і ня хоча яго губляць. Гэтыя «арыстакраты-плебеі» зь вялікай пагардай і недаверам ставяцца да астатніх «плебеяў», за што апошнія іх справядліва крытыкуюць.

У краіне ўзьнікла рэальная няроўнасьць (прычым ня толькі эканамічная) паводле прынцыпу набліжанасьці да ўлады.

А паколькі ўлада ў Беларусі пагарджае нацыянальнай культурай і мовай, адпаведна, варожымі ім застаюцца і новыя арыстакраты-плебеі.

І вось так, пагарджаючы «плебеямі» і служачы свайму гаспадару, гэты гістарычны аксюмаран не заўважыў новай гістарычнай зьявы — сфармаваньня беларускай нацыі і яе паўстаньня супраць сваіх прыгнятальнікаў — аўтарытарнага рэжыму і яго апоры ў цэнтры і на месцах у выглядзе ўладнай вэртыкалі.

На пачатку XX стагодзьдзя дэнацыяналізаваныя арыстакраты паўцякалі са сваіх краінаў хто куды. Выглядае, што такі самы лёс чакае і беларускі гістарычны аксюмаран — арыстакратаў-плебеяў з уладнай вэртыкалі. Але шмат хто апынецца і на лаве падсудных.

## На чарзе — перамога беларускай мовы

Некалі мне ўжо давялося пісаць пра маральную сілу беларускай нацыянальнай ідэі і беларускай мовы. Выказваньні людзей у апошні месяц

на пікетах для збору подпісаў зноў і зноў пераконваюць у слушнасьці гэтай высновы.

За лёс беларускай мовы можна не турбавацца. Беларусы яе любяць, адчуваюць калектыўны сорам за яе бядотнае становішча і масава выказваюцца за яе адраджэньне.

Зноў цытаты з выбарчых пікетаў:

«Выбачайце, я буду па-расейску, але беларуская мова прыгожая, я яе люблю...»

«Я пачну на роднай мове, але фармуляваць думкі мне лягчэй па-расейску. Вельмі прашу мне прабачыць...»

«Наша мова самая прыгожая, я, на жаль, мала на ёй размаўляю...»

«Бачыце, я не зусім упэўнена гавару на роднай мове...»

«Мы адродзім родную мову, яна клясная...»

Пра гэта ж гаворыць уся апазыцыя, усе незалежныя кандыдаты ў прэзыдэнты, уключна з новым лідэрам грамадзкіх сымпатый Віктарам Бабарыкам, незалежна ад таго, хто якой мовай карыстаецца ў жыцьці.

Гэта — маральная перавага і маральная сіла, а значыць, і маральная перамога, якая ў гісторыі мае звычай ператварацца ў фактычную, рэальную і канчатковую.

Для гэтага патрэбны час, такт і павага да ўсіх. Але канчатковы вынік — непазьбежны.

# Чаму адзіная альтэрнатыва Лукашэнку — бел-чырвона-белая

Масавыя акцыі салідарнасьці, праведзеныя беларусамі ў дзясятках гарадоў і краін сьвету ў траўні-чэрвені 2020 году, у тым ліку ў такіх нязвыклых, як на інданэзійскім востраве Балі, на Кіпры ці ў Ізраілі, дазваляюць яшчэ раз зрабіць вельмі важную выснову — нацыя беларусаў знаходзіцца ў фінальнай стадыі свайго фармаваньня.

## Нацыянальны маніфэст у дзясятках гарадоў сьвету

Насамрэч, першыя тыдні чэрвеня — неверагодныя. Гэта адна з маніфэстных кульмінацый беларускай гісторыі найноўшага часу.

Людзі, якія, нярэдка і па шмат гадоў, жывуць за мяжой і даўно інтэграваныя ў іншаэтнічныя супольнасьці, а таксама тыя, хто прыехаў туды зусім нядаўна, пільна сочаць за падзеямі на Бацькаўшчыне, перажываюць за яе, востра адчуваюць патрэбу перамен, якія зрабілі б іх родную краіну свабоднай і справядлівай.

Гэтыя людзі гавораць на розных мовах, у іх розныя палітычныя погляды, яны па-рознаму разумеюць правы чалавека і правы меншыняў, па-рознаму глядзяць на сьвет і падзеі, якія ў ім цяпер адбываюцца.

Але гэтыя людзі зьнітаваныя і навечна злучаныя ня толькі фактам свайго нараджэньня ў краіне пад назвай Беларусь, але і вострым пачуцьцём адзінства свайго нацыянальнага лёсу.

Хто б мог падумаць, што бел-чырвона-белы сьцяг, Пагоня і вокліч «Жыве Беларусь!», якія ў 90-я гады здаваліся атрыбутамі купкі «нацыяналістаў» і якія нярэдка называлі нацыяналістычнымі, калябаранцкімі і паліцайскімі, усяго праз пару дзесяцігодзьдзяў стануць агульнанацыянальнымі сымбалямі! І што людзі, гледзячы на іх, будуць плакаць ад замілаваньня і вострага пачуцьця салідарнасьці!

Тым ня менш сёньня гэта — рэальнасьць.

## Беларускі зьмест нацыянальнай ідэі

Усе іншыя канцэпцыі, у тым ліку канцэпцыя расейскамоўнай грамадзянскай Беларусі, на нашых вачах цярпяць паразу. Сёньня нават нядаўнія агітатары за расейскую мову як нацыянальную мову беларусаў не рашаюцца ўзьняць голас супраць мовы беларускай. Крытыкаваць беларускую мову, выказвацца супраць яе або дэманстраваць абыякавасьць да яе лёсу — цяпер мавэтон.

Нават тыя, каго беларуская мова ў прынцыпе раздражняе і хто выказваецца супраць яе «насаджэньня», заклікаюць пачаць зь дзяцей — гэта значыць, прызнаюць неабходнасьць яе адраджэньня і патрэбу ў будучыні.

І вось мы бачым ашаламляльную зьяву — без увагі на тое, хто якой мовай гаворыць, людзі безумоўна прызналі сваімі ўсе тры нацыянальныя сымбалі — герб, сьцяг і лёзунг «Жыве Беларусь!».

Гэты факт мае мэтафізычны зьмест. Бо за гэтымі трыма сымбалямі стаіць менавіта такая Беларусь, якой яе бачылі каліноўцы і гоманаўцы XIX стагодзьдзя і адраджэнцы пачатку XX стагодзьдзя — беларуская Беларусь. З адзінай дзяржаўнай беларускай мовай і захаваньнем правоў усіх нацыянальных меншыняў краіны і іх моваў. Гэтыя сымбалі, як моцны маральны магніт, перацягваюць людзей за Рубікон — на бок Беларусі Каліноўскага і гоманаўцаў.

Пра сваю падтрымку гэтых ідэй заявіла і ляўрэатка Нобэлеўскай прэміі ў галіне літаратуры, расейскамоўная пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч. У 2017 годзе на сустрэчы з чытачамі ў Гомлі Сьвятлана Аляксандраўна сказала:

«У нас нацыянальнай ідэяй можа быць толькі пабудова сваёй нацыянальнай дзяржавы, дзе была б наша нацыянальная мова».

Магчыма, прыхільнікі і сябры ініцыятыўных групаў некаторых кандыдатаў на гэтых выбарах яшчэ не зусім усьведамляюць, што цяпер адбываецца ў беларускім космасе, але вось факт, які паказвае, як адзіная нацыянальная палітычная ідэя, узьнятая ў XIX стагодзьдзі газэтай «Мужыцкая праўда» (1862) і часопісам «Гоман» (1884), наяве шырока прарастае ў нас.

Калі штаб Віктара Бабарыкі заяўляе, што «не люди для государства, а государство для лю-

дей», ён можа не ўсьведамляць і ня ведаць, што паўтарае глыбока нацыянальны па сваёй сутнасьці лёзунг Кастуся Каліноўскага «Не народ для ўраду, а ўрад для народу». Але тым ня менш паўтарае. Тое самае можна сказаць і пра «Страну для жизни» Сяргея Ціханоўскага.

Таму выснова напрошваецца сама сабой. Ня трэба шукаць беларускай нацыянальнай ідэі. Яна даўно знойдзеная. Адзіная альтэрнатыва Лукашэнку — бел-чырвона-белая Беларусь.

## Чаму моладзь выбірае нацыянальны шлях

У ліпені 2020 году глядзець кадры зь Менску і іншых гарадоў Беларусі падчас мірных пратэстаў і горка, і радасна.

### Узьнікненьне калектыўнага «мы»

Я люблю ўсіх гэтых людзей на вуліцах, мне яны здаюцца самымі прыгожымі і самымі вартымі годнага і справядлівага жыцьця ў сваёй свабоднай краіне.

Мы ўсе, безумоўна, нацыя, бо зьнітаваныя пачуцьцём адзінства свайго нацыянальнага лёсу. І нават у той тупіковай сытуацыі, якая цяпер узьнікла ў Беларусі, нельга ня думаць пра будучыню.

Самае каштоўнае, што магло адбыцца і адбылося з намі, гэта рост грамадзянскай і нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў.

Калі немаладая жанчына ў далёкім райцэнтры кажа журналісту, маўляў, «хай ён сыходзіць, хопіць нас мучыць, ён усю нацыю забівае», — то размова ідзе менавіта пра нацыю беларусаў.

Калі жанчына сярэдніх гадоў у чарзе да ЦВК кажа: «Больш за ўсё я баюся 10 жніўня, я амаль напэўна ведаю адказ, што там будзе. Але гэта лепш, чым нічога не рабіць — такія моманты даюць табе зразумець, што ты не адзін. Калі 26 гадоў бяз руху, то здаецца, што ты ў гэтай дзяр-

жаве самотны. І раптам ты адчуваеш гэтае яднаньне — гэта вельмі важна, ты адчуваеш нацыю, адчуваеш, што Беларусь існуе і што беларусы — гэта рэальныя людзі, якія гатовыя ўзьняць свой голас», — то мы бачым, што і тут гучыць прага найперш нацыянальнай салідарнасьці.

Калі адна з удзельніц ланцуга ў Менску кажа: «Я не баюся! У мяне адбіраюць будучыню, усё жыцьцё, а я буду баяцца пятнаццаць сутак страціць?» — яна насамрэч кажа ня толькі пра сябе і сваю сям'ю, але і пра ўсіх нас — беларусаў і нашу беларускую краіну, пра нашу будучыню.

## Нараджэньне новых грамадзян

Калі моладзь на вуліцах Менску і іншых гарадоў кажа ўладзе: «Гэта ня ваша краіна, гэта наша краіна, і мы будзем вырашаць, якой ёй быць і хто ёй будзе кіраваць», — мова ідзе пра новых грамадзян новай Беларусі.

Беларусі, якой раней яшчэ не было. Можа, упершыню нашы людзі зразумелі і адчулі практычны сэнс і значэньне фразы з Канстытуцыі пра тое, што «адзінай крыніцай улады зьяўляецца народ».

Менавіта таму сярод адказаў удзельнікаў пратэстаў на пытаньні журналістаў так часта сустракаюцца словы «грамадзянін», «грамадзянскі абавязак» — мільёны людзей раптам востра адчулі сябе грамадзянамі Беларусі і пратэстуюць супраць непавагі дзяржавы да тых, хто яе ўтрымлівае.

## Народ перамяняе кандыдатаў у прэзыдэнты

У мяне такое ўражаньне, што калі б у Беларусь (крый Божа!) прыйшлі расейскія танкі, тыя самыя людзі гэтак жа шчыльна, счапіўшыся за рукі, стаялі б на вуліцах і крычалі: «Ідзіце дадому!».

Вось чаму кандыдаты ў прэзыдэнты, нават тыя, што раней займалі іншую палітычную пазыцыю і вядомыя супярэчлівымі выказваньнямі, падчас гэтай выбарчай кампаніі ўжо сказалі тое, што ад іх хоча пачуць новая Беларусь — і пра мову, і пра сьцяг, і пра незалежнасьць, і пра будучыню. Раптам стала відавочна, што ў краіне не народ для кандыдатаў у прэзыдэнты, але кандыдаты — для народу. Як пра гэта і марыў некалі Кастусь Каліноўскі.

Гэта новая стадыя нацыянальнага разьвіцьця Беларусі. Беларусі будучыні. Вось чаму на вуліцах стаіць пераважна моладзь. І вось чаму яны скандуюць «Жыве Беларусь!»

# Чаму мы гаворым пра Вялікае Беларускае Нацыянальнае Паўстаньне

Незалежна ад таго, чым скончыцца ў Беларусі цяперашняе процістаяньне народу з уладай і яе сілавымі структурамі, для мяне асабіста ў гэтую выбарчую кампанію ўжо ўсё адбылося. У 20-х днях жніўня 2020 году ўжо можна сказаць: я ўбачыў тое, пра што марыў і што стараўся наблізіць сваёй працай апошнія 35 гадоў.

## Цуд фармаваньня нацыі

Шмат хто ў Беларусі і за яе межамі ў гэтыя месяцы трывожна і з надзеяй сочыць за падзеямі ў нашай краіне. Усе мы то радуемся, то перажываем, то плачам аб ахвярах, ад крыўды і бясьсільля, то ад шчасьця і гонару за свой народ.

Я не магу суняць хваляваньня і трымценьня ў грудзях кожны раз, калі працую над асьвятленьнем падзей на радзіме ці проста гляджу трансьляцыі грандыёзных народных шэсьцяў адтуль.

Але пры гэтым, глыбока ў душы, я шчасьлівы. Бо бачу неверагодную карціну запозьненага абуджэньня і паўставаньня апошняй цэнтральнаўсходнеэўрапейскай нацыі. Гэта ўсё ж, дзякуй Богу, адбылося. Мы адбыліся, і я гэта ўбачыў.

Як гісторык паводле адукацыі я сутаргава запісваю фразы і словы палітыкаў і простых людзей, якія пацьвярджаюць неймаверны сацыялягічны і палітычны цуд, які адбываецца на нашых ва-

час — заканчэньне фармаваньня беларускай нацыі.

Цуд фармаваньня нацыі — гэта сынтэз этнічных, псыхалягічных і грамадзянскіх фактараў, счэпленых амаль сямейнай салідарнасьцю і ўзаемападтрымкай. У адзін момант мільёны людзей раптам усьведамляюць сваю крэўную роднасьць, адзінства свайго гістарычнага лёсу і сваю асобнасьць ад астатняга сьвету. Раптам узьнікае разуменьне, што існуе з аднаго боку «сьвет» і «яны», а з другога — «мы», «беларусы».

Таксама ў людзей нараджаецца і абвастраецца пачуцьцё грамадзкай і грамадзянскай адказнасьці, абурэньне сацыяльнай і палітычнай несправядлівасьцю. І тады новапаўсталая нацыя імкнецца авалодаць дзяржавай, якая пакуль што знаходзіцца ў руках яе ворагаў ці прыгнятальнікаў (у нашым выпадку гэта гістарычны аксюмаран — плебейская арыстакратыя ў выглядзе прарасейскай уладнай вэртыкалі).

Гэты працэс мы цяпер і назіраем. Людзі востра адчулі і зразумелі, што крыніца ўлады — яны самі, грамадзяне, што дзяржаўны апарат — гэта ўсяго толькі наёмныя мэнэджары, якія разам зь сілавым блёкам жывуць на грошы людзей. І грамадзяне раптам запатрабавалі ад дзяржаўнага апарату строгага выкананьня законаў і лаяльнасьці.

Таму мы чуем на мітынгах і дэманстрацыях па ўсёй краіне дзясяткі і сотні аднатыпных дэклярацый з вуснаў простых людзей: «Гэта наш горад!», «Гэта наша краіна!», «Мы тут улада!».

## Шчасьце нацыянальнага адзінства

Вось некаторыя з запісаных мною фразаў-маркераў.

На шэсьці ў Менску 16 жніўня 2020 году яго ўдзельніца кажа:

«Я ніколі ня бачыла такі народ, якім я хачу ганарыцца. Сёньня я яго бачу. Хопіць карміць армію чыноўнікаў і міліцыянтаў, якая нас забівае і зьневажае. Жыве Беларусь!»

Удзельніца «Маршу новай Беларусі» 23 жніўня 2020 году:

«Прачынаецца нацыя беларуская, адраджаецца...»

Іншая ўдзельніца «Маршу новай Беларусі»:

«Мы ня хочам нейкіх эўрапейскіх заробкаў. Мы хочам, каб нас паважалі і ставіліся да нас з павагай».

Інтэрвію Марыі Калесьнікавай Свабодзе на пачатку жніўня 2020 году:

«Гэта ўсё ідзе яшчэ з Савецкага Саюзу, і мала было часу, каб нацыя зразумела, што яна нацыя, што мы адзін народ, што мы можам уплываць на наша агульнае жыцьцё. Гэта працяглы працэс, і мне здаецца, што мы змаглі выказаць словамі тое, што адбылося цяпер у душы кожнага беларуса».

Зварот Сьвятланы Ціханоўскай да беларусаў 17 жніўня:

«... За мінулыя месяцы стала зусім відавочна для ўсяго сьвету, што беларусы — гэта людзі, якія ўмеюць самаарганізоўвацца, прымаць правільныя рашэньні і здольныя пастаяць за сябе і

за сваіх блізкіх. Але самае галоўнае, што гэта ўсьвядомілі мы самі. Гэта тое ўсьведамленьне, якога нам не хапала доўгія гады. Беларусы сёньня праяўляюць цуды гераізму, салідарнасьці і прыстойнасьці… І ў тым ліку мы зможам вярнуць краіне энэргію тых беларусаў, якія воляю лёсу апынуліся ў іншых краінах сьвету… Упершыню за доўгія гады мы змаглі стаць адным цэлым — беларусамі, якія любяць сваю краіну».

Інтэрвію Сьвятланы Ціханоўскай Расейскай службе Радыё Свабода 27 жніўня пра беларусаў, якія пратэстуюць на вуліцах беларускіх гарадоў:

«Яны разумеюць, што будзе цяжкая барацьба, але яны шчасьлівыя, што адчулі сябе адзіным народам, адчулі сябе нацыяй… Цяпер кожны разумее, што ад яго залежыць вельмі многае. Паварот у сьвядомасьці людзей. Творыцца гісторыя».

Зварот 230 выпускнікоў юрыдычнага факультэту БДУ да сваіх калегаў:

«Мы ўсе — грамадзяне Рэспублікі Беларусь, і нам разам жыць у гэтай краіне. Мы разам і ёсьць Беларусь. Мы любім Беларусь!.. Больш няма бакоў, няма нас ці вас, цяпер толькі мы разам. Мы — гэта беларусы. І ад кожнага з нас залежыць будучыня нашай краіны. Разам мы — народ Беларусі».

Вось чаму сёньня людзі ў Беларусі нярэдка плачуць ад вострага пачуцьця нацыянальнай зьнітаванасьці. І вось чаму па ўсім Менску — у гандлёвых цэнтрах, падземных пераходах, у мэтро, на мітынгах і проста на вуліцах — сьпяваюць сутнасна беларускія, знакавыя песьні: «Магутны

Божа», «Пагоня», «Купалінка», «Тры чарапахі» ды іншыя.

Гэтая мяккая хваля беларускай сілы можа неўзабаве ахапіць і прадстаўнікоў уладнай вэртыкалі і сілавога блёку. Асабліва тых, хто не замяшаны ў крымінальных злачынствах. Доля астатніх — пакаяньне, эміграцыя або суд. Але, у прынцыпе, усе маюць права раней ці пазьней вярнуцца да сваіх.

## Нацыянальныя гонар і годнасьць

Як і належыць кожнай нованароджанай істоце, новай нацыі ўласьцівыя элемэнты эгаізму і самалюбаваньня.

Адсюль у сацыяльных сетках столькі захапленьня побытавай культурай беларусаў — і сьмецьце яны на мітынгах за сабой прыбіраюць, і абутак здымаюць, перш чым залезьці на лаўку, і нават уцякаюць ад АМАПу, агінаючы клюмбы з кветкамі, каб іх не патаптаць.

Як гісторык магу сказаць, што падставы для гэтага сапраўды ёсьць. Падарожнікі захапляліся чыстымі вуліцамі Менску і ў сярэдзіне XIX стагодзьдзя, і на пачатку XX-га, і ў 1918 годзе, як захапляюцца і ў наш час. Гэта частка традыцыйнай культуры беларускага народу і норма для паўночнай эўрапейскай нацыі, якая ў тысячагодзьдзях мае скандынаўскія, балцкія і славянскія карані.

Вось некалькі прыкладаў здаровай любові сучасных беларусаў да саміх сябе. У ліпені-жніўні на перадвыбарчых мітынгах Марыя Калесьнікава ня раз выгуквала:

«Беларусы, вы неверагодныя! Я вас люблю!»

«Беларусы — вы найлепшыя!»

На шэсьці ў Менску 16 жніўня 2020 году жанчына-настаўніца з Гомля казала:

«Паглядзіце, якія мы прыгожыя. І мы хочам такога самага прыгожага жыцьця».

Удзельніца таго ж шэсьця зь Менску:

«Я ніколі ня бачыла такі народ, якім я хачу ганарыцца. Сёньня я яго бачу. Хопіць карміць армію чыноўнікаў і міліцыянтаў, якая нас забівае і зьневажае. Жыве Беларусь!»

На адным з пасьлявыбарчых мітынгаў плякат у руках хлопца з надпісам:

«Беларусы ў 2020-м — гэта найлепшае, што я бачыў у сваім жыцьці».

Гомельскі журналіст Пятро Кузьняцоў 17 жніўня ў сваім Фэйсбуку:

«Праз сорам, боль і часам адчай мы прыйшлі нарэшце да гонару. Да часу, калі ня можна, а трэба ганарыцца сабой, сваімі сябрамі, землякамі і нават ворагамі, калі гэтая варожасьць не палітычная. Цудоўная краіна, дзівосны народ, цудоўная нацыя! Жыве Беларусь!»

І абсалютна вяршынны прыклад з самага вялікага мітынгу Сьвятланы Ціханоўскай у Менску з удзелам 70 тысяч чалавек, калі вядоўца закрычаў у натоўп:

«Мы ганарымся самі сабой! Мы — беларусы!»

І ў адказ пачуліся дзясяткі тысяч захопленых «Та-ак».

## Сымбалі ды іх зьмест

За апошнія чатыры месяцы ў краіне адбыўся фактычны плебісцыт у пытаньні вяртаньня гістарычнай сымболікі — бел-чырвона-белага сьцяга і гербу «Пагоня», а галоўным сымбалічным дэвізам новай нацыі стаў ужо ўсенародна прызнаны вокліч «Жыве Беларусь». Прыкладаў гэтага тут нават ня трэба прыводзіць — мы гэта бачым і чуем вакол сябе кожны дзень.

Усё гэта азначае перамогу беларускай Беларусі, за якую памерлі тысячы і тысячы яе найлепшых сыноў і дачок, пачынаючы ад Кастуся Каліноўскага. Але, у прынцыпе, пачатак гэтага шляху быў пакладзены ў IX стагодзьдзі, калі на гістарычную арэну выйшла Полацкая дзяржава.

Сымболіка вызначае зьмест і вэктар разьвіцьця краіны і народу. Цяпер ужо ясна, што раней ці пазьней гэта будзе такая Беларусь, якой яе бачылі Каліноўскі, Багушэвіч, Іваноўскі, Луцкевічы, іншыя айцы БНР і БССР, пасьляваенная культурная эліта, адраджэнцы 80–90-х гадоў, дэпутаты незалежнасьці і ўсе, хто працаваў і працуе на Беларусь у XX і XXI стагодзьдзі.

## Непазьбежная перамога беларускай мовы

У сэрцах і душах беларусаў іх гнаная мова перамагла.

Пра гэта сьведчаць апытаньні грамадзкай думкі, калі большасьць выказваецца супраць страты беларускай мовы.

Пра гэта сьведчаць шматлікія прамыя эфіры Свабоды з вуліц вялікіх і малых беларускіх гарадоў, калі людзі просяць прабачэньня за тое, што будуць гаварыць па-расейску. Гэта вызнаньне маральнага імпэратыву і маральная перамога, якая праз некалькі дзесяцігодзьдзяў стане фактычнай.

Вось адзін з самых характэрных прыкладаў. Менскі фатограф і пэдагог Ірына Бондзюк напісала ў сябе ў Фэйсбуку 22 ліпеня 2020 году:

«Извините, я по-русски. Мой папа белорус, военный. Мама русская. Я до 15 лет — по военным городкам, где белорусов не было. Как ребёнок военного, до 91-го белорусский язык не изучала. И до последнего года относилась ко всему спокойно... И ОГРОМНОЕ СПАСИБО учителям моего сына по истории — Суворову Родиону Олеговичу и по белорусскому языку и литературе — Федорович Светлане Павловне!!! Благодаря им мой сын обожает разговаривать на белорусском языке и очень гордится нашей историей. А я... Я, глядя на него, и — не поверите, — благодаря Бабарико вдруг тоже поняла, что люблю Беларусь, что мы могли бы быть независимым народом с гордо поднятой головой. Это я всё к чему. Наверняка не одна я сейчас стала ходить везде в вышиванке и решила, что научусь говорить по-белорусски. Только сейчас у большинства начинает просыпаться национальное самосознание, ощущение объединения вокруг национальной идеи. Так что всё у нас впереди!!! Может быть, я скоро смогу написать Вам на белорусском языке)».

Ад сярэдзіны жніўня Ірына Бондзюк вядзе свой Фэйсбук ужо па-беларуску.

## Нацыянальнае вызваленьне і адасабленьне

Беларусу ня трэба ўступаць у Эўразьвяз, каб адчуваць сябе эўрапейцам, беларус гэта і так ведае. Ён лічыць, што ў суседняй Польшчы не цывілізацыя, а «таксама цывілізацыя», як і ў Беларусі.

І мы сапраўды ведаем, што беларус — гэта эўрапеец, які жыве ў Эўропе. Ужо тысячу гадоў ён гэтак сама, як і людзі ў Нямеччыне, Францыі, Італіі або Гішпаніі, урабляе зямлю, гадуе сьвіней, сушыць кумпякі і кілбасы, будуе жыльлё ў вёсках і гарадах і моліцца ў храмах. Гэта разумеюць і апошнія месяцы пра гэта гавораць палітыкі і простыя людзі.

Былы чыноўнік Адміністрацыі прэзыдэнта Аляксандар Пласкавіцкі на пачатку жніўня ў інтэрвію Свабодзе:

«Сёньняшняе абурэньне народу ніяк не выглядае празаходнім ці прарасейскім...»

Зварот да дэпутатаў Эўрапарлямэнту 25 жніўня 2020 году Сьвятланы Ціханоўскай:

«Беларусь прачнулася. Мы больш не апазыцыя. Нас цяпер большасьць... Рэвалюцыя ў Беларусі — гэта не геапалітычная рэвалюцыя. Гэта не прарасейская, не антырасейская рэвалюцыя. Гэтая рэвалюцыя ня супраць Эўрапейскага Зьвязу і не праэўрапейская. Гэта дэмакратычная рэвалюцыя.

Гэта імкненьне нацыі вырашаць свае праблемы самой...

Я заклікаю ўсе краіны сьвету паважаць асноўнае права нацыі на самавызначэньне. Я заклікаю ўсе краіны сьвету паважаць сувэрэнітэт Беларусі. Я заклікаю ўсе краіны сьвету паважаць тэрытарыяльную цэласнасьць Беларусі.

Беларусь — частка Эўропы. Культурна, гістарычна і геаграфічна. Мы адданыя нормам міжнароднага права і хочам заняць годнае месца сярод іншых народаў Эўропы».

Пра гэта ж сьведчыла і ўся глыбока нацыянальная рыторыка трыё ў складзе Сьвятланы Ціханоўскай, Марыі Калесьнікавай і Веранікі Цапкалы падчас выбарчай кампаніі.

## Містычны маніфэст беларусаў

Але вяршынным сьведчаньнем працэсу нараджэньня беларускай нацыі я лічу выступленьне простага работніка-будаўніка з Горадні, супрацоўніка «Горадняжылбуду». Калі я гэта пачуў, у мяне заварушыліся валасы на галаве і з вачэй паліліся сьлёзы.

Я ня думаў, што калі-небудзь такое пачую — як вуснамі простага чалавека мой народ містычна агучыць сваю спрадвечную мару, мару ляснога беларуса-хутараніна жыць на сваім кавалку зямлі без гаспадароў над ім — сьціпла, сумленна і культурна.

Мару народу, які прыдумаў танец «Полька на зэдліку», калі хлопец зь дзяўчынай становяцца

на зэдлік і пачынаюць утрапёна танчыць, паступова павялічваючы тэмп і гледзячы адно аднаму ў вочы — гэта выяўленьне вялікай унутранай энэргіі вонкава стрыманага беларуса, які спрабуе рэалізавацца на невялікім лапіку адваяванай у лесу (ці ў пана) зямлі.

Мару народу, які стагодзьдзямі трымаў строгі парадак і чысьціню ў хатах, а з прыёму ежы зрабіў цэлы культурна-герархічны рытуал.

І гэта маніфэст нашага спрадвечнага сьціплага і культурнага народу, які стагодзьдзямі цярпеў ад сваіх і чужых гаспадароў і марыў усяго толькі пра спакойную працу на сябе самога і сваіх дзяцей.

Рабочы «Горадняжылбуду» сказаў літаральна наступнае:

«Я сапраўды ганаруся сваім беларускім народам. Мне ня трэба ні NATO, ні Расея. Мы павінны быць адны, з нармальным сумленным кіраўніцтвам. На чале павінен быць сумленны прэзыдэнт, як і мы».

Вось чаму тое, што цяпер адбываецца ў Беларусі, — гэта Вялікае Беларускае Нацыянальнае Паўстаньне. А ўлічваючы, што паўстаньне — гэта апошні этап вызваленьня беларусаў ад вонкавых уплываў і залежнасьцяў, яго можна называць і нацыянальна-вызвольным.

Сьвет, у выпадку паразы паўстаньня, будзе вінаваты ў тым, што не аказаў беларусам дастатковай дапамогі, і стане бяднейшым.

І цяпер ужо зразумела — нічога не было дарэмна. Ніводная ахвяра, ніводная сьляза, ніводны пакутны ўздых перад шыбеніцай, расстрэ-

лам ці пад катаваньнем, ніводная кніга, артыкул і нават слова, прамоўленае беларускімі палітыкамі, інтэлектуаламі і патрыётамі. Нічога не прапала і не памерла.

Беларусь жыве = Жыве Беларусь!

# Чаму надышоў час пісаць слова «Беларус» зь вялікай літары

Жорсткія разгоны Жаночага маршу 10 кастрычніка, Маршу Годнасьці 11 кастрычніка і Маршу пэнсіянэраў 12 кастрычніка ў Менску, а таксама затрыманьні па ўсёй краіне і пагрозы МУС ужываць супраць дэманстрантаў баявую зброю паказалі, што ў Беларусі ўздымаецца новая хваля гвалту супраць беларускага народу з боку сілавых структур.

## Страшная цана свабоды

Пасьля ўсяго гэтага дрэнна сьпіцца. У бяссонную ноч з 12 на 13 кастрычніка 2020 году мне падумалася, што пакуль большасьць з нас сьпіць або бяссонна варочаецца ў сваіх ложках, прыблізна паўтары тысячы беларусаў, часта ў нялюдзкіх умовах, знаходзяцца ў турмах паводле крымінальных або адміністрацыйных справаў.

Гэтыя людзі зьняволеныя толькі за тое, што хацелі лепшай будучыні для сябе і свайго народу. Іншыя тысячы беларусаў ужо прайшлі праз гвалт, катаваньні, турмы і зьнявагу за тое ж. А некаторыя былі забітыя або зьніклі бязь вестак. І гэта толькі рэальнасьць нашага часу. За плячыма народу ў гісторыі — сотні тысяч і мільёны ахвяраў.

Гэта — страшная цана нашай будучай свабоды. Ня мы адны яе плацім. Часам яна бывае і больш

страшнаю, шмат якія народы за свабоду ваявалі, многія яе так і не здабылі.

Тым ня менш, насуперак усяму, што рабілася ў краіне апошнія два з паловай дзесяцігодзьдзі, наш народ нечакана для вонкавых назіральнікаў вырас і ператварыўся ў нацыю. І цяпер нацыя беларусаў патрабуе свабоды, дэмакратыі і павагі да сябе.

Зьявіліся і парасткі самапавагі. Нельга не заўважыць, як незалежныя сайты і ТГ-каналы апошнія гады і асабліва месяцы пачалі з гонарам па-расейску пісаць слова «беларус» праз «а» замест расейскага «белорус» ці «белорусс». У гэтым праяўляецца рост нацыянальнай сьвядомасьці і самапавагі.

## Загалоўная літара як сымбаль

І вось сёньня ноччу раптам падумалася — чаму мы пішам слова «беларус» з малой літары? Ці нашы героі і пакутнікі не заслугоўваюць на тое, каб называць іх Беларусамі?

Калі вы спытаецеся ў філёлягаў, чаму нашы суседзі палякі, чэхі, славакі пішуць назвы сваёй нацыянальнасьці і назвы іншых нацыянальнасьцяў зь вялікай літары, яны адкажуць, што за гэтым няма ніякага ідэалягічнага зьместу — проста прыраўноўваюць назвы нацыянальнасьцяў да ўласных назоўнікаў.

Але я бачу за гэтым больш глыбокі нацыянальна-гістарычны і сымбалічны зьмест.

Калі ведаеш гісторыю доўгага і цяжкага змагання палякаў або чэхаў за свае нацыянальныя дзяржавы, сваю культуру і мову ў апошнія 150 гадоў, пра іх тытанічныя высілкі і ахвяры (асабліва польскія) — то зусім па-іншаму глядзіш на іх рашэньне пісаць Паляк, Чэх, Славак, Немец, Амэрыканец, Расеец і г. д.

У гэтым ёсьць прызнаньне і павага да нацыянальнай годнасьці кожнага народу, які прайшоў праз стагодзьдзі і захаваўся насуперак, часьцей за ўсё, неспрыяльнаму лёсу і гістарычным абставінам. Гэта — павага да сябе і да іншых.

Недарэмна ў большасьці разьвітых моваў, якія прадстаўляюць высокаразьвітыя старыя культуры, назвы нацыянальнасьцяў пішуцца зь вялікай літары — гэтак робяць ангельцы і амэрыканцы, немцы, французы, галяндцы, грэкі, ірляндцы, шатляндцы, а таксама альбанцы, туркі, усе славянскія народы, за выключэньнем трох усходнеславянскіх і баўгараў, ды іншыя.

Тым больш гэта патрэбна беларусам, якіх стагодзьдзямі пераконвалі ў тым, што яны частка трыадзінага расейскага народу і якіх апошнія 26 гадоў пераконваюць, што яны з расейцамі «адзін народ» ці «расейцы са знакам якасьці».

## Прыклад эміграцыі

Дадатковы плюс у тым, што традыцыя такая ў беларусаў ужо ёсьць. Беларуская эміграцыя ў XX стагодзьдзі ўсьлед за палякамі пісала ў сваіх

пэрыядычных і навуковых выданьнях назвы нацыянальнасьцяў зь вялікай літары.

Кастусь Каліноўскі больш за пяцьдзясят разоў у сваіх тэкстах выкарыстаў уведзенае ім ва ўжытак паняцьце народнай праўды, праўды беларуса. «Ты, народзе вялікі і чэсны, праўдай ім адкажы», — пісаў ён. Пасьля і Янка Купала згадаў пра тую праўду і сфармуляваў яе так: «Людзьмі звацца».

Няўжо тысячы беларусаў, што загінулі ў высылках і турмах за апошнія 150 гадоў, ня вартыя таго, каб назваць іх Беларусамі? Няўжо Аляксандар Тарайкоўскі, Мікіта Крыўцоў або Генадзь Шутаў ня вартыя гэтага?

Думаю, вартыя. Варта пачынаць пісаць слова «беларус» зь вялікай літары.

У гэтым будзе прызнаньне нашага доўгага і пакутнага шляху за права «людзьмі звацца». Права Беларусаў.

## Чаму мільёны беларусаў уступілі ў «Талаку»

Драматычныя лета і восень 2020 году — ня толькі трагічны час для беларусаў, але і шчасьлівы. На пачатку лістапада можна канстатаваць, што нацыянальная эвалюцыя не спыняецца ні на дзень. Мы сьведкі велізарнага гістарычнага скачка беларускага народу. Тыдзень ідзе за год, месяц — за дзесяцігодзьдзе.

Час гэты шчасьлівы ня толькі для саміх людзей, якія раптам адчулі, што, акрамя малой сям'і, у іх ёсьць і вялікая — сотні тысяч і мільёны пабрацімаў. Ён шчасьлівы яшчэ і для фатографаў, кінадакумэнталістаў, гісторыкаў, сацыёлягаў, палітычных аналітыкаў — усіх, хто фіксуе падзеі і задумваецца над іх прычынамі.

Нацыянальная эвалюцыя паглыбляецца і паскараецца, людзі дэманструюць усё больш салідарнасьці і патрыятызму, усё больш гавораць пра гэта і ўсё больш адчуваюць ад гэтага асалоду.

### Беларусы пра салідарнасьць і аб'яднаньне ў нацыю

Вось адвольна выбраныя выказваньні вядомых і невядомых асобаў зь беларускай інфармацыйнай прасторы.

Экс-кандыдатка ў прэзыдэнты Сьвятлана Ціханоўская:

«...Эмоцыі, якія цяпер адчуваюць беларусы, якія, з аднаго боку, напалоханыя гэтым гвалтам, а з другога — вельмі рашучыя і ня хочуць мірыцца з гвалтам, ня хочуць жыць пры дыктатуры. Гэта жаданьне выкараскацца з балота і шчасьце ад таго, што мы абʼядналіся і гатовыя ўсё зьмяніць урэшце».

Карыстальніца Фэйсбуку Сьвятлана Роўба:

«Когда хочется жить, любить, быть рядом с теми, кого не знаешь, но чувствуешь, что все одно целое!!! Мы живём в маленьком городке, забытом всеми, но мы люди этой земли — Родины!!! Поверьте, даже здесь нас не сломит система».

Карыстальнік Фэйсбуку Сяржук:

«Кожную раніцу я пʼю каву і лічу новыя белыя аркушы ў вокнах суседзяў — быццам вітаюся з кожным. Я амаль нікога зь іх ня ведаю, але адчуваю нябачную сувязь, і ад гэтага становіцца цёпла і добра... Мяне завуць Сяржук, і я ганаруся намі, мае неімаверныя БЕЛАРУСЫ!»

Карыстальніца Тэлеграму Валерыя:

«В 2020, в муках и слезах, родилось гражданское общество Беларуси. В 2020 мы узнали, что мы друг у друга есть. В 2020 ко мне пришло осознание того, что я неотделимая часть этого общества... Беларусы! Смелые, бескомпромиссные, настойчивые, креативные. Шагающие в ногу на маршах, рисующие флаги везде, идущие под пули. Мы не знали друг друга до этого лета, а теперь не можем перестать восхищаться друг другом! Мы обязательно победим!»

Невядомы чытач тэлеграм-каналу «Баста»:

«Никогда не думал, что доживу до того времени, когда в Минске можно будет вечером сесть в машину и поехать на бесплатный дворовой концерт. А ещё на этом концерте угоститься чайком с печеньем. По большому счёту сейчас в любом дворе вечером можно так угоститься. Просто приехать — и быть принятым, быть своим. Мы все в один момент стали своими друг другу, социальные отношения перешли на новый по качеству уровень. Мы теперь захотели стать народом, и мы им станем».

Былы мэнэджар нацыянальных зборных Беларусі ў хакеі Артур Рэкшта, які цяпер працуе ў Канадзе:

«...Сейчас, когда в стране такой подъем, я ощущаю гордость. То, как белорусы поднялись и мирно все делают. Знаете, что меня еще поразило в белорусах — то, что сейчас происходит во дворах. Там создается комьюнити, общественное движение. То, на чем белорусы будут дальше жить и помогать друг другу... Сейчас люди из-за этих событий создают новое общество. Это сила! И это дальше их понесет вверх. И от этого берет гордость».

Затрыманая за ўдзел у маршах пратэсту шматразовая чэмпіёнка Беларусі ў тайскім боксе Аляксандра Сітнікава:

«Я невероятно горжусь нашими людьми! Они мудрые, сильные и невероятно добрые, столько взаимопомощи и все так культурно. И все это несмотря на страшную жестокость со стороны правительства! Жыве Беларусь!»

84-гадовая лекарка, якая малілася на бальконе падчас маршу 27 верасьня ў Менску:

«Беларусы! Я вас вельмі люблю і ганаруся вамі... Як жа зьмянілася Беларусь цяпер у лепшы бок! Якія ўсе салідарныя і прыгожыя. Як адно аднаму дапамагаюць. Я выйшла на балькон у нядзелю, каб памаліцца за ўсіх вас... Я крычала Богу: „Выратуй нашых прыгожых беларусаў!“»

Беларускі футбаліст-легіянэр з Кіргізстану Максім Шыла:

«Со временем наш протест потихоньку превратился в протест достоинства и солидарности... Лично я против того, что происходит после выборов в нашей стране. Полностью солидарен с белорусским народом».

Музыкант Павел Аракелян:

«Сейчас единство чувствуется не только среди музыкантов, но и среди всех белорусов».

Капітан футбольнага клюбу «Крумкачы» Павел Грачышка:

«Солидарность. Это сейчас самое главное слово в белорусском обществе. Настолько слаженного и сплоченного общества я не мог себе представить до девятого числа. Я не мог предположить, что мы сделаем такой огромный скачок в плане становления нации... Раньше у нас все жили по принципу моя хата с краю, а там хоть трава не расти. Конечно, были неравнодушные люди, но с большего это было так. А теперь ты посмотри по сторонам. Мы уже выиграли! Мы настолько сплотились! Там беда — и люди объединяются... Я не мог такого представить. Я горд. Я горд за

белорусов. Я горд называть себя белорусом. Это космос. Мы с земли улетели. И пускай не все еще решено и много неопределенности, но мы в этой ситуации уже не проиграли».

Прыцягненьне маладой абуджанай нацыі настолькі моцнае, што паглынае ня толькі ўраджэнцаў Беларусі.

Вось ашаламляльная заява алімпійскай чэмпіёнкі па біятлёне Надзеі Скардзіна, якая нарадзілася і вырасла ў расейскай сям'і ў Санкт-Пецярбургу, але называе сябе і свайго народжанага ад мужа-швайцарца сына беларускай і беларусам:

«Для меня очевидно, что наши люди не хотят насилия... Кажется, сейчас многие боятся пострадать за то, что публично выскажут собственное мнение. Но я сейчас говорю, потому что я белоруска, мой сын — белорус. Заметила, кстати, за собой в последнее время, что, когда у меня спрашивают, откуда я, отвечаю: из Беларуси. Потом, правда, добавляю, что родилась в России, и там сейчас живет моя семья. Но в душе и в сердце я давно белоруска, и мне не все равно, что происходит в моей стране. Я поддерживаю свой народ. Считаю, все изначально можно было решить мирным путем».

А вось пранізьлівае сьведчаньне ад іншай былой расейкі, выдатнай лёгкаатлеткі, чэмпіёнкі сьвету і срэбранай прызэркі Алімпіяды ў Барсэлёне Натальлі Шыкаленкі, якая больш за 30 гадоў пражыла ў Беларусі. На пытаньне сайту «Tribuna», як бы яна хацела закончыць інтэрвію, спадарыня Натальля адказала:

«Жыве Беларусь! Думаю, я не одна такая, кто не может выходить на марши из-за состояния здоровья. Но я всеми силами поддерживаю протестующих. И даже если на улицах нас стало меньше, все то, что произошло, останется внутри каждого человека. Все это с нами, никто из белорусов не забудет и не простит. Надеюсь, что все изменится к лучшему, мы будем жить в мирной, доброй стране, поддерживать друг друга. Белорусы — сильные люди, мы победили в войне. Нас называют фашистами, но фашисты — не мы. Мы за мир и процветание нашей страны».

І абсалютна вяршынны прыклад нацыянальнай салідарнасьці, калі народ разглядаецца як вялікая сям'я, злучаная крэўным сваяцтвам, ад сусьветна вядомай беларускай лёгкаатлеткі, чэмпіёнкі Эўропы ў маратоне Вольгі Мазуронак, якая падпісала калектыўны ліст спартоўцаў.

Вольга наступным чынам пракамэнтавала пытаньні міністра спорту да яе — «У цябе хтосьці пацярпеў? А ты на Акрэсьціна была?»:

«Для меня эти вопросы звучали дико. Если там кто-то пострадал, то это мой народ, а не какой-то чужой. Значит, это тоже мои близкие».

Гэтае архетыпічнае прызнаньне выяўляе самую сутнасьць нацыянальнай салідарнасьці — ёсьць «мы» і ёсьць «яны» (увесь астатні сьвет).

Тое, што беларусы адчулі гэта ў XXI стагодзьдзі, у часы глябалізацыі і зьнікненьня межаў, — цуд і сплата доўгу гісторыі перад нашым народам. Гэта ўражвае і натхняе, дае надзею і пачуцьцё гістарычнай пэрспэктывы.

## Мэтафара нацыянальнага адзінства — счэпка

Счэпкі мужчын і жанчын у процістаяньні з АМАПам на вуліцах нашых гарадоў сталі мэтафарай нацыянальнага адзінства беларусаў. Нацыя — гэта счэпка.

Наступныя сваркі і спрэчкі ў тактычных пытаньнях у будучай вольнай Беларусі ўжо ніколі не перакрэсьляць сямейнага пачуцьця нацыянальнай салідарнасьці. Так, мы можам спрачацца ў пытаньнях унутранай палітыкі — хтосьці дэмакрат, хтосьці кансэрватар і г. д. — але наўрад ці ўжо калі-небудзь мы расчэпім рукі перад вонкавымі пагрозамі.

Якраз гэтае пачуцьцё салідарнасьці прымушае многіх хадзіць на маршы — людзі прызнаюцца, што адчуваюць шчасьце, эўфарыю, разьняволеньне. Яны кажуць, што на нядзельных маршах вызваляюцца ад невясёлых эмоцый палітычнага афіцыёзу будных дзён.

## Двары — мэтафара магдэбурскага самакіраваньня

Рэвалюцыя двароў — яшчэ адно праяўленьне салідарнасьці і адзінства. Але ня толькі. Гэта зародак і правобраз будучай муніцыпалізацыі народнага жыцьця і рэальнага самакіраваньня, усеагульнай выбарнасьці лідэраў рознага ўзроўню.

А яшчэ — гэта містычнае, на генэтычным узроўні культуры вяртаньне магдэбурскіх трады-

цый у беларускія гарады. Упершыню за апошнія 200–300 гадоў яны робяцца зноў беларускімі. Магчыма, нават супольнасьць двароў будзе неўзабаве зноў выбіраць гарадзкіх кіраўнікоў — бурмістра ці войта, лаўнікаў (гарадзкіх судзьдзяў) і нават вознага (шэфа мясцовай паліцыі, шэрыфа), як гэтыя пасады называліся ў Вялікім Княстве Літоўскім.

Так народ рэалізуе салідарнасьць гарызантальную, салідарнасьць паміж людзьмі, якія жывуць цяпер і адчуваюць сябе вялікай сям'ёй — супольнасьцю адзінага лёсу, нацыяй.

## Вэртыкальная салідарнасьць народу як повязь часоў

Адметнай рысай нацыі зьяўляецца ня толькі гарызантальная салідарнасьць, але і вэртыкальная: салідарнасьць сёньняшніх пакаленьняў зь мінулымі і будучымі — з продкамі і нашчадкамі.

Нацыя, як і любая сям'я, шануе сваіх дзядоўпрашчураў і дбае пра нашчадкаў. Нацыя захоўвае перададзены ёй ад продкаў скарб — тэрыторыю, нацыянальную культуру, мову, традыцыі — і дбае пра тое, каб захаваць, разьвіць і перадаць гэта ўсё сваім нашчадкам.

Якраз сувязь, салідарнасьць паміж пакаленьнямі, якая канцэнтруецца і фармулюецца ў нацыянальнай гісторыі, нацыянальным гістарычным міце, зьяўляецца імунітэтам нацыі ад хваробаў дэнацыяналізацыі.

## Як беларусы галасуюць за мову

У палітычным сэнсе нацыя імкнецца авалодаць дзяржавай. У духоўным — захаваць сваю культуру.

Узьняўшы бел-чырвона-белы сьцяг, Пагоню і выгукваючы лёзунг Купалы «Жыве Беларусь!», беларусы паказалі, за якую дзяржаву яны змагаюцца і якой, у палітычным сэнсе, яна будзе пасьля перамогі.

І ў духоўнай сфэры ход нацыянальнага працэсу таксама вядомы.

Спачатку самаідэнтыфікацыя, пасьля самапазнаньне (гісторыя, культура, традыцыі), і, нарэшце, мова як вяршыня нацыянальнага перажываньня і галоўны памежны бастыён нацыянальнай краіны. Мова — гэта сэрца культуры, а культура, як мне ўжо ня раз даводзілася пісаць, — гэта тэрыторыя духоўнага сувэрэнітэту нацыі.

Пэрспэктыва беларускай мовы сёньня выглядае вельмі аптымістычна, і няма ніякіх падстаў прарочыць Беларусі лёс Ірляндыі.

Беларусы ў сваёй масе ўсё яшчэ застаюцца білінгвамі з пасіўнай беларускай часткай у моўнай пары. Але ёсьць адно «але». Беларуская мова за апошнія 20 гадоў ужо перамагла маральна і, што яшчэ больш важна, на нашых вачах перамагае эмацыйна. Практычна ўсё, што сёньня сьпяваецца ў дварах, на вуліцах і ў гандлёвых цэнтрах, — беларускамоўныя песьні і гімны. Іншых у беларусаў няма.

Цытата зь менскага раённага чату:

«Дорогие соседи! Предлагаем вам начать неделю с прекрасного! В понедельник 19 октября в 19:15 двор 78–80 приглашает вас спеть вместе с профессиональными исполнителями наши любимые песни „Муры“, „Пагоню“, „Купалінку“, „Магутны Божа“ и др.».

Музыка, сьпевы завязаныя на пачуцьцёвую сфэру чалавека, на эмоцыю. Мы бачым, як салідарныя беларусы ўжо прагаласавалі сваімі пачуцьцямі і эстэтыкай за родную беларускую мову.

Ніводная фальклёрная экспэдыцыя ў XX стагодзьдзі і ніводзін канцэрт беларускіх рок-гуртоў за апошнія 50 гадоў не былі дарэмныя — усё мае свой сэнс і значэньне.

## Што зь беларусамі будзе далей. Талака

Талака — гэта таксама мэтафара нацыі, мэтафара салідарнасьці і ўзаемападтрымкі. А згаданая раней счэпка — гэта сутнасны сынонім талакі. Вось што я маю на ўвазе.

Калі мы гаворым, што нацыянальная эвалюцыя ў духоўнай сфэры мае тры элемэнты — самаідэнтыфікацыя, самапазнаньне і мова як вяршыня нацыянальнага перажываньня, — то вось што будзе адбывацца з нашым народам у наступныя гады.

Тыпалягічна сёньняшніх нованароджаных беларусаў (сотні тысяч тых, што выходзяць на маршы пратэсту, а разам са сваякамі і больш шырокімі сем’ямі — гэта мільёны) можна

сьмела параўнаць зь сябрамі «Талакі» — менскага моладзевага клюбу другой паловы 80-х гадоў XX стагодзьдзя, да якога меў гонар належаць і аўтар гэтых радкоў. Вельмі сымбалічна, што пасьля ўтварэньня аргкамітэту БНФ 19 кастрычніка 1988 году аснову фронтаўскіх груп падтрымкі па ўсёй краіне склалі сябры Канфэдэрацыі беларускіх суполак, стваральнікам і лідэрам якой была менская «Талака». А БНФ, як вядома, прывёў Беларусь да незалежнасьці. Глыбока сымбалічна, што на пачатку новага этапу разьвіцьця нацыі (талакі, счэпкі) — была «Талака».

Нацыянальная ідэнтычнасьць выбіраецца адзін раз у жыцьці. Прыклады мімікрыі і паўторных пераходаў рэдкія. Мае паплечнікі па «Талацэ» практычна ўсе засталіся ў беларушчыне. Сяржук Вітушка, Вінцук Вячорка, Алесь Суша, Віктар Івашкевіч, Сяргей Дубавец, Алесь Бяляцкі, Вадзім Александровіч, Ірына Дубянецкая, Караліна Мацкевіч, Алеся Сёмуха, Андрусь Абламейка, Гэнік Лойка і многія іншыя — працавалі і працуюць для Беларусі.

Пазнаючы беларускі сьвет — сваю гісторыю і культуру — чалавек раней ці пазьней перажывае культурны шок і катарсіс нацыянальнага ўсьведамленьня. Боль гэтага перараджэньня (нараджэньня) запамінаецца назаўсёды.

Калі людзі спазнаюць сапраўдную гісторыю сваёй краіны і даведваюцца, які неймаверна цяжкі шлях прайшоў народ, каб выжыць і захавацца, колькі ахвяраў многімі пакаленьнямі было прынесена для таго, каб сёньня можна было

ўголас, бяз страху і з гонарам сказаць «Я беларус» або «Я беларуска», яны зазнаюць эмацыйны шок.

Гэта рэальна цяжка перажыць, калі разумееш, як часта тваю зямлю таптालі захопнікі, як тысячамі забівалі продкаў, як выразалі цэлыя гарады і паветы, як зьнішчалі палову насельніцтва тваёй краіны ў адной вайне або траціну — у іншай, як рабавалі і вывозілі мастацкія, культурныя і матэрыяльныя скарбы, як душылі паўстаньні, высылалі ў Сібір, расстрэльвалі ў Курапатах і ГУЛАГу найлепшых, найбольш актыўных і таленавітых людзей, — мозг выбухае.

Нешта падобнае было са мной, студэнтам гістфаку БДУ, у другой палове 1980-х гадоў. Начамі не было сну, перакуры на бальконе даводзілі да ачмурэньня, здаралася нават плакаць ад крыўды і бясьсільля. Але ўрэшце я толькі стаў больш актыўным палітычна і больш настойліва дзяліўся сваімі ведамі з калегамі па «Талацэ».

І калі на Дзяды 1 лістапада 1987 году ў савецкай Беларусі адбыўся першы антысавецкі мітынг, арганізаваны «Тутэйшымі» і «Талакой», на якім Анатоль Сыс зачытаў імёны зьнішчаных у 1930-я гады айцоў БНР (Ластоўскага, Лёсіка, Некрашэвіча, Цьвікевіча і іншых) — то іх у прамову Сыса ўпісаў я.

І вось сёньня ў краіне зьявіліся сотні тысяч і мільёны «талакоўцаў», якія гэтаксама адкрываюць для сябе Бацькаўшчыну, як некалі яе адкрылі для сябе мы.

Далей яны будуць ісьці (у жыцьці і гісторыі) талакой, счэпкай.

Індывідуалісты-беларусы заўсёды сьцераглі ўласную прастору і абʼядноўваліся ў талаку ў выпадку пільнай патрэбы, бо талака — гэта салідарнасьць. Грамадзяне разьвітых нацый заходняга сьвету таксама жывуць сваім індывідуальным жыцьцём, але ў выпадку пільнай патрэбы (вонкавай ці ўнутранай пагрозы, прыроднай катастрофы, эпідэміі і г. д.) за справу заўсёды бяруцца салідарна, талакой.

## Historia est magistra vitae

Вялікая імпэрская краіна на ўсходніх межах Беларусі для нашай краіны — захопніца і падступная мачаха. Яна спрабавала схаваць і перапісаць беларускую гісторыю, спрабавала і спрабуе духоўна ўсынавіць і ўдачарыць мільёны беларусаў і беларусак.

Але сёньня мы назіраем працэс, калі дзякуючы гісторыкам дзеці даведваюцца, што ў іх ёсьць і сапраўдная маці — Беларусь, у якой іх скралі. Няма ніякага сумневу, што большасьць захоча ўцячы ад прыёмнай маці да роднай, або з імпэрскага дзіцячага дому — да сваіх, у дом родны.

Ні Сяргей Ціханоўскі, ні Віктар Бабарыка, ні Валер Цапкала, ні тры гераічныя жанчыны, якія іх замянілі — Сьвятлана Ціханоўская, Марыя Калесьнікава і Вераніка Цапкала — не чакалі, што адказам на палітычную і сацыяльна-эканамічную агітацыю будзе нацыянальнае паўстаньне (і паўставаньне) бел-чырвона-белай Беларусі. Але так сталася.

Сталася таму, што ўсе памыляліся, калі думалі, што беларускія кніжкі выходзяць малымі тыражамі, што гістарычнай літаратуры недастаткова, што кнігі Ўладзімера Арлова шырокай публіцы малавядомыя, што Павел Севярынец і Мікола Статкевіч — маргіналы, якія здольныя вывесьці на вуліцы максымум некалькі тысяч чалавек. Аказалася, не. Цяпер, пакуль Севярынец і Статкевіч сядзяць у турме, мільёны людзей па ўсёй краіне выгукваюць «Жыве Беларусь!» і ўздымаюць нацыянальныя сьцягі.

Вось разважаньні нованароджанага беларуса ў адным зь менскіх чатаў пра бел-чырвона-белы сьцяг:

«И знаете что — в 1991 мы его очень легко получили, не оценили, а потому в 1995 так легко и потеряли. А сейчас мы его выстрадали на своих спинах, и теперь уже точно никому не отдадим! Сегодня он бесценен! Это правда!!! И чертовски красив! Самый красивый флаг в мире!»

А вось дэклярацыя тыповай талакоўкі 80-х гадоў мінулага стагодзьдзя, агучаная ў 2020 годзе беларускай тэнісісткай Верай Лапко. Яе пачуцьці нічым не адрозьніваюцца ад аналягічных перажываньняў колішніх талакоўцаў-нэафітаў:

«Беларусь переживает тяжелые времена. Но она навсегда останется моим домом, маёй Радзімай, моим местом силы, как говорят. В ней всё своё: и природа, и люди, и воспоминания из детства, и любимые кафешки в Минске, и красивые старинные улочки в Гродно, и красивейшие

парки по всей стране... И жить я хочу тоже у себя на Родине — в Беларуси».

Вяршыняй гэтага перажываньня заўсёды была і будзе мова.

Энэргія нацыянальнага пачуцьця ўсё яшчэ застаецца самай моцнай рухальнай сацыяльнай сілай у нашым рэгіёне Эўропы. Мне ўжо даводзілася пісаць, што нацыянальнае — гэта біялёгія плянэты, яго разьвіцьцё і рост не спыняюцца нават у неспрыяльных умовах. На нашых вачах некалькі мільёнаў людзей усьвядомілі сябе асобнай ад іншых нацыянальнай папуляцыяй-адзінкай і далей будуць салідарна змагацца з вонкавымі і ўнутранымі пагрозамі.

Гэтаму пачуцьцю нацыянальнай салідарнасьці процістаіць мёртванароджаны сурагат афіцыйнага патрыятызму пад лёзунгам «За Беларусь». Насамрэч, уся ідэалягічная вэртыкаль разумее пад гэтым толькі вернасьць рэжыму і асабіста яго лідэру. Ды яшчэ пашану да савецкай эпохі і яе сымбаляў. Выказваньне іншых палітычных сымпатый разглядаецца як «непатрыятычнае», і чалавека тут жа звальняюць як здрадніка, бо дзяржава прыватызаваная адной асобай.

Гэтая вэрсія афіцыйнага патрыятызму мала што мёртвая, яна яшчэ і службовая, інструмэнтальная для ўлады ў яе кантактах з народам. У часы шчырасьці ад яе лідэра можна пачуць і такое:

«...Мы ніколі ня тое што ня кінем камень у бок Усходу і Расеі... нашай Расеі. Я ня ведаю, як вы яе ўспрымаеце. Гэта мая Расея. Мы ніколі так ня

зробім... Расея — гэта наша, рускія людзі — гэта наша. Мы абсалютна ад іх нічым не адрозьніваемся».

Але народ Беларусі перарос урад.

Нават калі нацыянальнае паўстаньне і рэвалюцыя пацярпяць тактычную паразу, то і тады ў абуджаных беларусаў застанецца шлях негвалтоўнага супраціву — італьянскі страйк, самапазнаньне, самаадукацыя і самаарганізацыя (самамуніцыпалізацыя). І гэта ўсё роўна прывядзе да перамогі. Проста крыху пазьней.

## Калі пераможа беларуская мова

Адказ на гэтае пытаньне вельмі кароткі.

Калектыўны погляд новых талакоўцаў на моўнае пытаньне выказаў ужо згаданы тут былы мэнэджар нацыянальных зборных Беларусі ў хакеі Артур Рэкшта:

«Это же Родина. Мы не говорим на белорусском языке, но мы его не забыли».

Існуе палітычная заканамернасьць. Чым больш актыўна і чым больш нахабна Расея будзе ўмешвацца ў справы Беларусі, тым хутчэй будзе адбывацца беларусізацыя мільёнаў новых талакоўцаў.

Вось надпісы на двух плякатах, якія трымалі ў руках невядомыя ўдзельнікі «Маршу герояў» 13 верасьня ў Менску, перад паездкай Лукашэнкі ў Сочы на перамовы з Пуціным. Іх аўтары, несумненна, — тыповыя новыя талакоўцы:

«Пуцін, не хапай — падавісься».

«Такая краіна не прадаецца, яна патрэбна нам самім».

Калі Расея хоча не дапусьціць татальнай беларусізацыі беларусаў або запаволіць гэты працэс, ёй трэба трымацца ад Беларусі на пэўнай адлегласьці.

У выпадку нармальнага, рэгулярнага разьвіцьця краіны беларуская мова запануе ў Беларусі праз некалькі дзесяцігодзьдзяў — прыблізна праз 20–30 гадоў.

У выпадку ж, калі краіна будзе акупаваная Расеяй і страціць незалежнасьць — актыўныя беларусы пяройдуць на беларускую мову амаль адразу, за некалькі гадоў.

## Чаму мова выходзіць на пярэдні плян супраціву

Палітычная сытуацыя ўнутры Беларусі і яе геапалітычнае становішча імкліва зьмяніліся і працягваюць мяняцца. Гэта вымагае далейшых зьменаў і ад абуджанага беларускага грамадзтва.

### Нечаканая ініцыятыва мэдыкаў

На пачатку сакавіка 2021 году лекары Беларусі стварылі ініцыятыву MovaMed за пашырэньне ўжываньня беларускай мовы ў мэдыцыне. У звароце яны напісалі:

«Беларусы зьмяніліся. Мы адчулі сябе нацыяй, якая мае гістарычныя традыцыі павагі да закону, талерантнасьці і спагады. Мы ня хочам зьяжджаць, мы хочам быць гаспадарамі сваёй зямлі. Хочам, каб нашы дзеці засталіся беларусамі.

Нашай мэтай ёсьць вывучэньне і аднаўленьне беларускай мэдыцынскай тэрміналёгіі, свабоднае валоданьне ёй у стасунках зь беларускамоўнымі пацыентамі і калегамі, пашырэньне ўжываньня беларускай мовы ў мэдыцынскай навуцы і дыскусіях».

Гэтая, магчыма, малазначная для некага падзея насамрэч — знак часу.

## Нябачная эвалюцыя

Схаваная ад вачэй многіх назіральнікаў нацыянальная эвалюцыя, якая ішла ў Беларусі апошнія дзесяцігодзьдзі, і нацыянальнае паўстаньне 2020 году даюць надзею на тое, што беларускі народ пазьбегне гістарычнай сьмерці ў найбліжэйшай гістарычнай пэрспэктыве.

На пачатку лістапада 2020 году я думаў, што ў выніку нармальнага разьвіцьця краіны беларуская мова запануе ў Беларусі прыблізна праз 20–30 гадоў. Калі ж краіна будзе акупаваная Расеяй і страціць незалежнасьць — тады беларусы пяройдуць на беларускую мову амаль адразу, за некалькі гадоў.

Але сытуацыя зьмянілася. Ужо ўвосень беларускамоўных затрыманых пазначалі фарбай для больш жорсткага абыходжаньня зь імі ў турмах. Цяпер перайшлі ў наступ на сыстэмаўтваральныя пункты беларускага нацыянальнага грамадзтва. У краіне закрытыя або заблякаваныя незалежныя інфармацыйныя рэсурсы, у тым ліку большасьць беларускамоўных, зачыненыя ўсе крамы, дзе прадавалася тавары з этнічнай і нацыянальнай сымболікай. Бел-чырвона-белы нацыянальны сьцяг і гістарычны герб «Пагоня» таксама трапілі пад забарону, за іх выкарыстаньне людзей судзяць, у іх канфіскоўваюць машыны і б’юць шыбы. Праўладныя гісторыкі выступаюць з абсурднымі заявамі, спрабуючы скампрамэтаваць нацыянальных герояў і нацыянальныя сымбалі. З кіёскаў «Белсаюздруку» выкідаюць апош-

нія беларускамоўныя або двумоўныя выданьні, такія як «Народная воля» або «Наша гісторыя».

Сытуацыя ўсё больш нагадвае акупацыю краіны варожым для беларусаў рэжымам, які абапіраецца на прарасейскіх сілавікоў. Фактычна гэта і ёсьць акупацыя. Рэжым і яго прыхільнікі ўсё больш аддаляюцца ад нацыянальнага беларускага этасу.

Таму ў беларускага грамадзтва няма іншага выхаду, як адказаць на акупацыю паскораным зваротам да беларускай мовы.

## Мяккая сіла

Сёньня цяжка зразумець палітыкаў і журналістаў, якія ў сытуацыі дзікіх і абсурдных для XXI стагодзьдзя рэпрэсій заклікаюць беларусаў далей выходзіць на масавыя маршы — пад дубінкі, арышты, катаваньні, крымінальныя прысуды і доўгія гады турэмнага зьняволеньня. Безабаронны народ ня можа перамагчы ў адкрытым процістаяньні з узброеным войскам. І сёньня ўжо няма сумненьняў, што ў выпадку рэальнай пагрозы рэжыму верныя яму людзі ў пагонах лёгка расстраляюць любую колькасьць дэманстрантаў з баявой зброі і падушаць іх танкамі. А калі загадае камандаваньне, дык і авіяцыя адзначыцца ўзорным бомбакіданьнем па жывых людзях. Партызанскі пратэст выглядае больш разумным і рацыянальным.

Але калі забаронена выходзіць і пазначаць сябе нацыянальным сьцягам, то людзі могуць пазна-

чаць сябе і свой палітычны выбар беларускай мовай. З гэтым уладам змагацца цяжэй.

Цяжка перашкодзіць вывучаць беларускую мову і размаўляць на ёй паўсюль у Беларусі. Немагчыма забараніць беларусам размаўляць па-беларуску са сваімі каханымі і дзецьмі. Нерэальна забараніць людзям чытаць па-беларуску або сьпяваць.

Для гэтага трэба будзе абвясьціць чужую акупацыю фактам. А гэта ў наш час палітычна зрабіць вельмі цяжка, амаль немагчыма.

З апытаньняў апошніх гадоў мы ведаем, што большасьць беларусаў ня хоча зьнікненьня беларускай мовы. Маральны аўтарытэт мовы для народу аказаўся роўны аўтарытэту маці для чалавека. Як гэта звычайна бывае і ў іншых народаў.

Беларуская мова — гэта мяккая сіла і ўнівэрсальны сродак барацьбы з дыктатурай. Дэмакратыя ў Беларусі — гэта беларуская мова. Незалежнасьць Беларусі — гэта беларуская мова.

Мы заканчваем тым, з чаго пачалі. Будучыня Беларусі залежыць ад беларускай мовы.

## Чаму мы так «сильно похожи друг на друга». *Адкрыты ліст да Барыса Акуніна*

Паважаны Рыгор Шалвавіч!*

Вялікі дзякуй Вам за тую грамадзкую і грамадзянскую пазыцыю, якую Вы займаеце адносна цяперашняга палітычнага рэжыму ў Расеі і яго дзеяньняў ва Ўкраіне, а таксама за тыя словы, якія Вы цяпер кажаце пра гэта. Яны — арыенцір шмат для каго, прычым ня толькі ў Расеі, якая пагрузілася ў цёмнае валадарства хлусьні.

Вялікі дзякуй і за Вашы мастацкія кнігі, над некаторымі зь якіх я правёў шмат прыемных гадзінаў.

Зьвярнуцца да Вас мяне прымусілі эмоцыі, якія не сьціхаюць у душы ўжо месяц з таго часу, як на пачатку сакавіка 2022 году я паслухаў Ваша інтэрвію Юрыю Дудзю. Мова ідзе вось пра які фрагмэнт размовы (поўная, не рэдагаваная транскрыпцыя):

— Насколько Запад виноват в том, что происходит сейчас в Украине?

— По-моему, сильно виноват. По-моему, Владимир Путин значение украинского фактора понимал с самого начала гораздо яснее, чем запад-

* Барыс Акунін — творчы псэўданім пісьменьніка. Яго сапраўднае імя Рыгор Шалвавіч Чхарцішвілі.

ные люди. Как я себе понимаю проблему Украины с точки зрения Путина? Значит, есть три как бы очень близких государства, да, как бы один народ разделился на три государства — Россия, Белоруссия, Украина. Это как бы три варианта очень... Потому что остальные республики — там есть какие-то серьёзные национальные особенности, а это, в общем, был как бы один народ...

— Для Путина?

— Ну вообще, как бы! Ну, объективно там! Я не знаю... У меня родственники в Киеве, ну, у всех родственники... Мы все были одинаковыми, мы жили в одной стране и мы, в общем, похожи сильно друг на друга.

Ваша думка цалкам зразумелая. Для любога расейскага чалавека, калі ён прыяжджаў у Кіеў ці Менск у 70–80-я гады XX стагодзьдзя, так і было. Усе навокал размаўляюць па-расейску, шыльды, газэты, школы — спрэс расейскія, людзі вакол добразычлівыя, гасьцінныя, расейцаў прымаюць як сваіх. Сапраўды адзін народ!

Праўда, недзе на пэрыфэрыі ўвагі расейскаму чалавеку ў Кіеве ці Менску маглі трапіцца і ўкраінскія ці беларускія шыльды і газэты, і з радыё мог прагучаць «мясцовы дыялект», але гэта нюансы. Хутка будзе камунізм і ўсе нацыі зьліюцца ў адзін савецкі народ, мовы зьнікнуць, і застанецца толькі расейская, якая найбольш адпавядае сьветламу камуністычнаму заўтра. Так мяне вучылі на сэмінарах па этнаграфіі на гістарычным факультэце БДУ ў сярэдзіне 1980-х гадоў, так пісалі ў газэтах, і так тады думалі многія.

Дазвольце мне коратка нагадаць Вам, якім чынам Кіеў і Менск у другой палове XX стагодзьдзя сталі расейскамоўнымі і такімі камфортнымі для расейскага чалавека і як беларуская мова трапіла ў лік моваў, якім пагражае зьнікненьне.

## Праблема гістарычнай навукі ў Расеі

Мне вельмі шкада гісторыі і гісторыкаў. Мабыць, гэта тая навука, якая больш за іншыя дэвальвуецца аматарамі. Цяжка ўявіць сабе генэтыка-аматара ці астрафізыка-аматара, а вось гісторыкаў-аматараў навокал процьма.

Тым ня менш гісторыя — гэта сапраўдная і вельмі сур'ёзная навука са сваёй сфэрай інтарэсаў, мноствам адгалінаваньняў і дапаможных гістарычных дысцыплін, тэарэтычнай базай, дакладнай мэтадалёгіяй, апаратам паняцьцяў і са сваімі навуковымі прынцыпамі. Адзін зь іх забараняе ацэньваць мінулае з пункту гледжаньня сёньняшніх прыярытэтаў і пераносіць туды актуальныя ідэалягічныя схемы. Што, на жаль, мы цяпер спрэс назіраем у Расеі.

Тэарэтычная база і мэтадалёгія гістарычнай навукі няспынна разьвіваюцца. Так было і ў 90-я гады XX стагодзьдзя, так адбываецца і ў XXI стагодзьдзі. І вось, акідаючы вокам сёньняшні грамадзка-палітычны і культурна-гістарычны пэйзаж Расеі, я маю ўражаньне, што пасьля распаду Савецкага Саюзу расейская гістарычная навука зрабіла крок не ў XXI стагодзьдзе, але ў дарэвалюцыйныя часы, у XIX стагодзьдзе.

Толькі гэтым, як уяўляецца, можна патлумачыць вяртаньне тых гісторыкаў, што ідэалягічна абслугоўваюць цяперашнюю ўладу, да тэорыі трыадзінага расейскага (або «рускага») народу, якога, з пункту гледжаньня сучаснай навукі, ніколі не існавала.

Валасы на галаве варушацца, калі бачыш, як палітычная эліта Расеі прымае найважнейшыя, лёсаносныя рашэньні, нічога ня ведаючы пра існаваньне сучасных нацый.

І вельмі няёмка чытаць у расейскіх патрыятычных (і ня толькі) выданьнях і на сайтах адсылкі да прац Аляксея Шахматава, які лічыў, што некалі існавала адзіная «руская» мова, якая пасьля распалася на тры ўсходнеславянскія мовы.

Ня мне Вам тлумачыць, што лінгвістыка — гэта дакладная навука, амаль матэматыка. Клясык славянскай лінгвістыкі з Гарвардзкага ўнівэрсытэту Юры Шавялёў яшчэ ў 50-я гады XX стагодзьдзя паказаў і даказаў, што ва ўсходніх славян (як і ў паўднёвых і заходніх) ніколі не існавала адзінага этнасу і што іх мовы заўсёды былі дыфэрэнцыяванымі. Лінгвісты сёньня ведаюць, што моўнае адзінства славян, якое існавала ў VI–VII стагодзьдзях, пачало распадацца ўжо ў VIII–IX стагодзьдзі, і тады ж нарадзіліся фаналягічныя асаблівасьці беларускай і ўкраінскай моваў.

Я думаю, што вялікай праблемай гістарычнай навукі ў Расеі зьяўляецца блытаніна вакол эвалюцыі і сэнсавага напаўненьня тэрмінаў «Русь/русь» і «рускі» ў розныя гістарычныя пэрыяды. Менавіта з блытаніны вакол тэрміну «рускі»

паходзіць мноства сёньняшніх мітаў расейскай гістарычнай сьвядомасьці.

Інакш бы мы не сустракалі сьцьвярджэньняў, што Расея мае дачыненьне да перамогі пад Грунвальдам на той падставе, што ў ёй бралі ўдзел «рускія» харугвы. Пад іншым вуглом тады б у Расеі глядзелі і на выдадзены Францішкам Скарынам у 1517 годзе пераклад Бібліі на старабеларускую мову, які яе перакладчык і выдавец назваў «Біблія руска». І тым больш выкладчыкі МДУ не казалі б сёньня, што Вялікае Княства Літоўскае было расейскай («рускай») дзяржавай на той падставе, што старабеларуская мова, якая тады называлася «рускай», была ў гэтай краіне дзяржаўнай.

Расейскім гісторыкам і інтэлектуалам важна не забываць, што слова «рускі» для XVI і для XIX–XXI стагодзьдзяў мае зусім розныя сэнсы і значэньні. У фэадальныя часы не было нацый, хоць само лацінскае слова «natio» і вытворныя ад яго славянскія адпаведнікі ўжо выкарыстоўваліся і азначалі паходжаньне, род. Этнічная, культурная і рэлігійная ідэнтычнасьці жыхароў нашага рэгіёну Эўропы ў XVI–XVII стагодзьдзях заслугоўваюць на большую ўвагу адукаванай расейскай клясы.

Так ці іначай русіны, «рускія» XVI стагодзьдзя, якія пісалі і размаўлялі на «рускай» мове — гэта беларусы і ўкраінцы Вялікага Княства Літоўскага, якія мелі сваю гатычную культуру і рыцарства, пераклады на старабеларускую мову рыцарскіх раманаў, свой Рэнэсанс, сваю Рэфармацыю,

магдэбурскае самакіраваньне гарадоў і цэхавую арганізацыю рамесьнікаў, судовую сыстэму са спрэчкамі абвінавачаньня і абароны на падставе саксонскага права, дзясяткі прыватных друкарняў і сотні тэкстаў свабоднай рэлігійнай палемікі, нарэшце, тры канстытуцыйныя Статуты на старабеларускай мове (1529, 1566, 1588).

І ў тым жа стагодзьдзі пачалі нараджацца іх новыя беларуская і ўкраінская ідэнтычнасьці.

## Беларусь Расейскай імпэрыі. Няспынныя рэпрэсіі

Так склалася гісторыя, што ў другой палове XVIII стагодзьдзя каля 80% насельніцтва Беларусі вызнавала ўніяцтва, якое цяпер шмат хто называе грэка-каталіцтвам. Уніяцкая царква нарадзілася з праваслаўнай Літоўскай мітраполіі з цэнтрам у Наваградку, кіраўнік якой традыцыйна захоўваў тытул Кіеўскага мітрапаліта. Гэтая праваслаўная царква мела даволі істотныя адрозьненьні ад царквы Маскоўскага царства — свой сабор сьвятых і свае зьнешнія рэлігійныя формы: абрад, музыку (у тым ліку арганную), жывапіс, архітэктуру, асаблівасьці чытаньня царкоўнаславянскіх тэкстаў і г. д. Таму нашых палонных у XVI–XVII стагодзьдзях у Маскоўскім царстве хрысьцілі наноў.

Уніяцкая царква, якая захоўвала многія традыцыі Літоўскай мітраполіі, паслугоўвалася ў сваёй пастырскай дзейнасьці беларускай мовай. І адразу пасьля першага падзелу Рэчы Паспалітай

у 1772 годзе пачалося яе зьнішчэньне і гвалтоўны перавод уніятаў у Расейскую праваслаўную царкву, якая мела мала што агульнага з нашай усходнехрысьціянскай традыцыяй. Да таго часу, як Уніяцкая царква была зьнішчана канчаткова ў 1839 годзе, у ёй засталося менш за палову былых вернікаў. Астатніх гвалтам загналі ў РПЦ за папярэднія 67 гадоў. Пры гэтым здараліся масавыя расстрэлы сялян, якія не хацелі ісьці ў праваслаўе, зьбіцьцё розгамі да сьмерці, пакараньні голадам і іншыя формы жорсткіх катаваньняў.

Так сталася, што з 1772 году наступныя 100 гадоў рэпрэсіі практычна не спыняліся — кожнае дзесяцігодзьдзе прыносіла нам новую бяду.

На пачатку XIX стагодзьдзя і ў беларусаў, і ва ўкраінцаў нарадзіліся свае нацыянальныя рухі. І гэта яшчэ адна з праблемаў гістарычнай навукі ў Расеі, якая ня бачыць нацыянальнай эвалюцыі ў жыхароў былога Вялікага Княства Літоўскага ў XIX стагодзьдзі, як ня бачыць іх шматузроўневай нацыянальнай сьвядомасьці. І вельмі шкада, бо на нацыянальнай беларускай ніве (як і ўкраінскай) працавалі як польскамоўныя, так і ўжо расейскамоўныя дзеячы. Адсюль міты пра «польскую інтрыгу» ў нараджэньні беларускага і ўкраінскага нацыянальных рухаў.

Рэпрэсіі XIX стагодзьдзя няспынна зьнішчалі нованароджаную нацыянальную інтэлігенцыю Беларусі. У першыя дзесяцігодзьдзі гэта былі высылкі сотняў уніяцкіх сьвятароў, пасьля да іх ліку далучыліся ўдзельнікі студэнцкіх гурткоў і паўстаньняў, першыя беларускія журналісты,

пісьменьнікі і паэты. Зьнішчэньне Ўніяцкай царквы ў 1820–1830-я гады таксама прывяло да высылкі ў Сібір вялікай колькасьці арыстакратаў і шляхты, якія царкву баранілі.

У 1820-я выслалі цэлую групу інтэлектуалаў, у тым ліку паэта, драматурга і фальклярыста Яна Чачота. У 1830-я гады зь Вільні быў высланы беларускі паэт Францішак Савіч, уцёк у эміграцыю паэт Аляксандар Рыпінскі, у канцы 1840-х гадоў арыштавалі і выслалі цэлую групу дзеячоў, які задумалі выдаваць беларускі часопіс, а яго рэдактар, крытык і выдавец Рамуальд Падбярэскі памёр у высылцы на поўначы Расеі. У 1858 годзе цэнзура зьнішчыла пераклад на беларускую мову міцкевічаўскага «Пана Тадэвуша», зроблены клясыкам беларускай літаратуры Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам.

Пасьля было паўстаньне 1863–1864 гадоў, якое ў Расеі называюць польскім. Насамрэч яго лідэр Кастусь Каліноўскі ў 1862 годзе заснаваў першую беларускую газэту, а 1 лютага 1863 году стварыў Часовы ўрад Літвы і Беларусі і выдаваў дзяржаўныя дакумэнты на беларускай мове. Зноў былі рэпрэсіі, пакараньне сьмерцю Каліноўскага і дзясяткаў яго паплечнікаў і высылка ў Сібір сотняў актыўных людзей Беларусі. Так, многія зь іх тады яшчэ размаўлялі на польскай мове, але яны ўжо сьпявалі беларускія песьні, а калі вярнуліся зь Сібіру ў канцы XIX — пачатку XX стагодзьдзяў, то пачалі засноўваць у сваіх маёнтках беларускія школы і дапамагаць беларускім настаўнікам.

Рэпрэсіі і высылкі працягваліся і ў 1870-я, і ў 1880-я гады. Паралельна зь імі ішло засяленьне Беларусі прыежджымі з Расеі чыноўнікамі ўсіх узроўняў, настаўнікамі, паліцыянтамі, вайскоўцамі і сьвятарамі.

І тым ня менш, як толькі на пачатку XX стагодзьдзя ў Расеі была абраная І Дзяржаўная Дума, яе дэлегаты зь Беларусі катэгарычна адмовіліся аб'яднацца з палякамі, стварылі сваю дэпутацкую групу і пачалі дамагацца аўтаноміі Беларусі.

Падобныя працэсы ў XIX і пачатку XX стагодзьдзяў адбываліся і ва Ўкраіне. Яны скончыліся ўтварэньнем і наступнай паразай Украінскай і Беларускай Народных Рэспублік. Абедзьве дзяржавы прайгралі бальшавіцкай Расеі войны за незалежнасьць. Магчыма, наша вайна вядомая менш, але ўсё ж беларуска-савецкая вайна лістапада — сьнежня 1920 году за незалежнасьць БНР была, яе з гісторыі ня выкінеш.

Наогул, мадэрны фэномэн нацый, падобна, цалкам ігнаруецца сучаснымі расейскімі ідэолягамі — з імпэрскіх вышыняў Масквы іх па-ранейшаму ня бачаць. У гэтым іх ня толькі навуковая, але і фатальная палітычная памылка.

## Беларусь у СССР. Рэпрэсіі й зьнішчэньне інтэлігенцыі

У 1921 годзе ў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы, створанай як савецкая альтэрнатыва БНР у складзе ўсяго шасьці паветаў былой Менскай губэрні, было рэпрэсавана да

1500 «нацыяналістаў». У 1922–1923 гадах на ўсход былі высланыя вядомыя прафэсары, колішнія эсэры Н. Ярашэвіч, С. Скандракоў, А. Міцкевіч, В. Жыван, А. Савіч, П. Каравайчык і іншыя.

У 1923 годзе ў БССР пачаліся так званыя беларусізацыя і карэнізацыя, але рэпрэсіі супраць беларускай інтэлігенцыі не спыняліся ніколі, высылкі на ўсход працягваліся. У 1926 годзе зь Беларусі быў высланы адзін з айцоў-заснавальнікаў беларускага руху прафэсар Мітрафан Доўнар-Запольскі. Тым ня менш усяго за некалькі гадоў беларуская мова была ўкаранёная ў школу і ў ВНУ.

Але ўжо ў 1929 годзе беларусізацыя была спыненая, а з 1930 году пачаліся масавыя рэпрэсіі, якія не спыняліся да пачатку вайны ў 1941 годзе.

Некалькі сотняў літаратараў, практычна 100% складу Саюзу пісьменьнікаў, былі спачатку высланыя, а пасьля паўторных працэсаў большасьць зь іх была расстраляная. Да вайны дажыло ня больш за 20 чалавек. Былі высланыя ці расстраляныя тысячы навукоўцаў, настаўнікаў, журналістаў, чыноўнікаў.

Людзі літаральна баяліся вымавіць слова па-беларуску. Калі пасьля пачатку вайны ў акупаваны Менск прыбылі беларускія дзеячы зь Вільні, людзі на вуліцах літаральна шараханіся ад іх беларускай мовы. Цэлы народ здранцьвеў у жаху ад антыбеларускіх рэпрэсій 1930-х гадоў.

Немцы гэта ведалі і скарысталі. Яны адкрылі ў зусім невялікай Генэральнай акрузе Беларусі больш за тры тысячы беларускіх школ і дазволілі беларускае жыцьцё пад акупацыяй. Ствараліся

беларускія арганізацыі і вайсковыя фармаваньні, выходзілі газэты і часопісы, падручнікі, адкрываліся ВНУ, адзначаліся беларускія нацыянальныя сьвяты. А савецкія партызаны ня толькі змагаліся з акупантамі, але і на загад Масквы палілі беларускія школы і забівалі настаўнікаў.

Пасьля вайны адбыліся фільтрацыя «ненадзейных элемэнтаў» і новая хваля арыштаў тых, хто так ці іначай супрацоўнічаў зь немцамі, асабліва ўдзельнікаў моладзевых беларускіх арганізацый. І высылкі, высылкі, высылкі. Падлічана, што з 1945 году па 1950-ы зь Беларусі ўглыб СССР было вывезена каля 1 мільёна маладых людзей.

Высылкі працягваліся і ў 1950-я гады. Былі выкрытыя таемныя беларускія арганізацыі студэнтаў пэдагагічных вучэльняў, якія выступалі супраць русыфікацыі. Зьнішчаліся і закінутыя ў Беларусь з парашутам маладыя рамантыкі, і арганізаваныя імі партызанскія атрады. Некаторых расстрэльвалі, іншых высылалі на 25 гадоў у ГУЛАГ.

Культурныя страты беларускага народу ад знаходжаньня Беларусі ў складзе Расейскай імпэрыі, а пасьля ў СССР, не паддаюцца вымярэньню. Былі вывезеныя шматлікія мастацкія калекцыі і бібліятэкі з замкаў, палацаў і кляштараў Беларусі, неверагодная колькасьць твораў жывапісу, скульптуры і старадрукаваных кніг былі спаленыя падчас скасаваньня Ўніяцкай царквы. Мітрапаліт Іосіф Сямашка спаліў 1000 старажытных арганаў. Падчас рэпрэсій 1920–1930-х гадоў спальваліся творы паэтаў, пісьменьнікаў і кампазытараў.

У 1920–50-я гады зьнішчаліся архіўныя дакумэнты, асабліва актыўна з канца 30-х да канца 50-х гадоў, калі савецкія архівы знаходзіліся ў складзе НКВД-МГБ. У Беларусі пра гэта напісаныя кнігі.

У часе вайны былі разбураныя гістарычныя цэнтры Кіева і Менску, але яны не былі рэгенэраваныя. На месцы гістарычных цэнтраў былі пабудаваныя пампэзныя гмахі ў стылі сталінскага ампіру. Затое ў лістападзе 1945 году СНК СССР прыняў пастанову № 2722 «Аб мерапрыемствах па аднаўленьні разбураных нямецкімі захопнікамі гарадоў РСФСР», у якой падаваўся сьпіс з 15 старажытных расейскіх гарадоў, якія падлягалі першачарговаму аднаўленьню. Сярод іх былі Ноўгарад, Пскоў, Смаленск, Цьвер (Калінін) і іншыя. Наогул, за час панаваньня Расеі Беларусь страціла тысячы каштоўных помнікаў архітэктуры.

Карная машына расейскага бальшавізму палявала на беларускіх нацыянальных дзеячоў па ўсім сьвеце дзесяцігодзьдзямі. У 1917 годзе ў Менску з удзелам амаль дзьвюх тысяч абраных дэлегатаў адбыўся Ўсебеларускі зьезд, які абраў Раду. Выканаўчы камітэт тае Рады, у сваю чаргу, стварыў урад Беларускай Народнай Рэспублікі і абвясьціў яе незалежнасьць. Дык вось праз 30 гадоў пасьля гэтага ў Чэхаславаччыне НКВД яшчэ арыштоўваў удзельнікаў таго зьезду і інкрымінаваў ім якраз «участие в антисоветском всебелорусском конгрессе 1917 года». Калі ж чалавек жыў у капіталістычнай краіне, то ён нечакана тануў у

возеры ў цэнтры Мюнхэна або гінуў у аўтамабільнай катастрофе ў далёкай Лацінскай Амэрыцы.

А Беларусь тым часам, як і ў XIX стагодзьдзі, засялялася расейцамі. У чэрвені 1953 году ў Менску адбыўся пленум ЦК КПБ. На ім выступіў кандыдат на пасаду першага сакратара беларускага ЦК, нядаўні яго другі сакратар Міхаіл Зімянін. Прывяду тут фрагмэнт са сваёй кнігі «Невядомы Менск. Гісторыя зьнікненьня»:

«На пленуме Зімянін выступіў з рэзкай крытыкай палітыкі партыйнага кіраўніцтва Беларусі ў нацыянальным пытаньні, асабліва ў заходніх абласьцях БССР. Ён заявіў, што сярод партыйных і савецкіх кіраўнікоў там пераважаюць небеларусы — з 1175 партыйных чыноўнікаў беларусаў толькі 121 чалавек; з 1408 супрацоўнікаў аблвыканкамаў мясцовымі беларусамі былі толькі 114, з 321 супрацоўніка гарвыканкамаў мясцовых было толькі 25 чалавек.

Асабліва рэзка Зімянін гаварыў аб становішчы ў органах Міністэрства ўнутраных спраў: у цэнтральным і абласных апаратах МУС беларусаў — адзінкі, з 173 начальнікаў райаддзелаў МУС беларусаў было толькі 33; у заходніх абласьцях з 840 апэратыўных супрацоўнікаў органаў МУС мясцовых ураджэнцаў толькі 17 чалавек; у органах міліцыі заходніх абласьцей з 150 кіраўнікоў беларусам быў толькі 1, а з 92 начальнікаў гаррайаддзелаў міліцыі ўраджэнцаў заходніх абласьцей было толькі 5».

Зімяніна ў Менск даслаў Лаўрэнцій Берыя, які для захопу ўлады ў СССР вырашыў абаперціся

на нацыянальныя ўскраіны, бо паводле роду сваёй дзейнасьці займаўся рэпрэсіямі супраць «нацыяналістаў» і ведаў пра сілу нацыянальных пачуцьцяў.

Таксама на пленуме чэрвеня 1953 году гаварылася пра варты жалю стан беларускай адукацыі, напрыклад, у Менску па-беларуску вучылася толькі 15% вучняў. Але гэтага стану зьмяніць не ўдалося, бо яшчэ падчас пленуму Берыя быў арыштаваны, і ягоныя спробы нацыянальнага разьняволеньня ў СССР былі вельмі хутка згорнутыя.

Справа скончылася тым, што ў 60-я гады XX стагодзьдзя ў гарадах Беларусі не засталося беларускіх школ і беларускіх ВНУ — гарады сталі расейскамоўнымі. Вось так мы сталі «в общем, похожи сильно друг на друга».

І тым ня менш, калі ў 1991 годзе пачаўся масавы перавод гарадзкіх дзіцячых садкоў і школ на беларускую мову, то Міністэрства адукацыі Беларусі і адпаведная парлямэнцкая камісія атрымалі ўсяго 6 (шэсьць) скаргаў і тоны лістоў у падтрымку.

## Што Расея зрабіла зь Беларусьсю і Ўкраінай

Колькасьць пралітых сьлёз, маштаб зьнявагі і прыніжэньня, аб'ём ці памер перажытага душэўнага болю, як вядома, вымярэньню не паддаецца. І вельмі шкада, бо ў адваротным выпадку мы б мелі больш дакладную карціну той катастрофы, якую перажылі і адчулі людзі, якія, прыехаўшы

ў расейскамоўныя гарады Беларусі з правінцыі, павінны былі выслухоўваць крытыку, пагардлівыя кпіны і зьнявагу за сваю беларускую мову ці свой беларускі акцэнт.

Або тыя, хто павінен быў мяняць прозьвішчы, каб ня трапіць пад каток рэпрэсій за сваяцтва з расстраляным «нацдэмам». У нас вядомыя нават выпадкі, калі людзі прасілі напісаць іх сапраўднае прозьвішча толькі на надмагільным помніку — гэта значыць тады, калі іх ужо нельга было рэпрэсаваць.

Або тыя сваякі рэпрэсаваных, хто быў высланы ў глыб СССР, ня змог адтуль вярнуцца і потым адказваў на лісты беларускіх гісторыкаў з пытаньнямі аб іх сваяках на ламанай беларускай мове і няёмка прасіў прабачэньня за гэта.

Або тыя, хто быў вымушаны зьмяніць сваю нацыянальнасьць на расейскую ці польскую, каб не асацыявацца з абвінавачанымі ў беларускім нацыяналізьме сваякамі. Гэтак у нашы дні ў Менску дзеці рэпрэсаваных праваслаўных сьвятароў дажываюць свой век палякамі.

Вось яшчэ адна цытата:

«Советская власть начала наступление на украинский язык. Она его уничтожила за пределами собственно границ Украины... она его уничтожила в уязвимых местах самой Украины, в городах. Ей удалось русифицировать Kiev, Kharkov (свидетельством этого является то, что я даю русское написание этих имен собственных) и другие крупные города — как путем иммиграции россиян в Украину, так и принуждением

украинцев употреблять только русский язык в научной, научно-технической деятельности, в различных публичных сферах жизни. Она пытается предоставить украинскому языку, который к тому же был весьма сильно засорен русизмами, статус „фольклорного“, сельского языка, от которого каждый, кто хочет сделать карьеру, должен отказаться».

Гэта сказаў выдатны францускі гісторык Ален Бэзансон, кнігі якога, спадзяюся, Вы чыталі. Замяніце ў гэтай цытаце слова «украинский» на «белорусский» — і вы атрымаеце дакладнае, 100-працэнтнае апісаньне таго, што, як далікатна піша Бэзансон, «савецкая ўлада» зрабіла з мовай беларускай. Насамрэч і Вы, і я разумеем, што гэта зрабіла з намі хоць і савецкая, але Расея. А пачала яна гэта рабіць яшчэ пры царах-імпэратарах.

І ў нас у 1933 годзе правялі гвалтоўную рэформу беларускага правапісу, штучна наблізіўшы яго да расейскага. І ў нас у 1939 годзе пастановай Вярхоўнага Савету БССР Менск перайменавалі ў Мінск, а ўсьлед за ім расейскія варыянты назваў атрымалі сотні іншых гарадоў і мястэчак. І ў нас беларускую мову фактычна зрабілі фальклёрна-этнаграфічным экспанатам.

Найлепшыя прадстаўнікі нашых народаў ніколі з такім станам рэчаў не згаджаліся. Пратэсты, пэтыцыі і звароты ў абарону беларускай і ўкраінскай моваў і, адпаведна, рэпрэсіі за гэта не спыняліся ў СССР усе пасьляваенныя гады. Пасадкі ці звальненьні дысыдэнтаў, змагароў за

ўкраінскую і беларускую мову і культуру працягваліся аж да 80-х гадоў ХХ стагодзьдзя.

А ў падкантрольнай Расеі Рэспубліцы Беларусь не спыняюцца і ў нашы дні.

Адна невялікая розьніца заключаецца ў тым, што ў ХХ стагодзьдзі ўкраінскамоўных украінцаў і беларускамоўных беларусаў называлі нацыяналістамі, а цяпер называюць нацыстамі, фашыстоўскімі паслугачамі, калябарантамі.

Мой ліст да Вас — далёка ня першы тэкст такога кшталту. Пісалі падобныя звароты і ў савецкія часы. З увагі на абставіны яны часам былі ананімныя, як апублікаванае ў самвыдаце і за мяжой у 1979 годзе «Письмо русскому другу», а часам мелі дзясяткі ці сотні подпісаў, як лісты беларускіх пісьменьнікаў і навукоўцаў у 1980-я гады.

Вось так Кіеў і Менск сталі ў другой палове ХХ стагодзьдзя вельмі камфортнымі гарадамі для расейскіх людзей, якія пачалі думаць, што паміж імі, з аднаго боку, і ўкраінцамі і беларусамі, з другога, практычна няма розьніцы, што «мы — адзін народ».

Але вось у чым бяда. Простыя расейцы ў СССР маглі ня ведаць гісторыі і не разумець, што на вуліцах Кіева і Менску яны сустракаюцца і размаўляюць, фактычна, з хворымі на «стакгольмскі сындром» ахвярамі шматвяковых рэпрэсій і добра прадуманай і арганізаванай палітыкі нацыянальнага задушэньня Ўкраіны і Беларусі. Але рэальнасьць такая, што з імпэрскіх вышыняў

гэтых ахвяраў як раней не маглі разгледзець, так і сёньня ня бачаць многія адукаваныя людзі Расеі.

Якраз гэта, на маю думку, пазбаўляе Расею шанцаў на ачышчэньне праз пакаяньне і, адпаведна, на гістарычную пэрспэктыву.

## Цяпер вымаўляць фразу пра «адзін народ» — неэтычна і амаральна

Я нарадзіўся і гадаваўся ў Менску ў расейскамоўнай беларускай сям'і, расейская мова была маёй першай мовай, менавіта на ёй я навучыўся гаварыць і чытаць, часам карыстаюся ёю і, спадзяюся, адчуваю яе нюансы. Пераяжджаючы ў 90-я гады ў Прагу, я ўзяў з сабой поўны збор твораў Чэхава і кнігі паэтаў Срэбранага веку. Але я зь дзяцінства ведаў, хто я, і ведаў мову беларускую, бо на ёй размаўлялі прадзед, дзьве прабабулі і бабуля па бацьку, яе сёстры і шматлікія іншыя сваякі, якія жылі ў вёсцы на паўднёвы захад ад Менску.

Гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту ў 80-я гады XX стагодзьдзя быў элітнай кузьняй кадраў для камсамольскіх і партыйных камітэтаў БССР. Большасьць студэнтаў паходзілі з расейскамоўных гарадзкіх сем'яў.

І вось цуд! На тых сэмінарах па этнаграфіі на гістфаку БДУ, пра якія я згадаў вышэй, усе студэнты зацята спрачаліся з выкладчыкам, які расказваў нам пра будучае зьліцьцё моваў. Ніхто з нашай групы не хацеў, каб беларуская мова зьнікла, ніхто, прычым ня толькі мясцовыя

беларусы, але і немка, украінка і беларус з далёкага Джамбулу, які ніколі ня жыў у Беларусі, а проста быў адпраўлены на навучаньне ў Менск некалі высланымі на асваеньне цаліны бацькамі-беларусамі.

Мы спрачаліся з выкладчыкам, адстойваючы права беларускай мовы на будучыню, па-расейску.

У гэтым, паважаны Рыгор Шалвавіч, хаваецца вялікая таямніца і вялікая сіла нацыянальнага. І вось чаму некалькі сваіх навуковых і мастацкіх кніг я напісаў на беларускай мове, якая, паводле афіцыйнай клясыфікацыі ААН, знаходзіцца пад пагрозай зьнікненьня. Я сьвядома выбраў гэтую «непэрспэктыўную мову», зь якой мала хто перакладае і да якой у сьвеце мала цікавасьці і ўвагі. Але гэта — мова майго шматпакутнага эўрапейскага народу, мова мадэрнай беларускай нацыі.

Таму было вельмі дзіўна пачуць ад Вас гэтую праклятую фразу пра «адзін народ», нават у тым кантэксьце, у якім Вы яе сказалі. Бо менавіта яе цяпер, як мантру, паўтарае той, хто пачаў дзікую і жорсткую бойню на эўрапейскім кантынэнце.

Менавіта з ідэяў пра «трыадзіны расейскі народ» пачынаецца расейскі імпэрыялізм. Я вельмі спадзяюся, што адмова ад прэтэнзій на Беларусь і Ўкраіну дапаможа пасьляваеннай Расеі прыслухацца нарэшце да словаў выдатнага філёзафа Георгія Фядотава, які ў 1947 годзе заклікаў расейцаў адмовіцца ад імпэрыі і сканцэнтравацца на ўнутраных праблемах — інакш кажучы, на нацыянальным разьвіцьці.

І яшчэ я вельмі спадзяюся, што Вы, як адзін зь вядучых расейскіх інтэлектуалаў, паспрыяеце таму, каб у пасьляваеннай Расеі была ўведзеная крымінальная адказнасьць за адмаўленьне існаваньня ўкраінскай і беларускай нацый. Бо менавіта з такіх ідэяў, як мы цяпер бачым, пачынаецца вайна і расейскі фашызм.

# Чаму ў Расеі трэба караць за адмаўленьне беларускай нацыі

З 90-х гадоў XX стагодзьдзя я са зьдзіўленьнем назіраю, як у грамадзкім полі Расеі зьяўляюцца імёны дагэтуль нікому не вядомых гісторыкаў, якія вельмі актыўна паўтараюць і прапагандуюць расейскія гістарычныя міты XIX стагодзьдзя.

І сярод іх, найперш, міт пра трыадзіны расейскі народ у складзе вялікаросаў, маларосаў і беларусаў. Усё, што ў гісторыі мела ў сваёй назьве «русь» і «рускі», без аніякага сумненьня абвяшчаецца расейскім — і Кіеўская Русь, і Вялікае Княства Літоўскае, і гетманская Ўкраіна, і аўстрыйская Галіччына.

Ніхто не разьбіраецца ў тэрмінах і гістарычных фактах, усё валіцца ў адну кучу дзеля неймаверна далёкай ад рэальнасьці і рэальнай навукі мэты: даказаць, што не існуе ніякіх асобных народаў (і тым больш нацый) — украінцаў і беларусаў.

Усе дасягненьні гістарычнай навукі, паліталёгіі і сацыялёгіі XX стагодзьдзя ў сучаснай Расеі адкінутыя «за ненадобностью». Нібыта і не пісалі сваіх надзвычай прыгожых і інтэлектуальна дасканалых кніг пра нацыі і нацыяналізм Энтані Сьміт, Бэнэдыкт Андэрсан і іншыя выдатныя навукоўцы. Нацыі — гэта рэальнасьць нашага сьвету апошніх 200 гадоў, але не для расейскай палітычнай эліты.

І вось паступова ідэі розных фурсавых, бяспалек і мядзінскіх пра вялікую Расею, пра спрадвечную барацьбу Захаду супраць Сьвятой Русі, пра фармаваньне Ўкраіны то палякамі, то аўстрыйцамі, то Леніным, пра стварэньне бальшавікамі беларускай мовы ў 1926 годзе і пра тое, што «інтарэсы групы Сталіна ў 1929 годзе містычным чынам супалі з інтарэсамі Расеі», трапілі ў галовы і рыторыку расейскай палітычнай эліты.

Пасьля 2014 году я зь яшчэ большым зьдзіўленьнем слухаў разважаньні кіраўніцтва Расеі пра несправядлівы характар нарэзкі тэрыторыяў бальшавікамі пры стварэньні Ўкраінскай ССР, пра перадачы вялізных кавалкаў «спрадвечна рускіх зямель» і г. д. Гэта гучала дзіка, бо пасьля Гітлера і Другой сусьветнай вайны ў Эўропе было дрэнным тонам разважаць уголас пра тэрытарыяльныя прэтэнзіі да суседзяў, а межы дзяржаваў былі прызнаныя і здаваліся недатыкальнымі.

Нарэшце гісторык-няздара, абвінавачаны калегамі ў плягіяце дысэртацыі, міністар культуры Мядзінскі перабраўся на пасаду дарадцы прэзыдэнта Расеі, і ўлетку 2021 году на сьвет зьявіўся артыкул Пуціна «Об историческом единстве русских и украинцев». Можна амаль не сумнявацца, хто напісаў гэты тэкст. Дакладна — гэта той гісторык або «гісторык», які не чытаў клясыка Энтані Сьміта. А той сьцьвярджаў, што многія нацыяналізмы заснаваныя на гістарычна памылковых інтэрпрэтацыях мінулых эпох, падзей і зьяў. І цяпер няма сумневу, што царская тэорыя трыадзінага народу якраз і належыць да

ліку такіх памылковых інтэрпрэтацый гісторыі ўсходніх славян.

Тым ня менш артыкул Пуціна стаў, на маю думку, нечуваным у XXI стагодзьдзі маніфэстам дзяржаўнага рэваншызму. Расея ня вызвалілася ад імпэрыі і не ачулася ад імпэрыялізму.

Чаму так сталася? Прычына простая — адставаньне Расеі ад Захаду і патрэба ў розных спосабах кампэнсацыі гэтага адставаньня. Адна з формаў кампэнсацыі — імпэрыялізм.

Амэрыканскі гісторык Марцін Малія ў 1999 годзе пісаў, што роля велізарнай тэрыторыі Расеі зводзіцца выключна да таго, каб сілкаваць пыху расейцаў: «Мы займаем шостую частку сушы». У людзей узьнікае пачуцьцё, што гэты геаграфічны размах аказвае ўплыў на расейскую гісторыю, робіць яе больш велічнай і гераічнай. І яно ж служыць пажыўнай глебай для нараджэньня хімэраў «эўразійства».

А францускі гісторык Ален Бэзансон 20 гадоў таму пісаў:

«Імпэрыя распалася, гэта вельмі добра для Расеі і можа прынесьці ёй вялікую карысьць. Аднак людзі, якія цяпер жывуць у Расеі, паранейшаму мараць пра ўваскрашэньне імпэрыі, і самыя спрытныя дыпляматы, гэтак жа як і самыя дасьведчаныя супрацоўнікі „органаў“, таемна рыхтуюць яе аднаўленьне. Існаваньне незалежнай Украіны здаецца большасьці расейцаў ненатуральным кашмарам, ад якога яны вось-вось прачнуцца. Нарэшце, гатовая ўступіць у свае правы і хлусьня».

І хлусьня, як мы ўсе бачым, уступіла ў свае правы. Вайна пачалася таму, што «ніякіх украінцаў няма», «мы адзін народ», а тыя, хто хоча размаўляць на сваіх мовах (якіх, як вядома, таксама няма), — гэта нацысты. Напрыклад, Уладзімір Зяленскі, які, як сказаў прэзыдэнт Расеі, падпаў пад уплыў нацыстаў. (Верагодна, тады, калі свабодна загаварыў па-ўкраінску.)

І гэта ня проста гістарычныя ці лінгвістычныя спрэчкі — гэта рэальны расейскі імпэрскі шавінізм, рэальны рэваншызм і рэальная вайна, на якой гінуць тысячы людзей.

Вось чаму ўрады пасьляваенных Украіны і Беларусі пры садзеяньні міжнароднай супольнасьці і міжнародных прававых інстытутаў павінны дамагчыся дэшавінізацыі Расеі, а адмаўленьне існаваньня ўкраінскай і беларускай нацый і іх права на самастойнае дзяржаўнае існаваньне павінна быць прызнанае крымінальным злачынствам.

Як найменш, такая норма павінна зьявіцца ў заканадаўстве пасьляваеннай Украіны і постлукашэнкаўскай Беларусі.

І гэта ня толькі праблема інтэлектуальнага поля — адмаўленьне існаваньня ўкраінскай нацыі ўжо прывяло да вайны і многіх тысяч чалавечых ахвяраў. Такое не павінна паўтарыцца.

Трэба назаўсёды пазбавіць расейскі рэваншызм ідэалягічных падстаў.

# Чаму, трымаючы Беларусь, Расея губляе беларусаў

Бачачы ў жніўні 2020 году толькі «Белоруссию», якую трэба любой цаной утрымаць, далучыць, і не зьвяртаючы ўвагі на беларусаў, іх патрэбы і жаданьні, Расея рызыкуе назаўсёды страціць беларускі народ, ягоныя сымпатыі і дружбу.

## Імпэрскае наканаваньне

Памылкі робяць ня толькі людзі, памылкі робяць дзяржавы. І ня толькі таму, што імі кіруюць людзі. Часам будучыя хібы закладзеныя ў самім генэтычным кодзе дзяржаўнага ўтварэньня.

Асэнсоўваючы трагедыю расейскай рэвалюцыі і камунізму ў XX стагодзьдзі, пра гэта пакутліва разважалі расейскія інтэлектуалы. Некаторыя зь іх, напрыклад філёзаф Георгій Фядотаў, заклікалі Расею адмовіцца ад імпэрскасьці:

«Освобожденная от военных и полицейских забот, Россия может вернуться к своим внутренним проблемам — к построению выстраданной страшными муками свободной социальной демократии... К этой великой задаче должна уже сейчас, в изгнании, готовиться русская интеллигенция вместо погони за призрачными орлами империи».

Але заклік інтэлектуалаў, як гэта бывае найчасьцей, пачуты ня быў. Расея працягвае імпэрскую палітыку.

## Суседзі зноў выбіраюць хлусьню

Пасьля прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі і настойлівых званкоў Лукашэнкі да Пуціна Расея азвалася кананадай цынічных заяў пра вонкавае ўмяшаньне ў справы Беларусі, пра замежных лялькаводаў, якія кіруюць пратэстамі.

Прэсавы сакратар Пуціна Дзьмітры Пяскоў заявіў, што Крэмль бачыць «ускоснае і прамое» ўмяшаньне ў справы Беларусі.

З вуснаў міністра замежных спраў Расеі Сяргея Лаўрова загучалі крывадушныя заявы пра геапалітыку як аснову беларускай праблемы, пра тое, што гэта пачалося яшчэ з распаду Савецкага Саюзу ў 1991 годзе, што з таго самага часу нейкія варожыя сілы спрабуюць аслабіць Расею і адарваць ад яе ўсё новыя і новыя тэрыторыі ўплыву:

«... Происходящее в Белоруссии, конечно же, нас весьма и весьма тревожит. Нас тревожит попытка использовать внутренние сложности, с которыми сейчас столкнулась Беларусь, белорусский народ, белорусское руководство, для того, чтобы вмешиваться в эти события, в эти процессы извне. И не просто вмешиваться, а вмешиваться с целью навязать белорусам те порядки, которые внешние игроки считают для себя выгодными.

Не скрывает никто, по сути дела, что речь идет о геополитике, речь идет о борьбе за постсоветское пространство. А мы видели эту борьбу и на предыдущих этапах развития ситуации, после того как Советский Союз прекратил свое существование. Последний пример, разумеется, — это Украина. И то, что сейчас мы слышим из европейских столиц, прежде всего из Прибалтики — Литвы, Эстонии, а также из Польши, из Европарламента, — все это, понимаете, это все не про Лукашенко, это все не про права человека, не про демократию, это все про геополитику, про те самые правила, которые наши западные партнеры хотят внедрять в повседневную жизнь и на нашем континенте, и в других частях мира».

Ніводзін лідэр Расеі не згадаў пра забітых у Беларусі, пра параненых, пакалечаных і зьняважаных, ня выказаў спачуваньняў іх сваякам і ўсяму беларускаму народу за панесеныя ў імя дэмакратыі ахвяры.

У Крамлі, па сутнасьці, нікому няма справы да таго, што ў суседняй краіне народ болей за чвэрць стагодзьдзя пакутуе ад дыктатуры, што там людзі пазбаўленыя элемэнтарных правоў на сходы, на выказваньне сваёй думкі, на свабоду інфармацыі; што там грамадзян пазбаўляюць пэнсій, беспрацоўных прымушаюць плаціць падатак за сваё беспрацоўе, а нязгодных садзяць у турмы — гэта значыць, няма справы да беларускага народу зь яго праблемамі.

Галоўнае — ня страціць гэты кавалак зямлі, каб зноў далучыць яго да імпэрыі. Гэта якраз

і ёсьць геапалітыка з боку Расеі — у найбольш цынічным і жорсткім выглядзе.

І зноў тут з падказкай расейскі філёзаф XX стагодзьдзя, гэтым разам Фёдар Сьцяпун. Высланы бальшавікамі за мяжу, ён пакутліва стараўся зразумець гістарычны шлях свайго народу:

«Читая любую русскую историю, получаешь впечатление, что русский народ не столько завоевывал землю, сколько без боя забирал ее в плен. Эта военнопленная земля работала на русский народ, работала без того, чтобы он сам на ней по-настоящему работал».

## Фатальная няўвага да поступу гісторыі

Беларускі народ больш ня хоча палону — ні расейскага, зь якога ён вызваліўся ў 1991 годзе, ні лукашэнкаўскага, ад якога ён вызваляецца цяпер. Людзі доўга трывалі, але нарэшце цярпеньне скончылася — яны хочуць бачыць пэрспэктыву пазытыўнага разьвіцьця і лепшай будучыні для сваіх дзяцей. Лепшай, чым эміграцыя.

І гэтага ў Крамлі не разумеюць або, хутчэй, робяць выгляд, што не разумеюць і не заўважаюць, бо ня маюць адэкватных сродкаў рэагаваньня. Прызнаць права суседняга народу скінуць зь сябе ярмо дыктатуры шляхам свабодных выбараў і вулічных пратэстаў — гэта значыць паставіць пад пагрозу і заведзеныя ў самой Расеі парадкі.

А людзі ў Беларусі ўсё разумеюць. Гэтая выбарчая кампанія, апошнія чатыры месяцы паказалі, што беларускі народ надзіва разумны, адукаваны

і разьвіты. Людзі разумеюць значна больш, чым ад іх чакалі некаторыя палітыкі, журналісты і аналітыкі.

Цынічных фразаў «это все не про права человека, не про демократию» людзі, якія дамагаюцца менавіта гэтага, могуць не даравацЬ.

І вось мы бачым, як непаваротлівая Расея, усьлед за непаваротлівай менскай дыктатурай, страчвае беларускі народ.

Народ, мільёны прадстаўнікоў якога размаўляюць на расейскай мове, які з сымпатыяй ставіцца да расейскай культуры, 75% якога, паводле сёлетніх апытаньняў, выказваюцца за захаваньне сяброўскіх дачыненьняў з Расеяй, за адсутнасьць візаў і межаў, можа цалкам адвярнуцца ад усходняй суседкі.

# Чаму Расея ня хоча сыходу Лукашэнкі

Шматлікія камэнтатары і назіральнікі ў апошнія чатыры месяцы так моцна хочуць, каб рэпрэсіўны кашмар у Беларусі закончыўся, і так моцна спачуваюць абуджанаму беларускаму народу, што лёгка вераць розным чуткам, здагадкам і домыслам.

Адным з такіх домыслаў, хутчэй за ўсё, зьяўляецца перакананьне многіх, што Масква дамагаецца сыходу Лукашэнкі.

## Сэнс можа быць на паверхні

Мы як бы вярнуліся ў савецкую эпоху, калі журналісты спрабавалі разгадваць таямніцы крамлёўскай палітыкі, шукаючы схаваны сэнс паміж радкоў афіцыйных прамоваў ці назіраючы за парадкам разьмяшчэньня савецкіх лідэраў на трыбунах.

Няма сумневу, што палітыка — гэта ня толькі адкрытая і публічная справа, але і закулісная, шмат у чым таемная. Праблема ў тым, што домыслы — ня лепшая падстава для аналізу. Аналізаваць трэба адкрытыя палітычныя заявы, якія звычайна зьяўляюцца працягам закулісных мэтаў палітычных актараў. І гэта праўда, што азначаць тыя ці іншыя заявы могуць не зусім тое (або зусім ня тое), пра што ў іх гаворыцца.

Але бывае і наадварот. Бывае, што заявы азначаюць менавіта тое, пра што ў іх гаворыцца. Проста падаплёка іншая. У мяне няма сумненьня, што заявы Масквы пра падтрымку Лукашэнкі — ня што іншае, як заявы ў падтрымку Лукашэнкі. Са сваімі мэтамі.

## Апэрацыі прыкрыцьця не састарэлі

Ёсьць два тыпы расейскай рыторыкі пра сытуацыю ў Беларусі.

Адзін — заявы афіцыйных асобаў (прэзыдэнта, міністра замежных спраў, міністра абароны, прэссакратара Крамля) пра беспрэцэдэнтны замежны ціск на Беларусь і ўмяшаньне ў яе справы з боку Захаду.

Другі — публікацыі друку і заявы расейскіх журналістаў пра тое, што Пуцін, маўляў, даў Лукашэнку тэрмін да... Пуцін чакае рэформаў... Пуцін хоча кантраляванага транзыту ўлады ў Беларусі...

А што, калі гэта не зусім тое ў абодвух выпадках? Што, калі гэта «апэрацыя прыкрыцьця»?

Расея цалкам кантралюе сытуацыю ў Беларусі і яе сілавы апарат, дасылае ў Беларусь дзяржаўных прапагандыстаў, рыхтуе на мяжы рэзэрвы Нацыянальнай гвардыі, каб абараняць ад пратэстоўцаў дзяржаўныя ўстановы ў Менску, і ў той жа час гучна заяўляе ўсяму сьвету, што ён павінен сьвята трымацца прынцыпу неўмяшаньня ва ўнутраныя справы незалежных дзяржаваў і ня лезьці ў Беларусь.

Сытуацыя нагадвае спрэчку вакол здабычы на паляваньні. Нехта падстрэліў дзічыну на мяжы сваёй тэрыторыі. Дзічына ляжыць на стромым пагорку — палова на тэрыторыі паляўнічых, палова на тэрыторыі, гаспадары якой супраць забойства жывёл і паляваньня на іх — і паступова спаўзае на бок паляўнічых. «Зялёныя» спрабуюць падцягнуць жывёлу да сябе, каб уратаваць яе, і спасылаюцца на закон, які абавязвае ратаваць параненых жывёл. Паляўнічыя ж крычаць, каб жывёлу не чапалі, бо ёсьць закон, які забараняе ўмешвацца ў паляваньне на прыватнай тэрыторыі.

Дык вось заявы пра ўмяшаньне ва ўнутраныя справы Беларусі — гэта паводзіны паляўнічых. Масква гучнымі крыкамі пра «неўмяшаньне ва ўнутраныя справы» адпуджвае абаронцаў дзічыны. Гэта і ёсьць «апэрацыя прыкрыцьця».

## Паляўнічы ўмее чакаць

Расея чакае Беларусь. Чакае, пакуль Беларусь спаўзе на яе тэрыторыю. Чакае, пакуль аслаблены кіраўнік-сусед сам прынясе ёй сваю краіну на талерачцы. Расея ўжо гасьцінна падставіла рукі і чакае, калі Беларусь скоціцца ў яе абдымкі. І марна казаць, што падпісаныя нелегітымным кіраўніцтвам дамовы будуць дэнансаваныя. Які будзе клопат да гэтага паляўнічым, якія ўжо вараць сьвежаніну ў вялікім катле на вогнішчы? І які клопат Маскве да таго, што «спаўзаньне на яе тэрыторыю» Крыму ніхто не прызнаў?

Тое самае з тэкстамі расейскіх журналістаў з «Коммерсанта» і «Эха Москвы», якія, камэнтуючы заявы крамлёўскага ўладара пра беспрэцэдэнтны вонкавы ціск на Беларусь, пішуць, што Пуцін асабіста ня любіць Лукашэнку і патрабуе ад яго сысьці. Раз за разам мы чытаем, што Пуцін «прапанаваў Лукашэнку сысьці спакойна і не цягнуць з гэтым», што Нарышкін і Лаўроў прывезьлі Лукашэнку апошняе папярэджаньне і г. д.

Гэтыя пасажы ад блізкіх да Крамля выданьняў ці асобных журналістаў таксама зьяўляюцца «апэрацыяй прыкрыцьця». Але на гэты раз — уладара Расеі, яго палітыкі і яго «дэмакратычнага» іміджу.

Насамрэч, Расея хоча Беларусь — з Лукашэнкам ці безь яго.

Паляўнічым мала клопату, ці вісіць на шыі ўпаляванай жывёлы бірка зь літарай «Л». Бірку яны пасьля зрэжуць. Галоўнае — мяса, яго колькасьць і якасьць, у сэнсе — тэрыторыя.

# Чаму беларушчына перайшла Рубікон у 1862 годзе.
# *Чаго я не сказаў у кнізе пра Каліноўскага*

Чалавек, які стаў ляўрэатам адной з нацыянальных прэмій і далучыўся да паважанай кагорты ранейшых яе ўладальнікаў, павінен адчуваць сябе імяніньнікам. Атрымаўшы ўвесну 2021 году прэмію імя Францішка Багушэвіча за кнігу «Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі», я, на жаль, такога пачуцьця не зазнаў.

Прычына — падзеі на Бацькаўшчыне: жорсткія рэпрэсіі супраць нашага народу, працяг кампаніі дыскрэдытацыі нацыянальных сымбаляў, нацыянальнай гісторыі і яе герояў, у тым ліку Кастуся Каліноўскага.

Апошнім часам пачуліся галасы супраць Каліноўскага і з-за ўсходняй мяжы Беларусі. Нацыянальнага волата беларусаў зноў называюць палякам і нават тэрарыстам.

Але нельга забараніць свабодным беларускім інтэлектуалам і гісторыкам думаць, шукаць і знаходзіць.

## Якой гісторыі нам не хапае

Сфэры дзейнасьці гісторыкаў — вельмі разнастайныя. Адны займаюцца публікацыяй крыніц, іх завуць археографамі. Іншыя аналізуюць

разьвіцьцё сваёй навукі, пішуць як бы гісторыю гісторыі — гэта гістарыёграфы. Археолягі займаюцца вывучэньнем матэрыяльных артэфактаў гісторыі і на іх падставе робяць высновы пра той ці іншы пэрыяд нашага мінулага.

Больш клясычныя гісторыкі выбіраюць тэму для дасьледаваньня і вывучаюць увесь комплекс гістарычных крыніц па ёй, каб пацьвердзіць ці абвергнуць свае гіпотэзы або сьцьвярджэньні папярэднікаў. Найбольш энэргічныя з такіх гісторыкаў пішуць аўтарскія гісторыі сваіх краінаў.

Нарэшце, ёсьць гісторыкі, якія займаюцца асэнсаваньнем мінулага на падставе ўжо апублікаваных крыніц і прац папярэднікаў. Галоўная задача такіх гісторыкаў — зразумець мінулае і патлумачыць яго сучасьнікам.

Менавіта такі тып гісторыкаў апошнія 50–70 гадоў дамінуе на Захадзе. І менавіта такіх вучоных сёньня не хапае ў Беларусі, дзе ўжо таксама шмат што знойдзена, апісана і апублікавана.

Да тыпу публікацый, дзе вядомыя гістарычныя факты і падзеі па-новаму асэнсоўваюцца і пераасэнсоўваюцца, адносіцца, напрыклад, кніга Генадзя Сагановіча «Грунвальд у беларускай гісторыі. Спроба разбору палітычнага міфа» (Мн., 2015). І да такога ж тыпу належыць кніга «Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі» (Радыё Свабода, 2020).

Пасьля выхаду кнігі аўтар звычайна некалькі месяцаў ня можа адысьці ад яе тэматыкі і ад яе герояў. Так, прынамсі, заўсёды бывае са мной.

Але праз паўгода жыцьцё вяртаецца ў нармальнае рэчышча.

У выпадку з Каліноўскім так не адбылося. Пайшоў другі год пасьля выхаду двух выданьняў кнігі, а я ўсё яшчэ застаюся ў палоне свайго героя і думаю пра тое, што адбылося з нашым народам у XIX стагодзьдзі. І Каліноўскі, і беларуская гісторыя таго стагодзьдзя застаюцца не да канца зразуметымі і не да канца адрэфлексаванымі.

## Што б я хацеў дадаць у кнігу

Калі б сёньня выходзіла трэцяе выданьне маёй кнігі, я дадаў бы ў яе сама менш пяць-сем новых разьдзелаў.

Найперш, я расказаў бы пра складаныя дачыненьні тэрмінаў «Русь» і «Літва» ў XVIII стагодзьдзі, у другой палове якога, напрыклад, менскія сэсіі Вялікага Літоўскага Трыбуналу называлі «рускімі», нягледзячы на тое, што Менск на той час ужо знаходзіўся нібыта ў гістарычнай Літве. І пра пачатак паступовага пашырэньня тэрмінаў «Беларусь» і «беларускі» на захад ад Магілёўшчыны.

Я больш увагі аддаў бы шматузроўневай нацыянальнай сьвядомасьці жыхароў былога Вялікага Княства Літоўскага ў XIX стагодзьдзі і расказаў, напрыклад, пра падзеі 1812 году, калі Часовы ўрад адноўленага Напалеонам Вялікага Княства Літоўскага зьвярнуўся з адозвай да грамадзян Белай Русі, называючы іх палякамі адной зь ліцьвінамі крыві. Расказаў бы я і пра падзеі

пасьля паўстаньня 1831–1831 гадоў, калі нашы эмігранты ў Парыжы, выхадцы з былога Княства, аддзяліліся ад палякаў з Царства Польскага і стварылі Камітэт рускіх земляў, які складаўся зь дзьвюх раўнапраўных частак — аддзелу Літвы і аддзелу Валыні.

Нагадаў бы я і пра варты захапленьня і шанаваньня факт, што беларуская мова ў справаводзтве і казаньнях Уніяцкай царквы дажыла да самага часу яе скасаваньня ў 1839 годзе, пра што студэнтам-гісторыкам у часы майго навучаньня ў БДУ не было дзе прачытаць. І прывёў бы цытату з успамінаў Івана Насовіча, які расказаў, як у 1815 годзе ўніяцкі сьвятар Ракоўскі ў адным з храмаў на Магілёўшчыне выступіў з казаньнем на добрай беларускай мове і паведаміў парафіянам, што Напалеон уцёк з вострава Эльба і «знову ідзець к нам».

Я расказаў бы пра дзівосныя падзеі 20–30–40-х гадоў XIX стагодзьдзя, калі пачыналася нацыянальнае самапазнаньне будучай беларускай нацыі — пра «філярэтаў» і «філяматаў», пра беларускія тэксты таго часу, пра захапленьне беларускім фальклёрам графіні Эміліі Плятэр і яе віцебскага атачэньня, пра высылкі зь Вільні Францішка Савіча ў 1830-я гады і Баляслава Длускага ў 1840-я.

Я напісаў бы разьдзел пра падзеі 1870–1880-х гадоў у Беларусі і вакол Беларусі, пра дзейнасьць групы беларусаў-нарадавольцаў «Гоман», якія ўжо ў 1884 годзе заявілі, што «Беларусь — для беларусаў». І пра яшчэ аднаго волата беларускай

гісторыі таго часу — Мітрафана Доўнар-Запольскага.

Я напісаў бы разьдзел пра стварэньне ў першай Дзяржаўнай Думе Расеі ў 1906 годзе беларускай дэпутацкай групы, якая адмовілася аб'яднацца з польскай і пачала барацьбу за аўтаномію Беларусі. Адзін зь яе лідэраў Раман Скірмунт (яшчэ да выхаду першых беларускіх газэт «Наша Доля» і «Наша Ніва») заявіў тады агаломшанаму лідэру польскіх нацыяналістаў Раману Дмоўскаму, што не ўважае сябе за паляка, што ён беларус, які толькі выхаваны ў польскай культуры і ня мае найменшай патрэбы залічаць сябе да народнасьці, зь якой яго зьвязвае толькі гэтая культура.

## Рубікон

І, нарэшце, я напісаў бы пра ключавы, лёсавызначальны і самы драматычны, на маю думку, пункт у гісторыі нараджэньня мадэрнай беларускай нацыі — кастрычнік 1862 году. У тым месяцы Каліноўскі адмовіўся ад выданьня шостага нумару «Мужыцкай праўды», у якім сьцьвярджалася, што «Зямля наша зь вякоў вечных называецца літоўская, а мы то называемся Літоўцы».

Я думаю, што менавіта тады ў зацятых спрэчках з астатнімі сябрамі рэдакцыі Фэліксам Ражанскім, Станіславам Сангіным, Валерыем Урублеўскім і Францішкам Юндзілам ён прыняў канчатковае рашэньне, як будзе называцца яго народ. Шосты «літоўскі» нумар так і ня выйшаў, замест яго ў сьнежні 1862 году пад тым жа

нумарам зьявіўся выпуск газэты, прысьвечаны Ўніяцкай царкве.

Слабасьць нашай гістарычнай навукі добра праяўляецца ў тым, што за больш чым трыццаць гадоў, якія прайшлі з моманту знаходкі «літоўскага» нумару «Мужыцкай праўды» ў бэрнардынскім касьцёле ў Вільні, не былі праведзеныя тэксталягічная і графалягічная экспэртыза рукапісу і яго параўнаньне зь іншымі аўтографамі Кастуся Каліноўскага.

Я не графоляг, але бачу, што почырк Каліноўскага троху адрозьніваецца ад почырку аўтара «літоўскага» нумару «Мужыцкай праўды». У Каліноўскага меншы нахіл направа, больш акруглыя літары, іншае напісаньне малых літар «j», «t» і некаторых іншых. Разам з тым ёсьць падабенства ў напісаньні загалоўнага і малога «d».

Але нават калі б графалягічная і тэксталягічная экспэртызы даказалі, што «літоўскі» нумар пісаў сам Каліноўскі, гэта нічога б не зьмяніла. Бо найважнейшым для нас застаецца сам гістарычны факт — нявыхад «літоўскага» нумару газэты, адмова Каліноўскага яго выдаць і замена «ўніяцкім» нумарам.

1 лютага 1863 году палітычна нарадзілася новая, мадэрная Беларусь, якая да таго існавала пад назвамі і «Русь», і «Літва». У той дзень у Вільні быў утвораны Часовы правінцыйны ўрад Літвы і Беларусі на чале з Кастусём Каліноўскім. Але ідэйна гэтая падзея была перадвырашана на тры месяцы раней — у кастрычніку 1862 году.

# Чаму Каліноўскі не пісаў «Зямля наша называецца літоўская»

Часам адкрыцьці ў гісторыі здараюцца нібыта выпадкова, хоць потым разумееш, што да іх падводзіць уся лёгіка папярэдніх падзей, думак і дасьледаваньняў.

Улетку 2022 году, сабраўшыся выдаць свае гістарычныя эсэ апошніх гадоў кнігай, я зноў задумаўся над тэкстам пра Кастуся Каліноўскага і ключавы момант для нованароджанай беларускай нацыянальнай ідэі, які яна перажыла ў кастрычніку 1862-га.

У тым эсэ, якое называлася «Чаму Беларушчына перайшла Рубікон у 1862 годзе», мова ішла пра лёсавызначальны і драматычны, на маю думку, пункт у самай раньняй гісторыі нараджэньня мадэрнай беларускай нацыі. Ім стаў нявыхад у кастрычніку 1862 году шостага выпуску «Мужыцкай праўды», у якім сьцьвярджалася, што «Зямля наша зь вякоў вечных называецца літоўская, а мы то называемся Літоўцы».

Грунтуючыся на сваім аналізе зьместу вядомых тэкстаў Каліноўскага, я зрабіў выснову, што ён сам у тым месяцы адмовіўся ад выданьня шостага выпуску. Пераконвае ў гэтым і той факт, што тады ж пад тым самым шостым нумарам убачыў сьвет выпуск «Мужыцкай праўды» пра Ўніяцкую царкву.

Гэта былі часы падпольля, але татальных рэпрэсій яшчэ не было, і будучыя паўстанцы дзейнічалі адносна вольна і спакойна. Можна дапусьціць, што знойдзены больш як 30 гадоў таму падчас рэстаўрацыі Бэрнардынскага касьцёла ў Вільні рукапіс нявыдадзенага выпуску «Мужыцкай праўды» пра «Літву і літоўцаў» быў у кастрычніку 1862 году зь нейкіх прычын згублены. Але калі б Каліноўскі хацеў выдаць менавіта яго, такі рукапіс быў бы лёгка адноўлены. Відавочна, што рукапіс быў менавіта адкінуты лідэрам будучага паўстаньня, прызнаны неактуальным і трапіў у ягоны архіў. Не дарма «літоўскі» нумар быў знойдзены разам з асабістымі рэчамі Каліноўскага. Гэта — вельмі важкі факт і аргумэнт.

Таму я і зрабіў выснову, што якраз тады, магчыма, у спрэчках з астатнімі сябрамі рэдакцыі — Фэліксам Ражанскім, Станіславам Сангіным, Валерыем Урублеўскім і Францішкам Юндзілам — Кастусь Каліноўскі прыняў канчатковае рашэньне, як будзе называцца яго народ.

І гэта было лёсавызначальнае рашэньне. Пад назвамі «Беларусь» і «беларусы» мы ўвайшлі ў XX стагодзьдзе і зноў сталі народам дзяржаўным, прайшоўшы шлях ад БНР да Рэспублікі Беларусь. Ужо гэта можа сьведчыць, што Каліноўскі не памыліўся.

1 лютага 1863 году ён стварыў Часовы правінцыйны ўрад Літвы і Беларусі, у далейшых сваіх тэкстах пісаў пра «край Літоўскі і Беларускі» і пра «народ зямлі Літоўскай і Беларускай». А ў «Лістах з-пад шыбеніцы» ён зьвяртаўся ўжо выключна да

беларусаў і атаясамліваў сябе менавіта зь беларускім народам. Гэтак жа і Нацыянальны ўрад у Варшаве свой зварот ад 3 траўня 1863 году адрасаваў ужо «братам-беларусам», прызнаючы тым самым іх гістарычную суб'ектнасьць, што было вынікам дзейнасьці Каліноўскага.

Слабасьць нашай разгромленай за апошнія дзесяцігодзьдзі гістарычнай навукі праявілася ў тым, што за больш як трыццаць гадоў, якія прайшлі з моманту знаходкі «літоўскага» нумару «Мужыцкай праўды», не былі праведзеныя тэксталягічная і графалягічная экспэртызы рукапісу і яго параўнаньне зь іншымі аўтографамі Кастуся Каліноўскага. Пра гэта я таксама пісаў у эсэ «Чаму Беларушчына перайшла Рубікон у 1862 годзе».

Почырк Каліноўскага адрозьніваецца ад почырку аўтара «літоўскага» нумару «Мужыцкай праўды». Літары ў Каліноўскага менш нахіленыя направа і больш круглыя, у яго іншае напісаньне малых літараў «j», «t» і некаторых іншых у параўнаньні з аўтарам «літоўскага» нумару.

Тым ня менш ацэнкі прафэсійнага графоляга яўна не хапала. Таму ў жніўні 2022 году я вырашыў ліквідаваць гэты прабел у нашай гістарычнай навуцы і аднёс копіі трэцяй часткі «Лістоў з-пад шыбеніцы» і старонкі «літоўскага» нумару «Мужыцкай праўды» да прафэсійнага праскага почырказнаўцы і графоляга. Гэта была псыхоляг і псыхатэрапэўт, выпускніца Карлавага ўнівэрсытэту і Праскай вышэйшай школы псыхасацыяльных дасьледаваньняў Надзя Зікмундава. Яна больш за 20 гадоў займаецца параўнаньнем

рукапісаў для вызначэньня тоеснасьці аўтараў і стварэньнем іх псыхалягічных партрэтаў.

Паколькі ў Чэхіі выкарыстоўваецца лацінскі альфабэт, а беларускія тэксты XIX стагодзьдзя, якія нас цікавяць, таксама пісаліся лацінкай, то іх графалягічны аналіз у Чэхіі цалкам карэктны і прымальны.

## Параўнаньне «Лістоў з-пад шыбеніцы» і «літоўскага» нумару «Мужыцкай праўды»

Рукапіс «літоўскага» нумару падчас экспэртызы атрымаў нумар адзін, а «Лісты з-пад шыбеніцы» — нумар два.

Графоляг вывучыла розныя формы пісьмовых літараў, націску, пачаткі і заканчэньні словаў, формы падрадковых і надрадковых элемэнтаў пісьма ды іншыя парамэтры почырку абодвух рукапісаў. (Такія ацэнкі графолягаў часта выкарыстоўваюцца ў крыміналістыцы.)

У прыватнасьці, Надзя Зікмундава зьвярнула ўвагу, што аўтар «Лістоў» выкарыстоўвае як пісьмовыя формы літараў, так і друкаваныя, што вельмі індывідуальна і не характэрна для XIX стагодзьдзя.

Вось вытрымка з заключэньня:

*«Мэтай графалягічнага разбору зьяўляецца адказ на пытаньне, ці належаць абодва тэксты таму самаму аўтару...*

*Апісаньне рукапісу 1, аўтар невядомы, рукапіс спрэчны:*

*- шырокае, рэгулярнае левае поле;*
*- літары злучаныя, маленькія;*
*- націск пісьма роўны, хутчэй слабы;*
*- тэндэнцыя радкоў роўная, дзяленьне на абзацы;*
*- рукапіс гарманічны, велічыня асобных зон выраўнаная;*
*- старанна выпісаныя ніжнія петлі, формы літараў толькі пісьмовыя;*
*- усечаныя канцавыя штрыхі літараў «і», «о»;*
*- канцавыя штрыхі літараў «D», «d» закручаныя.*

*Апісаньне рукапісу 2, аўтар вядомы, рукапіс для параўнаньня:*

*- вузкае нерэгулярнае левае поле;*
*- літары ня злучаныя, вялікія;*
*- перавага сярэдняй паласы пісьма;*
*- націск няроўны, моцны;*
*- тэндэнцыя радкоў роўная, месцамі прарывы ўніз пад уяўную лінію;*
*- дзяленьне на абзацы;*
*- выкарыстаньне камбінацыі пісьмовых і друкаваных літар;*
*- зьменлівыя ніжнія петлі;*
*- усечаныя канцавыя формы літараў «і», «о»;*
*- літары «D», «d» зьлёгку закручаныя.*

*Заключэньне:*

*Гаворка ідзе пра тэксты на замежнай мове, якія паходзяць з XIX стагодзьдзя, таму цяжка вызначыць школьны стандарт, паводле якога аўтар ці аўтары вучыліся пісаць, і зрабіць выс-*

*нову, наколькі яны таго стандарту трымаюцца ці, наадварот, не трымаюцца.*

*Рукапіс вядомага аўтара выкарыстоўвае камбінацыю пісьмовых і друкаваных літараў, што арыгінальна. Гэта азначае, што аўтар мадыфікаваў школьны стандарт пад сябе.*

*Можна меркаваць, што аўтар спрэчнага тэксту імкнецца прытрымлівацца школьнага стандарту.*

*Рукапісы адрозьніваюцца націскам пісьма і памерамі літараў. Пісьмо спрэчнага рукапісу расслабленае, неразрыўнае. Памер літараў, націск і расслабленасьць пераважна аўтаматызаваныя.*

*У рукапісах таксама можна знайсьці падобныя знакі, напрыклад, усечаныя канцавыя штрыхі літараў «і», «о». Некаторыя формы літараў падобныя.*

*З вышэйпададзеных прычын мяркую, што тут няма гаворкі пра аднаго і таго ж аўтара абодвух разгледжаных тэкстаў».*

Такім чынам, Кастусь Каліноўскі не пісаў тэксту пра тое, што «Зямля наша зь вякоў вечных называецца літоўская, а мы то называемся Літоўцы».

Гэта пацьвярджае маю думку пра Рубікон, які Беларушчына перайшла ў кастрычніку 1862 году.

## Псыхалягічная характарыстыка аўтара «Лістоў з-пад шыбеніцы»

Многія графолягі зьяўляюцца таксама прафэсійнымі псыхолягамі, якія, грунтуючыся на

аналізе рукапісаў і зусім ня ведаючы аўтараў, спрабуюць складаць іх псыхалягічны партрэт. Гэтая частка іх працы, у адрозьненьне ад почырказнаўства (або графааналізу), ня ўсімі ў сьвеце прызнаецца навуковаю. Таму, пасьля таго як Надзя Зікмундава вызначыла розласьць почыркаў, я ўсё ж папрасіў яе даць і псыхалягічныя характарыстыкі аўтараў абодвух рукапісаў, каб параўнаць складзены ёю партрэт Каліноўскага з тым, што мы дакладна ведаем пра яго.

Створаныя графолягам партрэты мяне надзвычай уразілі. У памяці адразу ўзьніклі імёны вядомых сучасных беларускіх і замежных палітыкаў.

Паводле Надзі Зікмундавай, трэцюю частку «Лістоў з-пад шыбеніцы» пісаў чалавек вельмі рашучы, валявы, сьмелы, здольны на адстойваньне сваёй пазыцыі і на ламаньне стэрэатыпаў, якое выяўляецца ў адступленьні ад чыста рукапіснага характару тэксту ў бок пэўнай формы друкаваных літар, якія ў Чэхіі называюцца skripty. Аўтар «Лістоў...», паводле графоляга, здольны ісьці да канца.

Вось яго псыхалягічны партрэт у перакладзе з чэскай мовы:

*«Аркадападобнае злучэньне літар азначае, што аўтар трымаўся шляхетна, захоўваў дыстанцыю і ня быў вельмі адкрыты для новых уражаньняў. Ён ствараў свае ўласныя стандарты ў ацэнцы навакольнага сьвету і звычайна быў даволі староны ў меркаваньнях. Ён вытрываў даволі*

*значную псыхічную і фізычную нагрузку, не выяўляючы пры гэтым прыкмет разладу.*

*Памер літараў адлюстроўвае ўяўленьне пра сябе, пра сваю ролю ў сьвеце. Ён лічыў, што мае права патрабаваць для сябе вялікай прасторы для доказу сваёй рацыі незвычайнымі ўчынкамі і, як выглядае, быў у гэтым аж непрыемна настойлівы.*

*Ён не любіў падладжвацца да аўтарытэтаў, што, улічваючы ўзрост аўтара, можа быць патрэбай вызначыць сябе ў адносінах да навакольнага сьвету і пэўнай формай свавольнасьці. Ён меў патрэбу ў незалежнасьці, свабодзе і хацеў быць сам сабе гаспадаром.*

*Націск пісьма сьведчыць пра высокую ступень жыцьцяздольнасьці, зьяўляецца праявай псыхічнай устойлівасьці чалавека, якога зьнянацку нічым не агаломшыш. Ён без праблем адольваў перашкоды. Нязлучанае пісьмо ёсьць праявай інтуіцыйнага складанага мысьленьня. Гаворка пра імгненныя азарэньні ды ідэі, якія ня маюць патрэбы ў кантэксьце. Яму ня надта добра працавалася ў калектыве, ён быў індывідуалістам, здольным да самастойнай працы, прыроджаным лідэрам. Яго недахопам магла быць жорсткасьць пры ажыцьцяўленьні сваіх намераў. Ён, верагодна, быў звыклы вырашаць праблемы сілай».*

Вось так з глыбіні часу, амаль праз 160 гадоў, паўстае для нас постаць і характар кіраўніка Часовага правінцыйнага ўраду Літвы і Беларусі і «Чырвонага жонду», заснавальніка мадэрнай беларускай нацыі Кастуся Каліноўскага.

Мы наяве бачым, што людзі зь лідэрскімі якасьцямі бяз розьніцы іх палітычных арыентацый валодаюць шмат у чым падобнымі характарамі. Але ёсьць і адрозьненьні. Пасьля таго як графоляг дала свае заключэньні, я расказаў ёй пра Кастуся Каліноўскага і ягоны лёс. Праз два дні яна пазваніла і сказала, што зноў паглядзела рукапіс трэцяй часткі «Лістоў з-пад шыбеніцы» і параўнала псыхатып Каліноўскага зь вядомымі дзяржаўнымі лідэрамі XX–XXI стагодзьдзяў, у тым ліку з Сталіным, Гітлерам, Пуціным і Лукашэнкам. Ключавое адрозьненьне Каліноўскага ад згаданых асоб, паводле Надзі Зікмундавай, палягае ў адсутнасьці пачуцьця помсты. Яна лічыць, што, нягледзячы на раньнюю страту маці, ён не адчуваў сябе пакрыўджаным лёсам, ня меў у дзяцінстве праблем з аднагодкамі, захоўваў шляхетнасьць, падабаўся жанчынам і быў адданы ня ўласнаму «я», але сваім ідэям, якія лічыў карыснымі для грамадзтва.

## Псыхалягічная характарыстыка аўтара «літоўскага» нумару «Мужыцкай праўды»

Чалавек, які пісаў прапанаваныя для экспэртызы старонкі «літоўскага» нумару «Мужыцкай праўды», паводле графоляга, быў старэйшы за аўтара «Лістоў з-пад шыбеніцы», больш асьцярожны, дыпляматычны і не любіў рызыкаваць.

Вось яго псыхалягічны партрэт у перакладзе з чэскай мовы:

*«Гарманічна разьвіты почырк з малым вэртыкальным дыяпазонам літараў сьведчыць пра ўстойлівую, сьпелую, гарманічна разьвітую асобу.*

*Аўтар быў разважлівы і практычны, пазбаўлены ўяўленьня, асьцярожны. Ён баяўся рызыкі і не дазваляў сабе аддацца эмоцыям.*

*У сваёй прафэсіі ён, відаць, быў акуратны і дакладны, добры назіральнік, заўважаў нават дробязі. Не перашкаджала яму прыземленасьць і штодзённасьць, наадварот, ён зь недаверам ставіўся да ўсяго новага, што выходзіла за рамкі агульнапрынятага.*

*Злучанасьць пісьма сьведчыць на рацыянальным узроўні пра здольнасьць думаць кантэкстуальна і лягічна.*

*Хоць графалягічны мэтад не дазваляе вызначыць узрост аўтара тэксту, можна меркаваць, што ён быў чалавекам сярэдніх гадоў».*

Да гэтага графоляг дадала, што аўтар рукапісу «літоўскага» нумару быў паважаны ў сваім атачэньні і мог аказваць стрымальнае ўзьдзеяньне на аўтара «Лістоў з-пад шыбеніцы», калі б яны былі знаёмыя.

Мне ж застаецца дадаць, што ў рэдакцыі «Мужыцкай праўды» значна старэйшымі за Кастуся Каліноўскага былі Станіслаў Сангін і Францішак Юндзіл — першы на дваццаць гадоў, другі на трынаццаць. Абодва ў 1863 годзе ўзначалілі паўстанцкія аддзелы. Сангін у лютым 1863 году загінуў у баі з царскімі войскамі ў родных ваколіцах Рэчыцы. Юндзіл у якасьці начальніка Слонім-

скага павету ўдзельнічаў у бітве пад Мілавідамі, у 1865-м памёр ад сухотаў у Парыжы.

Яны, на маю думку, і зьяўляюцца верагоднымі кандыдатамі на аўтарства «літоўскага» выпуску «Мужыцкай праўды».

Але маглі гэта быць і іншыя людзі. Пра што сьведчыць яшчэ адно заключэньне графоляга, аб якім мова пойдзе далей.

## Аўтарства дакумэнтаў, знойдзеных Алесем Смаленчуком

Прызначанага на 16 жніўня прыёму ў графоляга я чакаў тыдзень.

Так сталася, што за дзень да гэтага гісторык Алесь Смалянчук апублікаваў старонкі яшчэ двух беларускіх тэкстаў XIX стагодзьдзя — «Каімшчыны на Літве і Белайрусі» і рукапісу бяз назвы, які зьяўляецца чарнавікам звароту да папы Рымскага з апісаньнем перасьледу і пакутаў Уніяцкай царквы. Гэтыя тэксты былі знойдзеныя разам з асабістымі рэчамі Кастуся Каліноўскага, а значыць, маглі паходзіць зь яго асабістага архіву ці з архіву рэдакцыі «Мужыцкай праўды». Іх я таксама захапіў з сабой да графоляга.

Разам з трэцяй часткай «Лістоў з-пад шыбеніцы» і старонкай «літоўскага» нумару «Мужыцкай праўды» рукапісаў для аналізу, такім чынам, было чатыры.

Графоляг пасьля вывучэньня рукапісаў вызначыла ў сваім заключэньні, што ўсе чатыры дакумэнты напісаныя (увага!) рознымі асобамі.

*«Дадатковае тлумачэньне да тэкстаў, пазначаных № 3 і 4:*

*— тэкст, пазначаны № 3, пісаны павольна з старанна выпрацаванай формай почырку, з гэтага вынікае, што гаворка, праўдападобна, пра перапісаны, неспантанны тэкст;*

*— тэкст, пазначаны № 4, праўдападобна, уяўляе сабою нейкі канспэкт, магчыма, пісаны ў некалькі этапаў з увагі на варыяцыйнасьць формаў, у цэлым крыху няўстойлівы почырк з гледзішча нахілу і памеру літараў.*

*Магу канстатаваць, што тэксты 1, 2, 3, 4 належаць чатыром розным аўтарам».*

У вусным камэнтары графоляг зноў падкрэсьліла, што рукапіс «Каімшчыны на Літве і Белайрусі», хутчэй за ўсё, зьяўляецца варыянтам тэксту, створанага раней іншай асобай, а пасьля начыста перапісанага сакратаром ці пісарам, але гэта не абавязкова так.

## Мае высновы

Надзвычай важныя заключэньні графоляга паказваюць на тое, што вакол Кастуся Каліноўскага існавала цэлае кола беларускамоўных аўтараў.

І гэта былі не пісьменьнікі ці паэты, якія займаліся выключна мастацкай творчасьцю. Гэта былі ўдзельнікі падпольнай палітычнай арганізацыі, якая ставіла перад сабой палітычныя мэты. Яны пісалі агітацыйныя праклямацыі і палітычныя тэксты, у адным зь якіх сьцьвярджалася:

«Масква перасьледуе мову польскую, беларускую, маларускую, літоўскую і навязвае маскоўскую; мы хочам, каб кожная мова разьвівалася паводле ўласнай жыцьцяздольнасьці: і літоўская, і беларуская, і маларуская, і польская»*, а іх паролем быў знакаміты дыялёг: «Каго любіш? — Люблю Беларусь! — То ўзаемна!».

Вынікі почырказнаўчай экспэртызы пацьвярджаюць маю ранейшую выснову аб тым, што група Каліноўскага сапраўды стаяла ля вытокаў беларускай нацыянальнай палітычнай гісторыі.

Дзяржаве Беларусі было наканавана ўзьнікнуць толькі праз паўстагодзьдзя. Але ідэя Беларусі — як нацыянальнага арганізму і асобнай краіны пад такой назвай — палітычна нарадзілася менавіта падчас паўстаньня 1863–1864 гадоў.

Кожны беларус павінен гэта ведаць.

* «Głos z Litwy», 1 красавіка 1864 году.

## Чаму прэзыдэнт Польшчы схібіў на пахаваньні Каліноўскага

Таго, што перажылі беларусы ў Вільні 22 лістапада 2019 году падчас перапахаваньня Кастуся Каліноўскага, думаю, ніхто зь іх не забудзе да канца жыцьця. Гэта была неверагодная, містычная і фээрычная падзея, у якой, бясспрэчна, бралі ўдзел ня толькі людзі, але і нябёсы.

### Дзякуй Літве і дзякуй беларусам

Велізарная падзяка і паклон у ногі належыцца ўладам Літвы. Цырымонія дзяржаўнага пахаваньня была зладжаная на найвышэйшым арганізацыйным і эмацыйным узроўні.

Велічная багаслужба з шырокім выкарыстаньнем беларускай мовы, найвышэйшы склад удзельнікаў, беззаганны рытуал, ганаровая варта, калёна біскупаў і сьвятароў перад трунамі, тысячы беларусаў пад нацыянальнымі сьцягамі — усё гэта застанецца ў розумах і сэрцах людзей назаўжды. Дзякуй, Літва!

І дзякуй, беларусы! Вы, а ня ўрад, уратавалі гонар Беларусі!

Тым больш прыкра, што на гэтым ясным даляглядзе былі і маленькія хмаркі. Мова ідзе пра тэрміналёгію, выкарыстаную прэзыдэнтам Польшчы Анджэем Дудам падчас прамовы ў віленскай катэдры.

## Хіба першая: сымфонія бязь дзьвюх частак

Гаворачы пра цудоўную сымфонію культур, якая гучала ў Рэчы Паспалітай на працягу 400 гадоў яе існаваньня, прэзыдэнт сказаў, што гэтая сымфонія была чуваць па-польску, па-літоўску, па-руску, на ідышы і на многіх іншых мовах — «słychać było mowę polską, litewską, ruską, jidysz i wiele innych».

Тут дзьве недакладнасьці. Па-першае, Рэч Паспалітая ўсё ж існавала крыху больш за 200 гадоў, а не 400. Пэрсанальную Крэўскую унію нельга лічыць пачаткам Рэчы Паспалітай. Па-другое, на месцы згадкі пра «рускую» мову ў XXI стагодзьдзі павінны былі стаяць «беларуская» і «ўкраінская».

У выніку на заўтра галоўнае інфармацыйнае агенцтва Польшчы — PAP — пераказваючы прамову Дуды, назвала згаданую Дудам у гэтым месцы «рускую» мову «расейскай»!

## Хіба другая: не па-руску, а па-беларуску

Падчас прамовы прэзыдэнт Польшчы агучыў лёзунг папярэдняга паўстаньня «За нашу і вашу свабоду» на трох мовах — па-польску, па-літоўску і па-беларуску (!). І тут жа недарэчна заявіў, што гэты ж лёзунг быў напісаны на штандарах і ў сэрцах герояў студзеньскага паўстаньня 1863 году па-польску, па-літоўску і па-руску — «To samo hasło na sztandarach i głęboko w sercach wypisane

mieli wszyscy nasi bohaterscy bojownicy — po polsku, litewsku, rusku».

Дык па-руску ці па-беларуску?

## Хіба трэцяя: дзе змагаліся нашы татары

Згадваючы пра ўдзел татар-мусульман у супольнай барацьбе народаў былой Рэчы Паспалітай на тэрыторыі былога Вялікага Княства Літоўскага, прэзыдэнт Польшчы сказаў, што гэтая барацьба адбывалася на Літве і Русі — «w partiach powstańczych na Litwie i Rusi, obok chrześcijan, walczyli także Tatarzy, muzułmanie od stuleci pozostający w służbie Rzeczypospolitej».

Няма ніякай (апрача наўмысна палітычнай ці ненаўмысна недарэчнай) прычыны выкарыстоўваць сёньня тэрміналёгію XIV–XVIII стагодзьдзяў, нават калі ў Польшчы некаторыя публіцысты называлі Беларусь «Русьсю» аж да пачатку XX стагодзьдзя.

## Хіба чацьвёртая: Горадзеншчына ці ўся Беларусь?

Нарэшце, характарызуючы двух лідэраў паўстаньня, труны якіх стаялі асобна ад рэшты герояў, прэзыдэнт Польшчы назваў Кастуся Каліноўскага лідэрам паўстанцаў Горадзеншчыны, будзіцелем беларускага народу да супольнай з палякамі і літоўцамі вайны за скідваньне маскоўскага ярма — «oraz Wincentego Konstantego Kalinowskiego — przywódcy powstańczej

Grodzieńszczyzny, budziciela ludu białoruskiego do wspólnej z Polakami i Litwinami walki o zrzucenie moskiewskiego jarzma».

Тут, канечне, зьвяртае на сябе ўвагу фраза «лідэр паўстанцаў Горадзеншчыны». Гісторыя, аднак, сьведчыць пра іншае.

- Кастусь Каліноўскі ў кастрычніку 1862 году ўзначаліў Літоўскі правінцыйны камітэт.
- 1 лютага 1863 году Каліноўскі ўзначаліў Часовы правінцыйны ўрад Літвы і Беларусі.
- У сакавіку 1863 году Каліноўскага адхілілі ад пасады «белыя» (кансэрватары, прыхільнікі шчыльнага саюзу з Польшчай) і накіравалі яго на пасаду рэвалюцыйнага камісара Горадзенскага ваяводзтва.
- У жніўні 1863 году Кастусь Каліноўскі вярнуўся да кіраўніцтва ўсёй узброенай барацьбой на тэрыторыі Літвы і Беларусі і стаў старшынём Выканаўчага аддзелу Літвы.

Выбраўшы кароткі пэрыяд знаходжаньня Каліноўскага на пасадзе рэвалюцыйнага кіраўніка Горадзеншчыны, аўтары прамовы польскага прэзыдэнта зрабілі яму дрэнную паслугу.

Яны прынізілі ролю Каліноўскага ў паўстаньні і выклікалі падазрэньне, што зрабілі гэта наўмысна ў адказ на незалежніцкую рыторыку айцазаснавальніка мадэрнай Беларусі.

## Падзяка Анджэю Дуду

Гістарычна беларускі і польскі народы зьвязаныя тысячамі культурных і асабовых ніцяў,

а многіх дзеячоў культуры XIX стагодзьдзя мы наогул называем беларуска-польскімі.

І сёньня Польшча аказвае велізарную дапамогу дэмакратычнай Беларусі — гэта і спрыяньне НДА, і студэнцкая праграма Каліноўскага, і тэлеканал «Белсат», і шмат чаго іншага.

Я думаю, што зьяўленьне ў рыторыцы найвышэйшай афіцыйнай асобы Польшчы тэрміналёгіі XIV–XVIII стагодзьдзяў — гэта прыкрая недарэчнасьць, якую дапусьцілі аўтары прамовы. Тым больш што прамова прэзыдэнта Літвы Гітанаса Наўседы была ў гэтым сэнсе бездакорнаю.

Але, нягледзячы на тэндэнцыйныя памылкі сьпічрайтэраў, прамова прэзыдэнта Польшчы Анджэя Дуды ўсё роўна была прыхільнаю да Беларусі і беларусаў. Дзякуй яму за гэта!

А ці захоча ён пасьля паездкі ў Вільню зьмяніць аўтараў сваіх прамоваў — гэта ўжо яго асабістая справа як палітыка і як чалавека.

## Чаму Скарыну нельга «разьбеларусіць»

У лістападзе 2021 году ў Празе адбылася прэзэнтацыя кнігі выкладчыка Карлавага ўнівэрсытэту доктара Ільлі Лямешкіна «Портрет Франциска Скорины». Кніга вельмі цікавая і грунтоўная, з глыбокім аўтарскім аналізам ілюстрацый Скарынавых выданьняў, зробленым на шырокім фоне мастацтва паўночнаэўрапейскага Рэнэсансу.

Аўтар кнігі выказаў шэраг нестандартных навуковых гіпотэз і зрабіў вельмі нечаканыя, наватарскія высновы. У прыватнасьці, ён сьцьвярджае, што расшыфраваў партрэт Францішка Скарыны і вызначыў сапраўдную дату яго нараджэньня — 1470 год.

Пакуль ня ўсе гісторыкі згаджаюцца з гіпотэзай пра новы ўзрост Скарыны, бо ёй супярэчаць пэўныя гістарычныя факты. У прыватнасьці, калі 5 лістапада 1512 году ў царкве Сьвятога Урбана ў Падуі сабралася на паседжаньне мэдычная калегія Падуанскага ўнівэрсытэту, то, прадстаўляючы Скарыну, віцэ-прыёр калегіі, доктар свабодных навук і мэдыцыны Тадэо Мусаці тройчы назваў кандыдата-палачаніна маладым чалавекам, юнаком. Гісторыкам здаецца праблематычным, каб 42-гадовага мужчыну маглі назваць тады маладзёнам.

Тым ня менш выхад кнігі доктара Лямешкіна трэба лічыць значнай падзеяй у эўрапейскім

скарыназнаўстве, яго праца адкрывае новыя далягляды і кірункі дасьледаваньня Скарынавай спадчыны. Хочацца шчыра павіншаваць доктара Лямешкіна з такім значным і этапным дасягненьнем.

І тым больш прыкрымі выглядаюць некаторыя дэталі кнігі і трактоўкі доктара Лямешкіна і яго чэскіх калегаў, пра якія тут пойдзе гаворка.

## Перадгісторыя

Для адзначэньня 550-й гадавіны з дня нараджэньня асьветніка (у адпаведнасьці з высновамі Ільлі Лямешкіна) у 2020 годзе па Чэскай Рэспубліцы пачалося турнэ выставы, прысьвечанай Францішку Скарыну, якая ўпершыню была разгорнутая ў Славянскай бібліятэцы Прагі ў 2017 годзе, да 500-годзьдзя Скарынавай Бібліі. Выстава была створаная ў супрацоўніцтве літоўскімі і чэскімі навукоўцамі і называлася «Францішак Скарына (1470–1552). Рэнэсансны інтэлектуал паміж Прагай і Вільнюсам».

Выстава вандравала па адміністрацыйных краях Чэхіі ў рамках акцыі, прысьвечанай беларускай культуры «Сусьветная спадчына UNESCO — Беларусь», у суправаджэньні аднаго з аўтараў выставы, доктара Ільлі Лямешкіна.

Вясной 2021 году ў Чэхіі ўсчаўся скандал, бо мясцовыя беларусы на адным са стэндаў выставы прачыталі зьняважлівы для Скарыны і ўсёй Беларусі наступны пасаж пра суправаджальныя тэксты да помніка Скарыну на Градчанах у Празе

і да Скарынавай памятнай шыльды на будынку Славянскай бібліятэкі ў чэскай сталіцы:

«Doprovodné texty prezentující pomníky [Skoriny] se vyznačují řadou nepřesností — především tou, že Rutenus Skorina je nazýván Bělorusem a jeho knihy překladem bible do běloruštiny».(Суправаджальныя тэксты, якія рэпрэзэнтуюць помнікі, вызначаюцца шэрагам недакладнасьцяў — найперш той, што рутэн Скарына называецца беларусам, а яго кнігі — перакладам Біблії на беларускую мову).

Тут маем простую фальсыфікацыю. На праскіх помніках Скарыну слова «беларус» няма ўвогуле. На шыльдзе каля помніка Скарына названы «беларускім гуманістам», а на шыльдзе ў Славянскай бібліятэцы — «беларускім асьветнікам». Кожнаму зразумела, што «беларускім асьветнікам» можа быць хто заўгодна — русін, паляк, татарын, жмудзін.

У адказ на крытычную публікацыю беларускага гісторыка-дактаранта Паўла Котава Ільля Лямешкін напісаў:

«Франциск Скорина на выставке представлен в единственно возможном ключе — в культурно-историческом контексте своей эпохи: в контексте Чешского королевства, Великого княжества Литовского, в контексте ягеллонской Праги resp. Европы первой половины XVI века. Полно нести чушь и с современной перспективы идеологизировать историю и научный дискурс».

Беларусы напісалі лісты пратэсту дырэктару Славянскай бібліятэкі і ў іншыя месцы,

але атрымалі дзяжурныя адпіскі. Тым ня менш скандальны стэнд вясной 2021 году з выставы быў прыбраны, далей яна вандравала па краіне безь яго. І далей на ёй Ільля Лямешкін прэзэнтаваў сваю кнігу, у якой у дачыненьні да Скарыны адсутнічаюць тэрміны «беларус» і «беларускі». Скарыну аўтар называе «рутенским издателем», «рутенским космополитом».

Доктар Ільля Лямешкін — лінгвіст, літуаніст. Лінгвістам зьяўляецца і яго калега, старшыня Праскага лінгвістычнага гуртка доктар Томаш Госкавец, які таксама мае працы, прысьвечаныя літоўскай мове.

Абодва навукоўцы ў 2017 годзе глыбока і аддана ангажаваліся ў арганізацыю памятных мерапрыемстваў, у тым ліку чэска-літоўскай навуковай канфэрэнцыі ў Празе з нагоды 500-годзьдзя Скарынавай Бібліі.

На той канфэрэнцыі Томаш Госкавец, выступаючы па-расейску з тэкстам пра Сымона Буднага, заявіў:

«Несомненно, Симон Будный был литовцем, родным языком которого был рутенский».

Ніякага адказу з боку беларускіх удзельнікаў канфэрэнцыі не было. Не зьявілася ніякай рэакцыі ад беларускіх гісторыкаў і ў наступныя гады аж да цяперашняга часу.

У гэтай сувязі даводзіцца нагадаць паважаным мной праскім лінгвістам, што ня толькі лінгвістыка, але і гісторыя — гэта сур’ёзная навука, якая мае сваю сфэру інтарэсаў, тэарэтычную базу, апарат паняцьцяў, дакладную мэтадалёгію

і прынцыпы. Этнасы і нацыі, формы племяннной, этнічнай і нацыянальнай сьвядомасьці зьяўляюцца амаль выключна сфэрай зацікаўленьня гістарычнай навукі, у тым ліку такіх яе галінаў, як этналёгія і антрапалёгія.

Аматарскае ўмяшаньне ў гэтую сфэру непрадуктыўнае і можа прыводзіць да памылковых высноў.

## Навуковая памылка доктара Томаша Госкаўца

Прынцып аб’ектыўнага гістарычнага дасьледаваньня, сфармуляваны францускімі гісторыкамі ў 2005 годзе ў адказ на ўхваленьне парлямэнтам Францыі рэкамэндацый для асьвятленьня францускага каляніялізму, быў падтрыманы навукоўцамі іншых краін сьвету і сёньня зьяўляецца агульнапрызнаным. Ён заключаецца ў тым, што гісторыкі ня хваляць і не асуджаюць мінулае, не трактуюць яго з пазыцый сёньняшніх прыярытэтаў і не пераносяць туды актуальныя ідэалягічныя схемы, а толькі стараюцца зразумець падзеі мінуўшчыны ў іх прычыннай сувязі і патлумачыць іх сваім сучасьнікам.

Да ідэалягічных схемаў можна аднесьці і нацыю, якая зьяўляецца ня толькі гістарычным і сацыяльным фэномэнам, але і сучасным ідэалягічным канструктам.

Назваўшы Буднага «літоўцам, роднай мовай якога была рутэнская», Томаш Госкавец зрабіў сур’ёзную навуковую памылку.

Справа ў тым, што нацый у XVI стагодзьдзі не існавала.

Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае не было нацыянальнай дзяржавай. Яно не было і шматнацыянальнай дзяржавай. Яно нават не было і этнічнай дзяржавай балцкіх продкаў сучасных літоўцаў.

У XVI стагодзьдзі Княства было фэадальнай шматэтнічнай дзяржавай, у якой дамінавалі славянская («руская») мова і культура, традыцыйнае «рускае» права, традыцыйныя «рускія» дзяржаўныя формы і апарат.

Насельніцтва гэтай дзяржавы не было нацыяй, ня мела адзінага назову, складалася зь некалькіх этнасаў або этнічных груп, кожны (-ая) зь якіх меў сваю асобную этнічную ідэнтычнасьць, часткай якой былі ідэнтычнасьці моўная, рэлігійная і культурная.

Назваўшы Сымона Буднага «литовцем, родным языком которого был рутенский», Томаш Госкавец памылкова перанёс у XVI стагодзьдзе ідэалягічны канструкт XIX–XX стагодзьдзяў — нацыю — і зрабіў прыемны жэст у бок нацыянальнага гістарычнага міту сучасных літоўцаў, які складаўся ў XX стагодзьдзі ня самымі прафэсійнымі літоўскімі гісторыкамі і які не адпавядае гістарычнай праўдзе, бо разглядае Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае як этнічна літоўскую дзяржаву.

Насамрэч балцкія продкі сучасных літоўцаў у першай палове XVI стагодзьдзя складалі 1/10 (адну дзясятую) частку насельніцтва Княства, ня

мелі свайго пісьменства, карысталіся ў грамадзкім і дзяржаўным жыцьці «рускай» мовай і па-ранейшаму актыўна «русыфікаваліся», а балта-славянская мяжа на тэрыторыі сучаснай Беларусі няспынна адсоўвалася на паўночны захад аж да першай паловы XX стагодзьдзя.

Адносна ж паходжаньня Сымона Буднага гісторыкі спрачаюцца дагэтуль. Адны сьцьвярджаюць, што ён быў русінам, іншыя называюць яго мазурам з Мазовіі, які, аднак, працуючы ў Вільні і Нясьвіжы, стаў гарачым патрыётам «рускай» мовы і заклікаў некалі балцкі род Радзівілаў, які ў XVI стагодзьдзі быў ужо аславянены, не забывацца на «рускую» мову, бо на ёй размаўлялі іх продкі:

«Слушная бо речь ест, абы ваши княжацские милости того народу язык миловати рачили, въ котором давъные предъки и их княжацъские милости панове отци ваших княжецских милости славне преднейшие преложеньства несуть».

## Памылковая тэрміналёгія доктара Ільлі Лямешкіна

Тэрмін «ruthenus» зьяўляецца лацінскім адпаведнікам слова «русін». У першай палове XX стагодзьдзя чэскія гісторыкі ўвялі тэрмін «ruthenus» для азначэньня полацкіх і кіеўскіх русінаў, каб адрозьніць іх ад русінаў закарпацкіх, якія тады апынуліся ў складзе навастворанай чэхаславацкай дзяржавы.

Сёньня гэты тэрмін выкарыстоўваецца як у напісаных па-чэску працах, так і ў некаторых іншых заходнеэўрапейскіх мовах. У працах гісторыкаў з шэрагу краін Усходняй Эўропы, якія мелі гістарычныя дачыненьні зь Вялікім Княствам Літоўскім, ужываецца тэрмін «русін». У прыватнасьці, ужываюць яго палякі — самы моцны ў сэнсе разьвіцьця гуманітарнай навукі народ нашай часткі Эўропы. Нават у Літве прыдуманы раней для азначэньня «рускай» мовы XVI стагодзьдзя штучны тэрмін «канцылярская мова» ў 1990-я гады XX стагодзьдзя пачалі замяняць на «rusėnų kalba» («мова русінаў»).

Мне здаецца, што вызначэньне доктарам Лямешкіным Францішка Скарыны «рутеном», «рутенским издателем» і «рутенским космополитом» у расейскамоўнай кнізе якраз і зьяўляецца ня чым іншым, як «идеологизацией истории и научного дискурса», супраць чаго ён запратэставаў у адказе Паўлу Котаву.

Настойлівае і падкрэсьленае выкарыстаньне тэрмінаў «рутен», «рутенский» зьяўляецца абслугоўваньнем сучаснага нацыянальнага літоўскага гістарычнага міту. Гэта «начётническая» спроба пазбавіць Скарыну яго «рускасьці», яго палымянага «рускага» патрыятызму, якая хавае ад нас саму ідэалягічную сутнасьць і зьмест усёй Скарынавай дзейнасьці, яго магутны інтэлектуальны чын — пераклад Сьвятога Пісаньня на родную мову, асьвета і дабро яго роднага «рускага» народу. Пра гэта сьведчыць як назва ягонай Бібліі, так і шматлікія прадмовы і пасьляслоўі, дзе

Скарына піша, на якую менавіта мову пераклаў чарговую кнігу:

«Выложены доктором Франциском Скориною из славнаго града Полоцка на руский язык».

«Зуполне выложены на руский язык».

«Наболей с тое причины, иже мя милостивый бог с того языка на свет пустил».

«А то для того, абы братия моя Русь, люди посполитые, чтучи могли лепей разумети».

«Тако ж и мы, братия, не можем ли во великих послужити посполитому люду рускаго языка, сие малые книжки праци нашее приносимо им».

Дзе ж тут «рутенский комополитизм»? Дзе тут балты і племя «Літва»? Гэта палымяны раньнемадэрны маніфэст «рускага» патрыятызму вялікага палачаніна. І ў ім няма месца балцкім продкам сучасных літоўцаў — жамойтам-жмудзінам, аўкштайтам, прусам і яцьвягам.

Прыехаўшы з Прагі ў Вільню, Скарына прыехаў у свой горад, дзьве траціны насельніцтва якога складалі русіны, «рускія», а адну траціну — продкі сучасных літоўцаў, палякі, габрэі і немцы. Сёньняшні Стары горад Вільні ад Вострай брамы і аж да Катэдральнага пляцу ў часы Скарыны называўся «Рускім горадам» («Civitas Ruthenica» ў лацінскіх тэкстах), яго пабудавалі і засялялі пераважна русіны, «Русь». Астатнія, за выключэньнем арыстакратаў, сяліліся на ўскраінах. У Вільні жылі як сваякі Скарыны, так і мэцэнаты яго праскіх выданьняў, багатыя віленскія мяшчане.

Разам з тым трэба разумець, што неад’емнай часткай «рускага» патрыятызму Скарыны быў

яго «полацкі» патрыятызм. Менавіта таму ён бясконца падкрэсьліваў сваё паходжаньне «из славнаго града Полоцка» і называў сябе «сыном с Полоцка». У мяне не выклікае сумненьня, што гэта была культурна-гістарычная, амаль «нацыянальная» памяць Скарыны пра слаўную гісторыю Полацкай дзяржавы Рагвалодавічаў і гонар за яе.

У часы Скарыны Полацак быў другім па велічыні і багацьці горадам Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Вільня тады налічвала толькі 200 гадоў свайго гістарычнага існаваньня, а Полацак — амаль 700 гадоў і больш за 500 гадоў пісьмовай культуры. Некаторыя гісторыкі вылучаюць палачанаў у асобную ад астатніх крывічоў этнічную групу. Існуюць пісьмовыя дакумэнты XIV–XV стагодзьдзяў, якія сьведчаць пра вялікі гонар палачанаў за сябе і свой горад.

Бяз рызыкі памыліцца можна сказаць, што Скарыну не было ніякага клопату да асьветы балцкіх жыхароў Вялікага Княства Літоўскага, да разьвіцьця іх культуры і мовы. Менавіта таму «рускі» патрыятызм Скарыны моцна перашкаджаў бы сучасным літоўцам, калі б яны захацелі інтэграваць яго ў свой гістарычны міт і пантэон.

І вось тут нечакана на дапамогу ў Празе прыходзяць навукоўцы, якія паслужліва зацямняюць зьмест Скарынавай дзейнасьці, дэідэнтыфікуюць яго, ператвараючы з «рускага» патрыёта ў нейкага бесьцялеснага «рэнэсанснага інтэлектуала паміж Прагай і Вільнюсам», «рутенского кос-

мополита» — без радзімы, бяз роду-племені, бяз мовы, ідэнтычнасьці і без патрыятызму.

Але трэба прызнаць, што задача гэтая як ненавуковая, так і непасільная нікому. Этнічны зьмест Скарынавага патрыятызму зацямніць немагчыма.

## Пераемнасьць паміж жыхарамі Вялікага Княства Літоўскага і сучаснымі літоўцамі і беларусамі

Тэрмін «нацыянальны» ў наш час мае амбівалентны характар. З аднаго боку, кажучы «нацыянальны», мы маем на ўвазе нешта, што мае дачыненьне да нацыі як гістарычнага і сацыяльна-палітычнага фэномэну. А з другога, гаворачы, напрыклад, пра «нацыянальныя строі», маем на ўвазе чыста этнаграфічную, этнічную зьяву.

У строга навуковым сэнсе балцкія этнічныя групы Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага XVI стагодзьдзя не ідэнтычныя сучасным літоўцам, як і тагачасныя полацкія, магілёўскія і менскія русіны не ідэнтычныя сучасным беларусам.

Але ў звычайным навуковым абыходзе, нават у кнігах гісторыкі часта называюць жамойтаў ці аўкштайтаў літоўцамі, а русінаў Полацку, Магілёва ці Менску — беларусамі. У выпадку літоўцаў гэта пераважна не выклікае пярэчаньняў, у выпадку ж беларусаў — выклікае, і вельмі моцныя.

Лінгвісты Томаш Госкавец і Ільля Лямешкін належаць да ліку навукоўцаў, якія апэруюць па-

няцьцем «рутэнскасьці» і лічаць, што называць Скарыну беларусам ненавукова. Доктар Лямешкін, як мы бачылі, мяркуе, што гэта азначае «нести чушь и с современной перспективы идеологизировать историю и научный дискурс».

Гэта ня што іншае, як адмаўленьне прамой пераемнасьці паміж полацкімі, магілёўскімі і менскімі русінамі і сучаснымі беларусамі. У сьветапоглядзе такіх навукоўцаў «рутэны» — гэта нейкія цалкам зьніклыя этрускі ВКЛ, якіх асымілявалі прышлыя аднекуль беларусы і ўкраінцы.

Але ў такім выпадку прыхільнікам «рутэнства» трэба адказаць на шэраг заканамерных пытаньняў:

- Калі сучасныя беларусы захапілі тэрыторыю сучаснай Беларусі?
- Адкуль беларусы прыйшлі? Дзе іх гістарычныя карані?
- Што сталася з русінскім насельніцтвам на тэрыторыі сучаснай Беларусі? Калі яно было зьнішчана беларусамі, то падчас якіх гістарычных падзей гэта адбылося, у якія даты?
- Калі ж русіны былі асыміляваныя беларусамі, то які характар насіла асыміляцыя — гвалтоўны ці мірны?
- Калі гвалтоўны, то ў выніку якіх захадаў і працэсаў?
- Калі мірны — то якую форму насіла асыміляцыя? Этнографы і генэтыкі, напрыклад, ведаюць, што падчас асыміляцыі балтаў славянамі на тэрыторыі сучаснай Беларусі, якая пра-

цягвалася з 1 тысячагодзьдзя нашай эры аж да XX стагодзьдзя, балцкія жанчыны часьцей выходзілі замуж за славян, чым славянскія за балтаў. Як гэта было ў выпадку русінаў і беларусаў?

Абсурдны характар гэтых пытаньняў відавочны. І відавочна, што ў выпадку русінаў і беларусаў мы маем справу не з этнічнай асыміляцыяй, але з трансфармацыяй эндаэтноніма (саманазвы) аднаго і таго ж народу.

А гэта два прынцыпова розныя працэсы. Этнічная асыміляцыя адбываецца, як правіла, у другім (радзей у трэцім) пакаленьні і цалкам мяняе этнічную сутнасьць індывіда або групы індывідаў. Трансфармацыя эндаэтноніма адбываецца бязь зьмены этнічнага зьместу і сутнасьці індывідаў, і працэс гэты часта займае стагодзьдзі.

Зразумела, што ў выпадку русінаў і беларусаў адбылася трансфармацыя эндаэтноніма, а ўсё астатняе засталося ранейшым — мова, этнаграфія, фальклёр. З татарскіх кніг Аль-Кітабаў, напісаных на тэрыторыі сучаснай Беларусі ў XVI стагодзьдзі «па-руску», але арабскай вязьзю, мы ведаем, што размоўная мова тагачасных «русінаў» мала чым адрозьнівалася ад сучаснай беларускай мовы.

Дадзеныя этнаграфіі і фальклярыстыкі сьведчаць пра непарыўную этнічную традыцыю прынамсі з XIII—XIV стагодзьдзяў. У 50-тамовым зборы беларускага фальклёру ёсьць песьні з архаічнымі граматычнымі формамі, якія беларусы сьпявалі ў XX стагодзьдзі на мэлёды з музычным

памерам у 7/8, што азначае іх паходжаньне з XIV стагодзьдзя. Я сам у канцы 1980-х гадоў запісаў такую песьню ў вёсцы Варашылкі Мядзельскага раёну Беларусі, непадалёк ад мяжы зь Літвой.

Этнаграфія — гэта амаль дакладная навука, якая вывучае матэрыяльную і духоўную культуру народу. Яе дадзеныя сьведчаць, што і ў XIV–XVI, і ў XX–XXI стагодзьдзях на тэрыторыі сучаснай Беларусі жыў і жыве фактычна адзін і той жа аўтахтонны этнас.

Таму, калі мы лічым, што балцкае насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага XVI стагодзьдзя — гэта продкі сучасных літоўцаў, фактычна літоўцы, то чаму ж адмаўляемся прызнаць тагачаснае славянскае насельніцтва Полаччыны, Магілёўшчыны і Меншчыны продкамі сучасных беларусаў, фактычна беларусамі? Тут або так, або так.

У адваротным выпадку незразумела, чаму чэскія і літоўскія навукоўцы назвалі сваю выставу «Францішак Скарына (1470–1552). Рэнэсансны інтэлектуал паміж Прагай і Вільнюсам». Вільнюса ж таксама ў XVI стагодзьдзі нібыта не існавала — была Вільня.

## Белая Русь у часы Скарыны ўжо была

Польскім, беларускім і расейскім гісторыкам вядома, што Полаччына прынамсі з XIII стагодзьдзя называлася Белай Русьсю. Чаму пра гэта ня ведаюць літоўскія і чэскія лінгвісты — загадка.

Вось, для эканоміі месца, толькі два гістарычныя факты:

- Пад 1305 годам Іпацьеўскі летапіс расказаў, што князі Вялікага Княства Літоўскага бралі ў палон шмат палякаў і мазураў і пасьля «Лях един по гривне, се есть по десяти грошей литовских, в Литве и Руси Белой продаван был, и на лошата и волы Литва межи собою их замениваху».
- У напісанай у другой палове XIV стагодзьдзя на лацінскай мове Вялікапольскай хроніцы яе аўтар, падканцлер Польскага каралеўства Ян Чарнкоўскі (Ян з Чарнкава) пад 1382 годам расказаў, як Кейстут закаваў свайго пляменьніка Ягайлу ў жалеза і пасадзіў яго разам з маці ў турму ў Полацку — «in quodam castro Albae Russiae, Poloczk dicto».

У Беларусі з такіх сьведчаньняў складаюцца цэлыя кнігі (напрыклад: «Імя тваё Белая Русь». Укл. Г. Сагановіч. Мн.: 1991), але, на жаль, ня ўсе замежныя гісторыкі і лінгвісты цікавяцца беларускай гістарыяграфіяй.

Першапачаткова тэрмін «Белая Русь» быў заходнім паводле паходжаньня экзонімам для часткі тэрыторыі сучаснай Беларусі, але ў другой палове XV — першай палове XVI стагодзьдзя ён стаў ператварацца ў эндонім. Гэта паказаў у сваіх працах выдатны беларускі этнограф, доктар гістарычных навук Ігар Чаквін.

Скарына ня мог пра гэта ня ведаць і ня мог ня чуць назвы «Белая Русь». А той факт, што яна ня трапіла ў ягоныя творы, паказвае на яго «рускі»

патрыятызм і на ўсьведамленьне свайго адзінства ня толькі з жыхарамі Белай Русі, але і з жыхарамі Русі Чорнай, у якую ўваходзілі Навагрэдак і Горадня.

Да «Беларусі» заставаўся адзін крок, які зрабіў маладзейшы калега Скарыны, таксама ўраджэнец Полаччыны, у тым жа XVI стагодзьдзі.

## Нараджэньне беларускай ідэнтычнасьці

У XVI стагодзьдзі продкі сучасных літоўцаў пачынаюць задумвацца над сваім паходжаньнем і сваёй ідэнтычнасьцю. Сьведчаньне гэтаму — дзейнасьць канцлера Вялікага Княства Літоўскага Альбрэхта Гаштольда і пісьменьніка Міхалона Літвіна.

І тады ж пра гэта ж пачынаюць задумвацца продкі сучасных беларусаў.

Векапомная падзея, сапраўдная інтэлектуальная рэвалюцыя адбылася ў другой палове XVI стагодзьдзя. У 1586 годзе зямляк Скарыны, будучы знакаміты лацінскі паэт Салямон Рысінскі, паступаючы ва ўнівэрсытэт Альтдорфу, упершыню ў гісторыі сьвядома назваў сябе беларусам. Для гэтага ён выкарыстаў тэрмін «Leucorussus».

А праз два гады ў лісьце да свайго сябра, немца Конрада Рытэрсгаўзэна, пратэстант Рысінскі ўпершыню ў гісторыі назваў сваю радзіму Беларусьсю — «Leucorossia».

Улічваючы, што трансфармацыя эндаэтноніма займае вельмі працяглы час, можна меркаваць, што ўжытая Рысінскім новая назва бытавала на

Полаччыне і да яго нараджэньня. Так ці іначай, гэта адбылося ў стагодзьдзе Францішка Скарыны. Іх аддзяляў вельмі малы па гістарычных мерках адрэзак часу — Рысінскі нарадзіўся ўсяго праз восем гадоў пасьля сьмерці Скарыны.

Неўзабаве, літаральна ў наступныя дзесяцігодзьдзі, новыя назвы нашага народу і краіны пачнуць ужывацца вельмі шырока. Гэта, дарэчы, таксама сьведчыць пра тое, што яны не нарадзіліся ў 1586 годзе.

Паралельна з новымі тэрмінамі яшчэ амаль два стагодзьдзі будуць бытаваць і назвы «Русь» і «русіны».

На шляху новай беларускай (як і новай літоўскай) ідэнтычнасьці яшчэ будуць два стагодзьдзі сарматызму, ліцьвінства і палянізацыі.

За гэтыя стагодзьдзі ў Вялікім Княстве Літоўскім, фактычна, узьнік балта-славянскі польскамоўны субэтнас ліцьвінскай шляхты, у выніку чаго продкі сучасных літоўцаў і беларусаў страцілі эліты, засталіся плебейскімі народамі і зь цяжкасьцю нарадзілі свае нацыянальныя рухі толькі ў XIX стагодзьдзі.

Але так ці іначай трэба прызнаць, што паміж тэрмінамі «рускі» і «беларускі» або паміж назвамі «русін» і «беларусін» («беларусец», «беларус») і фармальная, і сутнасная адлегласьць — невялікая.

## Пра палітычны бок праблемы і тактоўнасьць навукоўцаў

Разважаючы пра ўпартае выкарыстаньне тэрміну «рутэны», пра адмаўленьне прамой пераемнасьці сучасных беларусаў і ўкраінцаў ад русінаў Вялікага Княства Літоўскага і фактычнае абвяшчэньне «рутэнаў» ледзь не самастойным і самабытным этнасам, міжволі задаесься пытаньнем, ці толькі навука стаіць за гэтым? Ці няма тут палітычнага складніку?

Магчыма, тэрмін «рутэны» выкарыстоўваецца ў расейскім тэксьце для таго, каб не выкарыстоўваць тэрміны «русін» і «руская мова» ў значэньні XVI стагодзьдзя, бо інакш давядзецца тлумачыць розьніцу паміж «рускай» мовай і сучасным «русским языком». Такія развагі непазьбежна прывядуць да тэрмінаў «старабеларускі» і «стараўкраінскі», а гэтага рабіць ня хочацца і непрыемна?

Мы жывём у эпоху нацый і нацыянальных дзяржаваў, і з нацыянальнымі пачуцьцямі трэба лічыцца любому навукоўцу, які закранае гэтую сфэру. Нацыянальныя пачуцьці — тонкая і далікатная матэрыя, іх лёгка пакрыўдзіць і цяжка пасьля загладзіць віну.

Сёньня ў Беларусі жывуць мільёны людзей, якія перакананыя ў тым, што Скарына — іх продак. І маюць рацыю, магчыма, нічога ня ведаючы пра навуковыя падставы гэтай рацыі. А яны простыя і вельмі лягічныя — у XVI стагодзьдзі ў Полацку, Магілёве, Менску і Наваградку сапраўды жылі ня немцы, не літоўцы, не ўкраінцы

і не этрускі, а продкі сучасных беларусаў, якія ў тым самым стагодзьдзі і пачалі сябе паступова беларусамі называць.

Навошта сёньня ў расейскім тэксьце настойваць на «рутэнстве» Скарыны, цяжка сказаць. Відавочна, што матыў навуковай дакладнасьці тут не працуе. Калі ж за гэтым стаяць нейкія палітычныя мэты, то гэта ўжо не навука.

І гэта тым больш дзіўна, што на «рутэнстве» Скарыны настойваюць людзі, якія грандыёзнай постацьцю беларускага рэнэсанснага гуманіста і яго даробкам шчыра захапляюцца.

Я наогул лічу, што нацыя як гаспадыня ў сваім гістарычным доме мае права са зваротнай сілай абвяшчаць сваім нацыянальным усё, што было створана продкамі на яе тэрыторыі.

Я ня быў бы супраць таго, калі б сучасныя літоўцы запісалі Скарыну ў свой нацыянальны пантэон і заняліся вывучэньнем ягонай спадчыны. Гэта дапамагло б Літве лепш зразумець кшталт і веліч Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага — некалі нашай супольнай шматэтнічнай дзяржавы, якая была культурнай усходнеэўрапейскай імпэрыяй і стала калыскай для некалькіх усходнеэўрапейскіх народаў.

Я ня супраць і таго, каб Скарыну пачалі лічыць сваім у Чэскай Рэспубліцы і ў выніку яшчэ больш узяліся б за вывучэньне ягонай спадчыны. Гэта дапамагло б чэскім калегам нарэшце прачытаць Скарыну, каб зразумець і разгледзець глыбока патрыятычную місію беларускага генія Рэнэсансу.

Гэта дапамагло б і раскіданым па сьвеце беларускім гісторыкам у іх нялёгкай місіі ва ўмовах дыктатуры, якая за апошнія 20 гадоў зьнішчыла Нацыянальны навукова-асьветны цэнтар імя Францішка Скарыны, дзе я меў гонар працаваць, амаль цалкам разагнала Інстытут гісторыі Акадэміі навук, амаль цалкам зьнішчыла гуманітарныя інстытуты Акадэміі, зачыніла гістарычныя часопісы, зьнішчыла Горадзенскую гістарычную школу і працягвае сваю чорную справу задушэньня і ліквідацыі нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў.

Нам патрэбная салідарнасьць калегаў, а не «рутэнскі» нож у сьпіну.

# Чаму беларуска-савецкая вайна, а ня Слуцкае паўстаньне

26 лістапада 2020 году споўнілася 100 гадоў з таго часу, як арганізаваныя ў вайсковую брыгаду жыхары Случчыны пачалі баявыя дзеяньні за незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі.

## Пратэст супраць падзелу краіны

У 1919–1920 гадах адбылася польска-савецкая вайна, падчас якой большая частка Беларусі была акупаваная польскімі войскамі. 12 кастрычніка 1920 году ў Рызе была падпісаная прэлімінарная дамова аб міры паміж Польшчай і РСФСР, якая прадугледжвала падзел Беларусі і прызнаньне марыянэткавай БССР у складзе тэрытарыяльна абкарнанай Меншчыны.

Палітыкаў і насельніцтва Беларусі гэта абурыла. На тэрыторыі краіны пачаліся масавыя, у тым ліку ўзброеныя, выступленьні і захопы савецкіх установаў. Нават сяляне выказваліся за незалежную Беларускую рэспубліку і за сваю беларускую армію. Пратэсты мелі месца на Барысаўшчыне, Ігуменшчыне, Койданаўшчыне, Радашкавіччыне і ў іншых месцах.

У лістападзе 1920 году тэрыторыя Случчыны апынулася па-за кантролем як польскіх войскаў, якія адышлі на захад, так і савецкіх, якія яшчэ на Случчыну не прыйшлі. У сярэдзіне лістапада

ў Слуцку сабраўся зьезд Случчыны з удзелам 107 правадзейных дэлегатаў з усіх воласьцяў і мястэчак рэгіёну. Зьезд абраў Раду Случчыны, абвясьціў Случчыну тэрыторыяй Беларускай Народнай Рэспублікі і заклікаў да ўзброенага змаганьня за незалежнасьць Беларусі.

Пачалася мабілізацыя. Усяго за некалькі дзён пад кіраўніцтвам прафэсійных вайскоўцаў-беларусаў была створаная рэгулярная вайсковая брыгада ў складзе двух палкоў — Першага Слуцкага і Другога Грозаўскага. Агульная колькасьць брыгады складала чатыры тысячы чалавек. 26 лістапада брыгада ўступіла ў першы бой з бальшавікамі.

Няроўнае змаганьне за Случчыну зь пераважнымі сіламі савецкай Расеі працягвалася больш за месяц. У канцы сьнежня случакі перайшлі дэмаркацыйную лінію да палякаў і былі раззброеныя. Але ня ўсе. Некаторыя ў складзе партызанскіх аддзелаў ваявалі з бальшавікамі ў БССР да сярэдзіны 1920-х гадоў.

## Час назваць рэчы сваімі імёнамі

Падзея, пра якую ідзе гаворка, вядомая пад дзьвюма назвамі — Слуцкае паўстаньне і Слуцкі збройны чын. Першая выкарыстоўвалася самімі ўдзельнікамі баёў і савецкімі прапагандыстамі, другая трывала замацавалася ў беларускай эміграцкай публіцыстыцы, адкуль у 1980–1990-я гады трапіла ў Беларусь.

Падчас юбілейнага інтэрвію з гісторыкам беларускага ўзброенага супраціву, аўтаркай кнігі «Беларусь мяцежная: з гісторыі ўзброенага антысавецкага супраціву ў 20-я гг. XX ст.» Нінай Стужынскай мы абмеркавалі і назву той падзеі.

Паўстаньнем яе называць нельга з чыста фармальнага пункту гледжаньня, бо паўстаньне адбываецца на нейкай тэрыторыі супраць таго, хто тэрыторыю кантралюе, а Случчына тады была вольнай. Таму і прыдумалі назву «Слуцкі збройны чын».

Ніна Стужынская сказала, што, па сутнасьці, гэта была «ваенная антысавецкая і антыпольская акцыя 1920 году». Таксама яна прапанавала тэрмін «Сялянскі фронт БНР», а я ў адказ — «Слуцкі фронт БНР». Таксама Ніна Стужынская расказала, што некаторыя гісторыкі-тэарэтыкі прыраўноўваюць слуцкія падзеі да так званых мяцежавых войнаў, такіх як чачэнская вайна або вайна на Данбасе.

На гэтым нашы тэрміналягічныя пошукі скончыліся, і мы перайшлі да іншых тэмаў. Але праблема назвы пасьля інтэрвію мучыла мяне цэлы дзень, аж да таго часу, пакуль у галаве не сфармуляваўся адказ.

Калі мы прызнаем гістарычны і юрыдычны факт існаваньня Беларускай Народнай Рэспублікі і яе правапераемнасьць ад волевыяўленьня амаль дзьвюх тысяч дэлегатаў Усебеларускага зьезду 1917 году, то ня можам не прызнаць і наступнага ланцуга лягічных развагаў.

Улічваючы,

- што ў лістападзе 1920 году тэрыторыя Случчыны законным чынам пацьвердзіла, што зьяўляецца тэрыторыяй БНР,
- што кіраўніцтва БНР прыслала на Случчыну сваіх паўнамоцных прадстаўнікоў, у тым ліку кіраўніка Беларускай вайсковай камісіі і міністра БНР,
- што Слуцкая брыгада была рэгулярным вайсковым фармаваньнем БНР з усімі прыкметамі і структурай такога фармаваньня, а менавіта
    - мела свой сьцяг-штандар,
    - кіравалася прафэсійнымі вайскоўцамі,
    - складалася зь Першага Слуцкага і Другога Грозаўскага палкоў,
    - палкі, у сваю чаргу, складаліся з батальёнаў, а тыя з ротаў і г. д.,
- што брыгада мела сваю стаўку,
    - штаб,
    - выведку,
    - контравыведку,
    - вайсковы суд (трыбунал),
    - гаспадарчую частку,
    - шпіталь,
    - вайсковую школу,
- што баі працягваліся больш за месяц з захопам населеных пунктаў, іх здачай і наступным адваяваньнем у ходзе контранаступаў, з выведнымі рэйдамі ў тыл праціўніка,
- што працягласьць фронту баявых сутыкненьняў з бальшавікамі складала 45 кілямэтраў,

· што падчас баявых дзеяньняў праводзіліся
вайсковыя парады, за якімі з трыбун назірала
камандаваньне і дзяржаўныя дзеячы БНР,
— то ўсе тыя падзеі былі ня чым іншым, як...
беларуска-савецкай вайной 1920 году.
Гэтак я і прапаную яе называць.

# Чаму ня трэба ганіць 17 верасьня 1939 году

Напады Нямеччыны і СССР на Польшчу 1 і 17 верасьня 1939 году трагічным колам раструшчылі жыцьцё маёй сям'і.

## Трагедыя сям'і

Мой бацька Павел Абламейка — грамадзянін Польшчы паводле нараджэньня. Ягоныя бацькі, дзяды і прадзеды спрадвеку жылі ў вёсцы Кожава Карэліцкага раёну на Горадзеншчыне.

Пасьля прыходу саветаў яго сям'я страціла шмат гектараў сваёй зямлі, свой лес і тартак у тым лесе.

Мой заможны прадзед Трафім ад бедаў, якія прынесьлі з сабой саветы, памёр у пяцьдзясят восем гадоў яшчэ да вайны, у 1940 годзе, яго не пасьпелі раскулачыць.

Саветы ў 1944-м загрэблі ў Чырвоную армію майго дзеда Сэрафіма, грамадзяніна Польшчы, які праз тры месяцы, 11 сьнежня 1944 году, загінуў у Славаччыне падчас бессэнсоўнага савецкага наступу, які Сталін пасьля назваў тактычна непатрэбным, але важным для таго, каб паказаць саюзьнікам салідарнасьць СССР пасьля адкрыцьця Другога фронту.

Мая бабуля Люба, яшчэ зусім маладая, была вымушана адна гадаваць траіх дзяцей, весьці

гаспадарку і прыніжана прасіць у калгаснага конюха (былога нашага парабка) свайго ж каня для прысядзібных прац.

Мой бацька пасьля вайны прапусьціў аднойчы год школы, бо ня меў зімовага абутку. А грошай купіць абутак не было таму, што бабуля іх зьбірала, каб сплаціць дзікія падаткі, якімі сялян абклаў «бацька народаў» Іосіф Сталін.

Перажыты боль і трагедыю сям'і нельга забыць і цяжка даравацъ. Я пра гэта помню заўсёды.

А была яшчэ і трагедыя сям'і маёй мамы, Алісы Паўлавай. Жыцьцё бабулі Веры з дачкой у акупаваным Менску, выкіданьне немцамі з нашай кватэры на вуліцы Інтэрнацыянальнай, цяжкае раненьне і фактычная інваліднасьць дзеда Васіля — савецкага афіцэра і партызана, пасьляваеннае несправядлівае асуджэньне яго на 10 гадоў ГУЛАГу і розныя іншыя нягоды.

## Маё стаўленьне да хору асуджэньня

Але я не падзяляю дружны хор асуджэньня, які гучыць кожны год 17 верасьня ў беларускім інтэлектуальна-інфармацыйным дыскурсе. Маўляў, прыйшлі саветы, людзі трапілі ў савецкі канцлягер, пачаліся рэпрэсіі і пакуты.

Гэта гісторыя, яе не пераробіш. І ўзьяднаньне народу, хай сабе і ў камуністычным СССР — усё ж узьяднаньне, і адна з самых важных дат беларускай гісторыі.

Кожнаму чалавеку са здаровым глуздам зразумела, што без 17 верасьня 1939-га самі беларусы

ў XX стагодзьдзі ніколі б ня здолелі абʼяднацца ў адну дзяржаву. Ніколі.

Гэта як зь Літвой і Вільняй. Літоўцы атрымалі Вільню коштам страты незалежнасьці і трапілі ў склад СССР. Былі рэпрэсіі, высылкі, сямейныя трагедыі. Але ніхто там сёньня не пачне публічна шкадаваць палякаў і тым больш беларусаў, якія ў верасьні і кастрычніку 1939 году па чарзе Вільню стracілі.

## Чаго Беларусь магла ня мець

Вось чаго Беларусь сёньня ня мела б, каб не падзеі верасьня 1939 году:

- Тысячагадовых Берасьця і Пінску зь іх гісторыяй і помнікамі.
- Старажытнай Горадні з двума каралеўскімі замкамі і цудоўнымі помнікамі архітэктуры.
- Першай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага — старажытнага Навагрудку з замкам Міндоўга.
- Замкавых комплексаў у Міры і Нясьвіжы, якія цяпер знаходзяцца ў сьпісе сусьветнай спадчыны UNESCO і якія сталі сучасным брэндам краіны.
- Трэцяга ў сьвеце помніка архітэктуры барока — нясьвіскага Фарнага касьцёла і ўсёй гістарычнай забудовы Нясьвіжа.
- Замкаў у Крэве, Лідзе, Любчы, Ружанах, Гальшанах, Гайцюнішках.
- Цудоўных помнікаў беларускай готыкі ў Камянцы, Сынкавічах, Мураванцы, Ішкальдзі, Уселюбе, Чарнаўчыцах, Навагрудку.

- Адной зь беларускіх духоўных апораў — манастырскага комплексу ў Жыровічах з цудадзейным абразом Жыровіцкай Божай Маці.
- Санктуарыя ў Будславе зь яго адным зь нямногіх у сьвеце каранаваным абразом Будслаўскай Божай Маці.
- Белавескай пушчы зь яе зубрамі.
- Налібоцкай пушчы.
- Возера Сьвіцязі.
- Возера Нарачы.
- Браслаўскіх азёраў.

І сотняў іншых цудоўных гарадоў, мястэчак, мясьцін і помнікаў гісторыі, культуры і прыроды, а таксама аб'ектаў спадчыны іншых народаў, якія здаўна жывуць на тэрыторыі Беларусі.

## І самае галоўнае

Як бы мы сёньня жылі безь людзей Заходняй Беларусі, якія праз усю другую палову ХХ стагодзьдзя і ў нашы дні стваралі і ствараюць нашу навуку, культуру дый проста жывуць сярод нас, якія сталі часткай нашых сем'яў, нашымі роднымі, нашымі калегамі і сябрамі, сталі часткай нашага жыцьця? Як нам бязь іх?

Паглядзіце вакол сябе — мы ж адзін народ!

І ўсё гэта стала магчымым таму, што 17 верасьня 1939 году дзьве часткі Беларусі, хай сабе і праз трагічныя падзеі і наступствы, былі аб'яднаныя ў адно цэлае.

Гэта кампэнсацыя за перажытае, бонус гісторыі. Таму варта дзякаваць ёй за гэта.

# Чаму зьнішчэньне Уніі — духоўная катастрофа беларусаў

Кніга прафэсаркі Сьвятланы Марозавай «„Сваёй веры ламаць не будзем...“ Супраціў дэўнізацыі ў Беларусі (1780–1839 гады)» выйшла ў Горадні ў 2014 годзе ў выдавецтве «ЮрСаПрынт» накладам 100 асобнікаў і ў наступным годзе атрымала прэмію імя Францішка Багушэвіча Беларускага ПЭН-цэнтру. Невялікі наклад у пэўнай ступені кампэнсуецца публікацыяй поўнага тэксту кнігі ў інтэрнэце на сайце pawet.net.

Кніга Сьвятланы Марозавай — унікальная, бо гэта першая праца такога кшталту ў беларускай гістарыяграфіі. Ніхто ніколі зь беларускіх гісторыкаў ня ставіў сабе за мэту вывучыць працэс супраціўленьня ліквідацыі Уніі і сыстэматызаваць сабраныя факты ў асобнай манаграфіі.

Сьвятлана Марозава слушна выбрала часавыя рамкі свайго дасьледаваньня — 1780–1839 гады. Пасьля першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 годзе расейскія ўлады ўніятаў не чапалі, Кацярына II гарантавала ім усе правы. На захопленых тэрыторыях тады жыло каля 1 мільёна 300 тысяч чалавек, у тым ліку 900 тысяч уніятаў, аб'яднаных у 693 парафіі. Але ў 1780 годзе полацкі ўніяцкі архібіскуп Ясон Юноша Смагарэўскі, ураджэнец Ваўкавыскага павету і выпускнік Грэцкай Калегіі ў Рыме, быў абраны Кіеўскім мітрапалітам і з дазволу Кацярыны II выехаў у Вільню. І якраз з

гэтага часу пачалася ліквідацыя Уніі ў Расейскай імпэрыі. Працэс ліквідацыі Ўніяцкай царквы доўжыўся, такім чынам, 59 гадоў, і тыя паўтара мільёна ўніятаў, якія былі фармальна далучаныя да праваслаўя ў 1839 годзе, не складалі і паловы ад усёй колькасьці вернікаў, якія трапілі ў склад Расеі пасьля трох падзелаў Рэчы Паспалітае.

Лятэнтны, а часам і адкрыты, супраціў былых уніятаў доўжыўся і пасьля 1839 году і скончыўся толькі ў 1905 годзе з апублікаваньнем царскага ўказу аб верацярпімасьці, калі ў Беларусі ў каталіцтва перайшлі 230 тысяч колішніх вернікаў Уніяцкай царквы, але расказ пра гэта — задача ўжо іншага гісторыка або іншай манаграфіі Марозавай.

Да зьяўленьня кнігі Марозавай былі вядомыя толькі асобныя факты пра супраціў беларускіх вёсак прыняцьцю праваслаўя, а таксама імёны асобных беларускіх сьвятароў і манахаў, якія адмаўляліся прымаць праваслаўе. З кнігі ж Марозавай мы даведваемся пра сотні такіх фактаў і сотні такіх імёнаў. Гэта вынік шматгадовай працы аўтаркі ў архівах Беларусі, Польшчы, Літвы, Украіны і Расеі.

Наогул, пералічыць усё, пра што Марозава піша ўпершыню, даволі цяжка, бо такіх фактаў процьма. Упершыню мы даведваемся імёны мучанікаў, якія загінулі за сваю веру. Гэта, напрыклад, іераманах-схімнік базыльянскага кляштару ў Лыскаве Ваўкавыскага павету старац Бацэвіч і ўніяцкі сьвятар Бараноўскі, абодва, паводле за-

гаду біскупа Сямашкі, зьняволеныя і замучаныя голадам да сьмерці.

Даведаемся мы і дзясяткі імёнаў пакутнікаў, якія па 10–15 гадоў вандравалі па турмах і высылках у Расеі, але так і не згадзіліся зьмяніць веру. Некаторыя ніколі не змаглі вярнуцца на радзіму, а камусьці зь іх гэта ўдалося толькі ў 1870–1880-я гады, перад самай сьмерцю. Некаторыя зь іх пакінулі свае ўспаміны. Гэта настаяцель Ануфрыеўскага базыльянскага кляштару на Віцебшчыне айцец Ільля Андрушкевіч, ураджэнец Слонімскага павету манах-базыльянін з-пад Пінску айцец Ігнат Ёна Салтаноўскі і ўніяцкі сьвятар з Камянца айцец Рыгор Міцэвіч. Гэтыя тэксты, канечне, чакаюць свайго выданьня.

Рэпрэсіі супраць непакорных сьвятароў і вернікаў доўжыліся з рознай інтэнсіўнасьцю на працягу ўсіх 59 гадоў, што папярэднічалі Полацкаму сабору 1839 году, які прыняў фармальнае рашэньне пра ліквідацыю Ўніяцкай царквы. Асабліва яны ўзмацніліся ў 1830-я гады, калі, пасьля паўстаньня 1830–31 гадоў, урад узяў курс на поўную ліквідацыю Уніі.

Непакорных сялян і мяшчан паводле судовых і несудовых рашэньняў секлі бізунамі, саджалі ў астрогі, адпраўлялі на высылку ў Расею і Ўкраіну, аддавалі ў салдаты. Непакорных шматдзетных сьвятароў разлучалі зь сем'ямі, нявcолілі ў манастырскія турмы, пераводзілі ў дзякі і панамары, высылалі на аддаленыя парафіі Беларусі і ў глыб Расеі.

Сьвятлана Марозава называе многія дзясяткі імёнаў і фактаў. Сярод высланых у турмы і манастыры Расеі і Ўкраіны былі айцы Якім Давыдовіч, Аўгустын Далабоўскі, Люцыян Ваяводзкі, Іосіф Нарбут, Іван Ігнатовіч, Ігнат Хруцкі і многія дзясяткі іншых, манахі-базыльяне Анаклет Данілевіч, Цярэнцій Чаплінскі, Вікенцій Шуміловіч, Веньямін Абрамовіч, Вікенцій Паўлоўскі, Воцій Казакевіч, Гервасій Грынцэвіч, Арсеній Вакульскі, Ціт Ільніцкі і многія, многія іншыя.

Асабліва цікава, што ўжо пасьля фармальнай ліквідацыі Уніі, у 1839–41 гадах, з прыходаў былі зьнятыя 1307 духоўных асобаў, 105 зь іх апынуліся ў турмах, многія дзясяткі высланыя ў Расею.

Упершыню Сьвятлана Марозава публікуе імёны дзясяткаў прадстаўнікоў беларускай арыстакратыі і шляхты, якія арганізоўвалі пратэсты сялян і мяшчан супраць ліквідацыі Уніі, выраблялі і раскідвалі ўлёткі (напрыклад, у Лепелі), праводзілі таемныя нарады ў Вільні ды іншых гарадах, адмаўляліся пускаць праваслаўных сьвятароў у захопленыя ўніяцкія цэрквы.

Сярод такіх былі маршалкі шляхты Віцебскай губэрні Ігнат Шадурскі і Магілёўскай губэрні Ігнат Галынскі, маршалак полацкай шляхты Людвік Беліковіч, лагойскія графы Тышкевічы, сотні ўладальнікаў маёнткаў па ўсёй Беларусі. Паліцыя вяла за імі таемны нагляд, многія былі асуджаныя і высланыя ў Расею. Напрыклад, высланымі ў Расею аказаліся маршалкі полацкай і магілёўскай

шляхты Шадурскі і Галынскі. У 1837 годзе за арганізацыю сялянскага пратэсту ў Дзісенскім павеце быў высланы ў Вятку шляхціч Клаўдзій Мірскі, а на год раней шляхціча Андрушкевіча за арганізацыю пратэсту ў вёсцы Гулі 9 месяцаў трымалі ў турме, а пасьля канфіскавалі маёнтак і аддалі ў салдаты.

Кніга Сьвятланы Марозавай пераканаўча абвяргае шэраг распаўсюджаных мітаў, укаранёных расейскай гістарыяграфіяй і прапагандай. Напрыклад, расейскія гісторыкі сьцьвярджалі, што базыльяне былі галоўнай сілай палянізацыі і лацінізацыі Ўніяцкай царквы. У кнізе Марозавай прыводзяцца факты, як у канцы XVIII стагодзьдзя, калі, карыстаючыся наступам ураду на Унію, Рымска-каталіцкая царква Беларусі стала масава перацягваць уніятаў у лацінскі абрад, менавіта базыльяне сталі галоўнымі працiўнікамі лацінізацыі і галоўнымі абаронцамі беларускага варыянту царкоўнаславянскай мовы.

І, вядома, манаграфія гарадзенскай аўтаркі разьвенчвае міт пра «добраахвотнае ўзьяднаньне заходнерускіх уніятаў з праваслаўнай царквой» і пераканаўча паказвае на фальшывасьць формулы, выбітай на памятным мэдалі з нагоды ліквідацыі Уніі: «Отторгнутые насиліемъ 1596 возсоединены любовію 1839».

Насамрэч, Полацкі сабор 1839 году, у якім бралі ўдзел усяго тры спэцыяльна прызначаныя для гэтага біскупы-здраднікі і 21 зломлены і падкуплены сьвятар, мала чым адрозьніваўся ад таго дзейства, якое ў сакавіку 2014 году правяла

Расея ў Крыме і якое яна назвала добраахвотным рэфэрэндумам. Мяняюцца часы, але не мяняюцца сродкі, пры дапамозе якіх імпэрыя дамагаецца сваіх мэтаў: падман і фальсыфікацыя — не апошнія зь іх. Напярэдадні сабору ў Беларусь былі ўведзеныя дадатковыя войскі, казацкія сотні былі разьмешчаныя ў найбольш нядобранадзейных вёсках і мястэчках, сам сабор 18 лютага правялі таемна, яго вынікі пачалі асьцярожна абвяшчаць праз некалькі месяцаў — менскія ўніяты, напрыклад, даведаліся пра скасаваньне Уніі толькі ў верасьні 1839 году.

Ліквідацыя Уніі аказалася гвалтам над сумленьнем тысяч і тысяч людзей, якія, несучы сваю крыўду, так і адышлі на нябёсы, не дачакаўшыся справядлівасьці. Уражваюць пададзеныя ў кнізе факты нечуванай жорсткасьці адносна непакорных уніятаў. Напрыклад, пры наварочваньні жыхароў мястэчка Дзісна ў 1799 годзе некаторых нязгодных зьбілі неабчасанымі каламі да такой ступені, што ў іх аказаліся ўспоратымі жываты і павывальваліся кішкі. Сотні сем'яў сьвятароў, якія мелі па восем-дзесяць дзяцей, але не змаглі пераступіць праз сваё сумленьне, аказаліся выкінутымі на волю лёсу, на голад і холад.

Уражваюць і факты арганізаванага супраціву з боку прыгонных сялян, якім тады было найцяжэй. Аўтарка расказвае, напрыклад, як у 1834 годзе ў Полацак да ўніяцкага біскупа прыйшла дэлегацыя ў складзе 44 сялянаў ад некалькіх гвалтоўна навернутых на праваслаўе вёсак. Улады, аднак, сялян жорстка зьбілі і пасадзілі ў турму.

Празь некалькі тыдняў большасьць раскаялася і была адпушчаная дадому, акрамя дваіх — Якіма Жалудовіча зь вёскі Дварэц і Карпа Сувалкі з Довінкаў, якія «меней каяліся ў сваіх памылках», таму былі аддадзеныя ў салдаты.

Сабраныя Сьвятланай Марозавай факты ствараюць карціну магутнага цывілізацыйнага і культурнага злому, які адбыўся ў Беларусі ў першай палове XIX стагодзьдзя. Уніяцкую царкву абслугоўвалі сотні мастакоў, скульптараў, кампазытараў і музыкантаў-арганістаў, якія, як і іх творы, пасьля ліквідацыі Уніі аказаліся нікому не патрэбныя. Каля 1000 старадаўніх арганаў былі зьнішчаныя, тысячы скульптураў і абразоў былі спаленыя, у агні загінулі тысячы беларускіх кніг. Беларусь менавіта тады была цывілізацыйна пераарыентаваная з Захаду на Ўсход.

Ва ўмовах значнай палянізацыі шляхты менавіта ўніяцкае сьвятарства, дробная ўніяцкая шляхта і мяшчане маглі стаць апірышчам і базай для фармаваньня беларускай нацыі ўжо ў XIX стагодзьдзі. І менавіта ліквідацыю Ўніяцкай царквы сур'ёзныя дасьледчыкі, напрыклад, польскі гісторык Марыян Радван, якога цытуе Марозава, называюць асноўнай прычынай запозьненага нацыятворчага працэсу ў Беларусі і адставаньня беларусаў у нацыянальным разьвіцьці ад усіх суседзяў.

Пакуль яшчэ не асэнсаваная беларускім грамадзтвам гэтая цывілізацыйная катастрофа дазваляе назваць ліквідацыю Ўніяцкай царквы забойствам беларускага народу ці, прынамсі,

спробай такога забойства, якая, на шчасьце, не ўдалася. Бяда толькі ў тым, што спрычыненае ёю калецтва народнай душы застанецца з намі назаўсёды.

# Чаму праваслаўныя беларусы — народ без сваёй царквы

У Беларусі сёньня няма ні аўтакефальнай, ні аўтаномнай праваслаўнай царквы. У кананічным сэнсе беларускія вернікі аб'яднаныя ў Беларускі экзархат Расейскай праваслаўнай царквы. Ці патрэбная Беларусі царкоўная незалежнасьць і ці мае краіна права на аўтакефалію?

## Кананічнае становішча Экзархату

Беларускі экзархат РПЦ у 1990-я гады пры рэгістрацыі ў Рэспубліцы Беларусь атрымаў ад уладаў сьвецкую назву «Беларуская Праваслаўная царква». Гэта некананічная назва, яна не нададзена экзархату царкоўнымі ўладамі.

Сынод экзархату і яго кіраўнік (мітрапаліт) прызначаюцца ў Маскве.

У адрозьненьне ад Беларусі, Украінская праваслаўная царква Маскоўскага патрыярхату валодае пэўнай аўтаноміяй. Яна сама абірае Сынод. Члены сыноду абіраюць мітрапаліта, якога пасьля ў Маскве зацьвярджаюць.

Усе праваслаўныя цэрквы сьвету падзяляюцца на аўтакефальныя і аўтаномныя.

З аўтакефальных цэркваў, якіх існуе паўтара дзясятка, дзевяць узначальваюцца патрыярхамі, астатнія мітрапалітамі.

Гістарычна склалася так, што незалежныя дзяржавы зь пераважна або часткова праваслаў-

ным насельніцтвам маюць свае аўтакефальныя памесныя цэрквы — Альбанія, Баўгарыя, Грузія, Кіпр, Польшча, Расея, Румынія, Сэрбія, Украіна і іншыя.

Зрэдку, калі мова ідзе пра невялікую колькасьць вернікаў, яны абʼяднаныя ў аўтаномныя цэрквы ў складзе таго або іншага патрыярхату. У Кітаі і Японіі такія цэрквы дзейнічаюць у складзе Расейскай праваслаўнай царквы, у Фінляндыі і Эстоніі — у складзе Канстантынопальскага патрыярхату.

## Гістарычныя падставы беларускай аўтакефаліі

Ад часу прыняцьця хросту ў X стагодзьдзі тэрыторыя сучаснай Беларусі была часткай Кіеўскай мітраполіі Канстантынопальскага патрыярхату.

У 1448 годзе гэтая мітраполія ў выніку палітычных і царкоўных канфліктаў канчаткова падзялілася на дзьве — Маскоўскую і Кіеўскую, якую ад таго часу часьцей сталі называць Літоўска-Наваградзкай.

У тым жа 1448-м Маскоўская мітраполія сама адпала ад Канстантынопалю, бо не захацела прымаць Унію, якую тады вызнавалі Канстантынопальскі патрыярх і бізантыйскі імпэратар. Масква сама адкалолася ад Канстантынопалю і пачала незалежнае існаваньне.

У 1589 годзе Маскоўская мітраполія стала патрыярхатам, атрымаўшы тады ад Канстантынопалю аўтакефалію.

У 1596–1620 гадах адзіная памесная ўсходнехрысьціянская царква Вялікага Княства Літоўскага, аб'яднаная ў Кіеўскую мітраполію, падзялілася на дзьве часткі — праваслаўную і ўніяцкую.

У 1686-м праваслаўная частка Кіеўскай мітраполіі была захопленая Маскоўскім патрыярхатам. Старая традыцыя памеснасьці захоўвалася толькі Ўніяцкай царквой ВКЛ, па-ранейшаму аб'яднанай у Кіеўскую мітраполію (з цэнтрам у Наваградку, пазьней у Вільні).

У 1839 годзе і другую частку Кіеўскай мітраполіі, ужо ўніяцкую, захапіў Маскоўскі патрыярхат.

Гэтак Беларусь і Ўкраіна цалкам аказаліся ў складзе іншай памеснай царквы — Маскоўскага патрыярхату, да якога яны раней ніколі не належалі.

Калі беларусам кажуць, што ў 1839 годзе іх вярнулі ў царкву-маці, гэта няпраўда. Беларусы тады са стратай сваёй памеснасьці былі інкарпараваныя ў РПЦ.

## Спробы Кіеўскай мітраполіі вырвацца з абдымкаў Масквы

Пасьля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 году ва Ўкраіне і Беларусі пачаліся рухі за незалежнасьць іх праваслаўных цэркваў ад Масквы.

У кастрычніку 1921-га ў Кіеве на Ўсеўкраінскім праваслаўным саборы была створана Ўкраінская аўтакефальная праваслаўная царква.

Ніводзін япіскап РПЦ не падтрымаў ідэю ўкраінскай аўтакефаліі, таму сабор абраў і пасьвяціў у мітрапаліты айца Васіля Ліпкіўскага «ўсёй саборнай паўнатой» 472 дэлегатаў, як гэта некалі рабілася ў апостальскія часы. У такі спосаб япіскапам стаў, напрыклад, апостал Павел.

У 1924 годзе патрыярх Канстантынопальскі на просьбу праваслаўных украінцаў і беларусаў, якія апынуліся ў складзе Польшчы, надаў Польскай праваслаўнай царкве як частцы колішняй Кіеўскай мітраполіі (г. зн. сваёй царкве-дачцэ) аўтакефалію.

## Абвяшчэньне аўтаноміі Праваслаўнай царквы ў Беларусі

Пасьля Кастрычніцкага перавароту 1917 году бальшавікі вельмі хутка пачалі перасьлед Расейскай Праваслаўнай царквы, што толькі-толькі пасьпела абраць сабе патрыярха, якога ня мела ад XVIII стагодзьдзя. Але ў траўні 1922-га патрыярх Ціхан быў арыштаваны, і царква засталася без кіраўніка.

У гэтых умовах беларускія праваслаўныя інтэлектуалы і царкоўныя дзеячы зрабілі спробу ўратаваць сваю царкву і ўмацаваць яе статус.

У чэрвені ў Менску была распаўсюджана «Адозва да праваслаўных вернікаў», якую падпісалі сьвятары менскай царквы Марыі Магдалены

протаярэі Стэфан Кульчыцкі і Ўладзімер Біруля, а таксама Якуб Колас, Міхайла Грамыка, Сьцяпан Некрашэвіч і іншыя. У адозьве, сярод іншага, пісалася:

«Беларуская Царква павінна быць прызнаная кіроўнай у сваім нутраным жыцьці на пачатках аўтаноміі паводле царкоўных правілаў і канонаў... Праваслаўная царква ў Беларусі, якраз таму, што яна беларуская, жадае з гэтай веры ісьці ўласным шляхам... Шлях гэты прадказваецца ўсім мінулым беларускага краю і вызначаецца асаблівым ладам рэлігійнага жыцьця народу. Ці можна сумнявацца ў гэтым праве Беларусі на царкоўнае самавызначэньне або ставіць перашкоды яму?» (Цыт. паводле: Т. Процька. Пакутнік за веру і бацькаўшчыну. Мн.: 1996. С. 41–42.)

10 ліпеня 1922 году ў Менскім катэдральным саборы на сходзе гарадзкога і сельскага духавенства з удзелам вялікай колькасьці вернікаў была абвешчана аўтаномія праваслаўнай царквы ў Беларусі і створана Беларуская мітраполія ў межах тагачаснай БССР. Таксама былі ўтвораныя Слуцкая, Бабруйская і Тураўская япархіі.

Кіраўнік і ініцыятар сходу, япіскап Менскі і Тураўскі Мэльхісэдэк Паеўскі атрымаў тытул мітрапаліта Менскага і Беларускага. Для кіраваньня царквой была створана Беларуская царкоўная ўправа ў складзе духоўных і сьвецкіх асобаў.

Пасьля абвяшчэньня аўтаноміі нацыянальна-рэлігійнае жыцьцё пайшло такім парадкам, што

выклікала трывогу ГПУ. У тым жа 1922 годзе напярэдадні Калядаў ГПУ даносіла ў Маскву:

«Мясцовым рэакцыйным духавенствам на чале з Мэльхісэдэкам робяцца ўсе захады да ўзмацненьня свайго ўплыву на масы вернікаў шляхам звышштатных набажэнстваў, дзе расьпяваюцца перакладзеныя на беларускую мову царкоўныя песьні... Надыходзячыя сьвяты мяркуюць абставіць асабліва ўрачыста ўсё з той жа мэтай». (Цыт. паводле: Т. Процька. Op. cit. С. 44.)

Папулярнасьць мітрапаліта Мэльхісэдэка Паеўскага набыла такія маштабы, што яго было вырашана спыніць. У жніўні 1924 году супраць яго і шасьці іншых царкоўных дзеячоў была заведзена крымінальная справа нібыта за ўтойваньне царкоўных рэчаў.

У жніўні 1925 году Вярхоўны суд БССР асудзіў мітрапаліта Мэльхісэдэка на 3 гады пазбаўленьня волі, але ўмоўна. Гэта не задаволіла ГПУ, таму ў канцы 1925 году мітрапаліта выклікалі ў Маскву, там арыштавалі, пратрымалі нейкі час у Бутырцы і, ужо хворага на сухоты, выслалі ў Сібір.

## Абвяшчэньне аўтакефаліі Беларускай праваслаўнай царквы

Пасьля сьмерці ў 1925 годзе патрыярха Ціхана расейскай царквой у рангу захавальніка месца патрыярха кіраваў ніжагародзкі мітрапаліт Сергій. У 1927 годзе ён афіцыйна згадзіўся на супрацоўніцтва з савецкай уладай, і адразу пасьля гэтага мітрапаліту Мэльхісэдэку дазволілі вярнуцца на

радзіму ў спадзеве на яго будучае супрацоўніцтва зь Сергіем.

У траўні мітрапаліт прыехаў у Маскву, але 4 чэрвеня зноў быў арыштаваны і пратрыманы ў турме да канца верасьня, а пасьля вывезены ў Краснаярск.

Не дачакаўшыся свайго кіраўніка, прыхільнікі Мэльхісэдэка ў Беларусі вырашылі дзейнічаць самастойна.

9 жніўня 1927 году ў Менску пад кіраўніцтвам Бабруйскага япіскапа Філарэта Раменскага адбыўся зьезд сьвятарства і вернікаў Беларусі, які прыняў рашэньне абвясьціць аўтакефалію Беларускай праваслаўнай царквы. У заяве гаварылася:

«У адказ на магчымы нашымі днямі паклёп і ганьбаваньне Беларускі зьезд сьмела ўздымае свой голас і заяўляе: мы — перакананыя і трывалыя ў сваіх праваслаўных поглядах і вераваньнях старацаркоўнікі. Мы памятаем пра вечнае выратаваньне сваёй душы і зычым дабра сваёй роднай Царкве. Але тым часам мы верым, што няма ніводнага народу, які мог бы разглядацца як пусты і абыякавы матэрыял царкоўнага жыцьця, якому магло б быць адмоўлена ў праве на вольнае разьвіцьцё ў якасьці жывой і дзейнай часткі сусьветнага цела Хрыстовага». (Цыт. паводле: Т. Працька. Op. cit. С. 59.)

У склад Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ўвайшлі сьвятары 192 парафій Менскай япархіі, 100 — Бабруйска-Рагачоўскай, 60 — Мазырскай, 55 — Віцебскай, а таксама япіскап Бабруйскі Філарэт Раменскі і япіскап

Слуцкі Мікалай Шамяціла. Гэта было больш за палову ўсіх праваслаўных парафій БССР. Астатняя, меншая частка падзялялася паміж дзьвюма іншымі юрысдыкцыямі — сергіеўцаў і абнаўленцаў.

Аўтакефальная царква праіснавала да ліпеня 1937 году, калі ўсе япіскапы і сьвятары, якія на той час заставаліся на свабодзе, былі арыштаваныя.

1 лістапада 1937 году япіскапы Філарэт Раменскі і Афанасій Вячорка, а таксама мноства сьвятароў і актыўных вернікаў былі расстраляныя ў Менску як члены «контрарэвалюцыйнай арганізацыі».

Слуцкі япіскап Мікалай Шамяціла быў арыштаваны і расстраляны яшчэ ў 1933 годзе.

Мітрапаліт Мэльхісэдэк памёр у 1931 годзе, так і не атрымаўшы дазволу вярнуцца ў Беларусь.

## Паўторнае абвяшчэньне аўтакефаліі

Пасьля верасьня 1939 году праваслаўныя парафіі ўсёй Беларусі аказаліся пад уладай мітрапаліта Сергія, які зацьвердзіў двух герархаў — мітрапаліта Панцеляймона Ражноўскага і япіскапа Венядзікта Бабкоўскага.

Пасьля прыходу немцаў быў высьвячаны яшчэ адзін япіскап — былы варшаўскі архімандрыт Філафей Нарко. Таксама былі высьвячаныя на япіскапаў Стэфан Сяўбо і Афанасій Мартас.

Вось гэтыя ўладыкі і правялі з 28 жніўня па 2 верасьня 1942 году ў Менску Ўсебеларускі праваслаўны сабор, на якім быў зацьверджаны «Статут

Сьвятой Праваслаўнай Беларускай Аўтакефальнай Царквы».

У пастанове Сабору гаварылася, што БАПЦ будзе чакаць кананічнага прызнаньня ад усіх праваслаўных цэркваў сьвету.

У 1944 годзе ўсе япіскапы БАПЦ (да іх ліку пасьля сабору 1942 году далучылася яшчэ некалькі) эмігравалі. А ў 1946 годзе гэтыя герархі ўсе да аднаго здрадзілі БАПЦ і перайшлі ў склад замежнай Расейскай праваслаўнай царквы.

Беларускія вернікі зь ліку эмігрантаў з дапамогай Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў 1949 годзе аднавілі сваю беларускую герархію і пасьвяцілі ў мітрапаліты БАПЦ Васіля Тамашчыка. Гэтая царква да нашых дзён афіцыйна існуе ў ЗША, Канадзе і Аўстраліі.

## Сучасны стан Беларускага экзархату РПЦ

Пасьля Другой сусьветнай вайны праваслаўныя парафіі Беларусі разам са сьвятарамі зноў увайшлі ў склад Расейскай праваслаўнай царквы. Іх прымалі аўтаматычна, сьвятару дастаткова было прыйсьці ў царкоўную ўправу і заявіць аб сваім жаданьні служыць далей.

Уся тэрыторыя БССР увайшла ў адну япархію РПЦ — Менскую. Астатнія, якія існавалі да вайны і падчас яе, былі скасаваныя. Масква прызначыла аднаго япіскапа, які атрымаў тытул Менскага і Беларускага.

Першыя гады пасьля вайны царква карысталася адноснай свабодай. Дзейнічала больш за 950 храмаў, у якіх служылі 724 сьвятары. Але ў канцы 1950-х гадоў пачаўся новы наступ на царкву і вернікаў. У 1963 годзе была зачынена Менская духоўная сэмінарыя, да 1970 году засталося 380 парафій і адзіны Жыровіцкі манастыр.

Царква знаходзілася ў поўнай залежнасьці ад дзяржавы і КДБ. Вядомыя выпадкі, калі з прычыны даносаў праваслаўных сьвятароў ламаліся лёсы людзей.

У другой палове 1980-х гадоў, на хвалі пераменаў у СССР, пачалося разьняволеньне царквы. У 1989 годзе Маскоўскі патрыярхат заснаваў у Беларусі экзархат і прызначыў экзархам і мітрапалітам Філарэта Вахрамеева, які ад 1978 году быў япіскапам Менскім і Беларускім.

Пачаўся рэзкі рост колькасьці парафій. У 1989 годзе іх было ўжо 477, а ў 1990-м — больш за 660. У 1993 годзе было 10 япархій, у наш час іх ужо 15 — Бабруйская, Барысаўская, Берасьцейская, Віцебская, Горадзенская, Гомельская, Лідзкая, Магілёўская, Маладачанская, Менская, Наваградзкая, Пінская, Полацкая, Слуцкая і Тураўская.

Паводле афіцыйнага сайту Беларускага экзархату, у 2015 годзе ў Беларусі дзейнічалі 1612 парафій, 25 манастыроў, былі 15 япіскапаў, 1691 сьвятар, 216 дыяканаў і 432 манахі і манашкі.

Уся гэтая духоўная і культурная сіла, за малым выняткам, цалкам скіраваная на Маскву і «русский мир».

Пад націскам грамадзкасьці на пачатку 1990-х гадоў была заснаваная Біблійная камісія экзархату ў справе перакладу Эвангельля. Камісія працавала больш за 25 гадоў, за гэты час зь яе складу выйшлі многія вядомыя перакладчыкі і лінгвісты, пратэстуючы супраць русыфікацыі беларускай мовы. Моцна зрусыфікаваны «Новы Запавет Госпада нашага Ісуса Хрыста» выйшаў толькі ў лістападзе 2017 году.

У наш час беларускамоўныя набажэнствы зрэдчас праводзяць каля 10 парафіяў Беларускага экзархату РПЦ — найчасьцей у Менску і Горадні. Фактычна, кожная двухсотая.

## Пазыцыя Канстантынопальскіх патрыярхаў

Пры наданьні аўтакефаліі Польскай праваслаўнай царкве ў 1924 годзе было адзначана, што Канстантынопальскі патрыярхат прызнае юрысдыкцыю Маскоўскага патрыярхату толькі ў межах да 1686 году.

У 1991 годзе Канстантынопальскі патрыярх у лісьце патрыярху Маскоўскаму зноў заявіў, што не прызнае Кіеўскую мітраполію за Расейскай царквой.

У 2006 годзе Канстантынопальскі патрыярх Варфаламей у Кіеве на Сафійскай плошчы зрабіў наступную заяву:

«Мы афіцыйна прызнаем РПЦ толькі ў межах 1686 году, да паглынаньня Кіеўскай мітраполіі, якая зьяўляецца нашай дачкой, і, калі прыйдзе

час, мы разгледзім пытаньне аб яе самастойнасьці».

У 2018 годзе такі час надышоў.

На пачатку верасьня 2018 году Архірэйскі сабор (Сынакс) Канстантынопальскага патрыярхату спэцыяльнай пастановай пацьвердзіў, што мае права надаць аўтакефалію Украіне бяз згоды Масквы.

Больш за тое. У пастанове сьцьвярджаецца, што Канстантынопаль мае права ствараць памесныя аўтакефальныя цэрквы ў незалежных дзяржавах усюды, дзе гэта спатрэбіцца ў будучыні.

## Пазыцыя Масквы

Расея ня хоча траціць кантроль над сваімі былымі калёніямі і таму імкнецца захаваць усе яго інструмэнты, у тым ліку РПЦ.

Гістарычна ў сваёй вонкавай палітыцы Масква заўсёды надавала праваслаўю вялікае значэньне. Гэтая традыцыя сягае яшчэ ў часы хрышчэньня Літвы і панаваньня Вітаўта.

У 1839 годзе францускі падарожнік маркіз дэ Кюстын запісаў сваю размову з расейскім дыпляматам князем Пятром Казлоўскім, які сказаў:

«Вы ня зможаце скласьці сабе слушнага ўяўленьня аб глыбокай нецярпімасьці расейцаў, бо тыя зь іх, хто мае асьвечаны розум і кантактуе з Захадам, прыкладаюць усе намаганьні, каб схаваць паноўную ў іх ідэю — перамогу грэцкай артадоксіі, якая для іх ёсьць сынонімам расейскай палітыкі».

Гэта надзвычай дакладныя і прарочыя словы.

Праваслаўная традыцыя (у прыватнасьці, правіла 34 Сьвятых Апосталаў) кажа пра асобную царкву для асобнага народу. Што ж тады трэба для захаваньня РПЦ у межах яе сёньняшняй кананічнай тэрыторыі? Адказ просты: не прызнаваць беларусаў і ўкраінцаў асобнымі народамі.

Вось чаму зноў і зноў на розных узроўнях агучваецца і паўтараецца формула пра «трыадзіны расейскі народ».

## Што аўтакефалія можа даць Беларусі

Пасьля канчатковай страты беларускім народам сваёй памеснай царквы ў форме грэкаталіцкай часткі Кіеўскай мітраполіі ў 1839 годзе пачалася цывілізацыйная пераарыентацыя беларускай народнай душы.

Незалежная беларуская царква, якая існавала з X стагодзьдзя, ужо ў XIV–XVI стагодзьдзях вельмі моцна адрозьнівалася ад маскоўскай царквы вонкавымі формамі набажэнства — архітэктурай храмаў, абразамі, царкоўнымі сьпевамі і сваім варыянтам гучаньня царкоўнаславянскай мовы. Былі адрозьненьні і ў формах духоўных практык.

Усе гэтыя традыцыі зь невялікімі эвалюцыйнымі зьменамі і лацінскімі наслаеньнямі захавала і Ўніяцкая царква.

У 1839 годзе пачалося пранікненьне расейскага сьвету ў беларускую душу. Беларускія праваслаўныя і ўніяцкія храмы паўсюдна перабудоўваліся на расейскі манер, была зьнішчана пераважная

большасьць скульптуры і аб’ёмнай пластыкі з інтэр’ераў уніяцкіх храмаў, старыя праваслаўныя і ўніяцкія кнігі і большасьць абразоў былі канфіскаваныя і спаленыя, такі ж лёс напаткаў і старажытныя ўніяцкія арганы — іх дэмантавалі і спалілі, царкоўныя беларускія сьпевы замянілі на маскоўскія.

Але галоўнае — ідэалёгія, зьмест казаньняў. Менавіта сьвятары РПЦ у апошнія 170 гадоў зьяўляюцца тым чыньнікам, які злучае беларускія галовы і душы з Расеяй і «расейскім сьветам».

Гэта добра разумеў Міхаіл Мураўёў-вешальнік, які на пасадзе горадзенскага губэрнатара ў 1831–1835 гадах актыўна дапамагаў Іосіфу Сямашку ў справе ліквідацыі Ўніяцкай царквы. У сваіх мэмуарах, напісаных ужо пасьля задушэньня паўстаньня 1863–64 гадоў, Мураўёў называе далучэньне беларусаў да Расейскай праваслаўнай царквы «великим делом», якое «положило в будущем твёрдое начало русской народности в крае».

Але гэтае «будущее» наступіла не адразу. Праз 36 гадоў пасьля скасаваньня Уніі, сыходзячы з пасады віленскага генэрал-губэрнатара, Мураўёў усё яшчэ нагадваў цару пра патрэбу ўзмацненьня ролі РПЦ у паўночна-заходніх губэрнях:

«Я изъяснил Его Величеству, что край этот удерживается за нами силою оружия и надо бы его теперь воссоединить нравственно-политически-религиозным элементом».

У наш час плады таго «воссоединения» ўжо добра відаць — пасьля распаду СССР менавіта яны вызначаюць палітычны лёс Беларусі.

У выпадку наданьня аўтакефаліі ў беларускіх галовах магла б замацавацца ідэя сваёй духоўнай незалежнасьці і самастойнасьці. Іншымі словамі, менавіта аўтакефалія можа рэальна адарваць Беларусь ад Расеі.

І менавіта таму праваслаўныя беларусы яе ня маюць.

## Пэрспэктывы

Відавочна, што гістарычныя і кананічныя падставы для аўтакефаліі ў Беларускай праваслаўнай царквы ёсьць.

Іншая справа, ці ёсьць такое жаданьне ў саміх вернікаў, сьвятароў і япіскапаў гэтай царквы.

Пасьля прыезду ў Беларусь новага мітрапаліта Паўла на царкоўным зьезьдзе ў Менску вяліся размовы пра большую самастойнасьць. Гэтую ініцыятыву агучыў сам мітрапаліт Павел. Але неўзабаве ён зрокся сваіх слоў і параўнаў размовы пра беларускую аўтакефалію з д'ябальскім спакушэньнем. Відавочна, што мітрапаліта «паставіла на месца» Масква.

Рэальных пэрспэктыў для Беларусі атрымаць сваю аўтакефальную царкву ў агляднай пэрспэктыве няма. Відавочна, што чым далей ад Расеі будзе аддаляцца Ўкраіна, тым большым будзе жаданьне Масквы захаваць пад сваім кантролем Беларусь.

Просьбы аб аўтакефаліі да царквы-маці звычайна падтрымлівае дзяржаўная ўлада. Гэтак было ў 1924 годзе ў Польшчы, гэтак ёсьць і сёньня ва Ўкраіне. У Беларусі такой просьбы ад сёньняшняй дзяржаўнай улады, як і ад царквы, чакаць нельга.

Для зьмены сытуацыі вакол беларускай аўтакефаліі патрэбныя два чыньнікі. Па-першае, зьмена ўлады ў Беларусі і выбар краінай дэмакратычнага шляху разьвіцьця. Па-другое, аслабленьне «жалезнай рукі» Масквы, што таксама магчыма толькі ва ўмовах дэмакратызацыі Расеі або нават яе дэзынтэграцыі.

# Чаму ў Беларусі застаюцца каталікі абодвух абрадаў

11 сакавіка 2021 году споўнілася 110 гадоў з дня нараджэньня выдатнага беларускага рэлігійнага дзеяча, дырэктара Беларускай сэкцыі Радыё Ватыкану, заснавальніка і рэдактара часопіса «Божым шляхам» архімандрыта Льва Гарошкі (1911–1977).

Спадчына айца Льва ўяўляе сабой цэлы беларускі кантынэнт — сапраўдную Атлянтыду, амаль невядомую ў Беларусі. Калі сабраць усё, што напісаў айцец Гарошка, ня хопіць і дзесяці тамоў. Дастаткова згадаць яго фундамэнтальныя манаграфіі «Прычыны палянізацыі на Беларусі», «Сьвятая Эўфрасіньня-Прадслава Полацкая. Патронка Беларусі» і «Навука і рэлігія».

Адзін заснаваны ім часопіс «Божым шляхам», які выдаваўся амаль 40 гадоў, дагэтуль застаецца неперасягнутым узорам штомесячнага рэлігійнага, гістарычнага і грамадзка-літаратурнага выданьня, якое зьмяшчае на сваіх старонках дзясяткі нявыдадзеных тамоў каштоўнай рэлігійнай літаратуры, дзясяткі тамоў якасных навукова-гістарычных прац, абсалютная большасьць зь якіх так і засталіся невядомыя на Бацькаўшчыне. Можна сказаць, што часопіс «Божым шляхам» — гэта сапраўдная энцыкляпэдыя беларускай рэлігійнай гісторыі, якую ў сучаснай Беларусі дагэтуль так і ня ведаюць належным чынам. Як,

зрэшты, і яе аўтара — выдатнага сьвятара і інтэлектуала, пісьменьніка, гісторыка, публіцыста, знаўцу дзясятка эўрапейскіх моваў.

Але галоўнай справай айца Льва, бясспрэчна, было адраджэньне Ўніяцкай царквы як сродку здабыцьця поўнай нацыянальна-культурнай і духоўнай незалежнасьці Беларусі і беларускага народу. Свае погляды ён выклаў у гістарычна-публіцыстычнай кнізе «Пад знакам „рускае“ і „польскае“ веры», у якой расказваецца, як суседнія краіны стагодзьдзямі імкнуліся духоўна заняволіць беларускі народ, навязваючы яму свае формы хрысьціянскага веравызнаньня.

## Ганьба Ватыкану

Больш за трыццаць гадоў таму, у верасьні 1990 году, у Менску была ўтворана першая пасьля Другой сусьветнай вайны грэка-каталіцкая парафія. Пасьля ўзьніклі іншыя суполкі, зьявіліся першыя сьвятары, пачалося рэгулярнае царкоўнае жыцьцё. Вернікі назвалі сваю адроджаную ўніяцкую структуру Беларускай грэка-каталіцкай царквой — БГКЦ.

Але царква ня можа існаваць бязь біскупа. Толькі са зьяўленьнем свайго біскупа яна атрымлівае кананічную паўнату і завяршэньне.

Паводле каталіцкага кананічнага права кожная япархія на чале зь біскупам зьяўляецца як бы паўнавартаснай асобнай царквой. Таму беларускія грэка-католікі ў 1991–1992 гадах сабралі 2500 подпісаў пад лістом да папы Рымскага з

просьбай прызначыць біскупа БГКЦ і прапанавалі на гэтую пасаду айца Аляксандра Надсана.

У адказ Ватыкан у 1993 годзе прыслаў у Менск Апостальскага візытатара «ad nutum Sanctae Sedis» айца Сяргея Гаека. Лацінская фармулёўка «ad nutum Sanctae Sedis» азначае «да канчатковага вырашэньня пытаньня».

І вось гэтае канчатковае вырашэньне пытаньня цягнецца ўжо амаль трыццаць гадоў. Увесь гэты час у Беларусі тысячы вернікаў, аб'яднаныя ў два дзясяткі парафій, а таксама некалькі дзясяткаў сьвятароў жывуць бязь біскупа. Людзі нараджаюцца, паміраюць, хрысьцяцца і вянчаюцца не ў царкве, а ў асобных рэлігійных грамадах, якія нават беларускай дзяржавай не зарэгістраваныя як адзіная царкоўная арганізацыя. Набажэнствы адбываюцца пераважна ня ў храмах, а ў выпадковых прыстасаваных памяшканьнях.

БГКЦ выдае сваю газэту (у інтэрнэце), календары, малітоўнікі, катэхізісы і гістарычную літаратуру, штодзень зьдзяйсьняе дзясяткі і сотні таемстваў, але асьвячае міра і рукапакладае сьвятароў у іншых краінах, дзе існуюць легальныя грэка-каталіцкія япархіі, бо свайго біскупа ня мае.

І гэта, безумоўна, вялікая ганьба Ватыкану. У сьвеце існуе мноства нашмат меншых каталіцкіх супольнасьцяў, нават мікраскапічных, якія сваіх біскупаў маюць.

Тыя, хто працягвае сёньня справу айца Льва Гарошкі і тысяч яго папярэднікаў з XV–XIX стагодзьдзяў, Ватыканам фактычна ігнаруюцца.

## Чаму Ватыкан марудзіць

Што ж здарылася? Чаму Ватыкан столькі гадоў марудзіць? Адказ на гэтае пытаньне патрабуе вялікага экскурсу ў гісторыю. Але калі казаць коратка, то адказ даволі просты — Беларусь усё яшчэ жыве «пад знакам „рускае“ і „польскае“ веры». Унія ў Беларусі зь яе беларускасьцю — костка ў горле для практычна ўсіх цэнтраў уплыву на нашу краіну, а няўдачы нашых уніятаў прымушаюць шмат каго ў Расеі, Польшчы, Беларусі і Ватыкане радасна паціраць рукі.

Мне запомнілася, як у 1990-я гады ў Рыме адзін прафэсар папскай калегіі «Русікум», якая рыхтуе сьвятароў бізантыйскага абраду, пырскаючы сьлінай, крычаў мне ў твар, што ў XVI стагодзьдзі ніякіх беларусаў не было, а былі русіны, і што Ўніяцкая царква была «русінскай» — гэта значыць украінскай, калі казаць сёньняшняй мовай. Быў той небарака родам з Бэльгіі, і я ня стаў пытацца ў яго, ці існавала да XIX стагодзьдзя Бэльгія, і тым больш я ня стаў пытацца, ці была на сьвеце ў XV–XVIII стагодзьдзях дзяржава пад назвай Італія.

А мог бы я яму распавесьці, што менавіта Беларусь стала радзімай Уніі — гэта значыць, спробы аднаўленьня страчанага ў XI стагодзьдзі адзінства паміж хрысьціянскім Усходам і Захадам. Беларусі, дарэчы, той раскол 1054 году і ня тычыўся. Беларусь канчаткова адпала ад Рыму ў XIII стагодзьдзі ў сувязі з наступам крыжакоў, а ў 1417 годзе заключыла з Ватыканам пер-

шую Унію. Усяго ў тым XV стагодзьдзі Беларусь шэсьць разоў заключала Уніі з Ватыканам. У 1596 годзе ў Берасьці была заключана сёмая Унія, якая пратрымалася найдаўжэй. А Заходняя Ўкраіна далучылася да Уніі на 100 гадоў пазьней, у канцы XVII стагодзьдзя, і захавала яе толькі таму, што трапіла ў склад Аўстра-Вугоршчыны, а не Расеі.

Але распавядаць таму «гісторыку» ўсё гэта я ня стаў. Цяпер шкадую. Я бачу, што гісторыя Беларусі і надалей застаецца для Эўропы «terra incognita». А калі сказаць больш дакладна: беларускую гісторыю разабралі (раскралі) суседзі. Яны ж яе і перахлусілі. Таму сёньня і для такіх дзеячоў, як вышэйзгаданы ватыканскі прафэсар, уся беларуская царкоўная гісторыя XV–XIX стагодзьдзяў — гэта гісторыя Ўкраіны. Украінцы ў вачах такіх «гісторыкаў» маюць і традыцыю, і помнікі, і сваіх сьвятых, і сваю царкву, а беларусы і Беларусь — чыстае поле, яны зьявіліся толькі ў XX стагодзьдзі.

І тут здараецца нонсэнс — у 1990 годзе зьяўляюцца нейкія ўніяты і ў Беларусі. Ды яшчэ пачынаюць даказваць, што падчас скасаваньня Уніі ў 1839 і 1874–75 гадах у Беларусі гэтыя акты прызналі ня ўсе вернікі, што некаторыя зь іх на пачатку XX стагодзьдзя вярнуліся ў каталіцтва, што ў 20–30-я гады XX стагодзьдзя тысячы гэтых упартых людзей заснавалі дзясяткі нэа-ўнійных парафіяў у Заходняй Беларусі і што на працягу 40–80-х гадоў XX стагодзьдзя беларускія нэаўніяты вялі нелегальнае рэлігійнае жыцьцё аж да свайго выхаду з падпольля ў 1989–1990 гадах.

## 2011 год. Крык пратэсту

Нягледзячы на свой не зусім унармаваны статус, Беларуская грэка-каталіцкая царква сабрала ў сваіх шэрагах значныя сілы інтэлектуальнай эліты Беларусі.

Як і астатнія эўрапейцы, беларускія вернікі-ўніяты ня надта любяць афішаваць сваю рэлігійную прыналежнасьць. Вядома, аднак, што ў кола паствы БГКЦ уваходзілі або ўваходзяць і народныя паэты, і акадэмікі, і прафэсура, і самыя вядомыя беларускія пісьменьнікі, і дзяржаўныя чыноўнікі, і дыпляматы, і прадпрымальнікі.

12 лістапада 2011 году, праз 21 год чаканьня, іх цярпеньне скончылася, і яны зьвярнуліся да папы Рымскага зь лістом, у якім былі і такія словы:

«Як жа назваць сытуацыю, калі тысячы душаў на працягу дзесяцігодзьдзяў згаршаюцца ад расчараваньня, марных надзеяў і роспачы — няўжо рэальнай палітыкай? Няўжо ўсё тлумачыцца страхам пагоршыць дачыненьні з Масквой і Расейскай Праваслаўнай царквой? Няўжо дзеля палітыкі можна ахвяраваць тысячамі каталіцкіх душаў?..

Як верныя дзеці Каталіцкай царквы мы прымем любое рашэньне Апостальскай Сталіцы аб нашай царкве (у тым ліку і падпарадкаваньне грэка-каталіцкіх парафіяй лацінскім біскупам або захаваньне сёньняшняга status quo) і падпарадкуемся яму. Але адначасова заяўляем, што НІКОЛІ ЗЬ ІМ НЯ ЗГОДЗІМСЯ! І, застаючыся ва ўлоньні Паўсюднай царквы, прыкладзем усе свае

сілы, намаганьні і публіцыстычны талент для таго, каб такое рашэньне было адменена і наша царква засталася царквой sui juris зь біскупам на чале. Мы будзем пісаць і гаварыць аб гэтым заўсёды і ўсюды, пакуль будзем жывыя».

Ліст падпісалі народныя паэты Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, пісьменьнікі Ўладзімер Арлоў, Сяргей Дубавец, акадэмік Радзім Гарэцкі, народны мастак Васіль Шаранговіч, прафэсары Юры Хадыка, Анатоль Грыцкевіч, Леанід Лыч, Язэп Стэпановіч, рэжысэр Валеры Мазынскі, мастак Мікола Купава і многія іншыя. У наш час некаторыя зь іх назіраюць за «рэальнай палітыкай» Ватыкану ўжо зь нябёсаў.

У адказ на ліст у 2012 годзе ў Беларусь прыехаў сакратар ватыканскай Кангрэгацыі ўсходніх цэркваў архібіскуп Цырыл Васіль. Гэты славацкі езуіт усходняга абраду, які сам памятае часы перасьледу і тыя перашкоды, што стаялі на шляху легалізацыі ўніятаў у яго краіне, сапраўды вельмі хацеў дапамагчы. Ён уручыў траім вернікам-уніятам высокую дзяржаўную ўзнагароду Ватыкану — залаты крыж «За царкву і папу», паабяцаў вельмі хуткае вырашэньне сытуацыі вакол БГКЦ і зьехаў.

Але дагэтуль нічога не зьмянілася. Занадта высокай і моцнай аказалася сьцяна, што паставіў на шляху Беларускай грэка-каталіцкай царквы Дзяржаўны сакратарыят Ватыкану — міністэрства замежных спраў Апостальскай сталіцы, якое ўсяляк дагаджае Маскве.

## Што наперадзе

Першы варыянт. Усё застанецца так, як ёсьць цяпер. Ватыкан можа думаць яшчэ 27 гадоў (а можа і 270). Фармальна Беларускай грэка-каталіцкай царквой (якой юрыдычна не існуе) надалей будзе кіраваць выдатны і ахвярны манах-марыянін, вучань друйскіх айцоў Язэпа Германовіча і Тамаша Падзявы, паляк, які вывучыў беларускую мову і прыняў беларускае грамадзянства — архімандрыт Сяргей Гаек, Апостальскі візытатар «ad nutum Sanctae Sedis». А пасьля — яго пераемнікі.

Другі варыянт. Грэка-каталіцкія парафіі падпарадкуюць біскупам лацінскага абраду, на тэрыторыі якіх тыя парафіі знаходзяцца. Такі варыянт быў выбраны Ватыканам для кананічнага ўпарадкаваньня грэка-каталіцкіх парафіяў у часы Нэа-уніі ў 20–30-я гады XX стагодзьдзя ў Заходняй Беларусі.

Трэці варыянт. Ватыкан створыць у Беларусі асобную грэка-каталіцкую япархію і прызначыць для яе біскупа, які і стане кіраўніком БГКЦ.

Чацьвёрты варыянт. Ватыкан прызнае наяўнасьць у Беларусі грэка-каталіцкага Экзархату і прызначыць біскупа-экзарха. У 1939 годзе львоўскі мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі, карыстаючыся надзвычайнымі паўнамоцтвамі Ватыкану, заснаваў у Беларусі грэка-каталіцкі Экзархат і прызначыў экзархам выдатнага беларускага рэлігійнага дзеяча, айца Антона Неманцэвіча. Намесьнікам экзарха Беларусі тады стаў якраз айцец Леў Гарошка.

У гады Другой сусьветнай вайны Ватыкан афіцыйна прызнаў створаны Шаптыцкім Экзархат. Пасьля вайны і львоўскага сабору 1946 году Унія ў Беларусі, як і ва Ўкраіне, была забароненая, сьвятары зьехалі ў эміграцыю або апынуліся ў сталінскіх лягерах. Але паводле каталіцкага кананічнага права аднойчы створаная адміністрацыйная адзінка, нават калі яна ня мае ніводнага сьвятара і верніка, існуе яшчэ 100 гадоў, і толькі пасьля гэтага лічыцца не існуючай. Гэта азначае, што ў верасьні 1990 году менскія вернікі фактычна аднавілі грэка-каталіцкі Экзархат, які з 1939 году ў Беларусі існаваў юрыдычна.

Натуральным, справядлівым і законным разьвязаньнем сытуацыі быў бы выбар паміж трэцім і чацьвёртым варыянтамі. Але Ватыкан ухіляецца ад вырашэньня праблемы. Гэта і ёсьць яго найвялікшая ганьба.

Думаю нават, што гэта самая ганебная старонка ватыканскай палітыкі найноўшага часу ў нашым рэгіёне Эўропы.

P. S. Гэты тэкст быў напісаны да 100-годзьдзя айца Льва Гарошкі ў 2011 годзе, але ня быў апублікаваны. Тады ён называўся «Сорам Ватыкану» і заканчваўся фразай: «Я спадзяюся, што мне, як журналісту, які сочыць за рэлігійнай сытуацыяй у Беларусі, не давядзецца пісаць новы тэкст у сваім блогу, але ўжо пад назвай „Ганьба Ватыкану...“». Цяпер жа я зь вялікай скрухай і без найменшых сумненьняў называю гэтую сытуацыю менавіта ганьбай Ватыкану.

## Чаму я не знайшоў кватэры Мітрафана Доўнар-Запольскага

У адзін з прыездаў у Менск захацелася неяк увечары падысьці да дому, дзе ў 1925–1926 гадах жыў выдатны беларускі гісторык, тагачасны прафэсар БДУ Мітрафан Доўнар-Запольскі. Калі я пра яго думаю, то ў галаве заўсёды ўзьнікаюць адны і тыя ж думкі.

### Адзін з бацькоў сучаснай Беларусі

Жыцьцё пасьля рэвалюцыі ня песьціла славутага гісторыка, які на пачатку XX стагодзьдзя сказаў беларусам прарочыя словы, што народ, які меў сваю дзяржаву, абавязкова будзе мець яе зноў.

Пасьля прафэсарства ў Маскоўскім і Кіеўскім унівэрсытэтах і рэктарства ў Кіеўскім камэрцыйным інстытуце Доўнар-Запольскі ў 1918 годзе з галавой акунаецца ў беларускі нацыянальны рух і робіцца адным зь дзеячоў Беларускай Народнай Рэспублікі.

Ён узначальвае Беларускую гандлёвую палату ў Кіеве, удзельнічае ў працы дыпляматычнай місіі БНР ва Ўкраіне, складае дэталёвы праект заснаваньня Беларускага ўнівэрсытэту і піша «Асновы дзяржаўнасьці Беларусі», перакладзеныя пасьля на асноўныя эўрапейскія мовы і прадстаўленыя ўдзельнікам Вэрсальскай мірнай канфэрэнцыі ў

Парыжы. У траўні 1919 году ўрад БНР запрашае яго на пасаду міністра фінансаў.

Але БНР прайграе, сыны Ўсевалад і Вячаслаў гінуць у грамадзянскую вайну на баку чырвоных, сам прафэсар спрабуе зноў выкладаць і апынаецца спачатку ў Харкаве, а пасьля ў Баку.

У 1925 годзе ён прымае запрашэньне Наркамасьветы БССР і пераяжджае ў Менск. Яго абіраюць правадзейным сябрам Інбелкульту, старшынём Гістарычна-археалягічнай камісіі Інбелкульту і прызначаюць прафэсарам катэдры гісторыі Беларусі ў БДУ.

У гэты час ён піша славутую «Гісторыю Беларусі», якая ў лютым 1926 году асуджаецца ЦК КП(б)Б як нацыянал-дэмакратычная праца і канфіскуецца. Рукапіс кнігі цудам захаваўся і быў выдадзены асобным выданьнем толькі ў 1994 годзе.

Гэтая кніга стала падставай высылкі навукоўца зь Менску ўжо ў верасьні 1926 году. На любай радзіме яму дазволілі папрацаваць усяго паўтара года.

## За што я ўзношу яго на вяршыню беларускага пантэону

Мітрафан Доўнар-Запольскі — адзін з маіх улюбёных беларускіх герояў-падзьвіжнікаў. Яго лёс, даробак і постаць дагэтуль малавядомыя і недаацэненыя. Калі я думаю пра яго, у мяне кружыцца галава.

Толькі ўдумайцеся! Гэты чалавек пачаў сваю палымяную прабеларускую публіцыстычную і навуковую працу ў 16 гадоў — у 1883-м, будучы вучнем Мазырскай прагімназіі, а пасьля Кіеўскай гімназіі. Яшчэ вучнем гімназіі ў 1888 годзе ён выдаў першую сваю кнігу — «Белорусская свадьба и свадебные песни (этнографический этюд)».

Да канца 1880-х гадоў вучань старэйшых клясаў гімназіі і студэнт 1-га і 2-га курсаў Кіеўскага ўнівэрсытэту Мітрафан Доўнар-Запольскі апублікаваў многія дзясяткі (!) публіцыстычных і навуковых артыкулаў у «Русской мысли», «Этнографическом обозрении», «Живой старине», «Киевской старине», «Виленском вестнике», «Гродненских губернских ведомостях», «Минских губернских ведомостях», «Минском листке» і іншых выданьнях. Тэматыка публікацый самая разнастайная — этнаграфія, гісторыя беларускай літаратуры, творчасьць Дуніна-Марцінкевіча, скарыназнаўства, палеміка з заходнерусістамі.

Гэта было вялікае шчасьце Беларусі, што юнаком Мітрафан Доўнар-Запольскі трапіў у Кіеў. Яго патрыятычны сьветапогляд, як праз 70 гадоў і сьветапогляд Уладзімера Караткевіча, быў сфармаваны пад уплывам украінскага нацыянальнага руху. Забароненымі кніжкамі, якія ў 1888 годзе канфіскавалі ў кіеўскага гімназіста Доўнар-Запольскага, былі паэма Тараса Шаўчэнкі «Марыя», зборнік «Грамада» і іншыя ўкраінскія выданьні, набытыя ім падчас падарожжа з бацькамі ў Баўгарыю.

У выніку ўжо ў 1888-м, маючы дваццаць адзін год, у сямі нумарах газэты «Минский листок» Доўнар-Запольскі друкуе сваю працу «Белорусское прошлое. (По поводу статей А. Пыпина, помещенных в «Вестнике Европы» прошлого года)».

У гэтым творы, яшчэ да паступленьня ва ўнівэрсытэт, малады беларускі нацыяналіст палемізуе зь Міхаілам Каяловічам і яго пасьлядоўнікамі і акрэсьлівае галоўныя моманты сваёй будучай канцэпцыі нацыянальнай гісторыі беларусаў, нашай этнічнай і нацыянальнай самабытнасьці.

Беларускі прафэсар Дзьмітры Караў у 1994 годзе пісаў, што ў 80-я гады XIX стагодзьдзя менавіта Доўнар-Запольскі першым паставіў пытаньне пра існаваньне беларускай нацыі.

Вось цытата, якая паказвае, што Доўнар-Запольскі ўжо ў 1888 годзе лічыў беларускі народ даўно сфармаваным:

«Народ, пазбаўлены палітычнага жыцьця, задушаны ўнутраным прыгнётам, часам на цэлыя стагодзьдзі сыходзячы з палітычнай арэны, як бы заміраючы, такі народ, калі ён ня страціў сваёй мовы, этнаграфічных асаблівасьцяў і іншага, зноў выходзіць на арэну, калі не палітычнага, то прынамсі разумовага сацыяльнага жыцьця».

Праз год студэнт-першакурсьнік Кіеўскага ўнівэрсытэту выдае два тамы беларускага гісторыка-літаратурнага альманаху «Календарь Северо-Западного края на 1889 год» і «Календарь Северо-Западного края на 1890 год». Трэці том

на  891 год быў таксама падрыхтаваны, але ня выйшаў друкам з прычыны браку грошай.

У мяне такое ўражаньне, што менавіта Мітрафана Доўнар-Запольскага, а ня Вацлава Іваноўскага і братоў Луцкевічаў трэба называць бацькам сучаснай беларушчыны. Або, прынамсі, называць гэтыя імёны побач.

## Усеагульны ўлюбёнец

Малады Доўнар-Запольскі быў такі актыўны, такі таленавіты і такі вядомы, што ім шчыра захапляліся многія знакамітыя навукоўцы і дзеячы культуры.

Ім апякуецца славуты сябар Кракаўскай акадэміі ведаў, беларускі краязнавец, гісторык, літаратар, этнограф і публіцыст Аляксандар Ельскі. Ён піша водгукі на публікацыі Доўнар-Запольскага, рэкамэндуе яго выдаўцам і нават дбае пра ганарары для маладога навукоўца.

Нягледзячы на выключэньне з гімназіі за захоўваньне забароненай літаратуры, Доўнар-Запольскага прынялі ва ўнівэрсытэт, а пасьля заканчэньня, не зважаючы на нагляд паліцыі, накіравалі ў Маскву на працу і працяг навукі. Ён стаў прафэсарам Маскоўскага ўнівэрсытэту яшчэ да абароны доктарскай дысэртацыі!

Калі Доўнар-Запольскі быў толькі прыватдацэнтам і магістрам гісторыі, Леў Талстой прасіў яго стаць рэдактарам новага часопіса «Утро», які знакаміты пісьменьнік зьбіраўся выдаваць і

які ня выйшаў толькі таму, што быў забаронены цэнзурай.

Назад з Масквы ў Кіеў яго перацягнулі славутыя прафэсары-гісторыкі Ўладзімер Антановіч і Міхайла Грушэўскі.

Усе яго любілі і цанілі.

## Дзе была кватэра Доўнар-Запольскага

У адзін зь вечароў падчас прыезду ў Менск у 2019 годзе захацелася мне пайсьці пастаяць пад вокнамі менскай кватэры Мітрафана Доўнар-Запольскага. Я так часта раблю — проста іду на месца, якое зьвязана з гісторыяй старога Менску, і рэфлексую, разважаю, думаю.

Бывае, пастаю на рагу вуліц Шпалернай і Вызваленьня каля апошняй захаванай часткі менскага гарадзкога валу XVII–XVIII стагодзьдзяў. Або падымуся на вуліцу Мельнікайце, былую Ратамскую, каб пастаяць каля месца, дзе ў вайну жыў Вацлаў Іваноўскі. Здараецца спыніцца на вуліцы Інтэрнацыянальнай (былой Валоцкай) насупраць месца, дзе да сярэдзіны XX стагодзьдзя стаяў менскі палац Сапегаў.

Гэтым разам захацелася падысьці да дому па адрасе Рэвалюцыйная, 15а, які стаіць у двары колішняга Інбелкульту (цяпер Рэвалюцыйная, 15).

У 1925 годзе Доўнар-Запольскі, пераяжджаючы ў Менск з Баку, зь вялікімі цяжкасьцямі прывёз і сваю велізарную бібліятэку. Казалі, што

яе везьлі ў Менск асобным вагонам. Паводле розных ацэнак, яна налічвала ад 15 да 25 тысяч тамоў.

Таму, нягледзячы на востры дэфіцыт жыльля ва ўмовах «мешканцовага крызісу» сярэдзіны 1920-х гадоў у Менску, Доўнар-Запольскаму аддалі пад кватэру цэлы другі паверх дому ў двары Інбелкульту. Сьцены кватэры ад падлогі да столі былі абстаўленыя простымі паліцамі з сасновых дошак, а да іх ува ўсіх пакоях былі прыстаўленыя хваёвыя драбіны, каб можна было дабрацца да верхніх паліц.

Пасьля высылкі зь Менску славуты навуковец вырашыў падараваць бібліятэку, якую за свае грошы зьбіраў усё жыцьцё, Беларускаму дзяржаўнаму ўнівэрсытэту. Але ўнівэрсытэту прыняць кнігі не дазволілі. Таму яны спачатку аказаліся ва ўласнасьці Інбелкульту, а пасьля сталі асновай калекцыі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

У кастрычніку 1926 году ОГПУ БССР сакрэтна тэлеграфавала ў Маскву:

«По нашему настоянию видный идеолог движения — профессор Довнар-Запольский принужден был покинуть пределы Б. С. С. Р., Некрашевич, Смолич, Дыло, Красинский, Середа и многие другие были сняты со всех своих постов и поставлены на другую работу».

Тут яго яшчэ называюць «видным идеологом движения», але ў 1932 годзе С.Вальфсон у зборніку «Наука на службе нацдемовской контрреволюции» сфармуляваў больш дакладнае азначэньне ролі славутага прафэсара ў нацыя-

нальным руху, назваўшы яго «идейным батькой» нацдэмаў.

## Суседзкая тэрыторыя

Менавіта ў менскай кватэры Доўнар-Запольскага адбываліся нефармальныя пасяджэньні Гістарычна-археалягічнай камісіі Інбелкульту і некаторых іншых камісіяў, сябрам якіх быў прафэсар.

У пасяджэньнях бралі ўдзел Сьцяпан Некрашэвіч, Зьміцер Даўгяла, Васіль Друшчыц, Язэп Дыла, Мікола Касьпяровіч, Аркадзь Смоліч, Канстанцін Палікарповіч, Павел Харламповіч, Браніслаў Эпімах-Шыпіла і многія-многія іншыя. Для мяне асабліва важна, што там бываў і другі мой беларускі герой — Мікола Шчакаціхін.

Ішоў я туды і ўяўляў сабе Доўнар-Запольскага, які са сваёй маладзейшай за яго на 27 гадоў жонкай Надзеяй стаіць каля ўваходу — пацёртыя гарнітур і палітон, кучаравыя валасы і нязьменная, ссунутая набок кепка. Мікола Ўлашчык пісаў, што менавіта так апраналася небагатая беларуская шляхта, да якой Доўнар-Запольскі і належаў.

А побач з парай Доўнар-Запольскіх стаіць адзін з самых вялікіх моднікаў Менску 1920-х гадоў — Мікола Шчакаціхін у сінім драпавым паліто, паласатым гарнітуры, хвацкіх чаравіках з доўгімі насамі і з рукапісам першага тому «Гісторыі беларускага мастацтва» ў руках. Менавіта ў гэтым доме Шчакаціхін прэзэнтаваў першы том сваёй фундамэнтальнай працы і прадставіў

плян-праект усяго выданьня, якое мела налічваць шэсьць тамоў. Яму, аднак, напісаць іх не далі.

Падышоў я да таго дамка і зразумеў, што парэфлексаваць не атрымаецца.

Увесь будынак цяпер займае «Российский центр науки и культуры» з агароджай і машынамі з дыпляматычнымі нумарамі.

Мне заўсёды думалася, што адрас Рэвалюцыйная, 15а — гэта месца для будучага музэю Мітрафана Доўнар-Запольскага. Але аказалася, што гэта — суседзкая тэрыторыя.

Сумная сымболіка. І паказальная.

# Чаму ў дзень сьмерці Якуб Колас пайшоў у ЦК

Кожны год 13 жніўня я адзначаю дзень памяці Якуба Коласа, найвялікшага беларускага творцы.

## Колькі лістоў у ЦК напісаў народны паэт

Сёньня ўсе ведаюць, што ўлетку 1956 году, перад самай сьмерцю, Якуб Колас адносіў ліст у ЦК КПБ аб стане беларускай мовы.

Насамрэч Колас напісаў тады тры лісты ў ЦК партыі, якія сталі ягоным запаветам беларускаму народу.

Пра зьмест гэтых лістоў падрабязна распавёў ва ўспамінах аб народным паэце яго літаратурны сакратар Максім Лужанін. Гэтая кніжка выйшла ў 1982 годзе.

Адзін з гэтых лістоў сапраўды быў прысьвечаны стану мовы, другі — стану могілак, трэці — вулічным бойкам.

## Мова, могілкі... вулічныя бойкі

У лісьце пра могілкі Колас заклікаў шанаваць месцы пахаваньняў, трымаць нэкропалі ў чысьціні і парадку, абгарадзіць вясковыя могілкі і не дазваляць там пасьвіцца скаціне.

У лісьце пра моладзь Колас адчайна прасіў ЦК КПБ зьвярнуць увагу на жорсткасьць гарадз-

кой і вясковай моладзі, на частыя бойкі і панажоўшчыну, п’янства і заклікаў кіраўніцтва БССР больш рашуча і пасьлядоўна заняцца выхаваньнем маладога пакаленьня.

І, канечне, самым важным лістом быў ліст пра стан беларускай мовы. Максім Лужанін сьведчыў, што Колас думаў над зьместам ліста ўсё лета 1956 году, рабіў накіды і ў чэрвені, і ў ліпені.

У тое лета Колас лекаваўся ва ўрадавым санаторыі «Барвіха» пад Масквой і ў часе побыту там нават раіўся наконт ліста з маскоўскімі партыйнымі чыноўнікамі.

## Як Коласа ў ЦК прынялі

Паводле сьведчаньня сыноў, найперш Міхася Міцкевіча, у дзень сьмерці Якуб Колас вырашыў аднесьці гатовы ліст пра мову ў ЦК, але там адказны за культуру сакратар ЦК Цімафей Гарбуноў паэта не прыняў.

Гэта была адкрытая зьнявага, бо раней нават першыя сакратары прымалі Коласа без папярэдняй дамовы і самі бывалі ў яго дома. Паэт вярнуўся дахаты і падчас абеду ў сваім кабінэце памёр ад сардэчнага прыступу.

## Што паэт пісаў пра моўную сытуацыю

Вось тры кароткія цытаты зь ліста Коласа пра мову:

«Беларускую мову можна пачуць у тэатрах і па радыё. Але што гэта за мова? Гэта непрыхаваны

зьдзек над ёю. Артысты і дыктары парушаюць элемэнтарныя правілы вымаўленьня, пастаноўкі націскаў, мова засьмечана мноствам скажоных слоў-калек, няўдала запазычаных з рускай мовы. Адбываецца гэта таму, што артысты, работнікі радыё, журналісты, газэтчыкі не карыстаюцца мовай у побыце...»

«Пратэставаць супраць роднай мовы, з аднаго боку, могуць людзі па неразуменьню, а з другога — нашы ворагі...»

«Калі беларускаю мовай загавораць міністры і іх шматлікія намесьнікі, пачнуць праводзіць на гэтай мове паседжаньні, пісаць, дык можна мець пэўнасьць, што справа пойдзе на лад...»

З таго часу прайшло больш за паўстагодзьдзя, але многія думкі народнага паэта ўсё яшчэ актуальныя. На Кальварыйскіх ці Чыжоўскіх могілках у Менску немагчыма хадзіць паміж магіламі. Усё зарасло высокай травой, дрэвамі і кустоўем. Улады дапільноўваюць толькі цэнтральныя алеі.

І з мовай у нас па-ранейшаму праблемы. І дыктары беларускіх тэле- і радыёперадачаў, якіх робіцца ўсё меней, гавораць дзікай мовай, і кіраўніцтва краіны ёю не карыстаецца.

Лепш стала толькі з моладзьдзю, якая сёньня, безумоўна, лепш выхаваная і адукаваная.

## Народнае разьвітаньне

Галоўнае ж, пра што хочацца сказаць, — гэта магутнае ўражаньне ад здымкаў вуліц і плошчаў Менску ў дні разьвітаньня зь песьняром 15–16

жніўня 1956 году. Здаецца, што ўся Беларусь, вясковая і гарадзкая, прыехала тады ў сталіцу.

За апошнія 100 гадоў беларусы хавалі так толькі трох суайчыньнікаў. Гэта Якуб Колас, Пятро Машэраў і Васіль Быкаў — іх пахаваньні сталі сапраўды народнымі.

І вельмі сымбалічна, што з трох гэтых герояў беларускай гісторыі двое — пісьменьнікі.

# Чаму Ўсевалад Краўчанка загінуў у Кане

## Інцыдэнт у гатэлі

Пісьменьнік Усевалад Краўчанка вольна або міжвольна стаў адной з самых загадкавых постацяў у гісторыі беларускай савецкай літаратуры.

Прычынай гэтага стала ягоная сьмерць 27 жніўня 1961 году ў Францыі.

Раніцай таго дня савецкая турыстычная група ў складзе 26 чалавек выехала аўтобусам з Парыжу ў Кан (Caen). У яе склад уваходзіў шырока вядомы на той час беларускі пісьменьнік Усевалад Краўчанка, галоўны рэдактар часопіса «Бярозка», аўтар каля дваццаці кніжак, у тым ліку дэтэктываў для дзяцей і падлеткаў.

Каля пятай вечара група прыбыла ў Кан і разьмясьцілася ў гатэлі «Мадэрн». Усевалад Краўчанка спаслаўся на стомленасьць, адмовіўся ісьці на агляд гораду і сказаў сябрам, што вырашыў прыняць душ і легчы спаць. Неўзабаве ён быў знойдзены на даху гаража гатэля пад акном свайго нумару з праломленай галавой. Выкінуўся Краўчанка з ваннага пакоя паўраспрануты — у майтках і кашулі.

## Сьледзтва і вэрсіі

Французская паліцыя правяла сьледзтва, якое прыйшло да высновы, што гэта самагубства, паколькі было знойдзена перадсьмяротнае пасланьне, у якім Краўчанка пісаў, што нічога дрэннага не зрабіў супраць сваёй Радзімы, што ён быў справакаваны некаторымі «сябрамі» на словы, якія могуць быць інтэрпрэтаваныя як варожыя, і прасіў прабачэньня ў сваёй сям'і.

З Францыі ў Беларусь была прывезеная толькі урна з прахам пісьменьніка. Яе сьціпла пахавалі на Ўсходніх могілках Менску.

З таго часу ў пісьменьніцкім асяродзьдзі пачалі гуляць некалькі вэрсіяў прычынаў самагубства Краўчанкі. Адны казалі, што ён сустрэўся ў Францыі са сваёй першай жонкай, якая зьнікла ў вайну і на той час жыла ўжо ў Вялікай Брытаніі. Адсюль выводзілі дзьве вэрсіі — страх перад савецкай уладай за кантакт з ворагам і страх перад другой сям'ёй, ад якой пісьменьнік нібыта хаваў факт наяўнасьці ў яго першай сям'і. Іншыя казалі пра тое, што ў Краўчанкі скралі ўсе грамадзкія грошы. Трэція сьцьвярджалі, што гэта была звычайная п'яная бойка.

Але факт палягае ў тым, што ніводная зь іх ніколі не была пацьверджаная афіцыйна. Сям'і Ўсевалада Краўчанкі ніхто ніколі афіцыйна так і не паведаміў пра прычыны сыходу іх бацькі і мужа. Пры гэтым сярод гэтых шматлікіх вэрсіяў, якія гулялі па Менску, не было ніводнай, пра якую нельга было б расказаць сям'і.

## Супярэчнасьці і загадкі

Можна шмат пісаць пра гэтую справу, але я тут абмяжуюся толькі відавочнымі загадкавымі і супярэчлівымі абставінамі гібелі пісьменьніка. Журналісты беларускай эміграцыйнай газэты «Бацькаўшчына» вялі сваё расьсьледаваньне гэтай справы, езьдзілі ў Кан у гатэль, дзе адбылася драма, бралі інтэрвію ў яго супрацоўнікаў і камісара паліцыі, падрабязна вывучалі творчасьць пісьменьніка і нават знайшлі ў ягоным апавяданьні «Зорка Вэнэра», апублікаваным у 12-м нумары «Маладосьці» за 1959 год, а таксама ў іншых творах схаваны нацыяналізм.

Сям'я Краўчанкі ніколі ня верыла і ня верыць у добраахвотны сыход пісьменьніка з жыцьця. Вось факты, якія выклікаюць вялікія падазрэньні. Гэта факты, дакладна ўстаноўленыя сьледзтвам і францускімі журналістамі.

Савецкая турыстычная група налічвала 26 чалавек. У такім складзе група і выехала з Парыжу раніцай 27 жніўня 1961 году. Пасьля падзеньня пісьменьніка з вакна гатэля аказалася, што група складаецца з 24 чалавек — менавіта столькі зарэгістравалася ў гатэлі ў Кане. Француская паліцыя канстатавала, што два чалавекі са складу групы зьніклі невядома калі і невядома куды. У францускай прэсе выказвалася нават меркаваньне, што яны маглі быць спаленыя ў крэматорыі ў падвале савецкай амбасады ў Парыжы, дзе пазьней спалілі і цела пісьменьніка.

Усевалад Краўчанка быў знойдзены на прасмоленым даху гаража з праломленым цемем, але яшчэ жывы. Агонія працягвалася паўгадзіны. Лекарка групы нікога не падпускала да пісьменьніка і да прыезду францускай паліцыі пасьпела зрабіць Краўчанку, як яна казала, супакаяльны ўкол.

Паміж смаляным дахам гаража, на які ўпаў пісьменьнік, і акном ваннага пакоя, адкуль ён выкінуўся, роўна шэсьць мэтраў. Паводле камісара паліцыі Кана, у Краўчанкі была вялікая ўвагнутасьць на цемені. Відавочна, што каб яе атрымаць, трэба было скочыць з вакна задам або... атрымаць моцны ўдар па галаве яшчэ да падзеньня.

Таксама дзіўна, што з вакна Краўчанка выкінуўся ў майтках і кашулі. Ці ня сьведчыць гэта пра спантаннасьць учынку або гвалт?

Кіраўнік групы доўга адмаўляўся вярнуць паліцыі перадсьмяротную запіску Краўчанкі, якую яму далі для азнаямленьня. Журналісты ад камісара паліцыі даведаліся, што яна нібыта была напісаная лацінкаю і па-расейску. Народжаны на Мазыршчыне Краўчанка ніколі лацінкаю не карыстаўся. Ці няма тут спробы ўскладніць графалягічную экспэртызу? Аўтэнтычнасьць почырку паліцыі пацьвердзіў кіраўнік групы.

Запіска была знойдзеная паліцыяй у адзежы пісьменьніка. Як паведаміла «Бацькаўшчына», складзены аркушык «быў запхнуты праз кішаню пад рубец палы марынаркі». Я не псыхіятар, але, здаецца, перадсьмяротныя цыдулкі пакідаюць на відных месцах.

У разьвітальным тэксьце пісьменьнік папрасіў прабачэньня ў сваіх дзяцей, якіх меў чацьвёра. Гэта сын ад першага шлюбу Аляксей (які жыў у новай сям'і Краўчанкі, што абвяргае адну з вэрсіяў яго гібелі), а таксама сыны Ігар, Сяргей і дачка Вольга. Дык вось у запісцы Краўчанка зьвяртаецца толькі да трох зь іх — ён забыўся згадаць пра свайго малодшага і самага любімага сына Сяргея. Магчыма, ён хваляваўся, магчыма, пісаў пад дыктоўку, а магчыма, пісаў зусім ня ён.

Супярэчнасьцяў у справе вельмі шмат, але сур'ёзна імі ніхто ніколі не займаўся.

## Адказ КДБ на зварот сваякоў

У 2011 годзе, калі скончыліся 50 гадоў, на якія ў СССР звычайна засакрэчваліся такія справы, дачка пісьменьніка Вольга зьвярнулася ў архіў КДБ Беларусі з просьбай даць ёй магчымасьць азнаёміцца з архіўнай справай бацькі. Ёй, аднак, паказалі том падшытых характарыстык на ўдзельнікаў турыстычнай групы, дый тое са шматлікімі забеленымі месцамі і многімі вырванымі аркушамі. Таксама дачцэ выдалі «Архивную выписку». Там, сярод іншага, сьцьвярджаецца, што ў выніку ўзьніклага канфлікту падчас знаходжаньня ў Францыі адзін з членаў групы быў неадкладна высланы ў СССР. Апісаньне сьмерці пісьменьніка ў гэтым дакумэнце пададзена так:

«27 августа группа прибыла в город Кан и разместилась в отеле „Модерн". Кравченко как староста группы распределил туристов по но-

мерам, а сам поселился с туристом Тихоновичем (беларускі мастак Валянцін Ціхановіч. — С.А.) Как объясняет Тихонович, зайдя в номер, Кравченко пошел мыться в ванную комнату. Через несколько минут Тихонович услышал неестественный крик Кравченко и побежал в ванную, где увидел, что Кравченко сидит на решетке открытого окна. Тихонович крикнул: „Всеволод, что ты делаешь? Ты упадешь!“ и попытался схватить его, но Кравченко сделал странное выражение лица, разжал руки и полетел вниз, ударившись головой о крышу пристроенного к зданию кафе. Через 30–40 минут он скончался».

А вось як у «Архивной выписке» гаворыцца пра прычыны самагубства пісьменьніка:

«...как это видно из истории болезни, имеющейся в поликлинике лечсануправления Министерства здравоохранения БССР, Кравченко, начиная с 1949 года, страдал функциональным расстройством нервной системы, вегетативно-сосудистой дистонией, но это не было принято во внимание врачом лечфонда Союза писателей БССР т. Нейфахом при выдаче справки о состоянии здоровья Кравченко.

Перед выездом во Францию (так же как и Югославию в 1956 году и в Чехословакию в 1958 году) в анкетных и автобиографических документах Кравченко не указывал, что он был женат дважды. Как теперь выяснено, его первая жена Кравченко (Кирпичникова) Бася Іосіфаўна, 1922 года рождения, в 1942 году была вывезена в Германию, где впоследствии вышла замуж за

офицера английской армии Сивецкого Джона и выехала с ним в Англию. До 1949 года она писала письма родителям Кравченко.

Весь период нахождения группы туристов во Франции обстановка для них была очень сложная и тяжелая, сопровождавший группу гид постоянно пытался влиять на туристов в антисоветском направлении; у большинства туристов производились негласные осмотры вещей, у некоторых были испорчены фотоаппараты, в ряде городов была обнаружена слежка за туристами, что тяготило наших туристов и, в особенности, Кравченко.

Все это, а также плохое состояние здоровья Кравченко, и явилось, по нашему мнению, причиной самоубийства».

Што да здароўя, дык у сям'і сьцьвярджаюць, што яно ў пісьменьніка было нармальнае. У яго толькі што нарадзілася дачка, пра якую ён марыў больш за дзесяць гадоў і для якой распрацаваў цэлую праграму жыцьця, адным з пунктаў якой было веданьне францускай мовы і сумеснае падарожжа з бацькам у Францыю.

## Розгалас і памяць

Сьмерць пісьменьніка і яго творчасьць выклікалі вялікі інтарэс у беларускай эміграцыі. Краўчанку прысьвячалі артыкулы, расьследаваньні і творы, передрукоўвалі ягоныя апавяданьні і аповесьці. Міхась Кавыль напісаў на сьмерць пісьменьніка верш, Янка Запруднік апуб-

лікаваў літаратуразнаўчы разбор Краўчанкавай творчасьці, і г. д.

У Беларусі ж адзінай спробай паразважаць пра загадкавы сыход Усевалада Краўчанкі застаецца літаратуразнаўчы нарыс Сяргея Дубаўца «Самагубства беларускага пісьменьніка ў Кане», напісаны ў 2005 годзе. Вось заканчэньне гэтага тэксту:

«Але ёсьць яшчэ кнігі, творчасьць. У нашага героя — лёгкае пяро, празрыстая мова, стройны сюжэт, у якім часта сустракаецца фатальная нотка. Ягоныя пэрсанажы ад гэтага моцна выйграюць і, бадай, не састараваюць. З адлегласьці часу бачыш у гэтых тэкстах не сацрэалізм, а з хрэстаматыйнай акуратнасьцю збудаваныя фабулы. Цяпер так ня пішуць. А яшчэ мімволі гіпнатызуе гэтая канская гісторыя, і перад вачыма паўстае... чорна-белы фармат кіношнага нэарэалізму, афарбаваная ў колеры рэтра постаць Альбэра Камю, які загінуў недалёка адсюль за год перад Краўчанкам. Абодвум, дарэчы, было па 46. І вось ужо здаецца, што не сацрэалізм адчужае ад нас колішнія творы, а толькі — час, які аднолькава старыць што францускага экзыстэнцыяліста, што беларускага сацрэаліста. І аднолькава ня старыць тое, над чым ён ня ўладны».

# Чаму Ўладзімер Караткевіч адкрыў таямніцу двух музэяў

## Новы будынак гістарычна-краязнаўчага музэю

1 сьнежня 1956 году ў газэце «Літаратура і мастацтва» зьявілася нататка пад назвай «Гісторыка-краязнаўчы музей БССР».

Вось яе поўны тэкст:

«На Цэнтральнай плошчы Мінска, побач з Палацам культуры прафсаюзаў будаўнікі паставілі агароджу. Нямногія мінчане ведаюць, што тут праз два гады будзе ўзвышацца прыгожы будынак гісторыка-краязнаўчага музея, праект якога склалі беларускія архітэктары Г. Бенедзіктаў і Г. Заборскі. Будынак музея будзе адным з прыгажэйшых у Саюзе. У сярэдзіне яго ўпрыгожаць мармуровыя калоны. Паверхі злучаць мазаічныя лесьвіцы, а вестыбюлі, экспазіцыйныя залы і пакоі будуць прыгожа аддзеланы. На першым паверсе музея размесціцца аддзел прыроды. На другім і трэцім — аддзел гісторыі Беларусі. На здымку: праект гісторыка-краязнаўчага музея БССР».

Але на здымку мы бачым праект усім вядомага гмаху былога музэю Вялікай Айчыннай вайны, які нядаўна быў вераломна выключаны ўладамі са сьпісу помнікаў архітэктуры і разбураны.

У чым жа тут справа? Што здарылася больш за 65 гадоў таму?

## Што замарудзіла пераезд

Сёньня мала хто ведае, што пасьля XX зьезду КПСС беларуская інтэлігенцыя паспрабавала выкарыстаць пэўнае палітычнае паслабленьне, каб палепшыць нацыянальную справу ў БССР. Адным з дасягненьняў 1956 году і стала пастанова разьмясьціць Гістарычна-краязнаўчы музэй і Рэстаўрацыйныя майстэрні ў вялікім будынку на Цэнтральным пляцы Менску. 15 сьнежня 1956 году рашэньнем ураду была створаная Арганізацыйная група па стварэньні Беларускага дзяржаўнага гістарычна-краязнаўчага музэю.

Аднак узьнятыя галовы былі вельмі хутка апушчаныя рэпрэсіямі другой паловы 1950-х гадоў. Сярод карных акцыяў можна назваць звальненьне ў поўным складзе рэдакцыйнай калегіі газэты «Літаратура і мастацтва» на чале з галоўным рэдактарам Васілём Віткам у апошнія дні 1956 году, рэпрэсіі супраць студэнтаў і працаўнікоў Акадэміі навук у 1958–59 гадах.

У выніку справа з будаўніцтвам гісторыка-краязнаўчага музэю замарудзілася аж на восем гадоў. Ён быў пабудаваны толькі ў лістападзе 1964 году, пад самы канец эпохі Кірылы Мазурава. Але ў сакавіку 1965-га першым сакратаром ЦК КПБ, пасьля ад'езду Мазурава ў Маскву, стаў Пятро Машэраў, які не падзяляў поглядаў папярэдніка на каштоўнасьць гістарычнай навукі, затое вельмі шанаваў Вялікую Айчынную вайну і свой удзел у партызанскім руху. За часы ягонага кіраўніцтва ў Беларусі былі адкрытыя комплексы «Берась-

цейская крэпасьць-герой», «Хатынь», «Курган Славы», «Прарыў» і іншыя. Зрэшты, і Мазураў ня быў анёлам — яшчэ на пасадзе старшыні Савету міністраў БССР на пачатку 1956 году ён падпісаў пастанову пра скопваньне Замкавай гары і пабудову на яе месцы Дому спорту «Працоўныя рэзэрвы».

## Засяленьне ў новы будынак

Далей дамо слова Ўладзімеру Караткевічу, які ў студзені 1966 году зрабіў у дзёньніку наступны запіс:

«А тут яшчэ дзікая справа з музэем. Усе нашы намаганьні пайшлі дымам. А было так. Пабудавалі цудоўны будынак для гісторыка-краязнаўчага музэю. 4300 кв.м карыснай плошчы і яшчэ два паверхі для музэйных фондаў і майстэрань. І тут адна асоба, зьявіўшыся ў музэй Айчыннай вайны, з абурэньнем заўважыла, што няма яе партрэта. Апраўдваючыся, супрацоўнікі сказалі аб цеснаце. Між тым музэй меў 1300 кв.м, цалкам добра. І вось на пачатку сьнежня стала вядома, што ў верхніх інстанцыях абмяркоўваецца пытаньне аб тым, каб музэі памяняць месцамі... Супрацоўнікі ўзьнялі трывогу, пісалі лісты, літаральна білі ў набат. Таму што гэта была катастрофа. Для фондаў музэю Айчыннай вайны ня трэба і трох пакояў. Для іхняй экспазыцыі ў новым будынку хапае аднаго паверху, а два ніжнія паверхі для фондаў будуць пуставаць. Між тым, калі гістарычнаму музэю аддадуць

будынак музэю Айчыннай вайны — яны будуць задыхацца ў цеснаце...»

Робячы свой запіс у канцы студзеня 1966 году, Караткевіч троху паблытаў даты. Насамрэч пастанова ЦК КПБ пра абмен будынкамі паміж дзьвюма музэйнымі ўстановамі была прынятая яшчэ ў лістападзе 1965 году.

Беларускі дзяржаўны музэй гісторыі Вялікай Айчыннай вайны месьціўся тады ў цяперашнім будынку Нацыянальнага гістарычнага музэю на вуліцы Карла Маркса, 12. Беларускі дзяржаўны гісторыка-краязнаўчы музэй быў утвораны пастановай ЦК КПБ ад 7 лістапада 1964 году на базе Арганізацыйнай групы і празь пяць дзён, 12 лістапада, заехаў у новы будынак, дзе адразу ж была разгорнута юбілейная выстава «900 год Менску».

## Умяшаньне Машэрава

Пішучы пра гэтыя падзеі, Караткевіч спачатку не назваў імя асобы, якая не знайшла свайго партрэта ў экспазыцыі. Але пазьней у ягоным дзёньніку імя верагоднага віноўніка ўсё ж зьяўляецца:

«І пасьля гэтую справу правялі цішком, у таямніцы ад супрацоўнікаў. Тыя прыйшлі на работу — ім сказалі: ідзіце дадому. Наступнага дня быў загад: спыніць экспазыцыю. Даведаліся, што прыяжджаў Машэраў. Ён, відаць, і аддаў загад... І вось нядаўна афіцыйная пастанова. „З мэтай увекавечаньня“... Паколькі верхні паверх будзе пуставаць, там зробяць „Галерэю парты-

занскіх герояў“... Адна рэспубліка з 15 ня мае свайго гісторыка-краязнаўчага музэю. І ня будзе яго мець пры цяперашняй палітыцы... Словам, буйнейшая навуковая ўстанова пасьля акадэміі, вялікі навукова-мэтадычны цэнтар, магчымая слава наша — ляснулі».

Такім чынам, Гісторыка-краязнаўчы музэй праіснаваў у сваім будынку толькі адзін год. Пасьля пераезду на вуліцу Карла Маркса экспазыцыя была скарочана ў тры разы і, вядома, за кошт дарэвалюцыйнага часу: фактычна, засталіся толькі археалёгія і савецкі пэрыяд.

Музэй Вялікай Айчыннай вайны сапраўды ня меў патрэбы ў такім вялікім памяшканьні. Да самага моманту ягонага зносу ў 2014 годзе там была разьмешчана і частка фондаў Нацыянальнага гістарычнага музэю, так і ня вывезеных адтуль у 1965 годзе. Рэстаўрацыйныя майстэрні ў выніку апынуліся на першым паверсе жылога (!) дому на тагачаснай вуліцы Максіма Горкага (цяпер Максіма Багдановіча).

Фактычны разгром сур’ёзнай навуковай установы, якая займалася тысячагадовай гісторыяй Беларусі, чорнай плямай кладзецца на імя Пятра Машэрава побач са зносам Нямігі, якога ён дамогся на некалькі гадоў пазьней.

Цяперашнія ўлады мелі шанец выправіць памылку і пасьля пабудовы новага музэю Вялікай Айчыннай вайны павінны былі перасяліць на Кастрычніцкі пляц Нацыянальны гістарычны музэй, захаваўшы за ім для навуковых мэтаў і стары будынак. Але гісторыя і культура цяпер не

ў пашане. Будынак, які ўнутры, паводле праекту, быў аформлены ў беларускім нацыянальным стылі, зьнесьлі і пабудавалі на яго месцы новы, стылёва ўбогі і недарэчны гмах.

# Чаму Караткевіч не любіў Менск

## Забойства Ігара Хадановіча

На самым пачатку 1966 году ў Менску забілі маладога пісьменьніка Ігара Хадановіча. Забілі за тое, што ён размаўляў па-беларуску. Яму было 25 гадоў.

Вось як пра гэта ў сваім дзёньніку напісаў Уладзімер Караткевіч:

«У адзін з тых дзён хавалі бедалагу Ігара Хадановіча. Таленавіты хлопчык, бедны хлопчык. Няшчасны лёс... Гэтая свалота, якая забіла яго, і словы яе: „Раечка, подожди, я тут одного пшека научу говорить по-русски“ стаяць у вушах. І вось свалоце, забойцу дадуць максымум восем год, а чалавеку, які абяцаў расьцьвісьці ў неабыякога празаіка, — магіла.

Я люблю людзей, але менавіта таму гэткіх, як тое быдла, што гаспадарыць у нашым горадзе, ды яшчэ ногі на стол кладзе, — я прылюдна вешаў бы. Зьбіць, а пасьля вярнуцца з бандай яшчэ раз, наваліцца на сплываючага крывёй і дабіць».

І троху ніжэй пра маці пісьменьніка:

«Ваенная ўдава. Вырасьціла сірату ад немаўляці да чалавека, добрага хлопца, мужа, пісьменьніка. І ўсё дзеля таго, каб тупое быдла, якое ўлезла да суседа, жарэ ў ягонай хаце, ды яму ж на стол і с... — узяло ды забіла».

Уладзімер Караткевіч, як бачым, быў перакананы (магчыма, меў такую інфармацыю?), што беларускага пісьменьніка забілі менавіта прыхадні-расейцы.

А я, калі прачытаў гэтыя радкі, задумаўся. Як мянчук я дакладна ведаю, што ў 1950–1960-я гады карэнныя расейскамоўныя менчукі зь вялікай пагардай ставіліся да тых, хто размаўляў зь беларускім акцэнтам, і ўсіх выхадцаў з Заходняй Беларусі называлі «пшэкамі».

А ў канцы 1970-х — пачатку 1980-х гадоў, якія памятаю ўжо сам, у раёне Аўтазаводу і Паўночнага пасёлку ішлі крывавыя бойкі паміж гарадзкімі хлопцамі і жыхарамі заводзкіх інтэрнатаў — нядаўнімі вяскоўцамі. І прычына была толькі адна — «калхозная мова», «калхозны акцэнт» інтэрнацкіх «крестов» — так іх называлі ўва ўсім Менску. Бойкі былі жудасныя і бязьлітасныя, да калецтва. Ня раз «хуткая» забірала зьбітых былых вяскоўцаў з вуліцы Енісейскай, дзе было адразу тры інтэрнаты, або і з танцаў «на фае» — так называлася гэтае мерапрыемства ў Палацы культуры МАЗу. У некага ад пабояў аднялася нага, некаму выбілі вока або зламалі сківіцу.

У прынцыпе, усю сярэдзіну і другую палову XX стагодзьдзя карэнныя менчукі размаўлялі па-расейску і ненавідзелі беларускую мову, нават беларускае вымаўленьне.

Менск, такім чынам, вельмі хутка вытвараў з былых беларускамоўных вяскоўцаў расейскамоўных беларусаў. І Караткевіч гэта ня толькі разумеў, але і адчуваў сваёй беларускай істотай.

На некалькі абзацаў вышэй, перад развагамі пра сьмерць Ігара Хадановіча, ён напісаў пра Менск:

«Не хацелася ісьці ў Гудагай, не хацелася і ехаць чацьвёртага вечарам у Мінск. Зноў гэты горад, чужы мне і большасьці сяброў, горад, у якім многа яшчэ трэба пабудаваць, каб стаў ён, сапраўды, сэрцам. Дый ці пабудуеш яшчэ? Пакуль тое, пальму трымае Вільня»*.

Хацелася б памыляцца, але думаю, што ў нашы дні, як і пяцьдзясят гадоў таму, ва Ўладзімера Караткевіча было б ня менш падставаў не любіць Менск.

У кожным выпадку, тыя, хто ведаў Ігара Хадановіча і цяпер яшчэ жыве ў Менску, сьцьвярджаюць, што забойцы не былі прыежджымі расейцамі — гэта была звычайная менская расейскамоўная шпана.

## Выпадак Сербантовіча

Паэт Ігар Хадановіч, якога забілі ў 1966 годзе, быў не адзіным беларускім творцам, які загінуў у вулічнай бойцы. Праз чатыры гады, у сакавіку 1970 году, на начной вуліцы Менску быў жорстка зьбіты і памёр у шпіталі выдатны беларускі паэт Анатоль Сербантовіч. Яму было 29 гадоў.

Вось як пра гэта ў «Імёнах Свабоды» напісаў Уладзімер Арлоў:

* Цытаты зь дзёньніка Ўладзімера Караткевіча даюцца паводле публікацыі ў № 78 часопіса «Дзеяслоў».

«Аднойчы ўвечары ён, атрымаўшы неблагі ганарар і „замачыўшы“ гэтую падзею, ішоў па менскай вуліцы. На просьбу сустрэчнай кампаніі даць закурыць выцягнуў з кішэні пачак грошай: „Вось вам на цыгарэты!“ Яго завалілі на ходнік і бясконца доўга білі нагамі. Потым былі шпіталь, жорсткія прыступы галаўнога болю, інсульт і адыход туды, дзе паэту, магчыма, удалося зьдзейсьніць выказаную ў адным зь вершаў мару і разгадаць

*Тайну музыкі,*
*Тайну крыкаў,*
*Тайну гукаў і нематы,*
*Тайну чыстага і вялікага,*
*Тайну злосьці і дабраты...*»

Я амаль не сумняваюся, што выдатнага лірыка і аўтара вянкоў санэтаў, які меў патэнцыял разьвіцца ў найлепшага беларускага паэта другой паловы XX стагодзьдзя, забілі за тое самае, за што і Ігара Хадановіча — за беларускую мову або за беларускае вымаўленьне. Але разважаць з гэтай нагоды буду не пра «рускасьць» Менску, але пра беларускую ксэнафобію, жорсткасьць і лютасьць.

## Беларуская вэндэта

Ва ўспамінах заходнебеларускіх дзеячоў, у тым ліку сэнатара Васіля Рагулі і некаторых яго калегаў, згадваюцца надзвычай жорсткія адзіночныя і масавыя бойкі з удзелам моладзі, якія

адбываліся ў 1930-я гады ў беларускіх вёсках. Гэтыя сялянскія «войны» вельмі часта заканчваліся забойствамі і калецтвам. Польская паліцыя не пасьпявала шукаць і садзіць у турмы вінаватых. Пакрыўджаныя сваякі ахвяраў працягвалі зводзіць рахункі і ў 1940-я гады, калі пачалася Другая сусьветная вайна: адны пайшлі ў паліцыю, іншыя — у партызаны. Гэтая беларуская вэндэта, як ні дзіўна, была адной з падставаў таго, што Васіль Быкаў назваў падзеі 1941–44 гадоў у акупаванай Беларусі грамадзянскай вайной. Іншая падстава — удзел у рэпрэсіях па лініі ахвяра — кат (даносчык).

Але бойкі працягваліся і пасьля вайны. Жорстка біліся на парафіяльных фэстах у Заходняй Беларусі. Мой бацька ня раз расказваў, як у канцы 1940-х гадоў у Карэліцкім раёне біліся вёска на вёску. Часам нават ужывалі прашчы, шпурляючы камяні праз рэчку. Былі і забітыя, і параненыя. У мяне самога два менскія сябры ў розныя гады памерлі ад кровазьліцьця ў мозг, якое наступіла на раніцу пасьля таго, як іх напярэдадні жорстка зьбілі. Аднаму было 19 гадоў, другому троху больш за 30.

Як мы ўжо ведаем, улетку 1956 году, перад самай сьмерцю, Якуб Колас напісаў тры лісты ў ЦК, якія сталі ягоным запаветам. Адзін быў прысьвечаны стану мовы, другі — стану могілак, а трэці... вулічным бойкам. Колас адчайна прасіў ЦК КПБ зьвярнуць увагу на жорсткасьць гарадзкой і вясковай моладзі і заклікаў кіраўніцтва

БССР больш рашуча і пасьлядоўна заняцца яе выхаваньнем.

Коласа не пачулі. Людзей па-ранейшаму калечылі і забівалі. Сярод ахвяраў аказаліся і два беларускія пісьменнікі: Ігар Хадановіч і Анатоль Сербантовіч.

## Ксэнафобія

Калі мова ідзе пра перадваенную Заходнюю Беларусь, дык аўтары ўспамінаў часта пішуць пра цяжкае нацыянальнае і сацыяльнае становішча беларусаў. Гэта сапраўды так. Палякі прыгняталі беларусаў палітычна і эканамічна. Дзяржаўныя землі выдзяляліся або прадаваліся толькі асаднікам-калянізатарам, пасады раздавалі выключна каталікам, і г. д. Вынікам стала беднасьць, адсутнасьць сацыяльных ліфтаў і перапоўненасьць вёсак людзьмі ў актыўным узросьце.

Гэта, аднак, не тлумачыць, чаму бойкі працягваліся і пасьля вайны, і пасьля пераезду вяскоўцаў у гарады. Я думаю, што асноўных прычын вясковых і гарадзкіх боек у Беларусі сярэдзіны і другой паловы XX стагодзьдзя было дзьве — ксэнафобія і нізкая культура.

Выглядае, што беларускі народ не такі ўжо і талерантны, як пра гэта пішуць і гавораць, спасылаючыся на шматканфэсійны статус краіны і адсутнасьць рэальных рэлігійных войнаў у мінулым. Насамрэч, як народ лясны і паўночны, беларусы даволі ксэнафобныя. Ня маючы да канца сфармаванай нацыянальнай самасьвядомасьці і

таму будучы ня ў стане адчуваць салідарнасьць на агульнанацыянальным узроўні, рэальна сваім яны лічаць толькі прыватную тэрыторыю — дом і сям'ю. Іншая вуліца, іншая вёска, іншы раён — гэта ўжо чужынцы. Гэта і ёсьць прычына боек.

А прычына жорсткасьці, нават лютасьці — поўнае бескультур'е, фактычная дзікасьць удзельнікаў тых боек. Я быў відавочцам гэтых пабоішчаў у Менску і сьведчу, што калі нехта ланцугом ад ровара раскройваў чужы чэрап, то гэта заўсёды быў ня столькі чалавек, колькі пітэкантрап з адпаведным абліччам і выразам твару. А гэта ўжо вынік доўгага каляніяльнага статусу краіны і адсутнасьці нацыянальнай эліты, якая здрадзіла свайму народу і падалася або ў палякі, або ў расейцы.

Трагізм нашага лёсу ярка ілюструе фраза з аўтабіяграфіі расейскага філёзафа пачатку XX стагодзьдзя Мікалая Лоскага, які паходзіў зь Віцебскай губэрні: «Оба родителя были поляками, но тем не менее считали себя русскими». А насамрэч былі этнічнымі беларусамі.

## «Рускасьць» сталіцы і бойкі з «крестами»

Беларускі акцэнт быў толькі адной з зачэпак. Насамрэч у Менску біліся ўсе — і ўчорашнія «кресты» зь сёньняшнімі (або пазаўчорашнія вяскоўцы з учорашнімі), і «чыста гарадзкія» з «чыста гарадзкімі». Галоўнае, што адбывалася гэта пераважна на ўскраінах. Можна згадаць

выпадкі, як Аўтазавод, арганізаваўшыся ў вялікі гурт, хадзіў на Чыжоўку або спантанна, проста з танцавальнай пляцоўкі «Карчы» ў парку імя 50-годзьдзя Вялікага Кастрычніка, на Серабранку. Затое цяжка прыгадаць, каб вуліца Леніна ішла сьценкай на Камсамольскую або на Карла Маркса. Прычына простая: жыхары цэнтру, як і іх дзецi, мелі больш высокі адукацыйны, а ў выніку і культурны, цэнз.

А Менск Уладзімер Караткевіч, як сьведчыць поўны варыянт цытаты зь дзёньніка, фрагмэнт якой я прыводзіў раней, не любіў ня толькі за лінгвістычную апазыцыю да беларускай культуры, але і за бескультур’е ўвогуле, у тым ліку і за разбурэньне помнікаў архітэктуры, якое актыўна працягвалася пасьля вайны рукамі саміх менчукоў і працягваецца ў нашы дні. Усё гэта — прадукт нашага каляніяльнага становішча.

# Чаму мы дзякуем Польшчы за Туронка

Юры Туронак (26.04.1929 — 2.01.2019), несумненна, адзін з галоўных беларускіх гісторыкаў XX стагодзьдзя. І напісаць свае найважнейшыя кнігі, на маю думку, ён змог толькі таму, што жыў у Польшчы.

## Знаёмства

Упершыню я трапіў у гасьцінны дом Юрыя Туронка на вуліцы Тамка ў Варшаве ўвесну 1991 году. У той час ён дапамагаў беларускай рэдакцыі Радыё Свабода, якая месьцілася ў Мюнхэне, наладжваць кантакты са сваімі менскімі карэспандэнтамі, адным зь якіх я і быў.

Ня буду цяпер пісаць пра яго дабрыню, інтэлігентнасьць, таварыскасьць, інтэлект і глыбокі беларускі патрыятызм. Проста назаўсёды застануся яму ўдзячны за дапамогу.

Туронак мяне прыняў як калегу, бо, апрача Свабоды, я яшчэ працаваў у Нацыянальным навукова-асьветным цэнтры імя Францішка Скарыны і займаўся гісторыяй Уніяцкай царквы, у прыватнасьці, міжваеннай Нэа-уніяй. У Юрыя Туронка таксама былі працы па Нэа-уніі, таму пагаварыць нам было пра што.

Мяне тады ўразілі кніжныя паліцы яго невялікай і сьціпла абстаўленай кватэры. На іх было вельмі шмат польскіх гістарычных кніжак —

навуковых і публіцыстычных. Зачараваны, я ня мог адысьці ад шафы, але і папрасіць пачытаць, натуральна, нічога ня мог — як аддаць, калі жывеш у іншай краіне?

Выдатны гісторык усё адчуў сам і падараваў мне кніжку, якую я найбольш уважліва гартаў. Гэта была кніга Марка Баруцкага «Jak w dawnej Polsce królów obierano» — таленавіта напісаная захапляльная гісторыя польскай экспансіі ў Вялікае Княства Літоўскае ў XV–XVI стагодзьдзях. Гэтую кніжку ў Менску ў мяне вельмі хутка «зачыталі».

## Падзяка суседзям

Цяпер, гартаючы кнігі гісторыка, выразна разумееш, што зьявіцца яны маглі менавіта ў Польшчы — дзе, з увагі на больш свабодны палітычны рэжым, і навука была непараўнана больш свабодная і лепш фінансаваная, чым наша савецка-беларуская.

Гэтая думка ўпершыню прыйшла мне ў галаву ў 1994 годзе, калі дырэктар Скарынаўскага цэнтру прафэсар Адам Мальдзіс паслаў мяне ў Польшчу ў дактарантуру да славутага польскага гісторыка, прафэсара Люблінскага каталіцкага ўнівэрсытэту Ежы Клачоўскага.

Гісторык зь Беларусі адчуваў сапраўдны шок, калі трапляў у звычайную польскую ўнівэрсытэцкую кнігарню. Там былі цэлыя завалы гістарычных манаграфій. Здавалася, палякі напісалі ўжо ўсю магчымую гісторыю Польшчы і суседніх краін і ўзяліся за свае асобныя паселішчы — там

былі манаграфіі на 500 старонак, у якіх апісвалася гісторыя канкрэтных вёсак!

## Пад антыбеларускім кантролем

У нашы дні беларуская гістарычная навука па-ранейшаму знаходзіцца пад татальным кантролем аўтарытарнай і, фактычна, антынацыянальнай дзяржавы.

Разгромлена горадзенская гістарычная школа, зачыненыя гістарычныя часопісы, з працы звольнена шмат выдатных навукоўцаў. Гісторыкі літаральна прадзіраюцца праз ідэалягічныя абцугі, каб хоць неяк апісаць наша сапраўднае мінулае з нашых уласных пазыцый.

Але, у прынцыпе, слушнай будзе і канстатацыя, што сёньняшняя гістарычная навука Беларусі безнадзейна адстала ад польскай.

## Патрэба Нацыянальнай гістарычнай бібліятэкі

І вось я думаю, што ў нас калісьці магла б зьявіцца Беларуская нацыянальная гістарычная бібліятэка.

Так і бачу, як у Інстытуце гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук засноўваецца аддзел-рэдакцыя, які займаецца перакладам найперш польскіх, але таксама і літоўскіх, нямецкіх, украінскіх etc. гістарычных манаграфій на беларускую мову, забясьпечвае іх адпаведнымі камэнтарамі і выдае ў рамках шматтомнай сэрыі.

Насамрэч, вельмі і вельмі шмат з таго, што ў нас яшчэ ня вывучана і не напісана, ужо вывучана і напісана суседзямі, найперш палякамі.

Цяпер гэтую гераічную працу па перакладзе гістарычных кніг самаахвярна робіць выкінуты з акадэмічнага Інстытуту гісторыі рэдактар «Беларускага гістарычнага агляду», доктар гістарычных навук Генадзь Сагановіч. Але гэтага, відавочна, недастаткова. Калісьці яе павінен пераняць аддзел інстытуту або і асобны інстытут Акадэміі навук.

І хай бы наша Нацыянальная гістарычная бібліятэка насіла імя Юрыя Туронка.

## Чаму Адам Мальдзіс быў акадэмікам, хоць і ня стаў ім

Пра волата беларускай навукі і культуры, доктара філялягічных навук, прафэсара Адама Мальдзіса ўжо напісана і яшчэ напішацца шмат тэкстаў. Будуць згадваць яго кнігі, яго самога, нехта, магчыма, пачне пісаць успаміны.

Гэты вучоны ўсё жыцьцё павінен быў прадзірацца праз сьцяну савецкага агітпропу, праз інтрыгі прарасейскіх і пракамуністычных дзеячоў Акадэміі навук і супраціў дурных мясцовых і цэнтральных чыноўнікаў. Адам Іосіфавіч нямала пражыў і нямала зрабіў, але ўсё ж сышоў не да канца рэалізаваны, без сваёй навуковай школы і вучняў, практычна недаацэнены.

Але хочацца верыць, што цёмныя часы мінуцца і што Беларусь усё ж ацэніць гэтага падзьвіжніка і яго даробак належным чынам, што некалі выйдзе і шматтамовы збор ягоных твораў, і вуліцы будуць названыя яго імем, і помнікі ў Астраўцы і Менску зьявяцца.

Ня ведаю, ці будзе некалі ў Беларусі свой пантэон, але калі будзе, то ганаровае месца для прафэсара Адама Мальдзіса там ужо зарэзэрвавана.

### Праца з Мальдзісам

У 1991 годзе пасьля заканчэньня БДУ і двух гадоў выкладаньня гісторыі ў школе я працаваў

загадчыкам сэктару цэнтральнай Беларусі ў Беларускім дзяржаўным музэі народнай архітэктуры і побыту. Аднойчы на маім працоўным стале зазваніў тэлефон. На другім канцы быў прафэсар Адам Мальдзіс, ён прапанаваў сустрэцца і пагаварыць.

Мы сустрэліся, і Адам Іосіфавіч запрасіў мяне на працу ў Акадэмію навук, у Нацыянальны навукова-асьветны цэнтар імя Францішка Скарыны, які ён тады ствараў і дырэктарам якога ўжо быў прызначаны. Гэта было ганарова, адказна і троху страшнавата. Я, вядома, згадзіўся, і так прафэсар Мальдзіс стаў маім начальнікам на наступныя пяць гадоў.

Гэта былі шчасьлівыя гады — і мае, і краіны. Я працаваў малодшым навуковым супрацоўнікам у аддзеле тэорыі і гісторыі беларускай культуры пад кіраўніцтвам іншага волата беларускай навукі — прафэсара Ўладзімера Конана і пад агульным наглядам дырэктара Цэнтру і кіраўніка яго Навуковай рады прафэсара Адама Мальдзіса.

Тады не было забароненых тэмаў і ўсё здавалася магчымым. Наш аддзел, напрыклад, у 1993 годзе заплянаваў напісаць і выдаць амбітнае 4-тамовае дасьледаваньне «Нарысы гісторыі рэлігіі ў Беларусі», праца над якім неўзабаве пачалася, але так і не была скончаная, бо сытуацыя вакол Скарынаўскага цэнтру і палітычная сытуацыя ў краіне вельмі хутка зьмяніліся.

Неяк увосень я мусіў здаць кіраўніцтву гадавы плянавы тэкст, каб адсправаздачыцца за некалькі навуковых камандзіровак у архівы. Замест гэтага

я прынёс яму 150-старонкавы рукапіс дысэртацыі пра нацыянальны аспэкт Нэа-уніі ў Заходняй Беларусі ў 1920–30-я гады.

Назаўтра Адам Іосіфавіч з дысэртацыяй у руках расхвалявана хадзіў па паверхах левага крыла цэнтральнага корпусу Акадэміі навук, дзе тады разьмяшчаліся Інстытут літаратуры і Скарынаўскі цэнтар, і казаў калегам: «Во, Абламейка прынёс цагліну, я цэлую ноч чытаў, будзе добрая дысэртацыя і кніга». Яшчэ праз пару дзён ён пачаў паседжаньне Навуковай рады цэнтру словамі: «Дарагія калегі, дазвольце павіншаваць вас са знамянальнай падзеяй. У Беларусі зьявіўся новы гісторык. Прашу вітаць і шанаваць — Сяргей Абламейка».

Я гэта пішу не для таго, каб пахваліцца, але для таго, каб паказаць найважнейшую якасьць навукоўца і чалавека Мальдзіса — яго абсалютна шчырую, глыбінную бескарысьлівасьць і адданасьць навуцы. Галоўнай каштоўнасьцю для яго была Беларусь, беларушчына, беларуская навука і культура. І калі ў падмурку гэтага беларускага дому зьяўлялася чарговая цаглінка (кніга, тэкст, знаходка) — ён не раўнаваў, не зайздросьціў, не крытыкаваў, але шчыра-шчыра радаваўся, бо адчуваў адказнасьць за ўвесь дом. Бо быў адным з айцоў тагачаснай (і сучаснай) беларушчыны, якой жыў і дыхаў.

Тым часам прыйшоў 1994 год, адліга пачатку 90-х заканчвалася, і вельмі хутка высьветлілася, што ВАК маю дысэртацыю на такую тэму не прапусьціць. Таму Адам Іосіфавіч накіраваў мяне ў

дактарантуру ў Люблінскі Каталіцкі ўнівэрсытэт, да свайго сябра прафэсара Ежы Клачоўскага, куды я пасьпяхова і паступіў. Але гэта, як кажуць, ужо зусім іншая гісторыя.

## Ягоны даробак

27 сьнежня 1956 году «ЛіМ» зьмясьціў агляд чытацкай пошты пад назвай «Ахоўваць помнікі культуры». Былі там і такія радкі:

«...Але больш за ўсё рэдакцыя атрымлівае пісем аб тым, што ў многіх раёнах нашай рэспублікі ўсё яшчэ дрэнна ахоўваюцца помнікі культуры беларускага народа. Тав. Мальдзіс з Радашковіцкага раёна паведамляе, што ля вёскі Краснае захавалася арыгінальная драўляная будоўля XVIII стагодзьдзя, якая цяпер разбураецца...»

Гэта і быў выпускнік журфаку БДУ таго ж 1956 году Адам Мальдзіс, які па разьмеркаваньні трапіў на пасаду сакратара радашкавіцкай раённай газэты «Сцяг Ільіча». Ужо тады ён дбаў пра помнікі культуры, і з тых самых часоў пачынаецца яго асабістая бітва за беларускую мову, культуру і гісторыю, якая цягнулася 67 гадоў, бо першую публікацыю ён зрабіў яшчэ студэнтам у 1954-м.

Пасьля былі асьпірантура ў Інстытуце літаратуры Акадэміі навук і шмат дзесяцігодзьдзяў плённай навуковай і асьветнай працы. Два дзясяткі кніжак і сотні навуковых і навукова-папулярных публікацый у газэтах і часопісах.

Усе знаходкі і дасягненьні Адама Мальдзіса пералічыць цяжка, гэта павінны зрабіць яго біёграфы. Назаву тут усяго некалькі.

Ён знайшоў беларускі верш «Всем многі век в новой хаці», напісаны ў сярэдзіне XVIII стагодзьдзя апошнім канцлерам Вялікага Княства Літоўскага Яўхімам Храптовічам, і цяпер мы ведаем, што найвышэйшыя ўрадоўцы Вялікага Княства Літоўскага пісалі вершы па-беларуску перад расейскай акупацыяй гэтай дзяржавы.

Ён знайшоў зборнік старадаўняй беларускай музыкі «Полацкі сшытак», без мэлёдыяў якога цяпер цяжка ўявіць канцэрты старадаўняй беларускай музыкі і сьпеваў.

І, нарэшце, ён напісаў доктарскую дысэртацыю, якая выйшла асобнай манаграфіяй «На скрыжаваньні славянскіх традыцый», за сьціплай назвай якой хаваецца магутны інтэлектуальны чын — клясыфікацыя вялікіх стыляў для нашай літаратуры і мастацтва. Гэта дакладна навуковы подзьвіг.

Ды, зрэшты, усё ягонае жыцьцё, навуковая праца, сотні яго адкрыцьцяў і знаходак, дзясяткі кніг — гэта навуковы і чалавечы подзьвіг.

## Падарунак гісторыі

Прафэсар Адам Мальдзіс стаў для нашага народу містычным падарункам гісторыі.

Этнагенэз беларусаў апошнюю тысячу год праходзіў праз асыміляцыю балтаў славянамі. У гістарычным і этнічным сэнсе «Русь» і «Літва» —

дзьве крыніцы, зь якіх выцякае паўнаводная рака сучаснай беларушчыны, гэта дзьве асновы мадэрнай беларускай ідэнтычнасьці.

Адам Іосіфавіч Мальдзіс нарадзіўся ў 1932 годзе на этнічным беларуска-літоўскім памежжы ў Астравецкім раёне. Ён любіў расказваць, што ў яго роднай вясковай хаце гучалі адначасова дзьве мовы — ягоныя дзед з бабуляй размаўлялі па-літоўску, а бацькі перайшлі ўжо на беларускую мову, якая стала роднай і для маленькага Адама.

І вось гэты аслаўянены балт зь літоўскім прозьвішчам стаў адным са слупоў сучаснай беларускай культуры і навукі.

Ці ня цуд гэта і ці ня містыка гісторыі?

## Містычнае пакліканьне

Часам мне думаецца, што містыка прысутнічае і ў пакліканьні выбітных людзей да іх чыну.

Чым, як ня містыкай, назваць той факт, што 60 гадоў таму два сябры, Уладзімер Караткевіч і Адам Мальдзіс, паехалі ў Вільню ў архіў і там пазнаёміліся з маладым супрацоўнікам, гісторыкам Генадзем Кісялёвым, якога пасьля перацягнулі жыць і працаваць у Менск?

Яны сталі найбліжэйшымі сябрамі, што моцна паўплывала на асабісты даробак кожнага зь іх. І гэта таксама, відаць, містыка нябёсаў: ім было наканавана пазнаёміцца і сысьціся, разам падчас працы, у падарожжах і застольлях абмяркоўваць родную гісторыю і культуру, яе праблемы і выклікі, яе герояў і антыгерояў.

У выніку сёньня кожны з гэтага трыюмвірату — Караткевіч, Кісялёў, Мальдзіс — асобны слуп беларушчыны, безь якога нельга ўявіць сабе сучасную Беларусь, яе гісторыю, яе навуку і культуру. Іх даробак і чын ляжаць у аснове беларускага палітычнага і нацыянальнага адраджэньня другой паловы 1980-х гадоў.

## Патрэба навуковай біяграфіі

Пра такіх людзей пішуць навукова-папулярныя біяграфіі. Ніхто, апрача біёграфа, не згадае, не ацэніць і не пералічыць усіх знаходак, адкрыцьцяў і дасягненьняў такога чалавека-глыбы.

Трэба вывучыць яго архіў, яго раскіданыя ў дзясятках выданьняў публікацыі, ліставаньне. Там адкрыецца процьма неверагодных і займальных фактаў і гісторый. Жыцьцё і навуковая дзейнасьць Мальдзіса, пра якую я ведаю ня толькі зь яго публікацый, але і непасрэдна зь ягоных словаў, — вартыя ўвагі бэлетрыстаў.

Толькі адзін факт. Ён усё жыцьцё шукаў беларускамоўныя вершы Адама Міцкевіча, у існаваньні якіх ніколі не сумняваўся. І вось аднойчы ў 1970-я гады, калі ён быў па навуковых справах у Польшчы, да яго ў гатэльны нумар пазваніў чалавек, які сказаў, што хоча перадаць яму цэлы сшытак беларускіх вершаў Адама Міцкевіча, якія польскія навукоўцы-нацыяналісты хаваюць 100 гадоў ад часу сьмерці вялікага песьняра. Былі прызначаныя час і месца сустрэчы, але той чалавек туды так і не прыйшоў. Мальдзіс лічыў,

што сшытак маглі перахапіць і нават зьнішчыць польскія спэцслужбы, якія праслухоўвалі гатэльныя тэлефоны.

А такіх падзей у навуковым жыцьці Мальдзіса было не адна і ня дзьве.

Я думаю, што ў сёньняшняй Беларусі жывуць людзі, інтэлектуальны кшталт якіх дастатковы для таго, каб напісаць біяграфію Адама Мальдзіса і стаць рэдактарам збору ягоных твораў. Але імёны іх дзеля зразумелых прычын называць ня буду. Гэта справа лепшай будучыні.

## Ганьба Акадэміі навук

У нармальнай сытуацыі ў нармальных краінах такія навукоўцы, як прафэсар Адам Мальдзіс, ствараюць свае навуковыя школы і кіруюць імі. Яны да самай сьмерці ўзначальваюць катэдры ці інстытуты і накіроўваюць сваіх асьпірантаў і маладзейшых калегаў туды, куды самі не дацягнуліся ці на што ў іх некалі не хапіла часу.

Вядома, Адам Мальдзіс павінен быў бы да скону заставацца дырэктарам Нацыянальнага навукова-асьветнага цэнтру імя Францішка Скарыны, а цэнтар гэты павінен быў існаваць і быць складовай часткай Акадэміі навук Беларусі.

Але так ня сталася. Яшчэ ў часы маёй працы ў Скарынаўскім цэнтры ворагі беларушчыны і зайздросьнікі Мальдзіса праз інтрыгі выкінулі гэтую навуковую ўстанову са складу Акадэміі навук і далучылі да Міністэрства асьветы, дзе яна пасьпяхова і сканала. Мальдзіса ў 1998 годзе звольнілі

з працы, а праз пару гадоў яго яшчэ і жорстка зьбілі на вуліцы маўклівыя людзі ў чорным.

Яго не абралі акадэмікам. Як не абралі акадэмікамі і іншых волатаў навукі — Генадзя Кісялёва, Уладзімера Конана, Валянціна Грыцкевіча. А тым часам па лініі аддзяленьня гуманітарных навук акадэмікамі рэгулярна абіраліся іншыя людзі, якія практычна ніякага сьледу ў беларускай гуманітарнай навуцы і культуры не пакінулі.

Таму і просіцца на заканчэньне сумная высснова: калі Адам Мальдзіс ня быў акадэмікам, значыць, у Беларусі няма Акадэміі навук.

А калі нехта лічыць, што яна ўсё ж ёсьць, то адсутнасьць у ліку акадэмікаў прафэсара Мальдзіса — незмывальная ганьба такой Акадэміі.

## Ягоны запавет: шукайце!

Прафэсар Адам Мальдзіс быў апантаным шукальнікам беларускіх скарбаў за мяжой. Можна сказаць, што сэнсам яго навуковага жыцьця быў пошук.

Ён хацеў знайсьці і вярнуць у Беларусь як мага больш фактаў і артэфактаў нашай гісторыі і нашай спадчыны. Вярнуць ня толькі ў пераносным, але і ў простым сэнсе слова. У 1987 годзе ён стварыў і ўзначаліў камісію «Вяртаньне» Беларускага фонду культуры, якая, паводле задумы, павінна была весьці ўлік, шукаць і спрабаваць вярнуць у Беларусь нашы культурныя скарбы. Было наладжана выданьне зборнікаў дакумэнтаў

пра страты, а таксама пра месца знаходжаньня вывезеных і скрадзеных скарбаў.

Усё жыцьцё ён шукаў крыж Эўфрасіньні Полацкай і новыя дакумэнты пра Францішка Скарыну. Ён не складаў рукі і не паддаваўся адчаю, бо лічыў, што нас чакае яшчэ шмат знаходак. Пра гэта ён мне неяк так і сказаў: «Нязнойдзенага пакуль больш, чым знойдзенага. У нас усё наперадзе».

Таму, бяз рызыкі памыліцца, можна назваць ягоным асноўным запаветам для будучых пакаленьняў беларусістаў навуковы пошук. У пацьверджаньне нястомнай дасьледчыцкай энэргіі прафэсара прывяду яго словы з нашага апошняга інтэрвію. Ужо моцна хворы, ён марыў пра навуковыя падарожжы:

«Паводле маіх уяўленьняў, невядомыя дакумэнты пра Францішка Скарыну могуць яшчэ быць знойдзеныя ў архівах усіх краінаў Эўропы, дзе Скарына жыў, працаваў або вучыўся. Гэта Аўстрыя, Італія, Данія, Чэхія, Польшча і Літва... Нават у Варшаве нібыта шмат знойдзена, але каб сказаць, што там усё дасьледавана — нельга. Каб я меў сілы і магчымасьці (я цяпер моцна хварэю), то я паехаў бы найперш у Данію, Польшчу і Італію, паехаў бы ў Вэнэцыю, бо Падуя ўваходзіла ў Вэнэцыянскую рэспубліку. Ды нават паехаў бы ў Вільню. Скарына ж быў сакратаром віленскага біскупа Яна, а дакумэнты пра гэта ніхто пакуль не знайшоў».

Такое прыгожае і плённае жыцьцё...

# Чаму Рэч Паспалітая ня стала дзяржавай «трох народаў»

У шматвяковай гісторыі Беларусі быў пэрыяд, калі значная яе частка магла апынуцца ў складзе так званага Вялікага Княства Рускага — або, кажучы сучаснай мовай, у складзе Ўкраіны. Гэта было ў сярэдзіне XVII стагодзьдзя.

## Казацка-сялянская вайна

Пункт адліку — 1648 год, калі ва Ўкраіне пачалося казацкае паўстаньне супраць панаваньня палякаў. Украінскія казакі перанесьлі свае дзеяньні на поўдзень і ўсход Беларусі, насельніцтва якіх яны лічылі сваімі праваслаўнымі братамі. Казакоў актыўна падтрымалі беларускія сяляне і ніжнія слаі мяшчанства.

Казацка-сялянская вайна працягвалася тры гады і скончылася ў 1651 годзе перамогай войскаў Вялікага Княства Літоўскага на чале зь Янушам Радзівілам.

Але казакі не супакойваліся, баявыя дзеяньні супраць палякаў працягваліся, і ў 1654 годзе гетман Багдан Хмяльніцкі, паводле ўмоваў Пераяслаўскай рады, далучыў левабярэжную Ўкраіну да Маскоўскага царства. Цар Аляксей Міхайлавіч зьмяніў свой тытул на «всея Великія и Малыя Россіи самодержца».

У тым самым годзе Масква напала на Вялікае Княства Літоўскае і праз год, улетку 1655 году, захапіла Менск і Вільню. Цар вырашыў далучыць Беларусь непасрэдна да Маскоўскага царства і чарговы раз зьмяніў свой тытул — на «всея Великія и Малыя и Бѣлыя Россіи самодержца».

Гэта выклікала абурэньне Багдана Хмяльніцкага, які хацеў бачыць Беларусь у складзе Ўкраіны. Багдан Хмяльніцкі адвярнуўся ад Масквы і зблізіўся з крымскім ханам.

## Радзівіл ратуе Беларусь

Далей у казацкай дзяржаве мяняліся гетманы, адбываліся розныя канфлікты і ваенныя дзеяньні, аж пакуль пераемнік Хмяльніцкага, гетман Іван Выгоўскі не падпісаў з палякамі так званую Гадзяцкую унію 1658 году. Паводле яе ўмоваў ствараласяВялікае Княства Рускае ў складзе ваяводзтваў Кіеўскага, Брацлаўскага і Чарнігаўскага, а Рэч Паспалітая ператваралася ў дзяржаву «трох народаў» і трох частак — Кароны, Вялікага Княства Літоўскага і Русі. Беларусь заставалася ў складзе Вялікага Княства Літоўскага.

Але і гэтая дамова не была рэалізаваная праз адмоўную пазыцыю польскага Сойму і пратэсты часткі казацкіх палкоўнікаў.

Той пэрыяд гісторыі цікавы прэтэнзіямі Ўкраіны на Беларусь. Казакі захоплівалі і пэўны час кантралявалі Гомель, Мазыр, Лоеў, Рэчыцу, Тураў, Брагін, Чэрыкаў і нават Бабруйск. Пагражалі Берасьцю, Слуцку, Магілёву і Воршы.

Калі б сялянска-казацкая вайна 1648–1651 гадоў скончылася перамогай казакоў, значная частка Беларусі магла б апынуцца ў складзе іншай дзяржавы — Гетманскай Украіны са сталіцай у Кіеве.

Гэтая дзяржава каля 100 гадоў, фармальна застаючыся ў складзе Расеі, фактычна была незалежнай і актыўна ўкраінізавалася. Вядома, напрыклад, што мытня паміж Расеяй і Украінай існавала да сярэдзіны XVIII стагодзьдзя, а падаткі Украіна пачала плаціць у расейскую казну толькі ў часы Кацярыны II (1762–1796) — гэта значыць, у другой палове XVIII стагодзьдзя.

Вось жа, польны, а пазьней вялікі гетман Януш Радзівіл, які ў той складаны час пераняў кіраваньне войскамі ВКЛ ад састарэлага вялікага гетмана Яна Кішкі, стаў тым чалавекам, дзякуючы якому Літва-Беларусь засталася непадзельнай.

# Чаму паліцыя ў Беларусі зьявілася раней за міліцыю

3 сакавіка 1067 году на Нямізе каля Менску адбылася бітва князёў кіеўскай дынастыі Ізяслава, Сьвятаслава і Ўсевалада з полацкім князем Усяславам Чарадзеем. З гэтай летапіснай згадкі мы і адлічваем узрост цяперашняй сталіцы Беларусі.

## Замест гадавіны Менску — юбілей міліцыі

Але 3 сакавіка 2017 году ў Беларусі ніхто афіцыйна 950-гадовы юбілей не сьвяткаваў. Ніхто нікуды не панёс ускладаць кветкі, бо нават пры жаданьні іх няма куды пакласьці — у 950-гадовай сталіцы сувэрэннай дзяржавы няма помніка той бітве і той даце. Праект помніка на Нямізе, прапанаваны ў канцы 1970-х гадоў архітэктарамі Юрыем Градавым і Леанідам Левіным, так і застаўся на паперы.

Не адбылося ў той дзень і ўрачыстага паседжаньня з удзелам кіраўніцтва краіны, ня выйшлі новыя кнігі і альбомы, не адкрыліся новыя музэі і экспазыцыі, а на вуліцах гораду мы ня бачылі візуальнай рэклямы і плякатаў з нагоды юбілейнай даты.

Затое 3 сакавіка 2017 году ў горадзе шырока адзначалася 100-годзьдзе міліцыі. Вось вытрымка са стужкі анонсаў інфармацыйнага агенцтва

БелаПАН за 3–4 сакавіка 2017 году. Там няма ніводнай згадкі пра менскі юбілей, затое ёсьць наступнае:

«Пятница, 3 марта:

Минск. Празднование 100-летия белорусской милиции.

Возложение цветов к мемориальному знаку памяти генерал-полковника Сергея Саввича Бельченко — первого послевоенного министра внутренних дел.

Минск. Празднование 100-летия белорусской милиции.

Торжественный ритуал возложения венков к памятнику сотрудникам ОВД и военнослужащим внутренних войск МВД, погибшим при исполнении служебного и воинского долга.

Минск. Празднование 100-летия белорусской милиции.

Встреча министра Игоря Шуневича с членами семей погибших сотрудников ОВД и военнослужащих внутренних войск МВД.

Минск. Празднование 100-летия белорусской милиции.

Торжественное собрание и праздничный концерт.

Суббота, 4 марта:

Минск. Празднование 100-летия белорусской милиции.

Сотрудники органов внутренних дел и военнослужащие внутренних войск МВД примут участие в торжественном марше на проспекте Независимости.

Минск. Празднование 100-летия белорусской милиции.

После шествия руководство МВД проведет серию встреч с делегациями правоохранительных органов иностранных государств.

У дадатак да гэтага 2 сакавіка ў Менску насупраць будынку МУС па вуліцы Гарадзкі Вал адкрылі помнік царскаму паліцыянту (!) з сабачкам. Трагічная недарэчнасьць і іронія гэтай падзеі палягае ў тым, што стварэньне народнай міліцыі ў Менску пасьля Лютаўскай рэвалюцыі ў 1917 годзе пачалося якраз з раззбраеньня і выгнаньня царскіх паліцыянтаў 3 сакавіка.

Пра тое, што Камісія паліцыі Вялікага Княства Літоўскага была створана на Гарадзенскім сойме 1793 году і пачала сваю працу 28 сьнежня таго ж году, чыноўнікі МУС, відаць, ня ведаюць. Ну, а пра віжоў, возных, соцкіх і дзясяцкіх Вялікага Княства Літоўскага XVI–XVIII стагодзьдзяў можна і ня згадваць.

## РБ саступае БССР

Як ні дзіўна, сувэрэнная Рэспубліка Беларусь, калі гаворка ідзе пра ўвагу да сталіцы і яе гісторыі, моцна прайграе несувэрэннай БССР.

У 1967 годзе, калі адзначалася 900-годзьдзе Менску, афіцыйныя ўрачыстасьці з удзелам першага сакратара ЦК КПБ Пятра Машэрава і іншых кіраўнікоў БССР, перанесеныя на больш цёплую пару, працягваліся два дні — 25 і 26 траўня. Было і ўрачыстае паседжаньне гарсавету

ў Палацы спорту, і канцэрт, і ўзнагароды, і грандыёзнае спартовае сьвята на стадыёне «Дынама», і сьвяточны салют. Цэлы горад быў аздоблены сьцяжкамі з арнамэнтам і плякатамі зь юбілейнай датай, а на Кастрычніцкай плошчы паставілі велізарны будаўнічы кран, які трымаў на страле макет генпляну сталіцы.

У той год выйшла акадэмічная «Гісторыя Менску», быў урачыста адкрыты Дзяржаўны музэй БССР, заснаваная газэта «Вячэрні Мінск», закладзены парк 900-годзьдзя Менску на беразе Чыжоўскага вадасховішча, мэмарыялізаваны падмурак першага менскага храму XI стагодзьдзя ў раёне Замчышча на беразе Сьвіслачы, выйшлі дакумэнтальныя фільмы, фотаальбомы, паштоўкі, маркі...

Зрэшты, пашукаўшы ў інтэрнэце, я знайшоў, што 3 сакавіка 2017 году Беларуская пошта выпусьціла блёк, прысьвечаны 950-годзьдзю Менску, а Нацыянальны банк заплянаваў выпусьціць юбілейныя манэты.

## Памяць — адна

У тым жа сакавіку 2017 году мне давялося ўбачыць два тэлевізійныя апытаньні пра адрачэньне расейскага імпэратара Мікалая II ад трону, якое адбылося ў сакавіку 1917-га ў Магілёве. Адно апытаньне праводзілася ў Санкт-Пецярбургу, другое — на вуліцах Магілёва. У паўночнай сталіцы Расеі ўсе апытаныя ведалі і разумелі, пра што размова, і мелі сваю

думку наконт рэвалюцыі. А апытаньне ў Магілёве паказала, што людзі або ня ведалі, пра якую падзею ў іх пытаюць, або ня мелі наконт яе ніякай сфармаванай думкі.

Гэтая розьніца з усёй сілай выявіла, наколькі за апошнія 20–30 гадоў упаў узровень гуманітарных ведаў сярод народу. Гэта вынік антыкультурнай, антыгістарычнай палітыкі ўлады, якая пачынае сваю гісторыю ад Другой сусьветнай вайны і нават Дзень незалежнасьці цалкам недарэчна сьвяткуе 3 ліпеня.

Кажуць, што існуюць два тыпы памяці — кароткая і доўгатэрміновая. Але гісторыя ведае толькі адну памяць. Сапраўдную.

# Чаму Францішак Савіч ня ўцёк чацьвёрты раз

У гісторыю Беларусі і беларускай літаратуры навечна ўпісаны адзін зь першых беларускіх паэтаў XIX стагодзьдзя, выпускнік Віленскай мэдычна-хірургічнай акадэміі Францішак Савіч, які тройчы ўцякаў з расейскага зьняволеньня і загінуў у змаганьні з эпідэміяй халеры.

## Патрыятычны пратэст

Ён нарадзіўся ў 1815 годзе ў вёсцы Вяляцічы непадалёк ад Пінску ў сям'і беларускага ўніяцкага сьвятара Андрэя Савіча. Бацька рана памёр, таму Францішак паступіў у Пінскае павятовае вучылішча на казённы кошт. Але грошай не хапала, і ён зарабляў прыватнымі ўрокамі.

У 1833 годзе ён з адзнакай скончыў вучылішча і паступіў у Віленскую мэдыка-хірургічную акадэмію, таксама на казённы кошт.

Студэнт Савіч вельмі востра адчуваў несправядлівае сацыяльнае ўладкаваньне Расеі, асабліва рабскае становішча прыгонных сялян. Таксама глыбока ён адчуваў і нацыянальны прыгнёт з боку Расеі, якая ня так даўно разам зь іншымі дзяржавамі ліквідавала незалежнасьць Рэчы Паспалітай.

Таму малады Францішак Савіч утварыў у Вільні падпольнае «Дэмакратычнае таварыства»,

у якое ўваходзілі каля 60 студэнтаў і віленскіх мяшчан, і ўзначаліў яго.

Сярод асноўных пунктаў прапаганды «Дэмакратычнага таварыства» былі адмена прыгону і павага да нацыянальнай годнасьці кожнага народу.

## Сьледзтва і суд

У 1838 годзе падпольнае таварыства Савіча было выкрытае, яго лідэра і ўдзельнікаў арыштавалі. Сьледзтва з карцэрамі, катаваньнямі, голадам і пабоямі цягнулася восем месяцаў. Францішак Савіч падлічыў, што за гэты час ён атрымаў каля дванаццаці тысяч удараў розгамі.

Нарэшце быў абвешчаны прысуд васямнаццаці студэнтам-мэдыкам і шасьці мяшчанам. Сам Савіч і два ягоныя найбліжэйшыя паплечнікі былі сасланыя на Каўказ у салдаты бяз права выслугі ў афіцэры, астатнія — з правам выслугі.

## Выгнаньне і ўцёкі

Трапіўшы ў Тыфліс, Савіч уцёк першы раз, але яго злавілі. Другі раз ён уцёк з Кізьляру, інсцэнаваўшы самагубства на беразе ракі Церак. Гэта было ў 1840 годзе.

Савіч амаль год пешкі дабіраўся да Таганрогу, каб адтуль морам уцячы за мяжу. Але ў Таганрогу яму параілі перабрацца праз расейска-малдаўскую мяжу па сушы, бо караблі пільна правяраліся.

На мяжы яго паводле зьнешнасьці вылучылі з натоўпу цыганоў і затрымалі. Два гады ён праседзеў у турме, не назваўшы свайго імя, а пасьля зноў быў аддадзены ў салдаты ў Чарнігаўскую губэрню. Але Савіч уцёк і адтуль. Гэта былі яго трэція ўцёкі.

Ён дабраўся да Кіева, здабыў дакумэнты на імя доктара Геле і затрымаўся ў мястэчку Янушполе непадалёк ад мяжы, дзе пачаў лекарскую практыку. У 1845 годзе там здарылася эпідэмія халеры, доктар пачаў зь ёй змагацца, захварэў сам і памёр. Яму было 30 гадоў.

## Ці чытаў Каліноўскі Савіча

Перад сьмерцю ён здолеў перадаць мясцоваму польскаму паэту Аляксандру Грозу свае мэмуары. Ягоныя тэксты былі апублікаваныя толькі ў 1882 годзе ў Львове ў кнізе Эдварда Паўловіча «Ўспаміны з-над Вяльлі і Нёмана», выдадзенай па-польску.

Але здаецца, што ягоны адзіны вядомы на сёньня беларускі верш «Там блізка Пінску», напісаны ў 30-я гады XIX стагодзьдзя, задоўга да львоўскай публікацыі, бачыў і чытаў іншы выдатны рэвалюцыянэр і палітык, заснавальнік мадэрнай Беларусі Кастусь Каліноўскі.

Савіч на пачатку свайго верша пісаў:

*Дзе ж тое шчасьце падзелася?*
*Дзе глянеш, людзі брашчаць ланцугамі.*
*Дзе кінеш — сьлёзы, аж жыці няміла,*
*Бо з чалавека высысваюць сілы...*

Вось гэты беларускі выгук «Дзе ж тое шчасьце падзелася?», відаць, запомніўся Кастусю Каліноўскаму. І ён, будучы ў турме, пачаў свой верш да каханай дзяўчыны словамі:

*Марыська чарнабрэва, галубка мая,*
*Гдзе ж ся падзела шчасьце і ясна доля твая?*
*Усё прайшло, — прайшло, як бы не бывала,*
*Адна страшэнна горыч у грудзях застала.*

Паралелі відавочныя.

Ад Францішка Савіча не засталося нават партрэтнай выявы. Ёсьць толькі ягоны верш і мэмуары.

# Чаму Цэлястын Цеханоўскі на катарзе адмовіўся зьняць кайданы

Сёньня да лекараў прыцягнутая ўвага грамадзтва за іх самаадданасьць і вернасьць прафэсіі. І так было заўсёды. Многія лекары пакінулі выдатны сьлед у гісторыі Беларусі і іншых краін. Адзін зь іх — Цэлястын Цеханоўскі.

## Навучаньне

Ён нарадзіўся ў шляхецкай сям'і ў маёнтку Горлава Чавускага павету Магілёўскай губэрні ў 1835 годзе. Пасьля заканчэньня Магілёўскай гімназіі вучыўся ў Варшаўскай мэдыка-хірургічнай акадэміі і Маскоўскім унівэрсытэце.

Падчас навучаньня стаў паплечнікам Кастуся Каліноўскага, уваходзіў у студэнцкую арганізацыю «Огул». Атрымаўшы дыплём, працаваў лекарам у Горадні.

## Удзел у паўстаньні

На пачатку 1863 году Каліноўскі прызначыў Цеханоўскага паўстанцкім начальнікам Горадні. Але той ня толькі кіраваў паўстанцкімі структурамі, але і лекаваў паўстанцаў. Якраз падчас мэдычнай дапамогі параненым паўстанцам Цэлястын Цеханоўскі і быў арыштаваны ў жніўні 1863 году.

У лістападзе яго асудзілі на 20 гадоў катаргі, паводле іншых зьвестак — на пажыцьцёвую катаргу. Праз два з паловай гады цяжкіх этапаў і працы катаржнікам на будоўлі, у 1866 годзе, ён трапіў у пасёлак Аляксандраўскае пад Іркуцкам. Там была фабрыка, на якой працавалі вязьні.

Цеханоўскі пачаў добраахвотна лекаваць іншых вязьняў і катаржнікаў.

## Адмова зьняць кайданы

Нашаму суайчыньніку спрыяў начальнік турмы Аляксандар Сіпігін, пры дапамозе якога Цеханоўскі здолеў палепшыць гігіенічныя ўмовы жыцьця вязьняў, а пасьля пачаў дапамагаць і вольным жыхарам Аляксандраўскага і навакольных вёсак. У вёскі да хворых ён хадзіў пешкі ў кайданах і пад канвоем.

Цеханоўскага так палюбілі мясцовыя жыхары, што праз год яму было дазволена зьняць кайданы. Але на знак салідарнасьці з закутымі ў жалеза ўдзельнікамі паўстаньня — сваімі таварышамі ён адмовіўся ад прапановы і застаўся ў кайданах.

Празь пяць гадоў, у 1872-м, яго нарэшце прызначылі штатным лекарам Аляксандраўскай турмы, і толькі тады ён зьняў зь сябе кайданы. На волю Цеханоўскі выйшаў роўна праз 20 гадоў зьняволеньня, у 1883 годзе, атрымаўшы дазвол на вольнае пасяленьне ў Іркуцку.

## Лекар для бедных

Ён ажаніўся з расейкай Тацянай Яршовай, у іх нарадзілася сямёра дзяцей.

У невялікім драўляным дамку Цэлястын Цеханоўскі заснаваў амбуляторыю, у якой лячыў найбяднейшых жыхароў гораду і навакольля.

У 1905 годзе адзін з гарадзкіх дэпутатаў зьвярнуўся да іркуцкай думы з прапановай прызначыць 70-гадоваму лекару, былому катаржаніну дзяржаўную пэнсію. Дума згадзілася і пэнсію прызначыла. Але Цэлястын Цеханоўскі адмовіўся ад гэтай пэнсіі, як некалі і ад зьняцьця кайданоў.

Праз год ён памёр, не перажыўшы трагічнай весткі пра сьмерць сына Міхаіла, засечанага казакамі ў Маскве падчас дэманстрацыі.

У расейскім Іркуцку захоўваецца памяць пра яго. Дом, у якім жыў Цеханоўскі, значыцца ў сьпісе гарадзкіх помнікаў Іркуцку. Адны там лічаць нашага суайчыньніка палякам, іншыя беларусам.

# Чаму сын паўстанца Габрыеля Есьмана размаўляў па-беларуску

Да нядаўняга часу імя гэтага чалавека было невядомае беларускім гісторыкам. Але ягоны лёс, як і лёс ягонага сына, — каштоўная ілюстрацыя да нацыянальнага зьместу паўстаньня 1863–1864 гадоў пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага.

## Стары здымак

У студзені 1863 году, за некалькі тыдняў да пачатку паўстаньня, у Менску быў зроблены здымак, на якім зафіксавана 19 чалавек, у тым ліку Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч і яго дачка Каміла. Дзесяць зь іх апранутыя ў сьвіткі, у тым ліку паўстанцкія, так званыя чамаркі. Гэтак тагачасная моладзь падкрэсьлівала сваю сувязь зь беларускім народам.

Гісторык Генадзь Кісялёў усё жыцьцё стараўся ідэнтыфікаваць герояў гэтага калектыўнага партрэта. Сярод іх ёсьць ня толькі станоўчыя пэрсанажы. Напрыклад, чацьвёртым справа сядзіць Вітаўт Парфяновіч, які праз год пасьля арышту ня вытрымае допытаў і выдасьць імя кіраўніка паўстаньня і паўстанцкі пароль «Каго любіш? — Люблю Беларусь. — То ўзаемна».

Як высьветліў Генадзь Кісялёў, якраз побач з Парфяновічам, трэцім справа, таксама ў чамарцы, сядзіць лекар зь Вялейкі Габрыель Есьман.

## Лекар-выведнік

Ён нарадзіўся ў 1837 годзе. Паводле адных зьвестак — на Вялейшчыне, паводле іншых — у мястэчку Есьманы (або Эйсмоны) у паўднёва-ўсходняй частцы Барысаўскага павету Менскай губэрні. Скончыў Менскую гімназію і мэдычны факультэт Маскоўскага ўнівэрсытэту. На здымку яму 25 гадоў.

Паводле Генадзя Кісялёва, пасьля пачатку паўстаньня лекар апынуўся ў невялікім паўстанцкім аддзеле, адным з кіраўнікоў якога быў Вінцэнт Адынец. Аддзел дзейнічаў на Вялейшчыне. Есьман ня толькі лячыў паўстанцаў. Ён быў яшчэ выведнікам. Есьман пайшоў у паўстаньне разам са сваім фурманам і лекарскай брычкай. Гэта давала яму магчымасьць езьдзіць па навакольных вёсках з выведнымі мэтамі.

Ніхто з аддзелу Адынца лекара ня выдаў. Таму пасьля паразы паўстаньня Есьман застаўся ў Вялейцы і ў 1866 годзе нават быў прызначаны вялейскім павятовым лекарам. Там у яго нарадзіліся два сыны.

У 1870 годзе Есьман пераехаў у Менск — цэнтар тагачаснай культуры краю, каб быць бліжэй да паплечнікаў, у тым ліку да Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і людзей зь яго атачэньня.

Жылі Есьманы спачатку на Захараўскай вуліцы каля лютэранскай кірхі, а пасьля на вуліцы Падгорнай. У Менску Габрыель Есьман да сьмерці ў 1896 годзе меў прыватную лекарскую практыку. Прычынай яго сьмерці ў 59 гадоў сталі сухоты.

Пахаваны паўстанцкі лекар і выведнік на Кальварыйскіх могілках.

## Адгукнуўся ў дзецях

Здаецца, гэта ўсё, што мы пра Габрыеля Есьмана ведаем. Але зь небагатага набору фактаў ягонай біяграфіі, а таксама зь біяграфіі ягонага сына Язэпа можна зрабіць некаторыя высновы, якія яшчэ раз нагадаюць нам пра беларускі нацыянальны зьмест паўстаньня пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага.

Сын Габрыеля Язэп, які нарадзіўся ў Вялейцы ў 1868 годзе, стаў вядомым расейскім, а пасьля савецкім інжынэрам і навукоўцам у галіне гідраўлікі, быў рэктарам Бакінскага ўнівэрсытэту, акадэмікам Акадэміі навук Азэрбайджанскай ССР, пражыў 87 гадоў і памёр у Баку ў 1955 годзе.

І вось цікавая дэталь, якая, безумоўна, сьведчыць пра нацыянальныя погляды ягонага бацькі, пра выхаваньне, якое той даў дзецям, і пра атмасфэру ў Менску ў другой палове XIX стагодзьдзя.

У 1990-я гады вядомы польскі гісторык, прафэсар Анджэй Хадубскі з Гданьску напісаў працу пад назвай «Цывілізацыйная роля беларусаў на Каўказе ў XIX — першай палове XX стагодзьдзяў». І вось там, расказваючы пра акадэміка Язэпа Есьмана — сына паўстанца, Анджэй Хадубскі піша:

«Працуючы ў Азэрбайджане, Есьман падкрэсьліваў сваю сувязь зь Беларусьсю. Ахвотна наведваў Бацькаўшчыну. У сваім асяродзьдзі ці ў час кантактаў са знаёмымі беларусамі карыстаўся беларускай мовай».

Бачыце, якая тут, амаль праз стагодзьдзе, праяўляецца повязь з ідэямі лідэра паўстаньня 1863–1864 гадоў. Гэтыя ідэі, як мы бачым і разумеем, горача падтрымліваў бацька акадэміка, менскі лекар Габрыель Есьман.

Вось такое выхаваньне сваім дзецям давалі людзі з кола Дуніна-Марцінкевіча — паўстанцы Каліноўскага.

# Чаму Скірмунты плянавалі адрадзіць Вялікае Княства з трыма сталіцамі

## Кім быў Раман Скірмунт

Гісторыкі часта згадваюць, што адразу пасьля Лютаўскай рэвалюцыі ў Менску быў утвораны Беларускі нацыянальны камітэт, які ўзяў на сябе ролю прадстаўніка інтарэсаў Беларусі і арганізатара яе далейшага палітычнага жыцьця.

Значна радзей пішуць, што Камітэт гэты ўзначаліў нашчадак старажытнага роду, буйны землеўласьнік Менскай губэрні Раман Скірмунт.

Ад пачатку XX стагодзьдзя і да 1920 году Раман Скірмунт быў адным з самых актыўных, паважаных і вядомых палітыкаў Беларусі.

Яму давялося пабыць дэпутатам першай Дзяржаўнай Думы і членам Дзяржаўнай Рады Расеі, сябрам Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, надзвычайным паслом БНР ва Ўкраіне, консулам БНР у Польшчы, міністрам замежных спраў і прэм’ер-міністрам БНР.

## Партыя Белай Русі і Літвы

У Рамана Скірмунта была стрыечная сястра Канстанцыя Скірмунт, публіцыстка і гісторык. Яны абое баранілі права народаў гістарычнай Літвы на нацыянальнае разьвіцьцё.

- У 1905 годзе Раман Скірмунт упершыню выступіў з ініцыятывай стварэньня Краёвай партыі Літвы і Русі.

- У 1906-м ён выступае ўжо за стварэньне Краёвай партыі Белай Русі і Літвы.
- У студзені 1907 году Канстанцыя Скірмунт выступіла з праграмнымі тэзісамі Краёвай партыі Літвы і Белай Русі, якая павінна была спрыяць паразуменьню трох мясцовых нацыянальнасьцяў — літоўцаў, беларусаў і палякаў.

Для гэтага трэба было, на думку Скірмунтаў, дамагчыся самакіраваньня Літвы і Беларусі з Соймам у Вільні і культурнымі цэнтрамі ў Коўне і Менску.

На жаль, на віленскім зьезьдзе 1907 году праграма Скірмунтаў пацярпела паразу, і Краёвая партыя Літвы і Белай Русі аказалася партыяй мясцовых палякаў. Скірмунт нават не ўвайшоў у яе склад.

## Нараджэньне Беларусі ў душы грамадзяніна Вялікага Княства

Лёс Рамана Скірмунта, яго ідэйная эвалюцыя і нацыянальнае ўсьведамленьне на пачатку XX стагодзьдзя зьяўляюцца яскравым і эталённым прыкладам абуджэньня старой Русі ў душы спольшчанага жыхара былога Вялікага Княства Літоўскага і нараджэньня там Русі новай — мадэрнай Беларусі.

У 1904 годзе Раман Скірмунт выдае публіцыстычную брашуру «Новыя лёзунгі ў справе адраджэньня літоўскай нацыянальнасьці», дзе разважае пра патрэбы этнічных літоўцаў.

А ўжо ў 1905-м з-пад пяра Скірмунта выходзіць брашура «Голас мінулага і патрэбы сучаснасьці», дзе ён упершыню выяўляе свой беларускі патрыятызм, хоць і ўжывае яшчэ тэрміны «Русь» і «русіны».

У гэтай брашуры Скірмунт піша пра адрозьненьне Літоўскай Русі ад Русі Маскоўскай, пра найважнейшую ролю старабеларускай мовы ў Вялікім Княстве Літоўскім і пра мірнае сужыцьцё славян і балтаў. Ён заклікае зразумець, што Літва і Беларусь не зьяўляюцца часткамі Расеі і Польшчы.

## Яго нацыянальны маніфэст

Гэтак я называю адно неверагоднае прызнаньне Рамана Скірмунта, якім ён дэманстратыўна разьмяжоўваецца з палякамі і польскай нацыянальнасьцю.

Вядома, што, будучы абраным вясной 1906 году ў склад першай Дзяржаўнай Думы Расеі ад Менскай губэрні, Раман Скірмунт разам з князем Геранімам Друцкім-Любецкім, Мар'янам Масоніусам, Аляксандрам Лядніцкім, біскупам Эдвардам фон Ропам, Чаславам Янкоўскім, Баляславам Ялавецкім, ксяндзом Антонам Сангайлам і іншымі дэпутатамі ад беларускіх губэрняў адмовіўся ўвайсьці ў так званае Польскае кола, і гэтыя дэпутаты ўтварылі сваю асобную групу.

Сьведкі пісалі, што беларускія дэпутаты абзывалі палякаў «ляхамі», уступалі зь імі ў вусныя

перапалкі і называлі сябе беларусамі польскай культуры.

Якраз да гэтага часу адносіцца вельмі важнае і яскравае сьведчаньне пра нацыянальную эвалюцыю Рамана Скірмунта і многіх іншых прадстаўнікоў тагачаснай беларускай арыстакратыі і шляхты, якое нам пакінуў адзін з бацькоў сучаснай Польшчы Раман Дмоўскі.

У жніўні 1906 году ў газэце «Dziennik Kijowski» Раман Дмоўскі наступным чынам апісаў свае разыходжаньні са Скірмунтам:

«Скірмунт перш-наперш не ўважае сябе за паляка. У гутарцы са мной ён заявіў, што ён беларус, які адно ўзгадаваны ў польскай культуры... што ён ня мае найменшай патрэбы залічаць сябе да народнасьці, зь якой яго зьвязвае толькі культура».

Заўважце! Скірмунт зрабіў гэтую заяву яшчэ да выхаду першых беларускіх газэт «Наша Доля» і «Наша Ніва».

Гэта паказвае на неверагодную жывучасьць беларускай гістарычнай памяці, на моц і сілу нашай гістарычнай спадчыны.

* * *

7 кастрычніка 1939 году, пасьля захопу Заходняй Беларусі, бальшавіцкія камісары загадалі мясцовым актывістам расстраляць 71-гадовага былога прэм'ер-міністра БНР, уладальніка маёнтку Парэчча пад Пінскам Рамана Скірмунта. Пазьней беларускі палітык быў перапахаваны ў парку роднага Парэчча.

# Чаму ў Беларусі змагаліся за правы жанчын 120 гадоў таму

Без свабоды жанчын не магло быць свабоды Беларусі. Больш за сто гадоў таму беларускі нацыянальны рух ішоў крок у крок з сусьветным рухам за правы жанчын.

## Упоравень з сусьветным жаночым рухам

Пры канцы XIX стагодзьдзя ў сьвеце ўзьнік рух суфражыстак, які выступаў за выбарчае права для жанчын і агулам супраць іх палітычнай і эканамічнай дыскрымінацыі.

У 1893 годзе права галасаваць на выбарах атрымалі жанчыны Новай Зэляндыі, у 1902-м — жанчыны Аўстраліі, у 1906-м — жанчыны Фінляндыі ў складзе Расеі. Беларускія жанчыны такое права атрымалі 15 красавіка 1917 году, пасьля Лютаўскай рэвалюцыі.

Значна менш вядома, што беларускі рух ад самага свайго пачатку выступаў за роўныя правы для жанчын. Гісторыкі выявілі ў архіве рэдакцыі газэты «Наша Ніва» цэлы комплекс дакумэнтаў, зьвязаных з палітычнымі правамі жанчын і датаваных 1905 годам — гэта значыць, часам яшчэ да выхаду самой газэты.

## Актыўнасьць беларусак

Калі ў 1912 годзе браты Іван і Антон Луцкевічы для пашырэньня беларускага руху заснавалі ў Вільні польскамоўную і расейскамоўную газэты — «Kurjer Krajowy» і «Вечернюю газету» — тэма жаночых правоў зьявілася і там. У 1913 годзе «Вечерняя газета» з гонарам пісала, што працэнт адукаваных жанчын у Беларусі значна вышэйшы, чым у Расеі.

Нашы жанчыны ад самага пачатку былі дзейснымі ўдзельніцамі беларускага руху. Алаіза Пашкевіч (Цётка) стала адной з заснавальнікаў першай беларускай газэты «Наша Доля», Канстанцыя Буйло кіравала першай беларускай кнігарняй у Полацку, Ядвіга Луцэвіч рэдагавала газэту «Беларусь», актыўнымі ўдзельніцамі беларускага руху былі Эмілія Садоўская, Зоська Верас, Ванда Лявіцкая, Ядвіга Раткевіч, Паўліна Мядзёлка, Палута Бадунова і многія іншыя жанчыны.

## Першае Таварыства абароны жанчын

А вось вам і яшчэ адзін факт. У 1901 годзе менскі гарадзкі галава Караль Чапскі заснаваў у горадзе Таварыства абароны жанчын. Гэта была першая легальная арганізацыя ў Беларусі, якая аказвала жанчынам усебаковую дапамогу.

Таварыства займалася асьветай і арганізацыяй лекцый, давала бясплатныя юрыдычныя кансультацыі, арганізавала папулярныя ў Менску курсы

жаночай гігіены, арганізоўвала нядзельныя школы і нават ясьлі для дзяцей работніц-жанчын.

Заснавальнік Таварыства Ян Караль Чапскі, як вядома, памёр у 1904 годзе, але яго родны брат Юры Чапскі падчас сельскагаспадарчых перапісаў 1916 і 1917 гадоў, калі ўпершыню задавалі пытаньне пра нацыянальнасьць, назваўся беларусам. Гэта шмат нам гаворыць і пра сьветапогляд самога Яна Караля Чапскага.

## Ад Чапскага да беларушчыны

Адным з асноўных супрацоўнікаў Чапскага ў справе абароны жанчын у Менску быў вядомы ў горадзе адвакат Віктар Чавусаў. Калі ў Менску ў 1915 годзе ўзьнік аддзел Віленскага таварыства дапамогі ахвярам вайны, у які ўваходзілі актыўныя дзеячы нацыянальнага беларускага руху Ядвігін Ш., Усевалад Фальскі, Уладыслаў Галубок, Зоська Верас і іншыя, менавіта адвакат Віктар Чавусаў узначаліў гэтую арганізацыю.

І вось я з асалодай чытаю ва ўспамінах Зоські Верас, што Віктар Чавусаў на суботніх сходках менскіх беларусаў любіў сьпяваць па-беларуску жартаўлівыя куплеты на словы Янкі Купалы «І як тут не сьмяяцца і праўды не сказаць...».

Так што свабода жанчын — гэта свабода Беларусі, і наадварот. І гэта ня жарт.

# Чаму Чапскі і Радзівіл — беларусы. *Унікальныя зьвесткі перапісу 1916 году*

Першы раз у гісторыі пытаньне пра нацыянальнасьць у перапісе насельніцтва на тэрыторыі Беларусі было зададзена ў 1916 годзе.

## Галоўная інтрыга і сэнсацыя

Гэтыя сэнсацыйныя дакумэнты належным чынам дагэтуль ня вывучаныя і не асэнсаваныя. Яны знаходзяцца на захаваньні ў Гістарычным архіве Беларусі. Перапісаў было нават два, у 1916 і 1917 гадах, яны называліся Ўсерасейскімі сельскагаспадарчымі перапісамі.

Галоўная інтрыга і галоўная сэнсацыя — як сваю нацыянальнасьць тады вызначылі многія арыстакраты Меншчыны.

І вось вам неверагодная інфармацыя. Уладальнік Прылукаў граф Юры Гутэн-Чапскі запісаўся беларусам, уладальнік Лошыцы магнат Яўстах Любанскі запісаўся беларусам, адзін з князёў Радзівілаў са Случчыны таксама запісаўся беларусам.

## Сьнежны ком беларушчыны

А вось заснавальнік Чырвонага касьцёла магнат Эдвард Вайніловіч, які пасьля браў удзел у працы Беларускага нацыянальнага камітэту і стаў беларускім аўтанамістам у Польшчы, тады

яшчэ да беларускай нацыянальнасьці не дайшоў і запісаўся палякам.

Так што «Нашу Ніву» чыталі ня толькі сяляне. І працэс фармаваньня беларускай нацыі ахапіў, як бачым, і частку шляхты ды арыстакратыі. І кола гэтай арыстакратыі было шырэйшае за вядомыя сёньня постаці княгіні Магдалены Радзівіл ці Рамана Скірмунта.

Гэта быў вынік намаганьняў найлепшых людзей Беларусі папярэдняга, XIX стагодзьдзя. Як вядома, ужо падчас усерасейскага перапісу 1897 году 43,3 працэнта шляхты беларускіх губэрняў назвалі роднай мовай беларускую. А гэта 65 тысяч чалавек.

Пытаньне аўтаноміі Беларусі рэгулярна ўздымалася і ў Дзяржаўных Думах Расеі. Гэта быў сьнежны ком, які імкліва набіраў памер і вагу.

## Якой нацыянальнасьці быў легендарны Караль Чапскі

Самага вядомага кіраўніка Менску, Караля Гутэн-Чапскага, цяпер усе ведаюць найперш як аднаго з заснавальнікаў бровару «Аліварыя».

Караль Гутэн-Чапскі быў гарадзкім галавой Менску ад 1890 да 1901 году, ён памёр, маючы ўсяго 43 гады. Пры ім у Менску былі пабудаваныя тэатар, першая электрастанцыя, зьявіўся тэлефон, конка, Спартовае таварыства і шмат чаго іншага.

Не без падстаў можна дапусьціць, што каб граф Караль Гутэн-Чапскі дажыў да Сельскагаспадарчага перапісу 1916 году, ён таксама, як і яго родны брат Юры, запісаўся б беларусам.

# Чаму палякі вярнулі беларускую мову ў менскі магістрат

8 жніўня 1919 году войскі адроджанай польскай дзяржавы акупавалі Менск.

Палякі кантралявалі горад да 11 ліпеня 1920 году. Яны адступілі пад націскам бальшавікоў, якія праз тры тыдні, 31 ліпеня, паўторна абвясьцілі стварэньне БССР.

Дзень вызваленьня Менску ад палякаў — 11 ліпеня — лічыўся да 1941 году найвялікшым дзяржаўным сьвятам Савецкай Беларусі. У гэты дзень праходзілі парады і дэманстрацыі.

## Ці была гэта акупацыя

Пра гэтую польскую акупацыю вядома адносна мала. У наш час некаторыя польскія гісторыкі нават аспрэчваюць сам тэрмін «акупацыя». Яны кажуць, што на той час Расея ўжо распалася і на тэрыторыі Беларусі не было ніякай міжнародна прызнанай дзяржаўнай адміністрацыі і юрысдыкцыі.

Мы ў Беларусі ведаем, што юрысдыкцыі былі, і не адна. Мы ведаем пра Беларускую Народную Рэспубліку і яе Ўстаўныя граматы, ведаем і пра Літоўска-Беларускую ССР, камісараў якой у 1919 годзе палякі якраз і выгналі зь Менску.

Тая польская акупацыя была для народу даволі жорсткай. Палякі зьбівалі людзей, вешалі і рас-

стрэльвалі. Дайшло да таго, што ўвесну 1920 году ў Беларусі пачалася антыпольская партызанка. Янка Купала ў сваіх вершах праклінаў палякаў, якія пры адыходзе падпалілі Менск.

## Няспраўджаныя надзеі

Зь іншага боку, у часткі беларускіх дзеячоў, у тым ліку і ў Янкі Купалы, прыход палякаў спачатку выклікаў надзеі на будучы посьпех БНР. У верасьні 1919 году Менск наведаў Юзаф Пілсудскі. Абодва свае афіцыйныя выступы начальнік польскай дзяржавы зрабіў на беларускай мове, якой валодаў як роднай.

Пілсудскі даў згоду на аднаўленьне працы Рады БНР і на стварэньне беларускіх вайсковых фармаваньняў. Менавіта ў той час Менск ператварыўся ў рэальную сталіцу Беларусі, у ім сканцэнтраваліся сотні актыўных нацыянальных дзеячоў, былі заснаваныя беларускія тэатры, выдавецтвы, школы.

## Пасьля 250 гадоў забыцьця

Палякі стварылі ў Менску магістрат, у які запрасілі і беларусаў. І вось менавіта тады, у 1919 годзе, менская гарадзкая дакумэнтацыя пачала часткова весьціся па-беларуску.

Жыхары гораду, даўно адвучаныя ад беларускай мовы, сталі пісаць заявы пра розныя пабытовыя патрэбы на ламанай беларускай мове, а

расейскія настаўнікі няўмела запаўнялі па-беларуску ведамасьці на атрыманьне заробку.

Гэта было адно з самых моцных маіх уражаньняў як журналіста і гісторыка, калі ў адным зь менскіх архіваў я трымаў у руках і перабіраў паперы менскага магістрату. Яны зноў пачалі пісацца па-беларуску пасьля больш чым 250-гадовага забыцьця!

І гэтая неўміручасьць нашай мовы ўражвае.

# Чаму праблемы Курапатаў і беларускай мовы — аднолькавыя

Гэта праблемы нацыянальнай, грамадзкай і асабістай маралі, этыкі і сумленьня.

І гэта, уласна кажучы, усё, што я хацеў сказаць. Можна было б на гэтым паставіць кропку і пакінуць адзін загаловак — думка ясная. Але, на жаль, не для ўсіх.

## Нарожны камень праблемы

Гэта нармальна, калі людзі выступаюць супраць забаўляльнага комплексу ў цесным суседзтве з магіламі тысяч злачынна забітых.

І гэта нармальна, калі людзі выступаюць за выратаваньне беларускай мовы, якая несправядліва аказалася на мяжы выжываньня не па сваёй віне і не па віне народу, які яе нарадзіў.

Ключавое слова тут — несправядліва.

Ува ўсім сьвеце на месцы былых могілак ідзе актыўнае жыцьцё. Не выключэньне і Беларусь. На месцы былых Залатагорскіх, Старажоўскіх, Лютэранскіх і некалькіх габрэйскіх могілак у Менску — стаяць жылыя дамы, рэстараны, гатэлі, забаўляльныя і спартовыя комплексы.

Але Курапаты — іншы выпадак. Там ляжаць злачынна забітыя. Гэта сфэра грамадзкай і нацыянальнай памяці, гісторыі, культуры. У такіх месцах весяліцца не прынята. Не прынята там

і праводзіць недарэчныя пэрформансы, як гэта здаралася ў мінулыя гады ў Асьвенціме.

Беларуская мова — таксама несправядліва, злачынна і не па волі яе народу пастаўлена на мяжу выжываньня. Гэта таксама сфэра грамадзкай і нацыянальнай памяці, гісторыі і культуры. За мову ў ГУЛАГу склалі галовы найлепшыя прадстаўнікі нашага народу — тысячы і тысячы найлепшых. Навукоўцаў, паэтаў, настаўнікаў.

Такое — не забываецца. Хто ня памятае, той асуджаны на паўтарэньне.

І мову, і людзей у Курапатах забівалі адны і тыя ж сілы.

## Два ўзроўні маралі

Ёсьць два шляхі, як можна дапамагчы параненаму. Можна яго дабіць, «каб ня мучыўся» і не замінаў «ратавацца», «ісьці далей», «спакойна жыць», «зарабляць» і г. д. А можна падставіць плячо, узяць параненага на рукі і данесьці туды, дзе дапамогуць.

Мараль і сумленьне маюць два ўзроўні — асабісты і грамадзкі.

У прадстаўнікоў роду чалавечага, як біялягічнага віду, прынята дапамагаць і заступацца за блізкіх, за сваю сям'ю, нават ахвяраваць сабой за іх.

Але, як у грамадзкіх істотаў, у людзей прынята яшчэ і дэманстраваць маральныя паводзіны ў грамадзкім жыцьці.

Гэта здаўна вітаецца, але не абавязкова. І ў часы панаваньня хрысьціянства, і ў нашу пост-

хрысьціянскую эпоху заўсёды знаходзіліся людзі, якія пагарджалі агульнапрынятымі маральнымі нормамі. І мелі, дарэчы, посьпех.

У Беларусі цяпер вялікія праблемы з маральным градусам улады і грамадзтва ў цэлым. Менавіта таму Курапаты бароняць адзінкі, дзясяткі або, у лепшым выпадку, сотні. І менавіта таму за выратаваньне і адраджэньне беларускай мовы выступаюць таксама нямногія.

## Надзея на будучыню

Курапаты і беларуская мова — гэта тэст на прыстойнасьць. Можна мець амаль усё — дзяцей, адукацыю, працу, бізнэс, грошы, посьпех, інтэлект, кнігі, лёгіку, грамадзкі ўплыў, папулярнасьць, і ня мець толькі аднаго — сумленьня.

Асабіста для мяне гэтага дастаткова, каб не падаваць такому рукі і не галасаваць за такую ўладу.

Я старамодна лічу, што прыстойнасьць (чытай: мараль, этыка і сумленьне) усё яшчэ патрэбныя чалавеку як грамадзкай істоце.

Параза Курапатаў і мовы — гэта параза надзеі на пабудову нармальнай грамадзянскай супольнасьці, нармальнай нацыі і нармальнай краіны.

Курапаты і беларуская мова — былі, ёсьць і будуць самымі аўтарытэтнымі пунктамі і тэмамі беларускага парадку дня. Яны ўжо ня раз перамагалі амаральную ці абыякавую большасьць і яе асобных прадстаўнікоў.

Спадзяюся, перамогуць і яшчэ ня раз. Гэта — надзея на будучыню.

## Чаму я называю гэтую кнігу Бібліяй беларушчыны

У 1970–1980-я гады ў БССР праводзіліся рэспубліканскія конкурсы ігры на беларускіх народных інструмэнтах. Выканальніцкіх катэгорый было тры — балалайка, гармонік і цымбалы.

### Гісторыя са скрыпкай

Менавіта такі патройны набор народных інструмэнтаў быў кананізаваны камуністычнымі ўладамі БССР, а магчыма, і Масквой зь яе агітпропам, ЦК і Лубянкай.

Гэта, вядома, была адна з праяваў паўзучай русыфікацыі Беларусі. Насамрэч, беларускі народны інструмэнтарый іншы і нашмат багацейшы, а балалайка туды трапіла выпадкова — гэта вынік перасяленьня ў Беларусь хваляў расейскіх старавераў і пазьнейшага знаходжаньня Беларусі ў складзе Расеі. У навуковых тэкстах сьцьвярджаецца, што балалайка вядомая ў нас зь сярэдзіны XIX стагодзьдзя, а пашырэньне набыла ў 1920–1930-я гады ў СССР. Этнографы ведаюць, што ў народзе існавала адмоўнае стаўленьне да балалаечнікаў, пра што сьведчыць сама народная назва балалайкі — балабайка, утвораная ад слова «балабол».

На тыя конкурсы мне — тады студэнту гістарычнага факультэту БДУ — глядзець было

цяжка. І ня толькі таму, што я ўжо прайшоў курс этнаграфіі на факультэце, але і таму, што яшчэ ў гады навучаньня ў школе ў Менску летнія канікулы я праводзіў у роднай бацькавай вёсцы Кожава ў Карэліцкім раёне і бачыў так званыя капэлі, якія гралі на вясельлях і іншых народных сьвятах. Ніякіх балалаек там не было. Тыповы інструмэнтальны набор беларускай народнай капэлі — гэта гармонік, скрыпка, драўляны клярнэт (жалейка), басэтля і барабан з талеркай або бубен.

І вось, здаецца, у 1987 годзе пасьля абвяшчэньня адбору на чарговы рэспубліканскі конкурс выканаўцаў на народных інструмэнтах мая душа ня вытрымала. Я напісаў абураны ліст у газэту «Літаратура і мастацтва», які, са згоды сваёй бабулі, падпісаў «Пэнсіянэрка Вера Лось-Паўлава». І ліст той «ЛіМ» надрукаваў цалкам.

У тэксьце ад імя «абуранай пэнсіянэркі» я пісаў пра беларускую скрыпку, якая была незаслужана забытая арганізатарамі конкурсу. У той час па ўсёй Беларусі яшчэ жылі дзясяткі народных майстроў, якія саматужна выраблялі скрыпкі, а на народных сьвятах, вясельлях і вечарынках скрыпач заставаўся цэнтральнай фігурай. Скрыпка, пісаў я, — гэта адзін з самых старажытных і самых улюбёных беларускіх народных інструмэнтаў, і нагадваў пра першыя назвы кніг Францішка Багушэвіча і Цёткі — «Смык беларускі» і «Скрыпка беларуская».

Гісторыкам музыкі і этнографам ужо тады было вядома, што скрыпка нарадзілася не пазьней за XIV стагодзьдзе ў трохкутніку Заходняя

Беларусь — Усходняя Польшча — Заходняя Ўкраіна. У нас яна называлася «скрыпіца» і мела тры струны. І толькі ў наступныя стагодзьдзі празь Нямеччыну і Аўстрыю беларуска-польская «скрыпіца» з грыфам без ладоў трапіла ў Італію, дзе ў сярэдзіне XVI стагодзьдзя набыла чацьвёртую струну і эўрапейскую вядомасьць.

У Беларусі ж побач з прафэсійным наладжваньнем скрыпкі (строем) здаўна існавалі некалькі народных строяў, розныя манеры выкананьня і тэхнікі ігры, розныя спосабы трымаць інструмэнт — некаторыя віртуозы літаральна жанглявалі скрыпкай падчас ігры. Са скрыпкай зьвязаныя і некалькі дзясяткаў беларускіх тэрмінаў-лексэмаў, якімі яна ўзбагаціла беларускую мову, — абэчкі, эфы, эсы, падстаноўкі, падгрыфак, лапатнік, колічкі, куцыкі, душкі, дыскант, рымка, талька, падрымоўка, тэрца, падбасоўка, пасмыкайла, смыкавішча і многія іншыя.

Ніякай рэакцыі на той ліст, наколькі памятаю, не было. Але праз два гады, у 1989 годзе, калі нарэшце выйшла доўгачаканая энцыкляпэдыя «Этнаграфія Беларусі», на яе першым развароце пад сьпісам рэдакцыйнай калегіі быў зьмешчаны фатаздымак народнага музыкі са скрыпкай, а ў адпаведным артыкуле, напісаным неўтаймоўнай дасьледчыцай беларускіх народных інструмэнтаў, незабыўнай прафэсаркай Інай Назінай, сьцьвярджалася:

«У народзе скрыпку называюць царыцай музыкі, здольнай перадаць настрой і перажываньні ўсіх і кожнага. Невыпадкова яна спадарожнічае

многім звычаям, абрадам (каляндарна-земляробчым і сямейным), сьвятам, ігрышчам, вечарынкам, гульням, танцам, паказам батлейкі, заўсёды падліваючы „масла ў вясельнае цяпло“. На вясельлях ушаноўваюць ня толькі музыку, але і ягоны інструмэнт. На Беларусі вельмі разьвіта традыцыя як сольнага, так і ансамблевага выканальніцтва на скрыпцы: яна гучыць разам з бубнам, гармонікам, цымбаламі, клярнэтам, а раней і з дудой. Паўсюднае выкарыстаньне скрыпкі, яе выключная роля ў вясковым побыце вызначылі тую асаблівую ўвагу і цікавасьць, аб якіх сьведчаць шматлікія ўпамінаньні аб ёй у творах вуснапаэтычнай і песеннай творчасьці народа».

Здаецца, гэта не было вынікам майго ліста ў «ЛіМ», але сатысфакцыю я атрымаў поўную — нарэшце нашай старажытнай скрыпачцы была аддадзена адпаведная ўвага і павага.

## Чын беларусаў

З таго часу прайшло больш за 30 гадоў.

Увосень 2021 году адышла ў лепшы сьвет доктар мастацтвазнаўства, прафэсар Іна Дзьмітрыеўна Назіна, карэнная мянчанка, якая дзясяткі разоў аб'ехала ўсю Беларусь, стварыла сапраўдную гісторыю беларускіх музычных інструмэнтаў і выдала яе хоць у невялікай, але фундамэнтальнай кнізе «Беларускія народныя музычныя інструмэнты» (Мн., 1997). Думаю, што так, як яна, беларускую народную музыку і музычную тэрміналёгію ня ведаў ніхто.

У тую ж восень 2021 году было ліквідаванае і выдавецтва «Беларуская энцыкляпэдыя», якое некалі выдала «Этнаграфію Беларусі» і мноства іншых энцыкляпэдыяў, энцыкляпэдычных даведнікаў і слоўнікаў, у тым ліку Тлумачальны слоўнік беларускай мовы.

Адразу пасьля закрыцьця «Беларускай энцыкляпэдыі» стала непамысна і горка, было зразумела, што гэта яшчэ адзін крок цяперашніх уладаў у бок Расеі і вялікая культурная страта для краіны.

Але так я думаў нядоўга. Прыйшло азарэньне і асэнсаваньне ўжо зробленага. Раптам стала зразумела, што «Беларуская энцыкляпэдыя» выканала сваю ролю.

Поўны пералік яе выданьняў разбурыць структуру любога эсэ. Але і кароткія энцыкляпэдыі Беларусі ў пяці тамах, і вялікія энцыкляпэдыі ў дванаццаці і васямнаццаці тамах, і «Энцыкляпэдыя літаратуры і мастацтва Беларусі» ў пяці тамах, і аднатомнікі «Беларусь», «Этнаграфія Беларусі», «Прырода Беларусі», «Архітэктура Беларусі», «Мысьліцелі і асьветнікі Беларусі», і «Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі» ў шасьці тамах, і энцыкляпэдыя «Вялікае Княства Літоўскае» ў трох тамах, і «Тэатральная Беларусь» у двух тамах, і больш за сто пяцьдзясят тамоў сэрыі «Памяць», і шматтомныя акадэмічныя слоўнікі... зрабілі Беларусь неўміручай.

Усё ўжо зроблена. Мы ўжо адбыліся. Мы спазналі, вывучылі і асэнсавалі сябе як асобны

этнічны, культурны і нацыянальны арганізм. Мы апісалі гэта, сыстэматызавалі і выдалі.

Гэта матрыца, генэтычны код культуры, народу і нацыі. Прычым пасланы ён ня толькі ў нашы сэрцы і галовы, але і ў сьвет зь яго наасфэрай, і ў сусьвет зь яго вымярэньнямі, узроўнямі і формамі энэргіі.

Бог, космас і час ведаюць пра нас.

## Біблія беларушчыны

Сярод многіх сотняў тамоў, якія выдала заснаванае ў 1967 годзе Петрусём Броўкам акадэмічнае выдавецтва «Беларуская энцыкляпэдыя», мне асабліва дарагі адзін — «Этнаграфія Беларусі». Гэта кніга, якую я магу чытаць і ўдзень, і ўноч.

Там апісана ўся матэрыяльная і духоўная культура беларусаў, іх гісторыя і лёс. Той велізарны том на 575 старонак дробнага, завярстанага на кожнай старонцы ў тры слупкі тэксту са шматлікімі ілюстрацыямі рабілі найлепшыя інтэлектуалы-дасьледчыкі з усіх гуманітарных галінаў беларускай навукі і культуры. Проста пачаць пералічаць хаця б некаторых зь іх тут не выпадае толькі таму, каб некага не забыцца.

Пасьля ліквідацыі выдавецтва менавіта «Этнаграфію Беларусі» я паклаў на начны столік каля ложка, каб мець магчымасьць часам пагартаць, паглядзець ілюстрацыі або перачытаць нейкі артыкул.

Адна гэтая кніга можа лічыцца поўным і вычарпальным апісаньнем беларускага народнага космасу.

Калі б беларусаў ужо цалкам не было, калі б нас фізычна зьнішчыла ці асымілявала варожая дзяржава, і штучны інтэлект або нейкія рамантыкі раптам захацелі б рэканструяваць і аднавіць беларускі этнас, пасяліўшыся кампактна і асобна на нейкай тэрыторыі, то для пачатку гэтай справы ім бы цалкам хапіла «Этнаграфіі Беларусі».

Гэтая кніга, сярод іншага, хавае ў сабе тысячы адмысловых народных тэрмінаў, якія датычаць абсалютна ўсіх галінаў народнага жыцьця і дзейнасьці. Прыведзеныя на пачатку эсэ скрыпічныя слоўцы я ўзяў з артыкула Іны Назінай пра скрыпку, і гэта далёка ня ўсе з тых, што яна там выкарыстала. Ад тэрміналёгіі са сьвету народнай кухні ці народных тэхналёгіяў галава наогул кружыцца.

Ну, а пасьля тыя рамантыкі ці штучны інтэлект да «Этнаграфіі Беларусі» маглі б дадаць іншыя выданьні «Беларускай энцыкляпэдыі» і шматлікія тамы акадэмічнага фальклёру.

Этніка не састарэла і не састарэе — менавіта зь яе ўсё пачынаецца. Як пісаў славуты дасьледчык нацый, брытанскі гісторык Энтані Сьміт, незалежна ад таго, які тып нацыяналізму практыкуе тая або іншая нацыя — этнічны, грамадзянскі ці зьмешаны — кожная зь іх мае так званае этнічнае ядро. У нашым выпадку кніга «Этнаграфія Беларусі» апісвае зьмест і вытокі этнічнага ядра сучаснай беларускай нацыі.

Аказалася, што падзьвіжніцтва і высілкі сотняў і тысяч беларускіх інтэлектуалаў, якія працавалі над усімі энцыкляпэдычнымі і акадэмічнымі выданьнямі, зрабілі Беларусь неўміручай.

## Марк Шагал і беларуская капэля

Праз шмат гадоў пасьля гісторыі з конкурсам ігры на народных інструмэнтах, увесну 2022 году, мне давялося трапіць у швайцарскі Цюрых.

У гэтым горадзе ёсьць тры месцы канцэнтрацыі твораў Марка Шагала. Гэта царква Fraumünster зь пяцьцю вітражамі Шагала ў апсыдзе, рэстаран Kronenhalle з карцінамі вядомых мастакоўмадэрністаў на сьценах, сярод якіх і Марк Шагал. І, нарэшце, мастацкі музэй Kunsthaus, у адной з заляў якога сабраныя вялікія палотны Шагала, у тым ліку «Палёт над Віцебскам».

У музэй мы прыйшлі ўжо даволі раззлаваныя паўсюднымі згадкамі на шыльдах, у буклетах і турыстычных даведніках пра «расейскага мастака» Марка Шагала, які «чэрпаў натхненьне ў хасыдзкіх традыцыях сваёй расейскай радзімы».

Але, падышоўшы да карціны Шагала «Сьвятло шлюбу», я раптам успомніў і пра «Этнаграфію Беларусі», і пра Іну Назіну, і пра свой студэнцкі артыкул у «ЛіМе» з пратэстам супраць ігнараваньня беларускай скрыпкі.

Раздражненьне прайшло, стала лёгка і сьмешна. Немцы могуць нас ня ведаць, але мы сябе ведаем. Ім можна ня ведаць пра расейскі народны

інструмэнтарый, але мы дакладна ведаем, што такое беларуская народная капэля.

У цэнтры карціны «Сьвятло шлюбу» на местачковым пляцы, за якім відаць сьцены хрысьціянскай бажніцы, стаяць маладыя, а вакол іх грае капэля. Набор інструмэнтаў такі: зьлева барабаншчык, унізе музыкант з басэтляй, у правым ніжнім куце рука з бубнам, а справа ад маладых — скрыпач. Я засьмяяўся і сказаў жонцы:

— Будуць нам немцы даказваць, што Шагал з Расеі! Вось амаль увесь набор беларускай народнай капэлі. Аналягічны набор мелі і габрэйскія музыкі, якія гралі ў корчмах Беларусі: барабан, басэтля, скрыпка. Не хапае толькі беларускага драўлянага клярнэта.

Жонка ў адказ:

— А гэта што?

Я паглядзеў, куды яна паказвала, а там, над маладымі, сваю партыю дагары нагамі выконвае пяты музыка... зь беларускім драўляным клярнэтам.

Так што даводзіць немцам нічога ня трэба, за нас гэта зрабіў Марк Шагал. Нават калі ён сам пра гэта не казаў, ён быў часткай ня толькі габрэйскага, але і беларускага космасу.

Космасу, які для нашчадкаў зафіксавалі многія пакаленьні беларускіх інтэлектуалаў, у тым ліку аўтары энцыкляпэдыі «Этнаграфія Беларусі» — Біблії беларушчыны.

# Чаму існаваньне незалежнай Беларусі — сапраўдны цуд

28 кастрычніка 1918 году была абвешчана незалежная дзяржава чэхаў і славакаў — Чэхаславаччына.

## Як чэхі перанялі ўладу

Сам той дзень прайшоў у Празе безь вялікіх канфліктаў. Дзеячы Нацыянальнага камітэту з раніцы атрымалі вестку пра пачатак масавага адступленьня і фактычную капітуляцыю Аўстра-Вугоршчыны на фронце. Аб 11-й гадзіне раніцы чэскі нацыянальны дзяяч, ксёндз Ізыдар Заграднік, які, дарэчы, пазьней стаў праваслаўным сьвятаром, прачытаў на Вацлаўскай плошчы каля помніка сьвятому Вацлаву маніфэст аб стварэньні незалежнай Чэхаславаччыны.

Гэта быў, фактычна, пераварот — так яго і называюць сёньня чэскія гісторыкі. Людзі пачалі скідваць з дамоў сымболіку Аўстра-Вугоршчыны, узьнялі нацыянальныя бела-чырвоныя (дакладна такія, як цяпер у Польшчы) сьцягі і пачалі зьбірацца на Старамесцкай плошчы Прагі.

У горадзе былі разьмешчаныя вугорскія вайсковыя аддзелы. Таму сябар Нацыянальнага камітэту Францішак Соўкуп правёў перамовы з вайскоўцамі, каб яны не стралялі ў людзей. Адзін з генэралаў быў чэх, ён даў такія гарантыі. Так і

адбылося, але вайскоўцы ўсё ж па абедзе выцесьнілі натоўп са Старамесцкай плошчы.

У Аўстра-Вугоршчыне ў той час быў голад, штодзённыя 80 грам хлеба і 250 грам мукі выдавалі па картках. Таму Заграднік даў тэлеграму на ўсе чыгуначныя станцыі, каб скідвалі дзяржаўны герб Габсбургаў і затрымлівалі ўсе вагоны з харчамі.

Яго калега Антанін Швэгла зьявіўся ў так званы Збожжавы дэпартамэнт, які кантраляваў запасы харчоў, і прачытаў яго супрацоўнікам фальшывы, падроблены ім загад імпэратара аб прызнаньні незалежнай Чэхаславаччыны. Супрацоўнікі адразу падпарадкаваліся Нацыянальнаму камітэту.

Эмісары Нацыянальнага камітэту вечарам перапынілі ўсе спэктаклі ў тэатрах і іншыя грамадзкія імпрэзы і зачыталі маніфэст аб абвяшчэньні незалежнай Чэхаславаччыны.

Так прайшоў той дзень. Названыя палітыкі пасьля станавіліся прэм'ер-міністрамі, міністрамі і старшынямі парлямэнту Чэхаславаччыны. Пазьней да іх далучыліся з эміграцыі Карэл Крамарж (першы прэм'ер-міністар) і Томаш Масарык (першы прэзыдэнт).

## У чым цуд існаваньня Беларусі

Гэта разумееш, калі глядзіш кадры старой хронікі і старыя фатаздымкі падзей у Празе 28 кастрычніка 1918 году.

Прага тады была такой самай, як і сёньня — яна была сталіцай, і пры гэтым — сталіцай чэскай. У той час на Вацлаўскай плошчы ўжо стаялі Нацыянальны музэй і конны помнік сьвятому Вацлаву, на Старамесцкай плошчы ўзвышаўся помнік Яну Гусу, а ў Нацыянальным тэатры на ўзьбярэжнай Вэлтавы, як і сёньня, давалі прадстаўленьні на чэскай мове. Помнікі на могілках падпісвалі па-чэску.

Менск у 1917–18 гадах быў правінцыйным расейскім (і пераважна польскамоўным) горадам з расейскімі помнікамі на вуліцах і плошчах, расейскім тэатрам, польскімі і расейскімі храмамі і польскімі ды расейскімі надпісамі на могілках. Розьніца паміж двума гарадамі і дзьвюма рэальнасьцямі — велізарная, як неба і зямля.

І тым ня менш Беларусь, насуперак вельмі неспрыяльным варункам і дзякуючы нечалавечым высілкам некалькіх тысяч людзей, зьявілася тады на мапе. Краіна і народ перажылі драматычнае XX стагодзьдзе і 70 гадоў трагічнага савецкага часу і дагэтуль жывуць. Усё ў тых жа неспрыяльных варунках.

Гэта, на маю думку, і ёсьць сапраўдны цуд.

## Розьніца паміж гістарычным і Боскім цудам

Сёньня розьніца вынікаў кідаецца ў вочы — чэхі ўжо адбыліся, мы яшчэ адбываемся.

З пункту гледжаньня гістарычнай навукі такія цуды, як беларускі, заўсёды маюць пад са-

бой трывалы гістарычны і этнічны падмурак. У нас гэта — Полацкая дзяржава, Вялікае Княства Літоўскае, Скарына, Каліноўскі і беларуская мова.

Але доўгі і пакручасты шлях беларускага народу да самаўсьведамленьня і незалежнага існаваньня насуперак усім перашкодам сьведчыць пра тое, што адказная за цуды нябесная канцылярыя мае адносна беларусаў свае пляны.

## Post Scriptum

28 кастрычніка 2018 году прырода зрабіла чэскаму народу містычны падарунак да 100-годзьдзя незалежнасьці.

У Аўстра-Вугоршчыне ня толькі помнікі ахоўвалі і рэстаўравалі ад 1745 году. Там яшчэ і рэгулярныя назіраньні за надвор'ем вяліся ці не з таго самага часу. У Празе гэта рабілася з 1775-га. Менавіта таму чэхі сёньня дакладна ведаюць, якое надвор'е было ў Празе 28 кастрычніка 1918 году — уначы ад 0 да 4 градусаў цяпла, удзень да 8 градусаў цяпла, і цэлы дзень безь перапынку ліў дождж. І менавіта такое самае надвор'е было ў сотую гадавіну незалежнасьці. Кожны мог адчуць сябе ўдзельнікам падзей 1918-га.

У чалавека, які мысьліць гістарычна, у той дзень дрыжыкі па целе ішлі ня толькі ад холаду...

# Чаму 25 сакавіка — наша найвялікшае сьвята

Ужо больш за сто гадоў беларусы на радзіме і на эміграцыі не забываюць пра 25 сакавіка 1918 году. Ужо больш за 30 гадоў адзначаю гэтую дату і я. У дзень 100-гадовага юбілею аднаўленьня нашай дзяржаўнасьці думкі пра БНР асабліва хвалявалі і асабліва натхнялі. Вось дзесяць маіх галоўных юбілейных высноваў.

## 1. Цуд

Выхад беларусаў на гістарычную арэну на пачатку XX стагодзьдзя інакш як цудам не назавеш. Наш народ у нацыянальным самаўсьведамленьні і арганізацыйным афармленьні нацыянальнага руху адставаў ад усіх суседніх народаў. Ад моманту выданьня першай легальнай беларускай газэты «Наша Доля» ў 1906 годзе да Першага Ўсебеларускага зьезду прайшло ўсяго 11 гадоў.

Гэты цуд адбыўся дзякуючы ахвярнай працы беларускіх асьветнікаў — літаратараў, выдаўцоў, журналістаў, настаўнікаў, сьвятароў і грамадзкіх дзеячоў. Дапамагла яму і па-сапраўднаму не ацэненая яшчэ трагедыя бежанства, калі больш за мільён беларусаў апынуліся ў этнічнай Расеі і ўбачылі сваю глыбокую адрознасьць ад карэннага народу імпэрыі.

## 2. Роўныя сярод роўных

Цуд зьяўленьня на гістарычнай арэне беларусаў сьведчыць пра глыбокія гістарычныя карані нашага народу, яго вялікую гістарычную энэргію і жыцьцёвую сілу. Закладзены ў X–XVI стагодзьдзях этнічна-культурны патэнцыял, як спружына, выпрастаўся ў другой палове XIX — пачатку XX стагодзьдзя і даў свой магутны плён.

У выніку беларусы пасьпелі стварыць дзяржаву і абвясьціць незалежнасьць у адным і тым жа 1918 годзе разам з астатнімі народамі свайго рэгіёну Эўропы.

Мы зрабілі гэта адразу пасьля ўкраінцаў, малдаванаў, літоўцаў, эстонцаў і раней за грузінаў, армян, азэрбайджанцаў, чэхаў, палякаў, латышоў і сэрбаў. Ня ўсе з гэтых народаў незалежнасьць утрымалі, але свае дзяржавы стварылі ўсе.

## 3. Часткова сплачаны доўг шляхты

У выніку неспрыяльнай хады гісторыі беларускі народ амаль цалкам страціў сваю арыстакратыю. Тым ня менш найлепшая частка шляхты, асабліва ўдзельнікі паўстаньня 1863–1864 гадоў і іх нашчадкі, часткова сплацілі доўг перад калісьці пакінутым і здраджаным народам.

Многія прадстаўнікі беларускага руху, у тым ліку самыя першыя, былі шляхецкага і нават магнацкага паходжаньня. Фактычна, беларускі рух пачала шляхта — Кастусь Каліноўскі, Мітрафан Доўнар-Запольскі, Францішак Багушэвіч,

Вацлаў Іваноўскі, браты Іван і Антон Луцкевічы, Карусь Каганец і многія іншыя.

Паступова да іх далучылася і арыстакратыя. Створаны ў Менску праз месяц пасьля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 году першы орган палітычнага прадстаўніцтва беларускага народу — Беларускі Нацыянальны камітэт — узначаліў самы багаты чалавек краю, магнат і будучы прэм'ер-міністар БНР Раман Скірмунт, а фундатарамі Камітэту сталі Эдвард Вайніловіч, Станіслаў Радзівіл, Марыя Магдалена Радзівіл з дому Завішаў і іншыя.

## 4. Воля народу

Дзесяцігодзьдзі замоўчваньня і савецкай прапаганды не змаглі адмяніць той факт, што Першы Ўсебеларускі зьезд, які адкрыўся ў Менску ў сьнежні 1917 году і сабраў 1872 дэлегаты з усяго нашага этнічнага абшару, быў самым прадстаўнічым на той час органам беларускага народу. І склікаены ён быў з санкцыі тагачасных уладаў Расеі. Я проста пералічу органы мясцовай улады, установы, арганізацыі і партыі, ад якіх выбіраліся прадстаўнікі на зьезд.

Гэта дэлегаты з вырашальным голасам ад губэрнскіх, павятовых і валасных земстваў, губэрнскіх і павятовых самакіраваньняў, губэрнскіх і павятовых зямельных камітэтаў, губэрнскіх арганізацый паштовых і тэлеграфных служачых, дарожных камітэтаў, губэрнскіх і павятовых настаўніцкіх арганізацый, Саюзу

земскіх служачых, бежанскіх камітэтаў, ад беларускіх нацыянальных арганізацый, вайскоўцаў-беларусаў арміі, флёту і тылу, ад Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў, ад Беларускага абласнога камітэту Савету сялянскіх дэпутатаў, ад Вялікай Беларускай Рады, Цэнтральнай вайсковай беларускай рады і многіх іншых.

З дарадчым голасам у зьезьдзе бралі ўдзел прадстаўнікі палітычных партый, у тым ліку партый нацыянальных мяншыняў — расейскай, габрэйскай, польскай і літоўскай.

У лютым-сакавіку 1918 году выканкам Рады Ўсебеларускага зьезду стварыў урад Беларусі і абвясьціў аб стварэньні Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэта была прадстаўнічая воля ўсяго беларускага народу.

## 5. Легітымнасьць Устаўных грамат

У ноч з 24 на 25 сакавіка 1918 году за абвяшчэньне незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі прагаласавала большасьць Рады БНР. Нягледзячы на тое, што былі і праціўнікі гэтага рашэньня, яно было прынятае легітымна і легітымным органам.

У наступны месяц некаторыя праціўнікі незалежнасьці выйшлі са складу Рады і Ўраду БНР. Тым ня менш юрыдычную сілу і гістарычнае значэньне трох Устаўных (канстытуцыйных) грамат БНР аспрэчыць немагчыма.

Менавіта легітымнасьць Рады БНР і Ўстаўных грамат змусіла бальшавікоў пайсьці на

стварэньне БССР. Гэта прызнаюць і афіцыйныя беларускія гісторыкі.

## 6. Легітымнасьць Рады БНР пасьля 1925 году

На Бэрлінскай канфэрэнцыі Рады і Ўраду БНР у кастрычніку 1925 году пастанову аб самаліквідацыі і прызнаньні Менску адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва прыняў толькі ўрад на чале з Аляксандрам Цьвікевічам.

Гістарычная і юрыдычная праўда, аднак, заключаецца ў тым, што, ведаючы пра намер Цьвікевіча выехаць у Менск, старшыня Рады БНР Пётра Крачэўскі яшчэ да пачатку Бэрлінскай канфэрэнцыі змусіў членаў ураду Васіля Захарку, Лявона Зайца і Ўладзімера Пракулевіча пайсьці ў адстаўку. Заявы яны напісалі 4 кастрычніка, адстаўку Крачэўскі прыняў 10-га, а канфэрэнцыя пачалася 12-га.

Такім чынам, рашэньне ўраду аб самаліквідацыі 15 кастрычніка Заяц і Пракулевіч падпісалі ўжо як прыватныя асобы. Трэцім падпісантам быў кіраўнік ураду Аляксандар Цьвікевіч. Прыватная асоба Васіль Захарка падпісаў другі варыянт пастановы аб самароспуску ўраду, дзе не было прызнаньня Менску як адзінага цэнтру нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва.

Без зацьвярджэньня старшынём Прэзыдыюму Рады БНР рашэньне аб самаліквідацыі ўраду ня

мела сілы. Выканаўчая ўлада перайшла да Прэзыдыюму Рады БНР.

Цьвікевіч перадаў бальшавікам у Менску абодва варыянты юрыдычна нікчэмнага дакумэнту.

У наш час Рада БНР выконвае функцыі парлямэнту, а яе Прэзыдыюм — ураду на выгнаньні.

## 7. Рэпрэсіі як доказ гістарычнай рацыі БНР

Карны орган бальшавікоў ЧК-НКВД-ОГПУ-МГБ многія дзесяцігодзьдзі перасьледаваў і зьнішчаў заснавальнікаў БНР. Мала хто зь іх здолеў памерці сваёй сьмерцю. Менавіта гэта зьяўляецца страшным, вусьцішным доказам гістарычнай рацыі тварцоў і ўдзельнікаў беларускай нацыянальнай рэвалюцыі.

Вось толькі адзін факт. У 1945 годзе ў Празе супрацоўнікі дзяржаўнай бясьпекі СССР затрымалі ўдзельніка Слуцкага збройнага чыну Васіля Русака. У пастанове пра затрыманьне была пазначаная і віна, якая яму інкрымінавалася. Уявіце сабе, праз 28 гадоў Русаку ставілі ў віну «участие в антисоветском всебелорусском съезде 1917 года»...

## 8. Заслуга гісторыкаў

У тым, што праўда пра Першы Ўсебеларускі зьезд і пра Беларускую Народную Рэспубліку ў наш час усё ж прабіла сабе дарогу ў энцыкляпэ-

дыі, падручнікі і акадэмічныя выданьні, ёсьць вялікая заслуга сучасных гісторыкаў.

Якім бы моцным ні быў ціск дзяржаўнай ідэалягічнай машыны, якой бы моцнай ні была інэрцыя старой ідэалёгіі, менавіта гісторыкі прабілі дарогу гэтай праўдзе. І тое, што ў Беларусі адбывалася ў дні 100-гадовага юбілею БНР — устаноўка шыльдаў, памятных знакаў, адкрыцьцё выставаў, выданьне навуковых і папулярных кніг — гэта непасрэдная заслуга беларускіх гісторыкаў і плён іх высокага патрыятычнага пачуцьця.

## 9. Новыя фармулёўкі

Менавіта з працай беларускіх гісторыкаў зьвязаны новы этап навуковага і грамадзкага асэнсаваньня падзей 1917–1918 гадоў.

Праціўнікі БНР заўсёды зьвярталі ўвагу на той факт, што яна так і ня стала паўнавартаснай дзяржавай: не кантралявала ўсю тэрыторыю краіны, не стварыла адзінага нацыянальнага войска, не захавала незалежнасьці.

Іх апанэнты, наадварот, сьцьвярджалі, што і сталіцу нейкі час кантралявалі, і Случчына была абвешчана тэрыторыяй БНР, і некаторыя міністэрствы плённа працавалі, напрыклад, Міністэрства замежных спраў. Былі адкрытыя дыпляматычныя прадстаўніцтвы ў некалькіх краінах, некалькі суседніх дзяржаў прызналі БНР фактычна, а Фінляндыя ў сьнежні 1919 году — афіцыйна.

І вось сучасныя беларускія гісторыкі знайшлі фармулёўку. Паводле іх, Беларуская Народная Рэспубліка была адноўленай дзяржаўнасьцю беларускага народу. Адпаведна, акты 9 і 25 сакавіка 1918 году былі аднаўленьнем нашай дзяржаўнасьці.

## 10. Мэта Рады БНР і яе Прэзыдыюму — самаліквідацыя

Рада БНР дамагаецца стану, калі незалежнасьць, статус беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай і беларускі характар Рэспублікі Беларусь ня будуць пад пагрозай. Менавіта тады ўзьнікнуць падставы і глеба для перадачы дзяржаўных атрыбутаў БНР ураду Беларусі, а значыць, і легітымнасьці ад Першага Ўсебеларускага зьезду.

У свой час польскі і літоўскі ўрады на выгнаньні перадалі свае паўнамоцтвы нацыянальным урадам сваіх дзяржаў.

Вельмі спадзяюся, што да перадачы дзяржаўных пячатак ня трэба будзе чакаць наступныя 100 гадоў. Магчыма, за гэта прагаласуе яшчэ цяперашні склад Рады БНР.

## Чаму беларушчына не памрэ

На сьвята Дня Волі беларусы ў Празе, як заўсёды, ускладаюць кветкі да магілаў старшыняў Рады БНР Пётры Крачэўскага і Васіля Захаркі ды іншых дзеячоў — у тым ліку да магілы Міколы Вяршыніна.

Гэты новы адрас памяці стаў вядомы толькі ў 2018 годзе. Дзякуючы намаганьням беларускага краязнаўцы Сяргея Кнырэвіча на Альшанскіх могілках была знойдзеная магіла праскага карэспандэнта «Нашай Нівы» і дыпляматычнага прадстаўніка ўраду БНР у даваеннай Чэхаславаччыне Міколы Вяршыніна.

Вяршынін нарадзіўся ў 1866 годзе, а памёр у 1934-м. Паводле ўзросту ён мог быць бацькам большасьці айцоў-заснавальнікаў БНР. І вось, гледзячы на даты надмагільнай пліты Вяршыніна, я падумаў пра скразную непарыўнасьць беларушчыны ў стагодзьдзях.

Некалі нас вучылі ва ўнівэрсытэтах, што ў 1696 годзе беларуская мова была забароненая і надышлі змрочныя часы палянізацыі XVIII стагодзьдзя, якія зьмяніліся русыфікацыяй XIX стагодзьдзя.

Але мова наша жыла заўсёды, і ня толькі пад сялянскімі стрэхамі ў вусных гаворках.

- Дзясяткі гадоў пасьля 1696 году Магілёўскі магістрат працягваў весьці гарадзкія кнігі па-беларуску.

- У сталіцы Вялікага Княства Літоўскага Вільні ў XVIII стагодзьдзі распаўсюджваліся творы беларускамоўнай публіцыстыкі.
- Ужо ў XVIII стагодзьдзі зьявілася паэзія на новай (сучаснай) вэрсіі беларускай мовы. У 1750-я гады нашым першым новым паэтам стаў будучы апошні канцлер ВКЛ Яўхім Храптовіч.
- Уніяцкія сьвятары ніколі не зракаліся беларускай мовы і да самага скасаваньня Уніі захоўвалі яе пісьмовы варыянт.
- На пачатку XIX стагодзьдзя ўніяцкія сьвятары нават выступалі з публічнымі прамовамі на беларускай мове.
- На пачатку 20-х гадоў XIX стагодзьдзя ў асяродзьдзі філяматаў-філярэтаў ужо ставілі п'ескі па-беларуску з нагоды розных падзей, напрыклад, прыезду Адама Міцкевіча з Коўна.
- Ад 1830-х гадоў вывучаўся і выдаваўся беларускі фальклёр.
- У 1830-я для беларускіх католікаў ужо выдаваліся малітоўныя тэксты па-беларуску.
- У 1840-я гады ўжо працаваў выдатны папулярызатар беларускай ідэі, аўтар «Лістоў пра Беларусь» і выдавец віленскага часопіса «Rocznik Literacki» Рамуальд Падбярэскі. За сваю дзейнасьць ён быў арыштаваны і высланы на поўнач Расеі, дзе памёр.
- У 1850-я гады Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч напісаў свае «Вечарніцы», «Гапона» і «Шчароўскія дажынкі» і пераклаў міцкевічаўскага «Пана Тадэвуша» на беларускую мову.

- На пачатку 1860-х гадоў Кастусь Каліноўскі ўжо выдаў сваю «Мужыцкую праўду» і напісаў перад сьмерцю палітычны запавет беларускаму народу — славутыя «Лісты з-пад шыбеніцы».
- У 1870-я гады пачаў пісаць свае паэтычныя, празаічныя і драматургічныя тэксты Вайніслаў Суліма-Савіч-Заблоцкі, стваральнік «Крывіцкага вязка» ў Санкт-Пецярбургу.
- У 1880-я ўзяўся за пяро Янка Лучына. І ў гэты ж час пачынае палымяную беларускую публіцыстычную і навуковую дзейнасьць славуты гісторык Мітрафан Доўнар-Запольскі.
- У 1891 годзе выходзіць «Дудка беларуская» Мацея Бурачка (Францішка Багушэвіча).
- І, нарэшце, на самым пачатку XX стагодзьдзя пачынаюць сваю палітычную дзейнасьць Вацлаў Іваноўскі, Іван і Антон Луцкевічы і сотні іншых беларускіх палітычных, культурных і рэлігійных дзеячоў. Віленскі біскуп Эдвард фон Роп абіраецца ў склад дэпутатаў І Дзяржаўнай Думы Расеі, стварае беларускую фракцыю і ставіць пытаньне аб аўтаноміі Беларусі. У выніку біскупа на 10 гадоў саслалі ў Віцебскую губэрню пад нагляд паліцыі.
- Далей былі Беларуская Народная Рэспубліка, БССР і Рэспубліка Беларусь.

Гэтак ад VII–VIII стагодзьдзяў нашай эры, калі на лінгвістычнай мапе сьвету зьявілася беларуская мова, праз Скарыну, Буднага, Цяпінскага, Літоўскую мэтрыку і Статуты Вялікага Княства Літоўскага, беларушчына дайшла да нашага часу.

Тысячы падобных спробаў тысяч розных супольнасьцяў згубіліся, не пакінуўшы па сабе ані згадкі, а беларуская спроба перамагла.

Мікола Вяршынін, які нарадзіўся ўсяго праз чатыры гады пасьля выхаду першай беларускай газэты і праз два гады пасьля пакараньня сьмерцю яе выдаўца Кастуся Каліноўскага, стаў дыпляматычным прадстаўніком адроджанай беларускай дзяржавы.

Вяршынін сваім лёсам злучае сабой два стагодзьдзі і дзьве эпохі — ад пачатку новага беларускага адраджэньня да стварэньня сваёй дзяржавы.

А яго магіла ў Празе ёсьць матэрыяльным сымбалем вечнасьці беларускага космасу.

# Паказьнік асобаў

# Пра аўтара

Сяргей Абламейка нарадзіўся ў 1962 годзе ў Менску. Скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту і дактарантуру Люблінскага каталіцкага ўнівэрсытэту (Польшча). Доктар гісторыі. Працаваў сьлесарам на Менскім аўтамабільным заводзе, выкладаў гісторыю ў школе, быў навуковым супрацоўнікам Беларускага дзяржаўнага музэю народнай архітэктуры і побыту, а затым Скарынаўскага цэнтру Акадэміі навук Беларусі. Зь верасьня 1990 — журналіст «Свабоды» ў Менску, з траўня 1995 — супрацоўнік Беларускай службы Радыё Свабода ў Празе. Зь сярэдзіны 1980-х гадоў займаўся актыўнай грамадзкай дзейнасьцю, быў членам «Талакі». Адзін з арганізатараў першага Вальнага сойму беларускіх суполак (1987), выдавец-заснавальнік часопіса «Унія» (1990). Аўтар некалькіх дзясяткаў навуковых публікацый па гісторыі Беларусі. З 1983 друкуецца як пісьменьнік і журналіст. Выдаў кнігі «EGOізмы», «Настальгія», «Мой Картаген», «Дом літаратара», «Нечаканы Скарына», «Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі», «Невядомы Менск. Гісторыя зьнікненьня. Кніга першая», «Невядомы Менск. Гісторыя зьнікненьня. Кніга другая». Тэксты перакладаліся на італьянскую, польскую, расейскую і чэскую мовы.

## Summary

The book “Why Belarus is not Russia” is a reflection on the history of Belarus by a researcher, philosopher, and sociologist. Siarhej Ablamejka, PhD in history, argues that despite the dire political circumstances of the last 150 years, Belarus has been, in fact, fortunate. In his opinion, Belarusians could have disappeared many times from the map of Europe, but they survived and achieved their own statehood. And in 2020, though Belarus' democratic revival was crushed, the country proved its European political destiny.

Ablamejka's essays were written in 2020–21 and became the first texts in Belarus that analyzed the democratic uprising as the last stage of the formation of the European nation of Belarusians.

Siarhiej Ablamiejka has authored books of aphorisms, essays, short stories, and numerous works on Belarusian culture, the history of the Uniate (Greek Catholic) Church in Belarus, and the history of the destruction of the historical center of Minsk.

He works at Radio Free Europe/Radio Liberty, and lives in Prague.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.** *Пераклады Веры Рыч.* Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.




**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.




**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў.**
**Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
**Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.* **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.* **Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009–2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка. Сто песень. 2010-2012.**
Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.*
**Справа Бяляцкага.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.*
**Турма і здароўе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.*
**Хто ўзарваў менскае мэтро?**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.*
**Жывая мова.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.




**Жыцьцё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.




*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста чацьверты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 350 с.: іл.




**(НЕ :)**
**вясёлыя карцінкі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
3-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 668 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Мой Картаген.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста пяты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 324 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 722 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 364 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 544 с.: іл.




**Светлана Алексиевич на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 744 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Быў у пана верабейка гаварушчы...**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 326 с.: іл.




**100 словаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 346 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Не сьмяшыце мае прыназоўнікі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста другі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 388 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Высьпятак ад Скарыны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 500 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 174 с.: іл.




*Сяргей Шупа.*
**Падарожжа ў БНР.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 282 с. + 56 с. укл.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Нечаканы Скарына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 328 с.: іл.




*Алена Струвэ.*
**Турма, жанчына і мужчына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 434 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста трэці.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 536 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Клініка кітайскага дантыста.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 284 с.: +24 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч. 100 цытатаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 268 с.




*Сяргей Дубавец.*
**Тантамарэскі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 356 с.




*Алесь Пілецкі.*
**Казкі па целефоне.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 298 с.




*Сяргей Абламейка.*
**Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 132 с.: іл.




*Дзьмітры Гурневіч.*
**Забойства ў цэнтры Эўропы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 248 с.: іл.




*Сяргей Астраўцоў.*
**Спадар Свабода.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 328 с.: іл.




**Каліноўскі на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 830 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Каліноўскі
і палітычнае
нараджэньне
Беларусі.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2020. —
140 с.: іл.




**Гаворыць Радыё
ВЫЗВАЛЕНЬНЕ...**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2020. —
172 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
4-е выд., дап.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2020. —
826 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Невядомы Менск.
Гісторыя
зьнікненьня.**
Кніга першая.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2021. —
476 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста шосты.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2021. —
540 с.: іл.




**Галасы Беларусі –
2020.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2021. —
434 с.




**Неверагодны 2020-ы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 170 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Невядомы Менск. Гісторыя зьнікненьня.**
Кніга другая.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 374 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста шосты.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 540 с.: іл.




**Галасы Беларусі – 2021.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2022. — 386 с.




**Станіслаў Шушкевіч на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2022. — 412 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Забіць упалмінзага.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2022. — 360 с.: іл.